*[Пятро] Глебка[1] (заключнае слова)*

Было ў рабоце шмат недахопаў: не ўсе паэты прысутнічалі, не ўсе знаёміліся з творамі. Шмат карыснага, хто сумее ўсё ўзважыць, зрабіць вывад, атрымае многае. Гольскага збівае жаданне многа ахапіць. Сухасць вершаў таму, што з пачуццём напісаны толькі апошнія радкі. 1) Жаданне вялікай паэзіі, якая ляжыць на шляху вялікіх праблем, якімі жыве наш народ. (Разумеецца дух верша, не павярхоўны ахоп усяго.) 2) Трэба больш страсці, больш хвалявання. Трэба пазбаўляцца ад агульшчыны. Недахоп майстэрства. Слова часамі валодае паэтам. Трэба працаваць упарта. Працавітасці пажадаць.

*[Якуб] Колас[2]*

Мова — падмурак, на якім узводзіць свае творы пісьменнік. Бедная мова ў нас, пісьменнікаў. Пушкін вучыўся мове ў нянькі. Крылоў[3] хадзіў на кірмаш. Народ — крыніца нашай мовы.

Трэба адабраць матэрыял, каб ён быў народам успрыняты. Тады трэба скласці план. Часцей звязвацца з народам.

Кожная з’ява грамадскага парадку не павінна заставацца без увагі пісьменніка.

Этычныя адносіны да людзей, трэ апраўдаць годнасць інжынераў чалавечых душ. Не трэба пагарджаць. Быць прыкладам савецкай маралі і сумлення. Хай сумленне будзе чыстае і душа ясная.

«На шляхах волі»[4].

*16 кастрычніка*

Быў на камедыі Астроўскага[5] «Сердце не камень». Цудоўная рэч, і артысты не адстаюць. Шкада, што ў Жарава[6] другарадная роля. На Жараве я памешаны. Вечарам прыйшоў Р. Я. Паспытаў «Біло міцне». Да поўначы расказвалі анекдоты.

---

[1] Глебка Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1905–1969), беларускі паэт, нарысіст, крытык і публіцыст. У 1952–1956 гг. загадчык сектара лексікаграфіі Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. Акадэмік АН БССР (1957). Гл.: Акадэмік // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 165; Пятро Глебка // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 106.

[2] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928), віцэ-прэзідэнт АН БССР (з 1929). Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР (1944).

[3] Крылоў Іван Андрэевіч (1769–1844), рускі пісьменнік, байкапісец.

[4] Недапісаная паэма Я. Коласа (1926–1956) .

[5] Астроўскі Аляксандр Мікалаевіч (1823–1886), рускі драматург.

[6] Жараў Іван, акцёр Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра.

*17 кастрычніка*

Па дарозе зазірнулі ў Апчак[1]. Паабедаў з хлопцамі. Потым з Падлужным[2] схадзілі да А[ні]. Пачаставаліся яблыкамі. На дарогу яна дала мне вялікі яблык і семак. Мне здалося, што яна мне зямны шар дала. Не, усёткі я да яе нераўнадушан. Паехаў Саша[3].

*** Уранку восень пастрашыць, што здае пазіцыі зіме (іней), а ўдзень адпусціць. Зноў сонца.

*23 кастрычніка*

Сёння апошні дзень. Работалі слаба. Гаспадыня выпіла шмат. Памагаў заганяць карову, карміць свінства. Даваў Орліку. Яна ляжыць і кажа: «Прыязджай да нас, ты як свой. Любачка».

*** Жанчына падобна на адуванчык. Пышны, пакуль малады. Пастарэў — асыпаўся.

Хмары. Прырода прабуе фарбы. Якую падабраць, каб намаляваць карціну жыцця?

Журналіст здымаў з кніжкамі. Нарэшце, свінарку са свіннямі. Шкада, што няма фотаздымкаў з лазні, а то б і пад душам герой трымаў кнігі (ці чытаў).

*9 лістапада*

Хадзіў на «Выбачайце, калі ласка!»[4]. Вельмі падабалася. Захапленне ад Глебава[5] і Дзядзюшкі![6] У кішэні ні капейкі. Плюс да таго, не ўзяў насоўкі. Адна камедыя на сцэне, другая са мной у зале. Хадзіў і сотні раз пераглядаў партрэты артыстаў.

*** «Гэта добра шчэ, што смяюцца. Вось я там як пашыў, дык усе плачуць».

---

[1] З 24 верасня студэнты працавалі на ўборцы бульбы ў калгасе «Камінтэрн» ў Мінскім раёне; вёскі Зарэчча, Апчак.

[2] Падлужны Аляксандр Іосіфавіч (1935–2005), аднакурснік. Беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1982), прафесар. Член-карэспандэнт АН БССР (1989). Акадэмік НАНБ (1994). Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь (1999).

[3] Булыка Аляксандр Мікалаевіч (н. 1935), аднакурснік. Беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1981), прафесар (1992). Член-карэспандэнт НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі НАНБ (1998).

[4] П’еса А. Макаёнка. Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982), беларускі драматург. Народны пісьменнік БССР (1977). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1974).

[5] Глебаў Глеб Паўлавіч (сапр. Сарокін; 1899–1967), беларускі акцёр. Народны артыст СССР (1948). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1948).

[6] Дзядзюшка Уладзімір Іосіфавіч (1905–1973), беларускі акцёр. Народны артыст СССР (1971). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952).

«Будзем прыспасаблівацца да местных умоў!» — ускрыкнуў рускі, прыбыўшы ў Індыю. Зняў штаны і пакіраваўся ў падштаніках у тэатр.

*23 лістапада*

Пасылка ад маці. Сыр. Тое-сёе. 10 рублей. Усё шле. Не можа нікога пусціць у Мінск, каб не пераслаць мне перадачы. Дзік расказаў не вельмі прыемнае. Цяжка.

*24 лістапада*

Хадзіў да Рымкі[1]. Дома ўсё ў парадку. Жак [Машчоў] хворы. Сяджу на лекцыі дэкана[2]. А на душы кошкі скрабуць. Я, выявілася, прамяняны. І на каго? Што ж, гэта вынік маёй нясмеласці ў справах сур'ёзнага кахання.

*27 лістапада, нядзеля*

Выходны дзень. Кожны раз сабіраешся ў гэты дзень перавярнуць горы, а як выйдзе — пшык. Раніцай пайшоў з Вячаславам, купіў чаравікі. Вельмі рад. А то Мінск увесь ababegaў — нідзе няма. Прыйшоў дадому. Пачытаў трохі «Пана Тадэвуша»[3]. Потым з Алікам [Падлужным] накіраваліся на пошукі лыжак. Ледзь знайшлі ў невялічкім ларочку. Тут успомніў: трэба сфатаграфавацца на камсамольскі білет. У фатаграфіі страшэнная чарга, чуць дастаяў. Зараз сяджу ў чытальнай зале. Неабходна вучыць English, але як наліха штосьці не хочацца брацца. Але ўсё-ткі мушу: заўтра кантрольная работа. Дастанецца на арэхі.

*28 лістапада, панядзелак*

Закончыў «Пана Тадэвуша». Сіла. Аж сорамна, што да гэтых пор не прачытаў. Трэба ўжо было за гэты час перачытваць у які 7-мы раз. А я — першы. Ды, як кажуць, лепш пазней, чым ніколі. Колькі трапных дэталяў, мясцін. Партрэты як жывыя. Так і бачыш і Тадэвуша, і Зосю, і модніцу-какетку Тэлімену, і графа. А якім гімнам сапраўднаму мастацтву гучыць сцэна, дзе Янкель-цымбаліст іграе на вяселлі Зосі! Чытаючы, адчуваеш, што ўсе гэтыя персанажы аджываюць свой век. Тадэвуш і Зося, адчасці, нешта новае. Аб прыродзе і гаварыць няма чаго: яна жыве! Гэта ж навек запомніцца радок:

И клевер покраснел, как юноша несмелый.

---

[1] Коршун Рыма, аднакласніца.

[2] Ларчанка Міхась (Міхаіл Рыгоравіч; 1907–1981), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1955–1971 гг. загадчык кафедры беларускай літаратуры і адначасова (да 1957) дэкан філалагічнага факультэта БДУ. Доктар філалагічных навук (1956). Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР (1977).

[3] Паэма А. Міцкевіча. Міцкевіч Адам (1798–1855), польскі паэт; ураджэнец Беларусі.

А колькі іх! Шкада, што не магу чытаць у арыгінале Міцкевіча. Лекцыі прайшлі непрыкметна. Пісалі кантрольную па англійскай мове. Напэўна, кол, а можа, і з плюсам.

Вечарам быў канцэрт-вечар, прысвечаны Адаму Міцкевічу. Выступалі нашыя студэнты-палякі. Вельмі добра. Шкада, што я толькі палову зразумеў з таго, што яны гаварылі (выступалі на польскай мове). Выступалі артысты Белдзяржэстрады. Дай божа лепш.

Фактаровіч зрабіў уступную прамову ўзнёсла, з запалам, як заўсёды. Цікава і карысна. Чытаю Алейніка[1].

*29 лістапада, аўторак*

На Зазеку[2] чытаў Гётэ[3]. Неяк сумна. Адчуванне такое, як я не ў сваёй талерцы. Ну вось, думаю, кіну і думаць, гэта ж донкіхоцтва. Ды варта зірнуць на яе раз — і сам не свой. Страшэнна дурацкае становішча. Разумею, а змяніць не магу. Вечарам прыходжу дадому. У нас сядзіць Іван [Калеснік]. Прыходзіў да Мітрыя [Супруна]. Пад мухай. Гаварыў, што чысла 15 верш дадуць у літстаронцы.

Потым пайшоў да Rysika [Адамовіча]; у 65-ты пакой. Там К. імянінніца. Пабег за «градусамі». Прыехаў у магазін. Там Ніл [Гілевіч]. Круціўся-круціўся — не хацеў перад ім браць. Ён кажа: «Пойдзем дадому». Я як бы спахваціўся: «Ах, трэба ўзяць канцэнтрат», — і чмыгнуў у штучны аддзел. Нясуся з R. [Рычардам] у пакой. Адчыняю дзверы — Адамчык[4]. Я адразу сеў. Адной рукой трымаю бутэльку. Уваходзіць Галя. А R. як прычапіўся. У яго, кажа, бок баліць. Потым прычасціліся. Гулялі ў фанты. Спявалі. А[ня] вельмі хораша, з пачуццём спявала «Марынікэ» і другія песні. Усё б слухаў і слухаў. Потым станцавалі некалькі танцаў.

*30 лістапада, серада*

На лекцыі закончыў «Конрада Валенрода». Я проста закахаўся ў Міцкевіча. Гэта ж глыбіня беспрадонная, гэта ж чарадзей! Для сапраўднага мастака час — нішто. Чытаеш і не можаш адарвацца. Вось гэта сапраўд-

---

[1] Алейнік Барыс Ільіч (н. 1935), украінскі паэт, публіцыст. Акадэмік АН Украіны (1990). Лаўрэат Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1975, 1979), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1983), Міжнароднай прэміі імя Г. Скаварады (1994).

[2] Зазека Язэп (Іосіф Васілевіч; 1907–1977), беларускі пісьменнік. Выкладчык рускай літаратуры XIX ст. філфака БДУ. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

[3] Гётэ Ёган Вольфганг (1749–1832), нямецкі пісьменнік.

[4] Адамчык Вячаслаў Уладзіміравіч (1933–2001), студэнт аддзялення журналістыкі філфака БДУ. Беларускі пісьменнік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1988).

ная любоў да Радзімы, любоў, у імя якой Валенрод ахвяруе ўсім сваім дарагім — жыццём, шчырым каханнем. Палоніць і вобраз [сказ абарваны].

Потым была англійская. Раздала кантрольныя. Мне тройка. Лекцыя прайшла весела. Шмат жартавалі. Здаў сапраўды цудам «знакі».

Потым вечарам варыў кашу. На кухні сабраўся амаль увесь наш курс дзяўчат. Рыма[1] пякла бліны. Я паспытаў адзін і сказаў, што солі трэба. Тут мне і падпусцілі кпіны. Для закаханага, кажуць, заўсёды ў страве солі мала.

Вечарам чытаў лірыку Гётэ. Трэба чытаць, чытаць і чытаць класікаў.

*1 снежня, чацвер*

Прыйшла тэлеграма сустракаць Гарбучыху[2]. 2 лекцыі праседзеў. Потым сабраўся ісці. І тут мне толькі цюкнула, што ўжо 7 гадзін і сустракаць позна. Пабег на аўтобусны вакзал. Там гавораць, што аўтобус полацкі прыйшоў у 6 гадзін. Паехаў да Генькі. Там якраз наладжвалася дума. Прыгасціўся. Маці прыслала хоць 2 кавалачкі сала. У самой няма, дык пазычыла. Не можа нікога прапусціць у Мінск, каб мне чаго-небудзь не перадаць.

Дадому прыехаў позна. Былі шансы прыехаць распранутым[3].

*2 снежня, пятніца*

Спец., на якую я не вялікі спец. Прыходзіў Генька [Гарбук], схадзілі ў педінстытут, знайшлі [Генадзя Цімафеевіча] Селязнёва.

Потым улавіў [Анатоль] Клышко. Сказаў, што трэба выступіць. А тут часопіс не магу ўлавіць. Трэба на самападрыхтоўку. Крыху спазніўся. Хлопцы, як маленькія дзеткі, біліся картонай. Смех, гоман. Артыст сабраў усе кнігі. Тут ідзе палкоўнік. Кнігі хватаюць. Ложаць перад сабой. Ва ўсіх сур'ёзныя твары. І ўсе перамагаюць смех, душацца смехам. Пачалася пераклічка. R. [Рычарда] не было. Жэнька [Клімаў] гаворыць: «Я». Палкоўнік разгубіўся. У спісе 25 студэнтаў. 2 адзначыў, што няма. Палічыў у аўдыторыі — 22 чалавекі. Дзе ж чалавек? Зноў выклікае. Усе лічаць. Смех. Ажыўленне. Нарэшце, прачытаўшы нешта накшталт маралі, выйшаў. Тут зноў прыпар. У абком трэба. Справа з насценгазетай. Пайшлі ў абком. Далі нам тэмп. Заўтра будзем выпускаць бюлетэнь камсамольскай канферэнцыі. Адтуль выйшлі. Спяшаем з Генадзем[4] паспець на канферэн-

[1] Клышко Рыма, студэнтка філфака БДУ.

[2] Маці Г. Гарбука.

[3] Вечарамі па вуліцах хадзіць было небяспечна з-за частых грабяжоў.

[4] Бураўкін Генадзь Мікалаевіч (1936–2014), студэнт аддзялення журналістыкі філфака БДУ. Беларускі паэт. У 60-х гг. працаваў стыльрэдактарам час. «Коммунист Белоруссии», старшым рэдактарам на Беларускім радыё, загадчыкам аддзела літаратуры, намеснікам галоўнага рэдактара газ. «Літаратура і мастацтва». У 1968–1972 гг. карэспандэнт газ. «Прав-

цыю чытачоў «Маладосці». Распрануліся. Бяжым. Там апладысменты. Ну, і нам, як класікам, выходзіць, прыходзіцца захадзіць пад гул чужых апладысментаў. Пачакалі. Мне даюць слова. Што рабіць? Мусіў выйсці і сказаць пару слоў. Мала, моў, змяшчаюць баек, мала сатыры. Многія прамоўцы чыталі прама лекцыі. Потым выступілі Лужанін, Максім Танк, Янка Брыль[1], М. Аўрамчык[2], Артур Вольскі[3]. Чыталі харошае і вельмі хораша. Потым чарга за аўтографамі. Дзяўчаты, ведама, больш за Артуравымі. Натуральна. Прайшло цікава.

*3 снежня, субота*

Устаў параней: трэба ж Гарбучыху праводзіць і [ў] 11 быць у абкоме. Пакуль мыўся, корпаўся. Без 10 мінут 10. Пабег на вакзал. Аўтобуса і след прастыў. Аж злосць на самога сябе за гэткую мешкаватасць. Пайшлі ў абком. Адтуль у клуб КГБ. Там праходзіла канферэнцыя. Пісаў подпісы пад карыкатуры. З 5 да 7 абед. У людзей у гэты час амаль вячэра, а ў нас толькі шчэ абед. У 7 бягу туды. Падыходжу да дзвярэй. Цуп-луп — няма дэлегацкага білета. А там міліцыя не пускае. Папёр дадому. Прыбягаю. Усе расходзяцца. Пабыў на адной гадзіне Шапялевіча[4]. Потым пісаў подпісы пад карыкатуры ў «Слове філолага». Мяне ашарашыў пасквіль, які быў паднесены ў выглядзе фельетона, на R. [Адамовіча]. Напісаў Алік [Падлужны]. Падпісаў «Кропля». Я стаў распытваць, чаму змясцілі. Ніхто і адказваць не хоча. Што паробіш, калі рэдактар зрадні Дзікому[5]. Ды плюс у жаночым родзе. Схадзіў у 67-ы пакой. У суседні схадзіць не хапіла смеласці.

*4 снежня, нядзеля*

Раніцай устаю. R. [Адамовіч] хацеў зварыць макарон і перапаліў пробкі на кухні. Пайшлі з ім у сталоўку. На R. кошт. Там псавалі апетыт нейкія піскухі-жаманніцы. Я адыходжу ў клуб КГБ, R. сунуў мне 5 [рублёў].

---

да» па Беларускай ССР. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1980).

[1] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006), беларускі пісьменнік. У 1950-х гг. працаваў у час. «Вожык», «Маладосць», «Полымя», у Дзяржаўным выдавецтве БССР. Народны пісьменнік БССР (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1982).

[2] Гл.: Замілаванасць // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 74.

[3] Вольскі Артур (сапр. Зэйдэль-Вольскі Артур Вітальевіч; 1924–2005), беларускі паэт, дзіцячы пісьменнік і драматург. З 1952 г. працаваў у рэдакцыі газ. «Чырвоная змена», у 1953–1957 гг. загадчыкам аддзела час. «Бярозка», у 1957–1960 гг. адказным сакратаром час. «Вясёлка». З 1963 г. загадчык літаратурнай часткі, потым дырэктар Беларускага тэатра юнага гледача.

[4] Шапялевіч Канстанцін Іванавіч, выкладчык беларускай мовы.

[5] Персанаж п’есы А. М. Астроўскага «Навальніца».

«На, — гаворыць, — а то, можа, там есці захочаш. Толькі не на кнігі». Зноў пісаў. Удаўся подпіс, як і карыкатура, на аднаго сакратара райкома. Кончылі бюлетэнь. Дарэчы, называецца «Боевой орган комсомольской сатиры» (БОКС).

Jaumenow[1] кажа: «Сабярыцеся ўсе. Пагаворым аб адной справе. Трэба скласціся і выпіць у сталовай усёй рэдкалегіяй». Ну добра. Глядзім кіначасопіс аб Маякоўскім. Яўменаў мяне кліча. «Ідзі, — кажа, — вазьмі яшчэ пару хлопцаў і займіце ў сталоўцы сталы 3». Пайшоў апранацца, а там вопраткі не даюць. (Гэта каб дэлегаты не разбегліся перад галасаваннем.) У сталоўцы саставілі 3 сталы. Афіцыянтка жартуе: «Зяцькі, зяцькі!» А мы сябе адчуваем як голыя ў крапіве. Знаем, што тут даюць толькі па талонах. Яўменаў абяцаў дастаць. Невядома, як удасца яму гэта. Генька [Бураўкін] чытае «Литературную газету». Васіль сядзіць, і я сяджу. Смяемся, што калі б у нас быў «рупь неразменный». Генька не вытрымаў. Пабег за дзверы. Я за ім. Давіць смех. Нічога не астаецца, як толькі смяяцца. Тут я агледзеўся, што няма нумарка з гардэроба. Ну, думаю, цяпер будзе весялей яшчэ ісці дадому без паліто. Але выявілася, што я не ўзяў яго ў гардэробшчыцы. Тут нарэшце з'явіўся і Яўменаў. Талонаў не дастаў. Зноў сюрпрыз. Склаліся па дзясятцы. (У мяне было 4 руб., Генька заклаў 6 руб.) Тут падыходзяць: шчэ трэба па пяцёрцы на выпіўку. Зноў склаліся. Выпілі. Закусілі. Спявалі. Але гэта спяванне было больш падобна на піск свінні ў пярэплаце. Па вуліцы ішлі з песняком. Там пачалося галасаванне. Я забыўся — і руку ўгору.

Выступаў ансамбль песні і танца пагранічнікаў. Выключна. Падабалася песня пра Нёман, «Амурскія хвалі», «Казацкая сюіта». З поспехам выступаў Ліхашэрстаў. Потым — дадому. У інтэрнаце былі танцы. Але калі прыйшоў, яны ўжо закончыліся.

*** Замест «Добро пожаловать» — «Выцірайце ногі!».

*5 снежня, панядзелак*

Устаў. Пытаю ў хлопцаў, якія лекцыі? Яны смяюцца: «Сёння ж выхадны!» Прачытаў «Пакуты маладога Вертэра»[2]. Усё ж такі я выхаваўся на сацрэалізме. І сентыменталізм мне не вельмі па душы. Хоць у кнізе шмат чаго адпаведнага майму настрою.

Рысь [Адамовіч] танцаваў у політэхнічным. Гаварыў, што падпісаў пад пасквілем імя аўтара.

---

[1] Яўменаў Леанід Фёдаравіч (н. 1932), беларускі пісьменнік. У 1954–1958 гг. сакратар Мінскага гаркама камсамола. Доктар філасофскіх навук (1977), прафесар (1979). Член-карэспандэнт НАНБ (1991).

[2] Раман Ё.-В. Гётэ.

*6 снежня, аўторак*

Чытаў «Эгманта» Гётэ. Купіў 2-гі том Шаўчэнкі[1]. Цудоўная рэч. Зараз сяджу на лекцыі Зазекі і пішу дзённік. Жэньку [Клімаву] паслаў на зарубежнай запіску:

Клімаў выпусціў газету
Надта ўжо celebrate… 

Фельетонаў і пасквілей —
Усяго ў ней дастаткова.

Пайшоў у 65-ты пакой. Разгубіўся, як школьнік на экзаменах, выцягнуўшы невядомы білет. Ляля [Тарасевіч] штось моршчыцца. Кажа, баліць галава, а трэба перакладаць французскія «тысячы». «Ці няма ў вас таблеткі ад галаўнога болю?» Я, як лыцар, узяўся дастаць. Прыйшоў у пакой — няма. У аптэчку «Чырвонага Крыжа» нашага інтэрнацкага — таксама няма. Пабег у аптэку за вакзалам — закрыта. У 6-ю [палі]клініку — закрыта. Дай, думаю, зайду ў вакзал: там жа ёсць санкіёск. Купіў перонны білет. Уваходжу, кіёск закрыт. Я зноў к 6-й [палі]клініцы. Там стаіць «скорая помач». Уваходжу ў памяшканне. На маё запытанне аб таблетках на мяне паглядзелі як на дзівака. Пакуль я там распытваў, дзверы вартаўнік замкнуў. Чуць выпусцілі. Пайшоў на праспект, там захапіў. Прыбег назад. Увесь у мыле. Занёс. Мокры, ногі прамоклі, якраз дастала адліга. Роля не вельмі зайздросная. Я б сказаў — вар'яцкая крыху. Адчуваю, а інакш зрабіць не мог.

Васіль [Максімовіч[2]] — жаніўся.

*** «Кісанька! Зрабі свайму коціку мяў-мяў».

*7 снежня, серада*

Раніцой грузілі дровы. Машыны пагрузілі. Пачалі разбягацца. Камендант — лавіць. Прама ў кошкі-мышкі гулялі. Потым фізбрык. Крыху спазніўся. Увайшоў у залу — на смех паднялі. Рабілі стойку, лазілі па канату, прыгалі цераз каня. Маркаў[3] адзначыў у мяне фізкультурны працэс. На пераклічцы Аронавіч выклікае: «Максімовіч». Жэнька [Клімаў] крычыць: «Жаніўся!» Наогул, усе віншуюць Васіля. Я праз крысо павіншаваў, моў, каб багаты быў. В. усім паказвае картку жонкі. Дабаўляе: «Мая старая». А гэта «старая» з 33 года. На дыялекталогіі Ваську далі заўвагу: «Што з вамі?» — пытае. Тут усе крычаць: «Жаніўся!» Неяк незвычайна. У нас на курсе расце лік сем'янінаў. Крыху смешна.

---

[1] Шаўчэнка Тарас Грыгор'евіч (1814–1861), украінскі паэт, празаік, мастак.
[2] Максімовіч Васіль, аднакурснік.
[3] Маркаў, выкладчык фізкультуры.

Пра заметку аб R. [Рычарду] цэлую шуміху ўзнялі. На англійскай англічанка[1] зноў скланяла як абразец лянівасці. Трэ будзе ўзяцца. Не ведаю, як удасца гэтае «ўзяцца». Хадзіў у 67-мы пакой. Васіль на паседжанні. Косця [Свёкла] ускіпеў. Гаворацъ, што ў пакоі пачалі знікаць рэчы. Гэта страшэнна. Алік [Падлужны] прыйшоў з паседжання студкома. Расказваў пра каменданта. R. чытае. Хмуры.

*8 снежня, чацвер*

Як заўсёды ў 76-ю аўдыторыю спазніўся. Прыйшлося — неслі стол і крэслы. Сядзеў жартаваў. Крыху запісваў. Потым былі практычныя па дыялекталогіі. Дыялекталогія мне лёгка. Думаю, што здам добра. Пры пераклічцы Ф[лікс Пазнякевіч] выцягнуў крэсла з-пад Косці [Свёклы], калі той падняўся, і Іпалітавіч чуць не грохнуў. Пасля было паседжанне прафкома і камсамольскага камітэта. Цягнулася да 12 з гакам. Выступалі. Адзін выстаўляе нейкія, з дазволу сказаць, тэзісы, другі абвяргае. Нудна. Страшна спаць хацелася. Міжволі ўспамінаецца верш Маякоўскага. Я сядзеў і сабіраў факты для сатырычнага аддзела.

*9 снежня, пятніца*

Спец. Я пачаў чытаць тэорыю вераемнасці, што яшчэ 2 гадзіны — і я ўхапіў бы самае малае — менінгіт. На самападрыхтоўцы шмат у чым разабраўся. Ф[елікс Пазнякевіч] і С. адколвалі нумары. Палкоўнік сказаў прыйсці на кафедру. Ф[елікс] не пайшоў.

Канспектаваў Леніна[2]. Заўтра семінар.

*10 снежня, субота*

Праспаў. Пайшоў у чыталку. Чытаў «Рабінзона Круза»[3]. Перапісаў 5 сказаў [на] латыні. На семінары «толкнул» маленькую «речь». На 2-й гадзіне быў прадстаўнік. Відаць, застаўся задаволеным: выступалі актыўна. На Пільману дрыжэў, як перад прысудам, ні ў зуб нагой не ведаў. Ледзь перажыў. Грошы выйшлі. Тут праФорг ганяе за газеты. Пазычыў у Ваські 10 [рублёў]. Збегаў у буфет, купіў хлеба. Прынёс R. [Рычарду] з салам. Чытаю ў кнізе пра ізюм, смажанае мяса, а сам бы сабаку з'еў. У шматтыражцы аправяржэнне — заметка на Алікаву. Чуў, што мне прыпісваюць. Дзіўна. Алік расхваляваны.

Ледзь не забыўся. Цягнулі нумаркі. Я выцягнуў Зосю [Грыц]. Як мне хацелася А[ню]. Трэ паламаць галаву, што купіць. Яшчэ адна дылема.

---

[1] Выкладала жонка паэта І. Платнера (з ліста дачкі — Джэсікі Платнер-Аляксеевай).

[2] Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870–1924), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, стваральнік Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі (бальшавікоў) і Савецкай дзяржавы.

[3] Аповесць Д. Дэфо. Дэфо Даніэль (1660–1731), англійскі пісьменнік, публіцыст.

*11 снежня, нядзеля*

Прачытаў 2 камедыі Мальера[1] — «Дон Жуан», «Мешчанін у дваранстве» і аповесць Вальтэра[2] «Кандыд». Пачытаў Марцыяла[3]. Ну, гэта адна асалода. Што за глыбіня. Якія эпіграмы.

*12 снежня, панядзелак*

Раніцой пайшоў ва ўніверсітэт. Там пратоўкся добрую гадзіну, пакуль нас не пагрузілі на грузавік. Прывезлі на аэрапорт сустракаць дэпутатаў польскага Сейма. Прыехалі ў 11 гадзін. А самалёт меўся прыляцець у 12 з гакам. У зале чакання штурхаліся. Я штурхануў нейкага чалавека саліднага, а думаў, што свайго хлопца. Ён адварочваецца. Я знікаю. Затым галяпуем на аэрадром. Усе ціснуцца наперад, міліцыянер крычыць: «Асадзі назад!» Вось прызямляецца самалёт — усе да яго. Аж выявілася, што гэта просты самалёт. Выходзіць жанчына. Руская мова гучыць. Усе адваліваюць назад. Нарэшце чаканы самалёт. Бяжым. Выходзяць дэлегаты [дэпутаты]. Выступіў Казлоў[4]. Потым паляк. Палякі ўскліквалі: « Нех жые!» Фотакарэспандэнты наперабой шчоўкаюць. Усе прабіваюцца да мікрафона. Нарэшце садзяцца ў ЗіМы і ад’язджаюць у цэнтр.

Мы з R. [Рычардам] пасунулі пешадралам дадому. Вушы мерзнуць, ногі адубелі. Едзе машына са студэнтамі. Зляцеў галош. Я падбег падняць і не заўважыў, што на мяне прэ грузавая машына. Шафёр тармозіць, я разгубіўся і не магу і кроку зрабіць. Ужо нават уявіў, як па мне праедзе машына. Нарэшце рвануўся ўбок. Усё гэта праходзіла за якую паўмінуты. Выскачыў. Мне радасць — усім смех. Моў, цяцера — пад машыну лезе.

Пасля 2 лекцый пайшоў на «Дзяўчыну з Палесся»[5] з М[ітрыем]. Чакалі-чакалі тралейбуса. Але селі на «чацвёрку» і прыехалі да опернага. У трамваі нейкая п’яная свіння бузіла. М. ускіпеў. Прыбеглі ў тэатр. Опера пачалася. Распрануліся. Селі на першыя трапіўшыя месцы. Потым перайшлі на свае. Гляджу, сядзіць Л. На перапынку пайшлі ў буфет. Узялі па бутэльцы піва. М. нагнуўся да стала, каб выкінуць паперку, а мне ўявілася, што ён хоча шклянку ўзяць. Рагаталі на ўвесь оперны. У кішэні — ні рубля. Адсюль і ўсе вынікі паводзін у адносінах да ... Кончылася.

Трэ хадзіць на оперу. Бачыў Геньку [Гарбука], які іграў нямецкага салдата. Ідзем смяемся: «Праслухаўшы класічную оперу Цікоцкага, публіка

---

[1] Мальер (сапр. Паклен Жан Батыст; 1622–1673), французскі драматург, актор, тэатральны дзеяч.

[2] Вальтэр (сапр. Аруэ Мары Франсуа; 1694–1778), французскі пісьменнік, філосаф, гісторык.

[3] Марцыял Марк Валерый (каля 40 — каля 104), рымскі паэт.

[4] Казлоў Васіль Іванавіч (1903–1967), беларускі дзяржаўны, партыйны дзеяч. З 1948 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Герой Савецкага Саюза (1942).

[5] Опера Я. Цікоцкага. Цікоцкі Яўген Карлавіч (1893–1970), беларускі кампазітар. Народны артыст СССР (1955).

ў захапленні… ад дэкарацый і буфета». Опера так сабе на мой погляд. Праўда, знаўца з мяне слабы. Падабаліся танцы. Паштурхаліся на трамвайнай астаноўцы, пакуль селі.

*13 снежня, аўторак*

Размова з адным typusam. Цяпер мне шмат чаго зразумела.

На Шапялевічу разбіралі слоўцы. Прачытаў «Прастадушнага»[1]. Быў на сустрэчы з Лужаніным. Расказваў пра паездку ў Чэхаславакію. Цікава легенда пра Карлавы Вары. Карл гнаўся за аленем. Алень капнуў капытом. Струмень ударыў у Карла. Алень уцёк. У Карла ж стала папраўляцца ад гэтага струменя пашкоджаная рука. Расказваў пра Труса[2], Чорнага[3]. Трус невялікі ростам. Крыху прыгрызаў «р». Любіў песні.

*14 снежня, серада*

На фізкультуры здалі залікі. Я, аж сам не веру, гэты раз здаў усё. Праўда, семянячы бег здаваў 2 разы. Выходзіць, што фіззарадка раніцой «рэчка» вельмі не шкодная. Страшэнна хацелася есці. Грошы выйшлі. А калі яны прыйдуць — невядома. Наўрад раней 25-га. Сяджу, можна сказаць, на R. [Рычардавым] утрыманні. Нялоўка неяк. Маці пісала, што на гэтым тыдні прышле пасылку, але пакуль што няма. Раніцой з'еў 2 ражкі сырых. Па канату ледзь лез. На лекцыі першай пісаў надпісы ў свой аддзел.

З другой гадзіны пайшлі на кансультацыю па спец. Сашка Б[улыка] гаворыць: давай на адну гадзіну не пойдзем на замежную мову. Я згадзіўся. Без 20 8 падходжу к аўдыторыі. Чую — выклікаюць Б[улыку], і — дух святы, — Сашанькаў галасок. Гэта ўжо з'ява не далёкая ад свінства. Можа падвесці і ў сур'ёзнай справе, калі тут у глупстве падвёў. На 2-й гадзіне англічанка выклікала. За словы — двойка. За чытанне — тройка. У агульнай суме — пяцёрка. І то добра.

Пасля лекцый на паседжанні рэдкалегіі. Заметкі нудныя. З. ганяла, што мая рэдкалегія пасіўнічае. Вечарам пайшоў за чаем. Бачу К., кажа, што трэба канспект па фальклоры. Я схадзіў да Жэнькі [Клімава]. Паставіў варыць ражкі. Сам пайшоў у 65-ты пакой. Ляля [Тарасевіч] перапісвала канспект. Пайшла мыцца. Ідзе па карыдору. Нейкі шум. Гэта М. гаварыла, што ён абяцаў ёй даць фота.

Прыйшоў дадому. Ражкі прыгарэлі. Да гадзіны ночы мыў каструлю. Зайшоў да Ніла [Гілевіча]. Золата, а не чалавек. Колькі чуласці, увагі. Ска-

---

[1] Раман Вальтэра.

[2] Трус Паўлюк (Павел Адамавіч; 1904 — 1929), беларускі паэт. Прысвечаны яму верш гл.: Кашуля Паўлюка Труса (16.06.64) // Неруш. Мінск, 1966. С. 30.

[3] Чорны Кузьма (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900 — 1944), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны.

заў, што верш атрымаецца на зайздрасць, калі папрацаваць. Трэ старацца. R. [Рычард] прыйшоў позна. Быў у 65-м. Як я зайздрошчу, што ён у гэтым пакоі адчувае [сябе] нязвязаным, а я як усё роўна на допыце. Сапраўды, бог не роўна дзеліць!

*15 снежня, чацвер*

Усё прайшло як звычайна. Без усякіх прыгод.

*16 снежня, пятніца*

Спец. Сяджу на 3-й гадзіне. Адчыняюцца дзверы. Паказваецца Каюн. Ну, думаю, каюк зробіць. Выходжу. Аж з твару крыху змяніўся. Кажа — да генерала. Я тут яшчэ болей арабеў. Заходжу. Аж генерал кажа, што выклікаюць нас у «БОКС», дык адтуль пазванілі, каб нас адпусцілі. Я на сёмым небе быў ад такога павароту справы. Выпусцілі першы нумар. Прама піянеры ў гэтай справе. Прыехаў Дзімка[1]. Прывёз перадачу. Сала. Футболку. Маці і не жыва, каб не пераслаць.

А тут трэ ў рэдкалегію «БОКСа» і на вечар. Пайшоў у рэдакцыю. Адчыніў дзверы ў 58-мы. А[ня] сядзіць па-святочнаму апранута. Эх, як бы я хацеў пабыць на вечары! Прыйшоў у 12.

*** Вопратка звышсучасная, новая, ды душа ў яго — дапатопная, выкапнёвая (стыляга).

*18 снежня, нядзеля*

Чытаў Паляжаева[2]. Хадзіў па Мінску.

***Новы заводскі гудок прабуе голас у хоры ўсіх гудкоў.

Труба на сцяне вісіць, як пусты рукаў (разбураны дом).

*19 снежня, панядзелак*

З 10 да 3 пераклаў 15 тысяч. Англічанкі доўга не было. Тамара дала перакладаць нейкі тэкст з падручніка. Нарэшце прыйшла. І я, як кажуць, «толкнул» тысячы. Апошняй лекцыі не было. Прыйшоў у інтэрнат. У дзяўчыны адной укралі фотаапарат і лакіркі [лакіраваныя туфлі]. Вобыскі.

*20 снежня, аўторак*

З апошняй лекцыі зматалі вудачкі і з Myslizelem паімчаліся ў оперны. Прыехалі, думалі — спазніліся. Аж выйшла наадварот — рана. Хадзілі ды разглядалі па сценах [партрэты] артыстаў. Вось пачалі ўпускаць. Зайшлі

---

[1] Шэўчанка Дзмітрый, муж настаўніцы Г. М. Шэўчанка.

[2] Паляжаеў Аляксандр Іванавіч (1804 ці 1805–1838), рускі паэт.

чынна-важна. Расселіся ў партэры. Месцы добрыя. Опера «Травіята»[1] вельмі падабалася. Першы акт слабавата. 2-гі, 3-ці, 4-ты — цудоўна. Добра, на 5 спявалі Ніжнікава[2] і Балоцін[3]. 3 — на 5+. Колькі такіх сцэнак. А што за чары арыя бацькі! Музыка лёгкая, мілагучная. Слухаў бы і слухаў. Запамінаецца сцэна, калі Травіята піша пісьмо… а ён ёй падносіць і кідае букеты руж, нічога не падразумляваючы аб бядзе. Наогул — цудоўна!

У антрактах чытаў «Строи и огневая служба», праўда, без такой асалоды, з якой слухаў оперу, але раз трэба — трэба. Нічога не паробіш.

*21 снежня, серада*

На лекцыі не быў. Разбіралі з Фенем [Феліксам Пазнякевічам] СКС, САК, ТТ[4]. Разабралі дэталёва. Вечарам варыў кашу з аўсяных хлоп'яў. Дзік купіў мне «Строи…». Быў у Валодзі [Хамёнка].

*22 снежня, чацвер*

Чытаў. Зубрыў. Адпачываў. Алік [Падлужны] робіць выгляд, што нічога не вучыць, а знае. Ён сабе…

*23 снежня, пятніца*

Сёння здаваць. Быць ці не быць. У нас спачатку было 6 гадзін лекцый, а потым ужо здача. Першую здаваў огневую службу. Усё адказаў. Выкладчык запытаў, як зарадзіць дыск. Пачаў зараджаць. Няўмела. Ён і кажа: «Вось што, малады чалавек, уперад чым вывучаць зброю, трэба навучыцца яе зараджаць, разраджаць, страляць з яе. Ідзіце — залік». Мне гэта і трэба было. Потым здаваў артылерыю. Білет знаў. Плюс к таму такое ж самае пытанне было ў Вінцэся. На пабочным [пытанні] крыху запарыўся, не мог адразу ўспомніць, як называецца 2-гі нумар. Бывае ж так, што зойдзе затлум у галаву. Па першаму пытанню — 5, па другому — 3. Агульная — 4. Я тут ад радасці кулем-потырчма вылецеў. Тут толькі выбягаць, мне кажуць: «Скажыце, хай заходзіць наступны і зайдзіце сам». Я ўжо падумаў — узбучка, за тое, што не страявым крокам выйшаў. Аж мне кажуць: «Сабярыце гэтыя снарады і пакладзіце ў скрынку». Цікава, што калі падышоў і даклаў, што такі і такі-то студэнт «прибыл», ён запытаў: «Вы што — у галошах?» Тонкі намёк і кпіна. Я зайшоў не страявым, няцвёрдым крокам. Пасля здачы адчуваў сябе імяніннікам.

---

[1] Опера Дж. Вердзі. Вердзі Джузепе (1813–1901), італьянскі кампазітар.

[2] Ніжнікава Тамара Мікалаеўна (н. 1925), беларуская спявачка. Народная артыстка СССР (1964).

[3] Балоцін Ісідар Міхайлавіч (сапр. Балотны; 1907–1961), беларускі оперны спявак. Народны артыст БССР (1944).

[4] СКС — самазарадны карабін Сіманава; САК — магчыма, самастрэльны аўтамат Калашнікава; ТТ — тульскі Токарава (пісталет).

*24 снежня, субота*

Выклікаў Pilman. Паставіў 2. Сказаў, што гэта ён ставіць для таго, каб потым да яго не мелі нічога, як праваляць на экзаменах, бо ў годзе нічога не рабілі. Атрымалі стыпендыю. Купіў «Русские писатели о языке», «Чехов о литературе». Некалькі брашур. На першай гадзіне на семінары па марксізму-ленінізму не быў. Хадзіў купляць «Путешествие Гулливера»[1]. Я чытаў. Яна прапала. Значыць, павінен я купляць.

*25 снежня, нядзеля*

Хадзілі з R. [Рычардам] у магазін падаркаў. Купіў для Зохі [Зосі Грыц] сумачку. Сумленне даражэй якой дзясяткі. А то потым будуць скнарай лічыць. Быў у «БОКСе», нічога не выпусцілі. Не было часу, а галоўнае, матэрыялу.

*26 снежня, панядзелак*

Пераклаў тысячы. На Зазеку штосьці чытаў. Чытаў ад коркі да коркі «Поэты пушкинской поры».

*27 снежня, аўторак*

Сёння залік па Зазеку. Выцягнуў «Вобраз Чацкага. Драматургія Лермантава». Пару слоў сказаў — досыць. Зазека па памылцы замест «Літаратура 19 в.» у заліковай кніжцы паставіў «Старажытнаруская літаратура». Я заходжу. Гавару, моў, так і так. «Во, хоць адзін чалавек паглядзеў у заліковую кніжку. Сабярыце астатнія». Колькі мог — сабраў. Занёс. Надрукавалі ў «Чырвонцы» «Памідоры»[2].

*28 снежня, серада*

На Акімаўне чытаў зарубежную. Англічанка, як заўсёды, ганяла.

Прыехала Аня [Міклашэўская]. Прывезла перадачу. Сустрэў Жака [Машчова].

*29 снежня, чацвер*

Сёння ўручалі прызы. Мне паднесла Жанна [Доўнар] 2 тамы «Граф Монтэ-Крыста»[3] і «Русский лес» Ляонава[4]. Я паднёс Зосі [Грыц]. Пажадаў, каб яна [сумачка] была заўсёды поўнай грошай і цёплых пісем. R. [Рычарду] Ніна купіла 2 кнігі і бумажнік. Напісала цудоўна: «Пакуль існуюць

---

[1] Раман Дж. Свіфта. Свіфт Джонатан (1667–1745), англійскі пісьменнік, грамадскі дзеяч.

[2] Памідоры // Чырв. змена. 1955, 27 снеж.

[3] Раман А. Дзюма. Дзюма Аляксандр (Дзюма-бацька; 1802–1870), французскі пісьменнік.

[4] Ляонаў Леанід Максімавіч (1899–1994), рускі пісьменнік. Акадэмік АН СССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1967). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943, 1977), Ленінскай прэміі (1957).

грошы, хай будзе поўны твой кашалёк». Аліку [Падлужнаму] Коля купіў шахматы.

*30 снежня, пятніца*

Спец. Як заўсёды дурна ў галаве ад розных формул. Адчуваецца набліжэнне Новага года. Трэба выпускаць «Слова філолага», здаваць залікі. «Дел, как у земского, и делать нечего». Сапраўды так атрымоўваецца.

*31 снежня, субота*

З раніцы да 12 гадзін выпускалі газету. Рабілі подпісы. Нячай[1] цудоўна намалявала. Гутараў, асабліва Ларчанка — як выліты. Дзед Мароз кажа:

З задавальненнем бачу я —
Філфак па праву можа ганарыцца:
Расце тут дактароў сям'я
І порах ёсць яшчэ ў парахаўніцах.

Гутараў падышоў да газеты. «Ну што тут пра мяне напісалі? Я слаба бачу, асабліва калі мяне крытыкуюць». Прачытаў. Засмяяўся. Го-го. На Клышко [Анатоля] гаварыў, што зробіць з яго чалавека. Самае беднае — прафесара.

На Шапялевічавай лекцыі было ўсяго чалавек 30 з 75. Пісалі сказы. З латыні ўзгоднена ўцяклі. Я чуць не папаўся. Бягу. Гляджу — стаіць Pilman і Ліля [Дзянскевіч]. Аж гэта, выходзіць, на лекцыю прыйшла адна Ліля з-за няведання. Пакачаў галавой і пайшоў.

У пакоі… прама заезджы двор. Мітрыевы знаёмыя. Кураць, п'юць, ліюць. R. [Рычард] з Галяй шылі маску Дзеду Марозу. Перад вечарам прыйшла віншавальная тэлеграма з дому. Пайшоў даў адказную. Купіў 2 тамы Міцкевіча. Перад вечарам выпілі самую маласць. R. [Рычард] быў збег. Чакалі. Крыху паспрачаліся. Пайшлі на ёлку. R., я, Алік і R. [Рычардаў] знаёмы. Тут трэба было чытаць. Мяне выштурхнулі. Трэба, моў, масавасць. Я чытаў і сам не чуў, што чытаў. Гавораць, што паўгадзіны толькі кланяўся, перад тым як чытаць. Быў цвярозы — не чытаў бы. R. [Рычард] танцаваў. Вельмі добра. Далі кнігу яму. Потым танцы. Музыку не зусім чуў. Танцую вальс, а тут мне заўважаюць: «Грыша, гэта ж танга». Для мяне ўсё роўна было. Весела. R. [Рычард] іграў Дзеда Мароза. Змок да ніткі, бедны. Душна так. А ён цёпла адзеўся. Прыйшоў дадому ў 3-й гадзіне. Нехта прыслаў паштоўку віншавальную: «Жадаем поспехаў» і т. д. «Будзь заўсёды такім, як у навагодні вечар! *Дзед Мароз*». Канешне, не Дзед Мароз пісаў. Цікава, хто? Сумна трохі. Усё-такі адзін.

[1] Нячай Вольга, студэнтка філфака, мастак студэнцкай газеты «Слова філолага».

# 1956

*1 студзеня, нядзеля*

Так. Пачаўся 56-ы год. Што дасць ён мне новага? Стары быў для мяне неблагім. Схадзілі з Сашам [Булыкам] у кіно «Цень ля пірса». Так сабе. Прыгодніцкі. Можна чакаць лепшага. У магазіне абдурылі на 10 руб. Не трэба вароніць. У новым годзе ў першы дзень і ўжо канфуз. Ну, нічога. Вечарам пайшлі з Rys. [Рысем], з Зосяй [Грыц] і Ляляй [Тарасевіч] на праспект. Тут нашым спутніцам сустрэліся спутнікі. Мы з R. [Рычардам] пайшлі на пару. Пала ўсё ж Л[яля]. Шкада З[осі]. Звіхнулася. Дрэнны ўплыў Л[ялі]. Схадзілі з R. [Рычардам] на вакзал. Выпілі піва.

*** — Ну, як справы?

— Нічога, дзякуй.

— Калі ласка.

*2 студзеня, панядзелак*

Рыхтуемся да зарубежнай. Пішу цытаты. Чытаю. Раздавалі кантрольныя па англійскай мове. Мне самаму апошняму аддалі работу. «Bad[1] і нічога больш не магу дабавіць». Я ўзяў і смяюся: «Ого, — гавару, — работа савецкая, ніякой контры няма — уся чырвоная». Я. усміхнулася і сказала, што другі раз будзе ставіць 2 — сінім алоўкам. Чытаў Анатолю [Клышку] «Падарак», сказаў — нічога. Схадзіў у медінстытут дарэмна.

*3 студзеня, аўторак*

Штурмуем ззяючыя вяршыні ведаў. Заўтра зарубежная, замежная, фізкультура. Вечарам прыходзіў Генка [Гарбук] з Зінай. У капелюшы Жак [Машчоў]. Прама дыпламат. Якія яны шчаслівыя. Яны кахаюць адзін другога. Спаць лёг у 4-й гадзіне ночы. Сапраўды, «Ой вы ночы, студэнцкія ночы! Толькі кнігі, канспекты вакол!» Быў у R. [Розы Бутоўскай]. Падабаецца яна мне. Быў у анатамічцы.

Ружовая. У белым халаце. Мара!

*4 студзеня, серада*

«И грянул бой, полтавский бой!» Прыйшоў здаваць. Усе хвалююцца. Страшнавата неяк. Зайшоў. Выцягнуў білет. «Барацьба двух напрамкаў у французскай літаратуры. Праблема класіцызму». Знаў. Да па-

[1] Bad — дрэнна (*анг.*).

ловы ўбраўся. Спыніў. Хопіць. Залік. Аню выгнаў вокамгненна. Засталося фізбрык. Пайшоў. Аронавіч [Маркаў] разчыркнуўся.

Па англійскай плаваў. Задала адмоўе ў сказе. Тры выпадкі адказаў. Чацвёрты — тпру. «Думайце», — кажа. Тут якраз адзін геолаг тысячы здаваў. Я ў кнігу гляджу. Нарэшце знайшоў патрэбнае. Яна шчэ пытанне. Напісаў правільна. Яна абвяла алоўкам і кажа: «Чаму так?» Я думаў — няправільна (што значыць схапіць за гадзіну граматыку) і пачаў пароць ерунду. Чуць не прагнала. Паставіла залік, але заўважыла, што на экзаменах ліберальнічаць не будзе.

У Rys. [Рыся] быў дамашні «сельскагаспадарчы» напітак. Замачылі гэту справу.

*5 студзеня, чацвер*

Прачытаў «Залатую розу» Паўстоўскага[1]. Цікавая і харошая кніга. Потым сядзеў у Ленпакоі[2]. Справу скончыў. Можна крыху адпачыць.

*6 студзеня, пятніца*

Спец. няма. Сёння схадзілі з Алікам [Падлужным] па білеты на «Максім Перапяліца». Адстоялі гадзіну. Чарга ад касы да магазіна «Абутак», аж за магазін. Відаць, добры фільм. К R. [Розе] прыехала Тамара. З ёй нейкая цётка і хлопчык. Хлопчык цікава чытаў: «Апушкін».

Маці прыслала пісьмо. Піша, ці ты там праўда жаніцца сабраўся? Не ведаю, з чаго яна ўзяла гэта. Праглядзеў «Максім Перапяліца». Харошы, вясёлы фільм. Ёсць трошкі фарсавы элемент. Увогуле добры.

*7 студзеня, субота*

Апошні дзень заняткаў. Марксізму-ленінізму не было. Быў amicus Pilman. Некалькі чалавек выклікаў. Каля мяне пранясло. Ну, і тое добра. Шапялевіч даў экзаменацыйныя пытанні. А затым дадому-дахаты. Вечарам хадзіў у Ленпакой. Выпілі. R. [Рычард] як тупнуў, што камендант — тут як тут з крыкам.

*8 студзеня, нядзеля*

Сесія пачалася! Хай шчасліва ўсё праходзіць. Сёння чытаў Райніса[3]. Чытаў «Детская болезнь «левизны» в коммунизме»[4]. [У] 12 залік па

[1] Паўстоўскі Канстанцін Георгіевіч (1892–1968), рускі пісьменнік.

[2] Так званы Ленінскі пакой — для заняткаў — быў у кожным інтэрнаце.

[3] Райніс Ян (сапр. Пліекшанс Яніс; 1865–1929), латышскі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт Латвійскай ССР (1940).

[4] Праца У. І. Леніна.

марксізму-ленінізму. Прыходзіў Жалейка Воўка[1]. Ён прыехаў на канікулы. Падпісаўся на 13-томнік Маякоўскага.

*9 студзеня, панядзелак*

Вадзіў Воўку. З’ездзілі к Рыме [Коршун]. Яе дома не засталі. Паехалі да «искусственного работника» [Гарбука]. Хацеў пазычыць грошай. У яго таксама не ахці як многа. Даў чырвонец. Прыехаў дадому. Тут ужо і вечар. Так дзень і сцёрся. І добра мець шмат землякоў, і дрэнна мець шмат землякоў. Потым дапазна сядзеў чытаў. Пачаў пісаць сатырычны верш. Штосьці не атрымоўваецца. Я хачу ў гэтым напрамку пісаць. Не ведаю, што выйдзе.

*** Ужо ягоны першы верш быў узяты ў жалобную рамку.

*10 студзеня, аўторак*

Раніцой прыходзілі Аня [Міклашэўская] і Лявонцьева[2]. Яны здалі ўсё. Заўтра едуць. Я перадаў хоць трошкі таго-сяго сваёй дарагой Андрэеўне.

Чытаў Леніна. Выйшаў новы нумар нашай шматтыражкі. Заметка пра здачу экзаменаў. Я як добры. Ляля [Тарасевіч] як дрэнная. Прама як наўмысля хтось правёў пералель, каб ушпіліць. Сёння дзень нараджэння Ані [Дуброўскай], выявілася. Грошай 2 рублі. Кніжкі, якія ёсць, падпісаны. Прытым не падыходзячыя. Знайшоў хоць маленькі зборнічак «Русские народные песни». Яе на кансультацыі не было. Аддаў С-зе [Слагадзе], каб перадала. Няёмка, але што зробіш. Чым багат, тым і рад.

R. [Рычард] сказаў штосьці такое, што я вушам не веру. Гэта занадта ўжо вялікая чэсць для мяне, якой я не варты. Варым з R. [Рычардам] булён да 12-ці гадзін з хвосцікам. Цяпер R. чытае «Дні выпрабаванняў» і збірае цытаты пад мяне. Трэба заўтра не праспаць, каб правесці землякоў. Бачыў сёння Ліду[3]. Дома, пішуць, усё старае.

*** Лаўровы ліст добры скрозь: і на грудзях, і на галаве, і ў супе.

Ён быў настолькі прыдзірлівым стылістам, што нават у пісьмах сваёй каханай падкрэсліваў стыль, памылкі.

Апускае пісьмо і шэпча, як малітву, губамі. Звярае адрас.

*4 сакавіка, нядзеля*

Доўгі час не пісаў дзённік. Здаў экзамены на 5. Дадому з Жакам [Машчовым]. Лепельскі тэлеграф. На конях раніцой уехалі ва Ушачы.

---

[1] Малодшы брат аднакласніка Георгія Жалейкі.

[2] Лявоньева, зямлячка; разам з Г. Міклашэўскай студэнткі-завочніцы бібліятэчнага факультэта Мінскага педінстытута.

[3] Дук Лідзія, зямлячка.

Адпачываў. Еў. Спаў. Быў на вечары сустрэчы. Выступаў з прамовай. Чытаў 2 сваіх вершы. «Памідоры» падабаліся.

Быў на званым вечары ў Жака. Цвет Ушачы сабраўся. Пасля другой [чаркі] — усе роўныя. Весела.

Хадзілі фатаграфавацца. Дурэлі, сыпаліся снегам. Абсыпаў R. [Розу] і G. Ужо 2 замужнія (Смаляк і Галя), а дурэем, як малыя.

Выехаў з Жакам і Лідай [Дук]. R. [Роза] штосьці праводзіць не прыходзіла. Да Лепеля чысцілі дарогу і штурхалі аўтобус. Купілі саграваючага. І цёпла, і весела.

У Мінску.

Былі імяніны. Троху клюнулі. 65-ты пакой павіншаваў паштоўкамі. Фота ў М[андры]ка[1]. Крыўдна.

Сёння спатканне з R. [Розай]. Білеты ўзяць нікуды не ўдалося. Прыйшлося паехаць у звярынец. Не падабаўся. На малюнках прыгожы. Праўда, буры мядзведзь сімпатычны і белы — прадставіцельны.

R. [Роза] была ў нас. Праканваіраваў дадому. Там настрой сапсавала трохі нейкая «па прафесіі жонка». У суботу буду ў медінстытуце. Там Цімафееў[2] будзе чытаць лекцыю аб Ясеніне[3].

Была ў мяне Рыма [Коршун].

З А[няй] трэ парваць. Дакладней, выкінуць з галавы донкіхоцтва, бо сувязей, уласна кажучы, і не было. Чужая яна мне.

*5 сакавіка, панядзелак*

На М. чытаў. Англічанкі не было. Фортачка. Напісаў петыцыю R. [Розе].

Шмат цікавага расказаў Ніл [Гілевіч].

*6 сакавіка, аўторак*

На лыжах хадзіў з S. [Зосяй]. Яна слаба ездзіць. Злавіў варону — згубіў 10 руб. Злосць аж бярэ, што гэткі расцяпа. R. [Роза] прыслала запіску. У сваёй запісцы я паблытаў даты. Зноў расцяпа. Дастаў 4 білеты. На кінафільм «Маці». Хадзілі ў наш клуб з R. [Розай] і яе сяброўкамі. Прасіў даць білеты разам. Далі ў розных баках. Агледзеўся — позна. Праводзіў R. [Розу] дадому. Усе пайшлі, нас пакінулі. Пагутарылі. Руку, якую помню з лета, падае так, як яна заўсёды падае. Цвёрда складзена, не вялая. Прыйшоў дадому рана.

---

[1] Мандрык Яўген, аднакурснік.

[2] Цімафееў Леанід Іванавіч (1904–1984), рускі літаратуразнавец і перакладчык, аўтар прац па творчасці і паэтыцы С. Ясеніна. Член-карэспандэнт АН СССР, доктар філалагічных навук.

[3] Ясенін Сяргей Аляксандравіч (1895–1925), рускі паэт.

*7 сакавіка, серада*

Хадзіў купіў R. [Розе] Ісакоўскага[1]. Спазніўся на гадзіну асноў [марксізму-ленінізму]. Ізюм здаў залік. Англічанцы рашылі паднесці падарунак. Пабеглі ў магазін. Спазніліся. Яна іх (дзяўчат) не пусціла. Яны з падарункам — яна ад іх. У дэканаце таксама адмовілася. Псіханула. Я смяюся, што выходзіць, як у песні: «Дарыў, дарыў ён калечка». Кансультацыя. Сход. Выступіў. Усе настроены несур'ёзна.

*8 сакавіка, чацвер*

Хадзіў да R. [Розы] у медінстытут. Не застаў. Спазніўся на гадзіну языка польскего. На 2-й гадзіне прыйшла R. [Роза]. Аддаў.

Дэкан адпусціў — нікога не было. Разбегліся, хто ў тэатр, а хто, пад маркай гэтай, куды трэ. Rysika [Адамовіча] запрасіла Нона [Герасіменка]. Схадзіў яму за Wein[2]. Зубрыў спец.

*9 сакавіка, пятніца*

Спец. Дурэлі.

*20 сакавіка, нядзеля*

Хадзіў да R. [Розы]. Прасядзеў бітых 3 гадзіны. Zukerki — Rysiku [Адамовічу] прыслалі пасылку. Замачылі.

*26 сакавіка, субота*

Хадзілі ў медінстытут слухаць лекцыю аб Маякоўскім. Выйшла памылка. Думалі, што лектар прафесар. Праводзіў R. [Розу] дадому.

*27 сакавіка, нядзеля*

Імяніны ў Rysika [Адамовіча]. Тэлеграмы. Танцы. Камендант. Саша [Булыка]. R. [Розу] праводзіў nach Hause[3]. Цудоўна!

*28 сакавіка, панядзелак*

Быў у «Вожыку». У «Чырвонай [змене]» узялі верш. На апошняй лекцыі быў.

*1 красавіка, нядзеля*

Устаў. Ва ўмывальніку ўжо абмануў камендант. Наконт зарэзаных. Потым Іван. Пабег да Бураўкіна.

---

[1] Ісакоўскі Міхаіл Васілевіч (1900–1973), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943, 1949). Герой Сацыялістычнай Працы (1970).

[2] Wein — віно (*ням.*).

[3] Nach Hause — дадому (*ням.*).

Далі верш у «Чырвонай [змене]»[1]. На першай старонцы ў «Камсамольскай мяцёлцы». Бегаў. Ладзіўся. Harnitur Alika [Падлужнага]. Схадзіў да R. [Розы]. Тыя паўгадзіны выбіраліся. Учатырох завалілі ў храм навукі. Выступленні. Чытаў два сваіх вершы. Перад адыходам R. [Роза] падбадзёрыла. Глядзелі п'есу. Фралоў[2] цудоўна выконваў ролю. Затым танцы. Танцаваў усё, за выключэннем танга і бастону. Большай часткай з R. [Розай].

Першы раз у жыцці ў чужым касцюме. Прама гарэў на плячах. Ну, добра, што ёсць, ды толькі не тут. Праводзіў дадому R. [Розу]. Прыйшоў — у ложак. Паўгадзіны добрых сутаргі ногі сцягвалі з непрывычкі. Хлопцам смех, а тут хоць плач.

*** Вершы такія звонкія, што калі ён іх чытае, трэ было вушы затыкаць.

*3 красавіка, аўторак*

З рання да 7 адзін пісаў гурткавую [працу]. Пайшоў у 7 гадзін ва ўніверсітэт (трэба ж хоць на адной лекцыі пабыць), аж гляджу — аб'ява: «Сёння студэнт (ну я, канешне) чытае даклад». Я да Клышко [Анатоля]. Ён так паглядзеў, што я пабег у чыталку і за 2 гадзіны напісаў з/п [заліковую працу]. Прачытаў. Увогуле, станоўча. Сам адчуваю, што слабавата.

*4 красавіка, серада*

Ніна[3] лаяла, што не быў на лекцыях. Выклікаюць да дэкана на прадапошняй гадзіне. Ну, думаю, штось няладнае. Прыйшоў. Сказаў пачытаць байкі Крапівы[4]. Сустрэча пачалася. Карабан[5] распінаўся, хваліў Крапіву. Аж трохі культам асобы аддавала. Потым выступіў Клышко. Выклікаюць мяне. За трыбунай чытаць няёмка. Ну я, кажу, да даклада не рыхтаваўся. Пажадаю вам таго, што тут выступіўшыя жадалі і каб болей. Зараз прачытаю байкі. Пачаў расказваць. Калі расказваў «Дзед і баба» (хлопцы потым смяяліся). Чытаю: «Ва ўстановах часам ёсць» і кіўнуў рукой, выйшла якраз як на юбіляра паказваю. Потым аўтографы даваў [Крапіва]. Я таксама ўзяў.

---

[1] Праясніцца // Чырв. змена. 1956, 1 крас.

[2] Фралоў Пётр Якаўлевіч, студэнт журналісцкага аддзялення філфака БДУ.

[3] Брыт Ніна, стараста курса.

[4] Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896–1991), беларускі паэт, драматург, лексікограф. Народны пісьменнік БССР (1956). Акадэмік АН БССР (1950), доктар філалагічных навук (1953). Віцэ-прэзідэнт АН БССР (з 1956). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1951, 1971). Гл.: Кандрат Крапіва // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 80.

[5] Карабан Уладзімір Сцяпанавіч, выкладчык кафедры беларускай літаратуры БДУ. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

*5 красавіка, чацвер*

Узяў кнігі для Лілі [Дзянскевіч]. Бачыўся з R. [Розай]. У хустачцы. Паружавеўшая. З нейкім чароўным бляскам, іскаркамі ў вачах. Захапляючая.

Быў вечар журналістаў.

*** Вясна. Ідуць, мо вучаніца, па камнях край тратуара, а хлопец па тратуары йдзе, і плячо ў плячо.

Усё ён хлопае вушамі, аж дзівіцца, як да гэтых пор не абтрапаліся яны.

Каханне, гэта грошы з КУД[1], яго трэба вяртаць.

*6 красавіка, пятніца*

Спец. Апошняя лекцыя. Быў дзяжурным. Няўдалым.

*7 красавіка, субота*

Сустрэча з сястрой Маякоўскага і Лавутам[2]. Цікава. R. [Роза] перапутала чыслы. Пільман сказаў «камплімент» мне, Rysiku [Адамовічу], Булыку, Дуброўскай, [Клары] Дарошцы. Не вельмі прыемны.

*15 красавіка, нядзеля*

У суботу казус з выступленнем. Факстрот у Unterhose[3]. Днём перакладаў Голда[4]. Trinken[5]. Быў у R. [Розы]. «Не згубі галошы».

*17 красавіка, аўторак*

Быў у «Чырвонай [змене]». Здаў верш пра вясну. Быў у «ЛіМе». Праз пару дзён прыйсці. Да 2 гадзін ночы кончыў гурткавую.

*18 красавіка, серада*

Іван [Калеснік] узбудзіў. Тралейбус. «Чырвонка». Вярцінскі[6] фатаграфаваў. Настрой благі. Хочацца спаць. Практычныя па асновах марксізму-ленінізму.

На дварэ цуда — бальзам, а не паветра. Чаравікі з вентыляцыяй.

*** А дома бэз расцвіў… Везла ў Мінск букет бэзу. Намачвала яго, каб не засох. (А ўспомніў марозную навагоднюю ноч. Пайшлі ў гурбы, падалі, і пацалунак.)

«Я здаў на павышаную [стыпендыю]», — надпіс на шкілеце.

---

[1] КУД — каса ўзаемнай дапамогі.

[2] Лавут Павел Ільіч (1898–1979), арганізатар гастрольных паездак У. Маякоўскага; прапагандыст творчасці паэта.

[3] Unterhose — сподняя мужчынская бялізна (*ням.*).

[4] Голд Майкл (сапр. Граніч Ірвінг; 1894–1967), амерыканскі пісьменнік.

[5] Trinken — піць (*ням.*).

[6] Вярцінскі Анатоль Ільіч (н. 1931), студэнт аддзялення журналістыкі філфака БДУ. Беларускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

Са Шведам[1]. Раніцай купілі «МІ» з Віктарам — «Кінь курыць!». Пан у [туалет] з валізкай. Дары. Освобождение. «Лысіна пасівела».

«Маё месца працы сведчыць аба мне». На вокнах галубы. У 17 гадзін у саборы трубяць і па радыё перадае.

2 ogniska[2]. 1) Adam Mickewicz. 2) Літаратура краёва. 1820/22–1863. «Ich wollen schlafen»[3]. «Гражына», «Конрад Валенрод», III частка «Дзядоў»[4]. Процістаўленне простага селяніна шляхце. Народны характар літаратуры, вобразы прыроды іншыя, чым у класіцызме. Нават паварот да гісторыі іншы. У Конрадзе Валенродзе падразумяваецца дзекабрыст. Вачыма простага чалавека. Рамантызм паглыбіў веды аб чалавеку, аб… Паэзія стала больш даступным, блізкім. Паэзія рамантычная ўвайшла ў люд.

Запіска: «Не спаць». М. І. [Жыркевіча стукнулі] абцасамі двойчы. Тэатр без дэкарацый у медк. [?]. Савецкае пасольства — люстры, мазаіка. «Адпусці бараду і стань марксістам».

Кідаюць грошы [бедным]: («Ciężki czas» — «Цяжкі час»). Маргарына. Штучная косць. Рыплю зубамі. Тхаром паджытым.

1 студэнт на эканамічным [расказвае пра выкладчыка]: «Возьме пад руку, пасадзіць у крэсла, ставіць 2, зноў бярэ пад руку і выводзіць».

[Мастацкі музей.] Ave, caesar! Morituri te salutant![5], Pius [Пій].

Welonski[6] (1849–1934) «Gladiator». Wiktor Brodzki[7] (1817–1904). «Wenus»[8], унізе галубы, мілуюцца гулліва, глядзяць на галубоў. Перад нараджэннем Хрыста idol Kobiety [ідал Жанчыны]. Сучаснасць бярэ са старажытнага, выцягвае. Sarkofag [саркафаг] III в. н. э. — жанчыны ўжывалі касметыку.

[Малюнкі (тут і далей) студэнткі Вольгі Нячай. Галава вепрука.]

Каляровая скульптура, дрэва пафарбаванае. «Тайны ўваход да Багіні». Егіпет, убіванне плоці. Грэкі паказвалі чалавека моцнага. Шар зямны трымае на спіне чалавек. «Kobieta Brzienna» [«Цяжарная жанчына»].

---

[1] Швед Віктар (н. 1925), беларускі паэт (Польшча). З 1958 г. працаваў сакратаром Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1971).

[2] Адзін з вобразаў «Оды да маладосці» А. Міцкевіча.

[3] Дакладней: Ich will schlafen — я хачу спаць (*ням.*).

[4] Паэмы А. Міцкевіча.

[5] Ave, caesar! Morituri te salutant! — Вітанне, Цэзар! Хто ідзе на смерць, салютуюць табе! (*Лац.*) — Зварот рымскіх гладыятараў да імператара перад боем.

[6] Велонскі (1849 — сапр. 1931), польскі мастак, скульптар.

[7] Бродзкі Віктар (сапр. 1826 — 1904), польскі скульптар.

[8] Скульптура В. Бродзкага «Венус» («Першы шэпт кахання») — Венера слухае амура.

Dunikowski[1]: «Fatum» [«Кон»], «Głowa Bolszewika» [«Галава бальшавіка»], «Аўтапартрэт», «Oswięcim» [«Асвенцім»], «Boże narodzenie» [«Божае нараджэнне»], «Паўстанцы». Брандэль[2], экспрэсія. Kawarski[3]: «Okres zyganerij», «Witkowski». Kubizm [кубізм]. Makowski[4]: «Скупец**.** Ślewiński[5] (1854–1918). Malczewski[6]. Aleksander Gierymski[7] (1850–1901): «Trumna chłopska» [«Мужыцкая труна»]. Chełmoński[8] з Украіны (1849–1914): «Bociany» [«Бацяны»], «Аруць валы». Лыжку кінуў. «Babie lato» [«Бабіна лета»]. Пастушка і павуціна ў руцэ. «Остатня худоба». Matejka[9] перадаў гісторыю Польшчы — «Баторый пад Псковам». H. Rodakowski[10]. Матэйка меў малую майстэрню, бо не меў магчымасці і цэносці. Cavaletto[11] — з яго карцін узнаўлялі Варшаву. «Бітва пад Грунвальдам», «Казанне Скаргі», «Баторый на Уле [?]», «Дунікоўскі з пісталетам», «Rejtan».

Выпіўкі ў інтэрнаце, шклянак 5 на 15 [чалавек], віно, на закуску песні. «Гуралю, чы ці не жаль…»

[Паездка ў Закапанэ.] Спаў наверсе, ногі, рукі, як пратэзы. Закапаны. На концы [ў] горы. Хмары, як дым, унізе цурчыць рачулка. [Загадка:] З аднаго боку гара і з другога гара, а ўсярэдзіне лье? — Закапаны. Раве та стогне ў такт рачулка.

У 1947 годзе адкрыт [Музей Леніна]. З Парыжа 4.VII [прыехаў] з жонкай і цешчай. Піша Горкаму. ЦК, арганізацыйнае бюро. Граніца блізка, бліжэй да Піцера. Газеты і пісьмы праз 2–3 дні, у Парыж 2–3 тыдні. Паліцэйскі [запыт]: «Нашто?» [З якой мэтай прыехаў?]. «Аграрнае пытанне [вывучаць] і польскую мову ўдасканальваць. Прафесія — карэспандэнт «Праўды», сацыял-дэмакрат».

У Кракаве жыве па Любамірскай. У лістах разаслаў адрас, як прама з вакзала да яго. Штогод 500 тыс. З Аўстрыі за мяжу — цяжкае жыццё. Шмат нелегальнай і легальнай [літаратуры], даклад для польскіх рэвалюцыянераў, даклад для моладзі.

---

[1] Дунікоўскі Ксаверый (1875–1964), польскі скульптар і мастак.
[2] Брандэль Канстанты (1880–1979), польскі мастак, графік.
[3] Каварскі Феліцыян (1890–1948), польскі мастак, скульптар, педагог.
[4] Макоўскі Тадэвуш (1882–1932), польскі мастак.
[5] Слевінскі Уладыслаў Людвіг (сапр. 1856–1918), польскі мастак.
[6] Мальчэўскі Яцэк (1854–1929), польскі мастак.
[7] Герымскі Аляксандр (1850–1901), польскі мастак.
[8] Хелмоньскі Юзаф (1849–1914), польскі мастак.
[9] Матэйка Ян (1838–1893), польскі мастак.
[10] Радакоўскі Генрых Іпаліт (1823–1894), польскі мастак-партрэтыст.
[11] Дакладней: Каналетта (сапр. Беллотта Бернарда; 1722–1780), італьянскі мастак, гравёр; вучань і пляменнік Джаванні Антонія Каналетта (1697–1768); майстар гарадскога пейзажу.

У гэтым доме не жыў. Нарады февральская, аўгуст. Прыватны пансіён. Здаваў кватэру дачнікам. Пост аўстрыйскай жандармерыі насупраць, людзей шмат хадзілі, таму і абралі. Шадра, сын гаспадара, жыве (тады 17 год). Міскі з пеўнямі, жбан, прылавак, керасінка, лямпа. Аленевы рогі. Нарады, па частках адбывалася 9 дзён.

З мая па кастрычнік 1913, з мая па верасень 1914 г. Павел Гут — сын уладальніка дома. Радкевіч — начальнік пошты. Жонку здзіўляла, што шмат карэспандэнцыі. Атрымліваў карэспандэнцыю. Пісаў на нямецкай. Не апускаў, а ідзе на станцыю і ў цягнік, каб хутчэй дайшло[12]. Дзе зараз Легліца, пошта.

Франц Цудзік. Дом у Белым-Дунайцы. Хадзіў у горы. З таварышамі. Ганецкі[13], Багоцкі[14], Вігільеў[15], начальнік метэастанцыі ў Закапанах.

Аб партыйнай школе ў Пароніне. Клік дапамагчы Горкаму Пляханава[16]. Лёс селяніна Галіччыны нагадвае лёс селяніна Расіі. 232 артыкулы і лісты ў «Правду» з Польшчы. Стары з сынам знялі шапкі і падалі [прашэнне], зайшлі. Неапублікаваныя артыкулы. Дзеці і сяляне.

Дом, сцены з гуральскай сасны. Гаспадар сам адбудаваў 2-гі паверх, бо ён згарэў, потым рэканструяваў, як [было] раней.

40 артыкулаў і прац аб аграрным [пытанні]. 14 верасня жандары [зрабілі] вобыск, не знайшлі дакументаў, садзяць у турму. Новы Тарг. St. Żeromski[17], Wł. Orkan[18], Koszucki[19]. Пісьмы Крупскай[20] на польскай мове. Ленін ведаў [польскую мову] горш, чым Надзежда Канстанцінаўна.

Простыя людзі — прасілі, у абарону выступілі. 11 дзён, а потым вызвалілі, Ленін едзе ў Швейцарыю, дзе жыве да 1917 года. Марыля працавала ў... 800 000.

Помнік Леніну, вянок дубовы з плашчом.

---

[12] Гл.: У Пароніне (1958) // Маладзік над стэпам. Мінск, 1959. С. 87.

[13] Ганецкі Якаў (1879–1937), дзеяч расійскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху. Удзельнік рэвалюцыі 1905–1907 гг. у Варшаве. З 1917 г. супрацоўнік Наркамфіна, Знешгандлю, Наркамата замежных спраў СССР.

[14] Багоцкі Сяргей (Сергіуш Юсупавіч; 1879–1953), удзельнік расійскага рэвалюцыйнага руху.

[15] Дакладней: Вігілеў Барыс Дзмітрыевіч (1883–?), удзельнік расійскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху. У 1907 г. эміграваў у Галіцыю (Закапанэ; хварэў на сухоты). Нейкі час быў савецкім консулам у Варшаве.

[16] Пляханаў Георгій Валянцінавіч (1856–1918), дзеяч расійскага і міжнароднага сацыялдэмакратычнага руху, філосаф.

[17] Жэромскі Стэфан (1864–1925), польскі пісьменнік.

[18] Оркан Уладзіслаў (сапр. Смрэчыньскі Францішак; 1875–1930), польскі пісьменнік.

[19] Кашуцкі Браніслаў Рамуальд (1875–1952), польскі ўрач у Закапанэ; дзеяч рабочага руху. У 1903 г. дапамагаў Ф. Дзяржынскаму выдаваць газету «Чэрвоны штандар».

[20] Крупская (Ульянава) Надзея Канстанцінаўна (1869–1939), расійскі партыйны і дзяржаўны дзеяч, педагог. Жонка У. І. Леніна. Ганаровы акадэмік АН СССР (1931), доктар педагагічных навук (1936).

Бялы-Дунаец. [Я. Каспровіч[1]] жонцы дыктаваў, бо назаўтра сам не мог прачытаць. Ва Львоў. Англійская паэзія, за пераклады Шэкспіра[2]. Дом. У 18 год прафесар, сахарная хвароба. Старыя могілкі ў Закапанах. Не хацеў на могілках, [прасіў пахаваць] пры дарозе над рэчкай. Немцы спалілі. 1 [жонка] адышла, жонка другая.

У 14-м годзе Ленін. Каспровіч пераканаў улады адпусціць Леніна. Сустрэча. 20-ты год. Ліст Леніна: «Ваше письмо получил, всё будет сделано, чтобы выехать вам». Сястра жонкі ў прафесарскай тозе пахавала.

*Хмары — горы, горы — хмары, а дзяўчаты мары*[3]. Рэчка бурліць, бяжыць. Навокал вадаспады. *Рэчкі горныя, і кідаюць мне пагляды вочы чорныя*[4]. Кветкі. Пасярод камні. Цягнік. Потым: «Слова мае Мінск». «Песня партызан», «Чырвоны пас», «Лясную…». Спароў штаны сабака. Раней лес. *Адно поле ўскапана, а межаванне капаным полем — Закапаны.*

Auf die Berge
Will ich steigen…[5]

Хаубінскі[6] — доктар, заснаваў Закапаны, мінеральная вада. «Сабала» [гасцініца ў Закапанэ]. 40 мядзведзяў [мясціна насіла назву Мядзведжы вугал]. Керпці[7]. Homer Tatry на гуслях траў. Дах рэзка ўніз, снег спадае, абарона ад ветру, разьба. Вулей у вобразе святога з дрэва. Святы [неразб. 1] з посахам. Высшая вяршыня. Арліная сцежка (!). Пястун. 20 штук мядзведзей. Сарна. Кучаравая.

Самі сабе [выраблююць] на шкле іконы. Скамейка з чорнага карча як звер. Звычай: чым болей падушак, тым багацейшы, белая хата, каганец. Хаджэнне з казой. Ашыйнік для сабакі калючы, для барацьбы з мядзведзем. Трымбіта. Балаболкі. Крэсла. Ядвіга, на палку чапляны кацёл. Па вышыўцы пазнаюць, з якога сяла. З воўны зроблена. Сякера і секчы, і хадзіць. Рукавіцы лахматыя.

Muzeum Tatrzańskie. [Музей Татраў.] Смецця меней. Чабор. Як палатно намотана, а ўнізе сырадоем. Халодная зялёнка. Камень, як заяц упрыпрыж. Камянямі аздоблена, як срэбрам. Інкрустатар. Скафандр — сар-

[1] Каспровіч Ян (1860–1926), польскі паэт.

[2] Шэкспір Вільям (1564–1616), англійскі драматург, паэт.

[3] Гл.: «Хмары — горы, горы — хмары…» (1958) // Маладзік над стэпам. Мінск, 1959. С. 91.

[4] Гл.: «Між абвалаў…» (1958) // Тамсама. С. 89.

[5] «Я хачу падняцца ў горы…» (*ням.*). Г. Гейнэ. Падарожжа па Гарцы. Гейнэ Генрых (сапр. Харры; 1797–1856), нямецкі паэт, публіцыст, крытык.

[6] Дакладней: Халубінскі Цітус (1820–1888), польскі ўрач, грамадскі дзеяч, краязнавец. Дзякуючы ягоным намаганням г. Закапанэ стаў кліматычным курортам.

[7] Керпцэ — абутак польскіх гуралаў.

кафаг. Мечыслаў Карловіч[1] (1909 г.) пад снежнай лавінай слухаў вецер. [Малюнак свастыкі] — агонь, сімвал.

Камні, каж[?], незабудкі. Як вены. Праз каменную цадзілку сырадой. Плячыстыя валуны. Як франтоны хат з зялёнымі дахамі. Чарны Стаў. Снег — бяры і прадавай як эскімо. [Неразб. 1] на плечы ў хмарах.

Дзе плячыстыя асілкі —
Валуны — у моху — медзь,
Праз каменныя цадзілкі
Сырадой патокаў цэдзіць.

[Кракаў.] Hotel «Europa». Restauracja «Złota kotwica» («Залаты якар»). Касцёл мар'яцкі. Трубіў [неразб. 1] аб ворагу. Страной татар. Касцюшка даваў клятву. Манюшка[2]. Sukenica[3], 1227 г.

Кафедральны сабор Зігмунда. Звон Зігмунда, 16 тон (ад немцаў быў схаваны. Званіў апошні раз, калі памёр Сталін). Adam Mickewicz, саркафаг. Juliusz Słowacki[4], Włodzimierz Potocki[5] (нарадзіўся 1789, памёр 1862 г.) з шабляй. Ян Сабескі III. Старая кафедра сабора ў раманскім стылі. 16 в. Жонка Яна Сабескага. Тадэвуш Касцюшка. 1118. Епіскап Маўрус. Сцягі, косы, шапкі, тапары. Панятоўскі[6], маршал Францыі [неразб. 2]. Стэфан Баторы[7]. Кароль Уладыслаў IV Ваза[8] і яго жонка. Гданьскі магістр. Цэльнаметалічная, пазалочаная [труна]. Сігізмунд Аўгуст[9]. Жонка Стэфана Баторыя. Копіі карон. Газніцы. Грабніцы радні Вазаў. II жонка, жонка — француженка. Пілсудскі[10] (1914–1935), вінтоўка і шабля. Галуб на плячах Міцкевіча. Булацкі[11] ледзь труну Пілсудскага не абваліў.

---

[1] Карловіч Мечыслаў (1876–1909), польскі кампазітар, скрыпач, дырыжор. Гл.: Даліна кампазітара (14.08.76; з эпіграфам: «Слухаючы абвал, ад абвалу загінуў у Татрах...») // Абсяг. Мінск, 1978. С. 97.

[2] Манюшка Станіслаў (1819–1872), польскі кампазітар, дырыжор; стваральнік польскай нацыянальнай оперы. Ураджэнец Беларусі.

[3] Sukenica — будынак у Кракаве, у якім месціліся склады і суконныя лаўкі.

[4] Славацкі Юльюш (1809–1849), польскі паэт, прадстаўнік рэвалюцыйнага рамантызму.

[5] Патоцкі Уладзімір (1789–1862), граф, палкоўнік коннай артылерыі.

[6] Панятоўскі Юзаф (1763–1813), князь, польскі генерал, маршал Францыі. Удзельнік Польскага паўстання 1794 г. супраць Расійскай імперыі.

[7] Баторый Стэфан (1533–1586), польскі кароль (з 1576), палкаводзец.

[8] Уладзіслаў IV Ваза (1595–1648), польскі кароль і вялікі князь літоўскі.

[9] Жыгімонт II Аўгуст (1520–1572), польскі кароль (з 1548, фармальна з 1530), вялікі князь літоўскі (з 1529).

[10] Пілсудскі Юзэф Клеменс Гінятавіч Касьчэш (1867–1935), польскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Першы кіраўнік адроджанай Польскай дзяржавы, заснавальнік польскай арміі.

[11] Булацкі Рыгор Васілевіч, выкладчык, дэкан філалагічнага, затым журналісцкага факультэта БДУ.

Вавель — назва ўзгорка. У 10 в. умацаванае месца. Князь і дружына. Драўляная агароджа. Спачатку ў 12 в. [Вавельскі палац пабудаваны] ў раманскім стылі. У 14 ст. у гатычным стылі. У 1364 годзе ўніверсітэт, аснаваў Казімір Вялікі[1]. З 1507 да 1535 г. палац італьянцы і палякі будавалі. Столь, бэлькі з лістоўніцы. Карл XII[2] заняў Кракаў, і тут былі казармы. (1702). «Ян Сабескі», «Бітва з туркамі». 17 в. Каміны. Фламандскія і брусельскія габелены. Пасольскі ўваход. Медныя рэфлектары. 8 кг вага меча каля сцяга. Пасольская лесвіца. Іконы 14 в. італьянскіх майстроў, візантыйскі стыль. Сундук 15 в. Жонка Сігізмунда. Пасажная скрыня яе.

Леанарда да Вінчы[3]: «Дзяўчынка з гарнастаем». Усмешка ў вочы. Напружаныя мышцы гарнастая. Партрэт «Франчэска Медычы». Габелен «Смерць рымскага консула» (Пунічныя войны, паводле Рубенса[4]). «Арол у Фландрыі». 136 габеленаў, брусельская работа. Баварская каралева.

Пасольская лесвіца ў пасольскія пакоі. Каралеўскі пакой. Зала турніраў. Сцэны рыцарскіх спаборніцтваў. Столі, срэбра, мэбля 16 ст. Зала парада, 16 в., польскі майстар Антоні. Стол 400 год, крэсла 300 г., чакальня для паслоў. Зала пад галовамі — пасольская зала, на столі галовы. Вокны шырокія. Галовы з дрэва, [зроблены] кракаўскім майстрам. Мужчынскія і жаночыя твары. Стэфана Баторыя ля печы партрэт. Падсвечнікі з грушы, 300 год, метры, са скульптуркай. Зодиак — Рыба.

300 тысяч гусар, гусары Сабескага. Палаткі турак. 26–28 кг панцыр. «Паражэнне турэцкага флота». Сервантэс трапіў у палон, быў ранен. 1571. Ленанто[5], Віснявецкі[6].

Кабінет караля, сцены з ціснёнай скуры і распісаны. Часоўня. Маленькая спальня, камін. Кароль у [неразб. 1], авечая, баранння скура залочаныя. Кардоба[7]. Малельня, канец 16 в., шкельцы [вокнаў апраўлены] ў свінец. Столь — 4 стыхіі — агонь, вада, паветра, [зямля]. Кароль ад жонкі хаваў у буфет гарэлку. 1635 год, стол з дуба.

---

[1] Казімір III Вялікі (1310–1370), польскі кароль (з 1333).

[2] Карл XII (1682–1718), кароль Швецыі (з 1697), палкаводзец.

[3] Леанарда да Вінчы (1452–1519), італьянскі мастак, скульптар, архітэктар, вучоны, інжынер.

[4] Рубенс Пітэр Пауэл (1577–1640), фламандскі мастак.

[5] Дакладней: бітва пры Лепанта (ранейшая назва г. Нафпактас, Грэцыя) (7.10.1571), у якой, пры ўваходзе ў заліў Патраікос, іспанска-венецыянскі флот разграміў турэцкі.

[6] Дакладней: Вішнявецкі Дзмітрый Іванавіч (1517–1563/64 ?), валынскі праваслаўны магнат. З 1551 г. староста чаркаскі і канеўскі Вялікага Княства Літоўскага. Адзін з кіраўнікоў барацьбы запарожскіх казакоў супраць крымскіх татар, туркаў і малдаўскіх гаспадароў. Бараніў межы ВКЛ на поўдні.

[7] Першае ўпамінанне Кракава сустракаецца ў запісках яўрэйскага купца з Кардобы, які наведаў горад ў 965 г.

Багушэўскі[1], (1606) «Марыя Мнішак»[2]. «Сігізмунд пад Смаленскам» (1606). Крэсла, ручкі, усё скульптуры — хлопчык трымае арла, льва, ногі, як львы, ляжаць!

Зал паседжанняў сената. На галерэі ў вольны час танцы, аркестр. Знамёны пад Грунвальдам. Авечкі. Бараны, тур з рагамі. Турэцкія шатры, завешаны сцены.

Ягелонскі ўніверсітэт заснаваны ў 1364 г. Прысваенне доктарскіх ступеней. Зараз — навуковыя сесіі [адбываюцца]. Галерэя партрэтаў выкладчыкаў і ўсіх прыхільнікаў, у мантыях рэктары. 1346 г. [дакладней: 1348 г.] (у Празе [універсітэт] заснаваны Карлам Вялікім[3]), а гэты II у Еўропе. Ягелонскі ад караля Ягелы[4]. Уладыслаў — студэнт. «Капернік» — партрэт-карціна Яна Матэйкі. «Шуйскі», «Дзітл», «Тарнаўскі» — літаратар. Аўтапартрэт Матэйкі.

3000 студэнтаў, палова мужчын, жанчын. [Факультэты] права, філалагічны, філасофска-філалагічны, матэматычна-фізічна-хімічны, біялагічны. 25 ВНУ, 25 тысяч [студэнтаў].

Немцы запрасілі выкладчыкаў быццам для прадаўжэння [працы], а потым на грузавікі і ў канцлагер.

«3-ці званок». Сакавітае мяса, як рускі мат. «To nie dla przedania», «На сопках Маньчжурыі», «С берёз не слышен…».

Этнаграфічны музей. Яркая размалёўка, 118 узораў на столі. Разалія За́руд[5]. Печ стракатая. 3 зерня фасолі, вакол лямпы; для праціранні варанай бульбы. Веласіпед. Для сыроў скрыні. Лыжнік — для лыжак. Іконы прыгорскіх раёнаў. Жбанкі для ўпрыгожвання.

Ніжняя Сілезія. Судэты. Влияние гарадской культуры. II палова 19 ст. Шафы (а там сундукі). Ложак з полагам, іконы на шкле. Печ з кафелю. Лучнік. Ганчарня. Дагістарычныя печы I ст., IV ст., I ст. [малюнак] ганчарнае кола. Масляная майстэрня. Зерне лёну. Folusz — валяльная сукня. Вада — кола, а ўсярэдзіне сукно збіваюць. Развіццё матэрыяльнай культуры. 1) прылады працы, развіццё хозяйства; 2) трэнне дрэва — агонь. [Малюнак прылады]. [Малюнак двух мужчын]: у плечах дзверцы. Крэсівы. Паляванне. Лавушкі з дрэва, потым з жалеза, вуллі ў дрэве. [Малюнак

---

[1] Багушэўскі Кшыштаф (?–1635), польскі мастак пры каралю Жыгімонце III.

[2] Мнішак Марына (каля 1588 — каля 1614), дачка польскага магната, жонка расійскіх Лжэдзмітрыя I і Лжэдзмітрыя II.

[3] Карл IV (1316–1378), германскі кароль і імператар Святой Рымскай імперыі (з 1347), чэшскі кароль (Карл I, з 1346).

[4] Ягайла Уладзіслаў (каля 1350 — 1434), вялікі князь літоўскі (1377–1392), польскі кароль (з 1386).

[5] Заруд Разалія — польская мастачка. У 1939 і 1951 гг. размалявала дзве хаты.

прылады]: для оленя. [Малюнак]: сыр сялянскі, бараболкі. 3 м труба. Шалаш, горскае скотоводство. Земляробства, старажытныя матыкі [малюнак], 6 ст. да н. э. [Малюнак прылады]: як змяя. Сохі, бароны, жорны, ручны млын для круп, як [неразб.1] з малатком. Козуб[1] — з ліпы суцэльны. З саломы плецены кош для зерня ([ва] усходніх частках). З двух бакоў. Плугі жалезныя.

Стагоддзямі як жыў будаўнік. Пячора. Шалаш, зямлянка. Неаліт. 7 ст. н. э. Дамы 12 ст. Сялянская хата 16 ст. без дымахода. Прыморскія раёны. [Вуліца] Łowicka. Размалёваныя дзверы, вокны. Кракаўскі тып. Прыгорскія раёны — драўляныя дахі.

[Малюнак]: Торжественный костюм мещанки, богатый крестьянин. [Малюнак жанчыны, якая прадзе.] Раслінныя фарбы. Бэз дзікі. Дошкі для адціскання арнамента.

Народныя абрады. [Малюнак касцюмаў бусла, конскай галавы, чалавека ў капелюшы і масцы]: дэман убачыць і ўцячэ.

[Малюнак лялькі і шкілета]: лялькі. Апранаюцца ў мядзведзя, сустрэць дзяўчыну, акружыць. Каравай, вянкі з [неразб. 1], з лёну. Кот і [неразб. 1]. Канец карнавалу. [Малюнак барановай галавы]: пад казёлак [клалі] грошы, хто танцуе. Абрад каля Вялічка: хлопцы ў дзяўчат апранаюцца. Бульба цераз плячо, хто не дасць выкуп — цалуе крыж.

Велікодныя яйкі, больш паўсоткі размалёўваюць. Саламяную ляльку ў раку, у пачатку сакавіка. Зіма кончылася. З арэхаў. [Малюнак дрэўца]: свадебная ветка из орехов. [Неразб. 4.] [Малюнак дзяўчыны]: прыгаюць праз агонь хлопцы. Sobótke. Korowud sobótkowy [суботні карагод] перад Купаллем. Вянкі. Пад дрэвам з вянкамі вакол кастра. [Танцы]: Polonez, zbójnicki, krakowiak, mazur, oberek, kujawiak, trojak, przodek, шэўчык. [Малюнак дзяўчыны з коскамі]: шэйк. [Малюнкі пары ў скоках і дзяўчыны ў вяночку.]

[Адрас:] Михаил Кондратюк. Дубины, ок. Гайновки, обл. Белосток.

[Саляныя капальні.] Пачалі паглыбляць у 1640 г. і да 1888 г. дасягнулі глыбіні 204,6 м. 69 м. 1689 г. Kopnica. Капліца з зялёнай солі. 1) зялёная, 2) бронзавая, 3) крышталёвая соль. 1717 г. згарэў. Сасна прасальваецца і трывае да 400 год, 1000. Сляды ад кірак. Ступенькі — соль да гары. 25 млн год [назад было] мора. 180 км калідоры. Хрыстос з дрэва, перад ім фігуры з солі, у выглядзе бочак. На зямлі і пад зямлёй езуіты.

---

[1] Козуб — ручны кошык.

Кінга[1], венгерская каралева, выйшла за польскага караля і ў пасаг [прынесла] соль. Укінула на вянчанні кальцо, месца ў Польшчы. «Дзе кіну кальцо, а хто знойдзе…» 100 м (А Р. В. Вышыні — [?]). Разьба з солі. Маркевічы, Маркоўскі[2]. Выродак [?] [выявы] па біблейскіх сюжэтах. «Тайная вячэра». Соль у 17 в. Капліца 1903 г. Маркаўскія [выканалі] Кінгу [фігуру з празрыстай солі]. Крышталі солі, як алмазы. Капаюць соль, шахцёр аддае абруч, кальцо яе. «Паліце вады, дрэнна тоне», п [?] — 12 м.

129 м пад зямлёй ў возеры агні адбіваюцца. [У час] 1-й сусветнай вайны 30 чалавек на лодцы ў ваду ўляцелі, аўстрыякі. (Раней [глыбіня] 7 м, цяпер 1,5 м).

У час 2-й сусветнай вайны завод для часцей [вырабляў снарады] ФАУ-2. Яўрэйскія [рабочыя] насілі [малюнак шасціканцовай зоркі]. Спагада [?] знізу ці зверху.

Зялёным фарбавалі [соль], каб купцы не абдурвалі. Скамянелы клык маманта, як аленевы рогі. Лесвіца абрасла соллю.

Эмігрант, Ягелонскі ўніверсітэт, Сяргей Багоцкі, ул. Ядвігі, 41/12–14. Любамірская, 47, [дзе адбываліся] нарады [рэвалюцыянераў], зараз Манжэўскага, 48. Бярозкі.

1) «Як захлібнуўся ад радасці жаўранак…», 2) «Вечар над Таболам», 3) «Добрай ночы». Пасылкай [пасляць вершы]. Аб вечары над Таболам [напісаць]. [Танец] «Юргяліс»[3].

[Адрасы Віктара Шведа і Беларускага таварыства культурных сувязяў.]

*** «Jeszcze Polska nie zgienęła».

[Пазнейшы запіс без даты:] Прокша[4] хацеў падараваць [палякам] свой тэкст [польскага гімна]!

«Время — это вьючное животное, которое имеет шпоры и пришпоривает самого себя» (M. Wilston).

«На адной шасціне Зямлі»(К. Чорны).

Спрэчка па-кітайску абазначаецца іерогліфам — 2 жанчыны пад адным дахам.

---

[1] Святая Кінга, дачка венгерскага караля Белы IV, выходзячы замуж за польскага князя Баляслава Сарамлівага, атрымала ў пасаг адну з саляных шахт у Мармарошы. У шахту яна кінула заручальны пярсцёнак. Па дарозе ў Кракаў загадала выкапаць калодзеж; замест вады служкі знайшлі соль. У першай жа глыбе знайшоўся той самы пярсцёнак. З таго часу св. Кінга лічыцца патронкай солездабытчыкаў. Гл.: Соль («Нясецца рэхам пераклічка…; 16–17[10]58) // Маладзік над стэпам. Мінск, 1959. С. 103.

[2] Маркоўскія Юзаф і Томаш, браты-шахцёры. Яны першымі пачалі працу па ператварэнню саляной пячоры ў капліцу.

[3] Гл.: Юргяліс (1958) // Маладзік над стэпам. Мінск, 1959. С. 95.

[4] Прокша Леанід Януаравіч (1912–1994), беларускі пісьменнік. У 1940–1941 гг. літработнік у польскай газ. «Штандар вольносьці». У 1958–1969 гг. рэдактар газеты «За вяртанне на Радзіму» (з 1960 «Голас Радзімы»).

* * *

Баяцца козыткі гатоў,
Каб чуць твой голас любы,
Каб мне гарэзна зноў і зноў
Твае шапталі губы:
— Сарока-варона
Кашу варыла,
Сваіх улюбёных
Дзетак карміла…

Каб толькі пальцы зноў і зноў
Сваволілі гулліва,
Ад шчырых воч, ад ціхіх слоў
Каб быў я зноў шчаслівы.

І так бясконца б слухаў я,
Каб ты апавядала,
Каб толькі русая твая
Мне шыю абвівала.

Нібы ў маленстве колісь мне
Гучалі б гэты словы…
Каб пахнуў бэз і клён цямнеў
У цішы вечаровай…

*5 жніўня 1958*

* * *

У новым пашпарце маім
Паметка ёсць такая,
Што дваццаць з гакам лет і зім
Я за плячыма маю.

Аж дваццаць раз, выходзіць, мне
Смяяліся пралескі,
І шчасцем салавей звінеў,
І верас цвіў на ўзлеску.

Аж дваццаць раз вятры мялі
Мне для сустрэчы сцежку
З табой Адной на ўсёй зямлі
З такой касой, усмешкай…[1]

*6 жніўня 1958*

[1] Вершы прысвечаны другакурсніцы філфака БДУ Валянціне, будучай жонцы паэта, як і верш «Ты рамонкаў белавейных не зрывай…» (23.07.58) // Маладзік над стэпам. Мінск, 1959. С. 55. Барадуліна Валянціна Міхайлаўна (н. 1939), філолаг.

## 1959

*Зацвітаюць купавы*

*Паэма*

*Ішла Купалка нявесела,*
*Краскамі вочы завесіла.*
*Стала Купалка бедаваць:*
*«А дзе ж мне ночку начаваць?» —*
*«Сыдзі, Купалка, ў канец сяла —*
*Начуй, Купалка, ў Васіля.*
*У яго хатка навенькая,*
*Яго дачушка маладзенькая.*
*У яго піва наварона,*
*Яго дачушка заручона…*

Скрозь звіняць карагоды,
Скрозь ігрышчы, прыгоды.
А сягоння ж Купала,
Што ні зробіш — прапала!

Дык не трэба пазніцца!
Сёння ж цёплыя росы.
Палыхаюць мазніцы —
Будзе рыпу калёсам.

Ноччу чэрвеньскай гэткай
Поўнач поўняю гляне —
Недзе папараць-кветка
Зацвіце на паляне.

Ну а ўранні усмешку
Сонца кіне ласкава —
На пакатым узмежку
Зацвітаюць купавы.

Кажуць, іх неабходна
Назіраць адвячоркам,
Загадаўшы на родных,
Ды пад бэлькай заторкнуць.

Як назаўтра купавы
Раскудлацяць галовы —

Значыць, добрыя справы:
Усе жывы-здаровы.

Дык спяшай, жартаўніца,
Покуль цёплыя росы.
На дасвецці прысніцца
Твой хлапчына курносы…

* * *

Лапці новыя, ядлаўцовыя
У сяброўкі Тадоркі
Ды з махрамі пяньковыя
Пакручанкі-аборкі.

І Аліна-зайздросніца
Хоча лапці такія.
Самі ногі ў іх просяцца,
І душа па іх ные.

Паглядае гарэза ўсё
На свае чаравікі,
І насы ім адрэзала —
Клопат ёй невялікі…

Луг мурожны туманіцца,
Адспявалі Купалу.
На наступную пятніцу
Ўжо у лапцях ступала.

Што ні крок,
На пянёк
Спатыкаецца,
А курак за курак
Так чапляецца.
Аж гудзе галава.
А трава-крапіва
Усё кусаецца…

* * *

Баравінаю па верасу
Разбрыліся каровы па волі.
Заплятае Аліна касу,
Сабе шчасця у Бога моліць.

Чарнабровая, быстры пагляд,
Голас звонкі на ўсю акругу,

Ды рукавы ў жакетцы да пят,
Што служылі парой за пугу.

Знала кожны кусток навакол
І дражнілася з кожнай птушкай.
Танцаваў паслухмяна казёл,
На рагах бык пакорліва гушкаў.

Раптам глядзь — і ад страху ўскрык:
На паляне чужыя каровы.
Рве кусцеўе рагамі бык,
Аж заходзіцца ўвесь ад рову.

Не паможа і дзесяць пуг.
Як на ліха — напалі восы,
Ды, на шчасце, прыспеў пастух
І быкоў разагнаў, курносы.

І сказаў, што завуць Іван,
Што ў суседнім ён хутары служыць.
Знае многа з травою палян,
Не баіцца ваўкоў і лужын…

* * *

Як чысты чэцвер наступае —
Крумкач дзяцей сваіх купае
Да ўсходу сонца.
Рухавей хочаш стаць — хутчэй
Спяшайся на бягун-ручэй,
Вадой сцюдзёнаю памыцца
Імчы, дзяўчына, маладзіца,
Да ўсходу сонца.
А хочаш быць з касой багатай, —
Дык пад бярозаю касатай
Чашы і заплятай касу,
Мачы ў крамяную расу
Да ўсходу сонца.

За ўсіх Аліна прыгажэй,
За ўсіх каса даўжэй, тужэй…

* * *

Сонца ўсё не садзіцца чагосьці,
У рот не лезе сухая скарынка.
А сягоння ж нядзеля.

На мосце
Будзе зноў давідна вечарынка.
Дык хутчэй наплывайце, туманы!
Сёння ўбачыць Аліна Івана.

Ну а ў раніцу прыйдзецца слухаць
Гаспадыніну лаянку-сварку:
— Ты на лапцях адных, маладуха,
Пратанцуеш маю гаспадарку!..

Навальніца раптоўна найшла.
Хмары нізка — не ўбачыш даху.
Сойка мчыць да свайго дупла.
Шпачаняты пішчаць са страху.

І каровы стаяць на паўдні.
Бліскавіцы жагнаюць неба.
Гаспадыня Аліне бубніць:
— Узяла б ды рабіла што-небудзь,
Чым сядзець без работы так,
Хоць палапіла б дзеду анучы
(Быў за конюха дзедка Ісак,
Ледзь дзе тупаў ды кашляў скрыпуча).

А не думаць бы лепш ні аб чым.
Спалатнела, і жах на твары, —
Бо іголка з жалеза — блішчыць —
Перуны па ёй могуць ударыць!..

* * *

Паўсюль гараць кастры. Купала.
Івана ля ракі чакала.
Вянкі спляталі з васількоў,
А потым на ваду пускалі.
Шапталіся рачныя хвалі.
Рука ў руку Іван ішоў,
Казаў, што будзе слаць сватоў.

* * *

*Люлі-люлі-люлі,*
*Пайшоў кот у дулі,*
*Памарозіў лапкі,*
*Скочыў на палаткі.*
*Сталі лапкі грэцца, —*
*Дзе катку падзецца?*

А раніцай сынка будзіла:
— Ягор, цягні багор —
Плыве тачыла.

На пацеху рос Ягорка.
То бег злавіць за хвост бусла,
То ў хату нёс пясок з узгорку,
Кату пасцель з абруса слаў.
І бацьку пераймаў з работы,
Прасіў тапор і абцугі.
Ды маці дабаўляў клапотаў —
На лоб садзіў гузак-другі.
І цацкі ўсе ламаў свае,
І знаў, што салавей пяе:
У вёску Іцак дзёгаць вёз,
А чорт падскочыў да калёс.
Ён з бочкі выцягнуў шпунток,
І ўцёк.
Ды бачыў салавей з сука,
Стаў папярэджваць бедака:
— Іцак, Іцак!
Дзёгаць выцек —
Кап-кап,
Цюр-ррр-ру-ру...

* * *

Сухары з пяском напалавіну
(Немцы цеста вывернулі ў яму —
Чэрпалі там вёдрамі жанчыны.
І Аліна узяла таксама).

Сухары і ў хаце за ласунак.
Толькі ж трэба вынесці палонным.
Бальшаком
балюча,
цяжка,
сумна
Падымалі пыл — ішлі калоны.
Адстаючых падганялі кулі,
Кроў лілася на пясок гарачы.
(Іх чакаюць бедныя матулі,
І па іх дзяўчаты ўпотай плачуць.)
Сэрца ныла: а калі Івана
Недзе гоняць гэтак пад канвоем?

…Слаліся лагчынамі туманы,
Ды спявалі векавыя хвоі.

Гітлера, — казалі, — ў кабінеце
Страшыў нават і букет духмяны,
Бо баяўся, як бы ў тым букеце
Не заселі раптам партызаны.

* * *

Што вяшчуеш ты, сарока?
Што сакочаш апантана?
Можа, знаеш пра Івана —
Ці жывы ён, ці далёка?
Можа, храбрым партызанам
Ён канае дзе ад ранаў?
Можа, ў полі пад ракітай
Не абмыты, не зарыты
І па ім аж давідна
Плача кнігаўка адна?
Што вяшчуеш ты, сарока?..

* * *

Немцамі сусед да слёз расчулен:
Вось сябры парадку, чыстаты.
А Аліна мужавы кашулі
Рвала партызанам на бінты.
А сусед хваліў:
— Вось гэта сіла!
Рускаму Івану нераўня.
А Аліна прадавала мыла,
З вёскі ў вёску крочыла штодня.
І дапамагала гэта мыла
Фашыстоўскі бруд змываць з зямлі, —
Звесткі сувязная ў ім насіла,
Быццам дынаміт, кускі былі.

* * *

Партызанскі незабыўны час! —
Нашага дзяцінства запявала.
Шкадаваў, я помню, кожны з нас,
Што гадоў мы мелі дужа мала.

Даражэйшым нам ад усяго
Быў блішчасты гузік з гімнасцёркі.

Пальцаў не шкадуючы, з яго
Выразалі пяцікуткі-зоркі.

І былі гатовы цэлы дзень
На прыкур насіць ў руках вугалле
І падставіць шапку за мішэнь,
Толькі б нам з вінтоўкі стрэліць далі.

Адбіваць мы ўмелі цвёрды крок,
Выпраўкай карцела пахваліцца.
Каб зімою ціснуць на курок,
Праразалі пальцы ў рукавіцах.

Мы былі дарослыя сыны,
Ды матулі нашы тым не меней
Шылі нам кароткія штаны
І пры гэтым без адной кішэні.

Аб усім хацелі ведаць мы,
Разбіралі і снарад, і міну.
І насы гарбатыя, шрамы —
Пра дасужасць нашу напаміны…

* * *

Снег раскіслай кашай пад нагамі.
Развяло дарогі нечакана.
Наўпраасткі, ў аб’езды, бальшакамі
Сцягвалі ўсе сілы партызаны.

Крочыў немец
(Леташняй вясною
Перабег адзін да партызанаў.
Праўда, захапіў «пасаг» з сабою —
Прывалок жывога капітана)
У валёнках, кайстра за плячыма.
Жартавалі хлопцы: «Добра шпарыш!»
Даўгацыбы, з сінімі вачыма,
Нараспеў цягнуў: «Зда-роў, та-ва-рыш!»

Рухалася конніца, пяхота.
Доўга расцягнуліся атрады.
І, нібы вясновыя грымоты,
Блізілася рэха кананады.
Гэтак пачыналася блакада.

* * *

Перапёлка шэрая лятала
Па-над чыстым полем ды над борам,
Сваіх дробных дзетачак шукала,
Пасылала голас у прасторы.

Перапёлка шэрая лятала,
Ды шчабетункоў не адшукала.
А знайшла яна адно гняздзечка,
А застала цёплае мясцечка.
Перапёлка шэрая лятала…

* * *

Комін сіратой (была тут хата),
Дым яшчэ сучыцца з галавешак,
І ад іх прыкурваюць салдаты,
Кажуць: галавы не трэба вешаць.

Грудам абгарэлыя падковы —
Іх з дарог на шчасце сабірала.
Шчасце ж ганак кінула дубовы,
Без падкоў кудысьці паскакала.

Дзе Іван?
Дзе летуценні, радасць?
(Не адно заўсёды ходзіць гора.)
Тут сябры з Іванавай брыгады.
Кажуць… быў жывы яшчэ заўчора.

Ды пакуль прарвалі акружэнне
(Сябрам быў… адважным партызанам),
Выйшлі са сваімі на злучэнне…
Многім не пабачыць гэты ранак.

* * *

Бор спіць. Тут было акружэнне.
Снарады пасеклі хваіны.
Клубкамі гадзюкаў — карэнне.
Шукае Івана Аліна…
Імшарамі цыбае жораў,
«Ккулліна», — курлыча каханай,
Дзяўбе журавінныя зоры.
Шукае Аліна Івана…
А сонца праглядвае скупа,

Навокал гушчэча такая.
Ляжаць пачарнелыя трупы.
Аліна Івана шукае…
Паветра цяжкое, густое,
Ды дыхае прагна жанчына.
Мо ён за хваінаю тою?
Шукае Івана Аліна…
Хай вочы завяжуць хусцінай.
Паставяць натоўп незнаёмы —
Па пальцах, далонях Аліна
Пазнае Івана умомант.
Па паху ягонага поту
Пазнае і ўночы, і ўрана.
Пад ботамі квокча балота —
Шукае Аліна Івана…

* * *

І вісяць пустымі рукавамі
Трубы абгарэлых камяніцаў.
Бусел сумна кружыць над дубамі,
Кружыць над халоднаю крыніцай.

Адляталі ў вырай ясным ранкам,
Тут сяброўку куля падкасіла.
І, самотны, кружыць над буслянкай,
А хлапчук крычыць што мае сілы:
— Буцян, буцян даўганосы
Прапіў боты, а сам босы!..

Адкіпелі вішні белай пенай.
Пахла свежай цёплаю смалою.
Мохам баравым імшылі сцены,
Ставілі хаціну талакою.

* * *

На ўскраіне ў палоне вішняў,
Дзе куры ходзяць па траве, —
Хаціна ў засені зацішнай.
Аліна тут адна жыве.

…Калі мароз смаліў, бывала,
Ззаўха пабойней па вуглах,
Цяплей Ягорку укрывала
Ды ўцэла па снягу ішла.

Падлогі у канторы вымыць,
У печах выпаліць. Затым
Адправіць сына ў школу. Зімы
Змянялі вёсны. Многа зім.

Хай будуць, маці, рукі Вашы
Благаславенны сотні раз!
Яны бярозаваю кашай
Парою частавалі нас.

І боль умомант таймавалі,
Рабілі нам святлейшы дзень.
К намёрзшым клямкам прыставалі
І карчанелі у вадзе.

Яны здароваліся з горам,
І шчасце клала ім дары.
Вады павынеслі азёры.
Перапалілі дроў бары.

І тапарышчы, касавільны,
І ручкі ў піл, плугоў, лапат
Слановай косткаю зрабілі,
Бо іх пашліфавалі шмат.

І не чакалі кветак славы,
На ногі ставілі дзяцей.
Хай покуць займе ваш па праву,
Хто мае мазалі цвядзей.

… Турботаў і клопатаў зведала шмат,
Будзіла на кожны экзамен.
Нарэшце Ягорка прынёс атэстат —
Пяцёркі стаялі тузамі.

Дзве сотні дала — за цялушку ўзяла
(Пяшчонку Рагулі падласай).
— Сынок, паспрабуй, не жадаю я зла,
Каб потым не крыўдзіўся часам…

Калі з галавешак сучыўся дымок,
На крэсле старшынскім пісала
Студэнту-сыночку даўгое пісьмо,
Ў канверт хоць дзясятачку клала.

*

* *

Чэрвеньскім купальскім адвячоркам
Грукаюцца ўладна успаміны.
На сябе, Івана, на Ягорку
Загадаўшы,
                краскі рве Аліна.

А назаўта ўстане раным-рана —
Зноўку раскудлацілі галовы
Краскі ўсе і краскі на Івана,
Значыць, недзе ён жывы-здаровы.

І гатуе познюю вячэру,
Каб з дарогі з’еў гарачай стравы.
І не зашчапляе позна дзверы —
Расцвілі на досвітку купавы.

Ажывае ў сэрцы ласка тая…
Толькі не ідзе… марудзіць…
Дзе ён?..

Хай заўжды купавы расцвітаюць —
Гэты краскі
                веры
                        і надзеі!..

*26 лістапада 1958–16 сакавіка 1959, Ушачы*

*[Івану Калесніку*
*на зб. «Маладзік над стэпам»]*

Таму, хто заўважыў
І ў шлях блаславіў,
З пачуццём падзякі
І братняй любві.
З жаданнем багатага
Жніва на творы
Прымі гэту кніжку,
Іван, ад Рыгора.

*Эпіграмы*

*

Аб сабе заяўляе прама:
Не паэт — а сучаснасць сама.
Кожны верш — то яго праграма,
Толькі дзеяння штосьці няма.

*

Не твор у яго — каракулі,
Аднак жа ходзіць ў каракулі…

*

Паэт даўным-даўно заціх,
Іржа паела яго до́спехі.
Ў дакладах ён — у ліку тых,
Што «…дасягнулі значных поспехаў».

*

Ён піша пра шышкі, пра слёзы слаты,
Пра кольцы-вясёлкі Сатурна,
Хай творы не ўвойдуць у фонд залаты,
Паэта цікавіць Фонд літаратурны.

*Прынцыповы*

З трыбуны любіў недахопы крыць,
На адстаючых глядзеў ён скоса.
Самому начальству даваў прыкурыць!
Папяросу…

## 1960

*Май*

*** [Паездка ў Эстонію.] Паўночны белы хлеб. 15 год, каб [вывесці] гатунак новы ячменю ці пшаніцы.

«Лявоніха» на паляне ў эстонскіх [неразб. 1]. Галубам гасцініца «Парк». Недаканчаны дом для дзяўчат, якія кончаць 10 класаў, прыйдуць у калгас, 8 дзяўчат.

Маладое піва, і пней не заўважаеш. Дрэва на карані маглі садзіць толькі мужчыны, каранелі ў родную зямлю. Купалле. Лазніцы. Вянкі з васількоў да сініх воч.

Гарачай пургой іскры. Гарачы Млечны Шлях. Іскры зоркамі залатымі, аж небу горача.

Rosarium. 100 гатункаў руж, жоўтыя зорачкамі распускаюцца, усміхаюцца сонцу. Цяпліца — ціхае паветра, чахлыя ружы, прышчэпы да бярозы. Тут могуць і на вярбе грушы [вырасціць]. І вінаград, і зерне [неразб. 1]. Кактус, як напільнік, рашпіль. Пальма вырасла тут. Слёзка плача, фігавы ліст засланілі. Сталетнік, як нажы, алебарда, — вартуюць гэтую цішу. Парнасць.

Шчупак на ўваходзе, галава прыбіта.

Alpinarium. Па каменні кветкі, лішайнікі.

Як рубанак і як стрункі, хвалі, калі ўгладзіць добра, што не згладзіць толькі вечарам. «Прывет супрацоўнікам гідраметслужбы ад работнікаў машстанцыі». «Шумныя бярозы» [песня], цымбалы. Іграе дзяўчына з Беларусі ў Таліне.

Вежа «Глядзі ў кухню». Высокая ў сярэднія вякі, дужа высокая. Дом ка́та маленькі. 70 г. XVI в. Пры рамонце ў сценку ўмуравана 6 камянёў і 3 жалезных ядры ў памяць асады. Цераз коміны ў кухню глядзяць.

Кускі дрэва — адрэзак водаправода XV в. Пушка XVI в. «Чорная смерць». Вежа называецца «Доўгі Герман», другая «Тоўстая Маргарыта». Томас дамовіўся, каб было надвор’е з нябеснай канторай.

Linda[1] насіла камяні з усёй Esti, будаваць Вышгарад. Хвартух прарваўся. Стала плакаць і наплакала возера Юлешаты. Муж пахаваны тут.

Дон Жуан [пахаваны]. Калі дзяўчына ступіць на пліту — [будзе] поспех у мужчын.

---

[1] Гл.: Плача Лінда (22.07.60) // Абсяг. Мінск, 1978. С. 121.

Малады мёд ліпеньскі. Іх [кроплі] у кожнай Вайке[1]. Хакае дымар. Дзень пчалы. Паўсюль нас прадстаўлялі як краіну, што дае трактары. Ноч, калі чэрвень аддае ключы ліпеню. Маладзік [марыць] — каб поўняй вырас, каб даспяліў. Русалка Інда. Чуды выйдуць.

[Адрасы:] Inda Varik (г. Тарту); Лаурите Вайке (Тартуский р-н, совхоз Васула); Куллус Лео Петрович (г. Муствеэ, Озёрная гидрометстанция «Тийрикоя», у Чудского озера); Сідарук Піліп Сцяпанавіч (г. Муствеэ); Л. Калло (Йыгеваский р-н., сельская библиотека Сиимусти); Карнацевич Н. (Йыгеваский р-н, к-з им. Сталина, д. Мыйзама, бригада 1).

България. София. Булвард Витоша, 39. БАН, Институт за литература. Георгий Д. Вълчев[2].

*Заплеччу ў нас кайстры. Люблю апошнія трамваі.* Чарамшыначка, вярба вілатая, кастроўнік.

У гаі з-пад кастроўніка
Пралесачка красуецца.

*Раніца:* Кіпіць асфальт. Дзяўчына здымае чаравік, вытрасае пясок, шкарпэтка, [тырчыць] палец, гэта раніца. У магазіне моднага аддзення шчоткай манекен чысціць — раніца. Дзеці з лісцем бягуць — раніца.

Вёска Дуброва. Дуброва — лес. Жыта, кукуруза, вакол яблыні.
Амерыка[3] — вёска Шклоўскага раёна, Зубаўскі с/с.
Едуць на возе:
— Адкуль?
— З Амерыкі.
— Перагонім Амерыку.

Алтайская вуліца, 58, жанчына нясе шыльду, а сын на Алтаі [працуе].
Пій XII кардыналу: «Пасля Галана[4] — мяне».

---

[1] Лаўрытэ Вайке, эстонская студэнтка; ёй прысвечаны вершы «Гэта нядаўна было…» (26.05.63; Нагбом. Мінск, 1963. С. 108.) і «Свята пчалы» ў «Паэме прызнання» (1971. Рум. Мінск,1974. С. 158).

[2] Вылчаў Георгій Дзімітраў (н. 1926), балгарскі крытык, літаратуразнавец, перакладчык, даследчык беларускай літаратуры.

[3] Гл.: Амерыка (1960) // Рунець, красаваць, наліваццa! Мінск, 1961. С. 100. (Здадзена ў набор і ў друк 7.06.61.)

[4] Галан Яраслаў Аляксандравіч (1902–1949), украінскі пісьменнік, публіцыст. Пісаў памфлеты на нямецка-фашысцкіх захопнікаў, украінскіх нацыяналістаў, дзейнасць Ватыкана. Забіты нацыяналістамі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952, пасмяротна).

*Трэба дома бываць часцей[1]. Нямецкая трафейная труба[2]*. Гузік. Выразалі зоркі [з вайсковых гузікаў]. Бальніца. Маці хлеб прыносіць. Курыца з-за пляча, і пела (на няшчасце). Ішла маці [у Заходнюю Беларусь], срэбраная ложка [на продаж, каб нешта купіць]. Сала прынесла. Хусцінка ў школе [хвораму завязвала галаву]. Сухары [аддаваў] Баяну [сабаку].

Рогі шырока — каза дае больш малака.

Як ластаўкі ўверх хвастамі — шчамлёткі [трымаюць] бялізну.

*На даху раённай міліцыі, як дома, фліртуюць каты.*

Бусел-бусел-клекатун
Паймаў жабу за каўтун.
Валачыў-валачыў
Ды ў крынічцы памачыў.

*Парэнчына — не пярэчыла[3]. Правініцца — правінцыя, адукацыя — адгукацца. …як д'яблікі, у араселым прыпале нясеш змакрэлыя яблыкі, гэтак мне сына прынясі… каб скакалі ў вачанятах д'яблікі…[4]*

Па цэнтральнай вуліцы праезд грузавым машынам забаронены[5].

Трактаразаводцы. Сорамна выступаць, бо дзе прыходзяць тыя, дзе робяць [трактары] «Беларусь».

*Цягнік чмыхаў, пыхаў, Быхаў.*

Кактэбель (Сіняя бухта). Суслік моліцца, склаўшы лапы[6]. Конь вязе ўранку [?] Смага. Ходзіць недзе па вадзе. Дождж мокрымі губамі. Дзяўчына. Мора прымае чалавека і не прымае. Сфатаграфаваўся б на беразе мора, ды баюся, што каханая будзе хвалявацца, каб не ўтапіўся.

Семя дзьмухаўца, як павук сярэбраны, як сняжынка, у рэдакцыю [улятае] праз вакно.

*Тасі К[арповіч]*

Звычайнае пытанне: «Як жыў-дуж?»
Са мною гутарыш сяброўскім тонам.
Чакае побач твой законны муж
З усмешкаю прыязнай і батонам.

Хачу спытаць, ці досыць харашэць?
Наведаць просіш:
«Бачымся не часта…

---

[1] Гл.: Трэба дома бываць часцей [1960] // Рунець, красаваць, налівацца! Мінск, 1961.. С. 5.
[2] Гл.: Труба [1960] // Тамсама. С. 13.
[3] Гл.: Не пярэчыла… (1963) // Дойны конь. Мінск: Б-ка «Вожыка». Мінск, 1965. С. 21.
[4] Гл.: Пасля навальніцы (4.02.62) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 88.
[5] Гл.: «Праезд па цэнтральнай вуліцы…» (7.06.61) // Тамсама. С. 24.
[6] Гл.: Смага (5.05.61) // Тамсама. С. 89.

Саломенная, дом пяцьдзесят шэсць…
Каб толькі адрас не забыўся часам…»

Пяцьдзесят шэсць…
Мне незабыўны год,
Калі нам светлым быў вагон таварны,
Шлях, поўны згод, прыгод, нягод,
І песня пра дар'яльскую Тамару.

Ад палыну п'янелі мы і ноч,
Нас камары палохалі дарэмна.
У бурт уранні ступаем басанож,
Бы ў рэчку, дзе яшчэ лілеі дрэмлюць.

А ты спявала, слухаў стэп сівы.
«Чаму не поўна?» — ў рэчанькі пытала.
І мне казала: «Ты на «ты» заві».
І чаравала наш вясёлы табар.

А хлопцы ўсе адзін перад адным
Табе давалі лепшую лапату,
Машыны разгружалі,
дзень пры дні
Букеты простыя насілі ўпарта.

Я лепей не пайду — ў тваіх вачах
Іскрынкі тых кастроў, што рвалі цемру,
Хоць жар у попеле гадоў ачах,
Ды тлее ўсё ж…
Вячэры вам прыемнай!..

*[Май] 1960*

*[Чэрвень]*

*** [Полацк, нафтабуд.] Элка Юркі [Новікава[1]], універсітэт. Летапісец Юрка Новікаў з аўтаручкай. Галубы пад страхой ЭЛОУ[2], Элка корміць галубоў Полацка. Сонца ўзыходзіць улетку, грукат ля [неразб. 3]. Зіма ў натуральную велічыню, без счарнення, лакіроўкі. Гурбы — спяць мядзведзі.

*Калі вырашаюць канфлікты лета з восенню палюбоўна[3].* Вершы Панчанкі. Карова ўласная.

[1] Шалаева Эла Сяргееўна, аднакурсніца, жонка Ю. Новікава. Новікаў Юрый, полацкі журналіст.

[2] Электраабяссольваючая ўстаноўка.

[3] Гл.: Паляць бульбоўнік ([2].62) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 97.

Бутэлькі крадуць — 12 капеек, п'яны збор. Вера — стэпавы жаўранак, замуж.

Рыфма — рыба плаўнікамі, і пялёхае сеткі харэя. Истрёпанная, как редакционный словарь.

Эла Шалаева 31 снежня Новы год — дзень нараджэння.

[*Да 11 ліпеня*]

*** [Паездка на будаўніцтва Бярозаўскай ДРЭС, Брэсцкая вобласць.] Васіль: Зазяваемся — у кювеце. Сябры выцягваюць. У маладога вопыту мала, а паездзіць хутка хочацца. Пасадзілі на самазвал, стукнуліся. Ледзь не знялі. Рэйсаў 60–70 ноччу, пасля на «хуткую дапамогу» [перайшоў] — са студзеня хворых важу, перацёк рабочых, той важу. Свядомасць. На сходах крытычна адносяцца. Бяруць на парукі. А хто не выпраўляецца — улятучваюцца. Як пабудавалі клуб, адпачынак лепшы. Дарога ўперадзе, а ззадзі краты. Выбралі членам камітэта [камсамола] — гэта абавязвае. Здаў на II клас, рыхтуюся на I здаць. Зазяваешся — у кювеце, а людзі глядзяць — нялоўка.

Фізорг вызвалены, Ларкоў, але нічога не праводзіцца. Раней арганізоўвалі турніры. Футбольная каманда, больш пройгрышаў. Валейбольнай каманды няма. Газета «За рулём». М. С. уперадзе. «Маланка» выпускаецца. Даніла Юрэня, Анатоль Шэўчанка. 155 тыс. [км] без рамонту. Увесь час бездарожжа. Для МАЗа, каб другім была дарога. Мазісты[1] — вадзіцелі МАЗаў.

Труба (вежа 100 м, 12 уніз, 8 уверх), гнеш [галаву] — шапка валіцца. 100 метраў для нас сярэдне: скора і да Месяца будзем класць. Нарасціць шахту. Маскоўскае ўпраўленне — Спецжалезабетбуд.

Вялічка Адам. Верхалаз. У аснову капейкі [пакласці] (вякі пройдуць, можа, знойдуць). Абжываюць верх. «Трэба, каб прозвішчы пісаліся, хто будаваў. — Навошта пісаць, хваліцца… Сучаснае цыганскае жыццё на калёсах».

Нікішын Алік, 14 год, асіплы, як марак.

[Пра буслiныя гнёзды жанчына, прабачаючыся:] «Шануючы вас, усё заср.лі». У малых [буслянят] ногі і дзюба чорныя.

Яблыкі цыганскія. І інтэгралы ластаўкі.

Хоць дах перакрываць адклалі, бусел з галавешкай.

Фундамент усяго будаўніцтва. Начальнік участка Рудабелец Мікола Лявонавіч. Брыгада Варатніцкага, якая вядзе мантаж падмуркаў пад галоўны корпус (план чэрвеня [выканалі] на 163%). У гонар Дня будаўніка выканаць гадавы план. Увогуле, калектыў узяў на сябе абавязацельства

---

[1] Гл.: Мазаўцы (1.08.60) // Рунець, красаваць, налівацца!» Мінск, 1961. С. 88.

выканаць сямігодку за 2 гады. Цяпер ужо брыгада працуе з улікам трэцяга года. Начальнік аддзела падсобных прадпрыемстваў т. Дзівін зрывае план.

Выпуск радыёгазеты. Адараву крытыкуюць, што не сабіраецца наносіць візіты на возера.

Бусел з гусямі хораша адчувае сябе перад аб’ектывам.

Геадэзісты. Жуковіч Сяргей [з вёскі] Хрысы, 1941 г. [нараджэння], землеўпарадчык. Рэчыцкі тэхнікум у гэтым [годзе] скончыў, старшы рабочы пакуль што. Дадому начаваць [ездзіць], на сырадой да маці.

Бацэкін[1] Міхаіл, 1934 г., Чавускі раён, в. Ужжар. У 1958 годзе старшы інжынер, геадэзіст; з 5 чэрвеня 1958 года [працуе], калі нікога не было. Залажыць правільны падмурак. На качак паляваў у школе: «Ляжыш, падплываюць…»

Галоўны інжынер. Дырэктар ДРЭС Фрыдман Самуіл Маркавіч. Анісімаў Алег Іванавіч, майстар-жалезабетоншчык, верхалаз, Маскоўскае ўпраўленне жалезабетонбуд. Уладзімір Аляксеевіч Нікішын, прараб.

Кнігаўка — у горле перасохла.

З дакладнасцю да 1 см, калі троху ніжэйшы, перакладваць. Бярнацкі Васіль (35-ты год [нараджэння]), Матусевіч Іван (35-ты год) з вёскі Хрысы. Шланг поясам прымацаваны. «Хутка і з Месяцам будзем на “ты”…»[2] Побач са следам МАЗа лёгкі буслаў след, статкамі ходзяць.

Белае возера, як караблі, земснарады, фантаны, astravy намыты. Бадзяга, як каўтун вадзеніка.

З 34-га года, багермайстар[3] — земляны майстар на вадзе. [Працаваў] у Разанскай вобласці, Брацкая [ГЭС], Сталінградская, Куйбышаўская, Мінгечаурская, — Савілаў Юры Фёдаравіч. Аснаўное — намыў плацін, каналы. 300 кубоў у год, трэба вымыць 60 млн кубоў.

Дождж. А статак буслоў ходзіць. Кнігаўка з кавалкам вяроўкі [на шыйцы] (сіло). Адпраўка касцоў. Як чорны асфальт, гразь. Саромеюцца пазіраваць дзяўчаты ў канале, засыпка шчэбнем адхонаў адводзячага канала.

Самотны бусел стаіць і слухае крыкі дзятвы на суседнім даху. Яшчэ не заліт асфальт, а «У двары злая сабака». Бярозамі двор падмяталі.

---

[1] Гл.: Міхась Бацэкін (1.08.60) // Рунець, красавацъ, наліваццa! Мінск, 1961. С. 116.
[2] Гл.: Бліжэй да хмар (31.07.60) // Тамсама. С. 113.
[3] Гл.: Багермайстар (31.07–1.08.60) // Тамсама. С. 114.

## 1961

[*Ліпень]*

*** [Магілёў.] Аляксей Пысін[1]. Суп з грыбамі і бобам, смажаніна. Чорны хлеб. Масла прывёз з Мінска. Пра коней верш. Чаравікі [фабрыкі] Кагановіча. Фронт, куля прайшла шыю. Жонка [працуе] у друкарні — 60 руб. [атрымлівае]. З дачкі — старэйшай гадзіннік, пакойчык.

Баркалабаўскі хор.

Я гэты зборнік прачытаў на Ушачы. Радкі ў слупкі плытоў і накручаны рулон ракі радкі.

*Дажджавая вада*

Дождж ашалелы скакаў са страхі,
Рабіўся вадой дажджавой у кадцы,
Бараду белахмарую гром састрыг
І раптам пачаў заікацца.

Няма барады —
куды ўхмылку хаваць?
Ды, закасаўшы рука́вы,
З вясёлкі крывую ваду каваць
Па просьбе Жніўня пачаў, рухавы.

Б’е па вясёлцы кувалдай ззаўха,
Гартуе ў азёрах — кадзях вялізных.
Пажар — горан громаў — не хоча сціхаць,
Сушняк языком шурпатым вылізвае…

Гартуе ў кадцы з вадой дажджавой
Гром сярпы мітуслівых маланак…
З проставалосаю галавой
Ранак выводзіць цябе на ганак.

Над поўнай кадкай згінаешся ты,
Прамень глядзіць на заспаную скоса.
І падаюць, быццам маланак жгуты,
У ваду дажджавую косы…[2]

*21 ліпеня 1961*

---

[1] Пысін Аляксей Васілевіч (1920–1981), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1968).

[2] Рыгор Іванавіч і Валянціна Міхайлаўна Барадуліны ўзялі шлюб 23 лютага 1961 г. Гл.: Журавінка (2.08.61) // Дойны конь. Мінск: Б-ка «Вожыка». 1965. С. 17.

* * *

На месяц да маці адправіў жонку.
Пасцель мая стала
халоднай і мулкай.
Халодную ўранні ем тушонку,
Як той мільянер
у рамане Гамолкі.

*Жнівень, 1961*

[*Жнівень–верасень]*
*** «Можаш калыхаць верш у аўтобусе» (А. Вялюгін).
Ад папялін пасівелых на камяні, як чарадзей. Нават рыба лапоча ў кошыку, як галубы.
*Грахі замалю — зямлю.*

[Брэст. Паездка да пагранічнікаў[1].]
Саюз бараны і калючага дроту. Пагоны — рунь.
Я сонца вітаю першым па нагляду. Сініца восень нясе.
Аўчынай пахла ад новага кажуха, ваўкі.
Лазня на мяжы[2]. Малачай [ім парылі], спіна — аж халадок. А ў печы стогне агонь. Русы Рэйн з Эстоніі (лыка з ліпы). На палку, як на НП [назіральным пункце], пары як дадуць, аж Амерыку ўбачыш. Вымыць замяжу. Анучы мые салдат. Старшына. Аж са сцен смала пахне жывіцай.
Халадаць можна за мяжой.
Бедныя мядзведзі (Шышкін[3]), у кожнай райзабягалаўцы, узяў іх за лапу і вяду (п'яны). Глядзяць: іх робіцца то 4, то 8.
Пугач галосіць. Няхай закрыюць вочы жаўталісця медзякі.
Дарога. Як поле ў праталінах, хмаркі казыча з нязменным пытаннем: чый такі? — сіваваронкі. Газік, нібы кавальскі мех, спёка. І труну павязуць, будзе так дарога.
Бабіна лета на граніцы. Сон пагранічніка.
Свіння хоча хвастом пачасаць спіну.
Аслеплы дайду — па паху, як бульбоўнік рукамі намацаю. Беларусь, ты не ў арнаменце[4].
Правільна, каб няправільна займацца рэабілітацыяй капусніцы і кажана, лепей забраць [неразб. 1].

---

[1] Дакладна вызначыць год паездкі — 1960 ці 1961 — не ўявілася магчымым.
[2] Гл.: Лазня на граніцы ([08].61) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 67.
[3] Шышкін Іван Іванавіч (1832–1898), рускі жывапісец.
[4] Гл.: Радзіме (1963) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 7.

*Размова з Поўначчу па шчырасці*

І ты ўсе вокны расчыні,
Гэй, Поўнач,
быць самотнай годзе нам.
Як вязень млоснай цішыні,
Узад-уперад ходзяць ходзікі.

Я, Поўнач, быць хачу з табою
Пад разамлелаю таполяй,
Тугія губы цалаваць,
Каб захмялела галава.

Качотамі хачу я рыпаць,
Хачу напяць струною Прыпяць
І слухаць, слухаць давідна,
Што шэпча з берагам Дзвіна.

Хачу, каб мой сусед Браслаў
Мне па вясне ганцоў прыслаў,
Ганцоў гарластых, быстракрылых,
Сказаць, што стыла звоняць крыгі…

Хачу, каб шумны Кішынёў
З сваіх зялёных кішанёў
Прыгоршчы каштаноў насыпаў,
Каб цветам дол услалі ліпы…

Няхай мой лёс не абміне
Ніводзін шлях — цяжкі, трывожны.
Адно баюся, што мяне
Хто-небудзь апярэдзіць можа:

Прайсці азяблай муравой
Уполеч з ясным сонцам пешшу.
Правесці ў вырай жураваў,
Сустрэць бяду уранні першым.

*1961*

## 1962

*Журавы*

Рака блакіту ўся ў падталых крыгах.
Праз сны мае,
Праз пошум баравы
У шчыры вырай на прыслаблых крылах
Нясуць тугу па лету журавы.

*1962 (занатаваны наноў 11 чэрвеня 1994)*

* * *

Цярпенне — нявырваная чака.
Адзіную ў свеце, цябе мне чакаць.
Прабі ў маім лёдзе самотнасці тхло,
        прамянямі воч тваіх
        буду сагрэты, —
Так зорак патухлых даходзіць святло
        да нашай планеты.
Вулкан майго сэрца грыміць, не атух!
        Хачу параўнаць цябе,
        хоць і не нова,
З аблогаю ўзнятай, дзе я прарасту
        у вечнасць
        галінкаю
        першай,
        вясновай…

*30 верасня 1962*

*Бабіна лета*

Ранні вырай
        абраніў пяро
        на іржэўнік
                выбелены сонцам.
                Восень смела
        стала на парог,
        увайшла у дом
прыродай соннай.

Лета
саламянаю ўдавой,
як суседкі, спачуваюць дрэвы.
Зябнуць будзе
ў туманах касцёр.
Першы халадок
Настыласць жвіру.
Людзі, птушкі,
жоўтае лісцё
адлятаюць
у далёкі вырай.
Аблачынку-змея,
як хлапчук,
водзіць Верасень
на павучынцы.
Родная зямля,
ў цябе хачу
жыць і ў вечнасць верыць
павучыцца.

*1 кастрычніка 1962*

* * *

Як белыя
ціхія аблачынкі,
Заінелыя дрэвы.
Начны спакой
на сукі аблакаціўся,
Дрэмле.
Толькі варон
апрыклы каркат,
Гучыць чорнаю скаргай
На беспрытульнасць…

*[Люты] 1962*

## 1963

***[Красавік]***

***Хлеўчукі, як сімвал дабрабыту. Фінляндыя, фінскія хаткі. Міліцыянер, як гіль, белы, як [неразб. 1] на белым фоне зімнім.

[Віцебск.] Лёд ірвуць на Заходняй Дзвіне сапёры[1]. Узлятае слуп белы, грыб.

У Гарбука спытаць пакой акцёра, які любіць manadziestma.

Маме масла, селядзец, белага (абаранкі, сушкі, хлеб), кіслага, камякі кукурузныя (аўсяныя).

Калі мяне адвучалі ад грудзей, паклалі грошы (грашовы чалавек будзе), паперу (канцылярыст) і буракі парэзаныя (араты, з зямлёю), я схапіўся за буракі.

* * *

Мае сябры, Барыс з Анатолем,
калі мне стукнула чвэртка веку,
не маючы галагуцкага пеўніка,
падарылі гадзіннік настольны,
пажадалі, каб ён мне сто год кукарэкаў.

Я сам сабе баюся задаць пытанне,
ствол сэнсу няўмольнага абкарыўшы,
чвэртку стагоддзя ходзячы
зямлёй пратаптанай,
што я зрабіў карыснага?

Усё датоптваў, даношваў
чужыя атопкі, абноскі,
кляўся, што я люблю
бацькоўскае неба сіняе.
А ў дваццаць пяць —
Кастусь Каліноўскі
жыццё аддаў за мяне
і за майго яшчэ не названага
сына...

*1 верасня 1963*

---

[1] Гл.: «Шыбы ра́ды...» (16.04.63) // Неруш. Мінск, 1966. С.32.

Твае рукі вучылі мяне роднай мове, выкрышвалі, выламвалі калінку, абшчыквалі пер'інку цыбуліны, лапку кропу — у суп наламаць бацьвіну, наламаць лісце капусты, яблык нашчыпаць, натрэсці. Матчыны рукі.

*Сляды*

Нясу ў руках пляцёнік-кошык,
Цяжкія боты на плячах,
У галаве — зялёны пошум,
Бярозак мільгатню — ў вачах.

Над вёскаю паўдзён капрызны
Такі без літасці пячэ.
Гарыць пясок,
                здаецца, прысак
Павыграблі з усіх пячэй.

Ды шчыра дзякую нагодзе:
Уперадзе мяне з двара
Раптоўна босая выходзіць.
Бярозак меншая сястра.

Не смяг і стомы як не ведаў!
Вясёлы, лёгкі, малады,
Іду я за бярозкай следам,
Ступаю ў цёплыя сляды…

*25 студзеня 1963*

«Гэта і не маленькія паэмы, а хутчэй за ўсё — пункціры», — сказаў мне Васіль Зуёнак[1], калі я прачытаў майму сябру ўсё ніжэй змешчанае[2]. Я згадзіўся.

Балада пра жытнія каласы
Гэта расказ пра коніка
Я на дне Палескага мора
Праезд забаронены
Смага
Ускраіна
Нагбом
Паром
Боты
Прамень на новым зрубе
Дзяўчаты, гнуткія, як лозы
Паэты пачынаюць думаць
Радзіме
Я знаю, для многіх

[1] Зуёнак Васіль Васілевіч (н. 1935), беларускі паэт, крытык. У 1960–1966 гг. супрацоўнік газ. «Піянер Беларусі». Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1982). У рабочым нататніку яму прысвечаны верш; гл.: Сэрца (19.02.–28.07.68, Ушачы) // Лінія перамены дат. Мінск, 1969. С. 11. Гл.: Чакаю зборніка! (1964) // Парастак радка, галінка верша. Мінск, 1987. С. 20.

[2] Мяркуемы змест зборніка «Ёсць»; будучы зборнік «Нагбом»; рукапіс здадзены ў набор 28.04.63.

Ваўчэнскае возера
Прадчуванне вясны
Сам суцяшаешся
Усе аднолькавыя, як робаты
Панядзелак
Правінцыя
Пасля навальніцы
Усё неакрэслена на шарэнніку
Памытая падлога
Зубру-равесніку
Пра бронзу
Слаўлю чысты абрус
Матылёк
Адліга
Вечалле
Сады
Партызанскія котлішчы
Па правадах ток хутка
Прыбалтыка

Успаміны (Брэст)
Драч хрыпіць
Паляць бульбоўнік
Дзверы
Заходжу ў кабіну
Цымбалы
Я з крылатай сям'і
Янку Купалу
Бусел
Зачаста мы замнога каемся
Дарога такая
Сакавік
Я ездзіў на навабуд
Неназванае
Трыпціх
1. Бацьку
2. Матчына хата
3. Куліна

*Узята для «Полымя»:*

*Мае сябры*
Пункціры
Шлагбаўмы
Забэйда-Суміцкі
Камароўка
Лістапад 1961 года
Сузор'і віснуць
Лазня на граніцы
Кіпяток
Сафійка

*Узята для «Маладосці»:*

*Барада і радаслоў*
Мая мова
Белая завіруха
Руку, прыпар
Клён звешваў
Мікрараён
Тэлефон прачнуўся
Варшава
Яшчэ гетэры

* * *

Напагатове ўсе шлагбаўмы.
Ледзь задрыжыць на шпалах шлак —
Ударацць цвёрдымі албамі
І перакрыюць гонкі шлях.

Ушчэнт ілбы акамянелі —
Паклоны бухаць не звыкаць.
Над імі смех звініць у небе,
Вясны вясёлага званка.

Калі ж уладна гляне раптам
Зялёным вокам семафор,
Цыбацяць шыі, як жырафы,
Нясуць ілба цяжэзны горб.

Рашучасць,
Бі ў мяне глабальней.
Натужна ные рэек шляк.
Убок, дубовыя шлагбаўмы, —
Я сонцу адкрываю шлях.

*[8 студзеня] 1963*

Шмат песень пішацца ў апошні час: для пажарнікаў, для пчаляроў, для падводнікаў. А вось такіх песень, якія б спявалі ўсе, — амаль няма.

*Артур Вольскі*

Само жыццё было мне крэда:
На вершах не пражыць адных —
Суаўтарам на п'есах еду,
І часта — на перакладных[1].

*Барыс Сачанка*[2]

О чалавецтва,
Помнік з бронзы
Адліць спяшай мне пры жыцці.
Стаць шумным класікам у прозе —
Не з БГУ ў саюз прыйсці.

З сабою думку вось такую,
Нібы валакардын, нашу:
Чым больш ахвотна крытыкуюць,
Тым больш ахвотна я пішу.

* * *

Пускаў Кастусь Кірэенка
У класіку карэннікі.
Ды толькі захірэлі ўсе
Карэннікі Кірэенкі.

---

[1] Маецца на ўвазе вялікая праца Артура як перакладчыка (*заўв. Р. Барадуліна*).

[2] Сачанка Барыс Іванавіч (1936–1995), беларускі пісьменнік. У 1960–1976 гг. супрацоўнік аддзела прозы час. «Полымя». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1982), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1991). У рабочым нататніку Б. Сачанку быў прысвечаны верш; гл.: Казка (8.05.69) // Рум. Мінск, 1974.

Блішчаць, як вослі, штаны ў стыпендыятаў. Калі блішчаць штаны — чалавек разумовай працы.

Гавораць, можна на год акадэмію атсрочыць, а Міша кажа: «Як гэта — атсрачываць?»

*24 ліпеня*

У «Падкове»[1] п'юць, вос накрываюць мокрымі шклянкамі.

* * *

Тилим-бом, тилим-бом,
Что-то парни пьют «Нагбом».
А наутро у ребят
Сильно головы болят.

*** Міліцыянер на востраве: «Пішы распіску на тры рублі», — у п'янага на 10 сутак.

Каскі, як шалупінне яек. Дыспут: «Што ўзяць з сабою, што пакінуць па дарозе ў камунізм?» Клічнікам на плакаце гатоў стаць!

Прынцэса Лаоса [выйшла замуж за савецкага дыпламата] чысціла бульбу, мыла падлогу, чысціла чаравікі.

Стары чорны парасон сушыцца з дажджу, як кажан.

* * *

Аблокі плывуць,
          як цяжкія пантоны.
Нахмурыла бровы непагадзь.
Дажджу хапіла б
          на два патопы,
Здаецца, прарвалася неба.
Мырмоча нешта
          ручай спрасоння,
З дарогі звярнуць не жадае.
Цямнеюць чорныя парасоны
Распятымі кажанамі.

*20 студзеня 1963*

Вязуць брыку моху, пахне зямлёй, ліст апалы сымшаць, будзе соснам зноў мох.

Восень. Халодная раса. Босая дзяўчына становіцца на чаравікі хлопцу, і цёпла, і блізка. Холад, як ціхае воблачка.

---

[1] Так між сабой называлі кафетэрый у былым гастраноме на плошчы З. Бядулі.

Крывуха — жоўтае дно, на каранях зялёная трава. Рунь, жоўтая зямля кратоў. Бацькава ігрушына.

* * *

Ад жаўталісця
Ў ярах туманы паржавелі.
Сад маўчыць.
Затужыўся.
Змарнеў.
Я маўчу. Азіраюся —
Паружавелы
Яблык азяблы глядзіць на мяне.

*1963 (занатаваны наноў 10 чэрвеня 1994)*

Бярозы без лісця, як вавёрчыны хвасты. А хвоі, як кашачыя, калі кот прыбягае ў хату з марозу, нечым перапалоханы. Яблыні, як кмену кусты. Локці ўзгорка, ралля і рунь, быццам раскатвае цешча на бліны, бо дамоў.

* * *

Трымаецца ціша слязою на вейцы.
Прысмерак дрэмле,
як порах сухі.
Жолуд пераспелы
раптоўна сарвецца
і доўга-
доўга
лічыць
сукі…

*20 студзеня 1963*

Нядзеля едзе на базар прыгарадным аўтобусам, шафёр разлічваецца нагрэтаю ў руцэ [дробяззю] пятакі. Нядзеля едзе ў паддзёўках, прапахлых саломай.

Шыю плацце белае,
Аборачка спераду.
А скажыце мілёначку —
Мая свадзьба ў сераду.

Першы снег. На плоце сляды сарок. Маладыя сабакі першы раз убачылі снег. Лавілі-лавілі, потым селі і давай брахаць, пазіраючы ўгору. Бабу зляпілі, датуль брахалі, што прыйшлося разбурыць.

Шапка, як крыло шпака, хлапчук, як яблык з-пад лістка, сівец, як на купіне.

— Хачу ў кіно «Зорге».
— Падрасцеш.
— Тады не будзе.
— Мядзведжы цырк!

Югаслаўскі фільм. Забіваюць. Кантралёрша: «Першыя дні было дужа страшна, а цяпер стала троху прывыкаць».

Буслянка зімуе, чорная на сухадрэвіне. Гняздо стыне. Як пад алмазам рэчка крэкча.

Белым калючым дротам завей абкручаны ты ў пакоі таксі. Машына, ветравое шкло. Снег, асветлены сонцам, як апілкі магніта. Настылыя хаты, як костачкі лічыльніка. Шарон, як белы-белы луг, настылай замяццю цвіце.

Ломіць рукі белая завіруха, халадэча ходзіць па Мінску, правіць памінкі па радасці маёй з тваімі вачыма. Снег на лаўцы, як ластаўчынае гняздо. З водаправодных труб ледзяшы, як языкі павешаных.

Электралічыльнік, як кот, курню пяе. Сапсаваны кран — жаўранак вясной.

Добра мець стары каляндар: любы месяц [можна выбраць], любую пару года, калі захочаш.

1) Вянок санетаў Максіму Багдановічу[1];
2) Купала;
3) Скарына[2];
4) Ягораў[3].

«Рэкі» ([назваць] дзіцячы зборнік). Міфалогія беларуская.

---

[1] Багдановіч Максім Адамавіч (1891–1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец.

[2] Скарына Францыск (да 1490 — каля 1541), беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, перакладчык Бібліі на беларускую мову, мысліцель-гуманіст, асветнік і пісьменнік.

[3] Ягораў Міхаіл Аляксеевіч (1923–1975), беларускі партызан. Герой Савецкага Саюза (1946). З 1944 г. на фронце. У ноч на 1 мая 1945 г. разам з Мілітонам Кантарыя ўзняў Сцяг Перамогі над рэйхстагам. Гл.: А паклон я перадам... (1962) // Парастак радка, галінка верша. Мінск, 1987. С. 13.

## 1964

*** У Клышко польска-рускі слоўнік забраць. У Валасевіча[1] [узяць] Чуркіна[2] «Вянок» [яго песень] і др. Байрана[3] — у Рэма [Нікіфаровіча] і Янкі [Сіпакова[4]].

* * *

О, як бы горка дзед заплакаў,
Каб хоць адзін пачуў ён гук
З таго, што напісаў Аксакаў[5] —
На шчасце ўсім — апошні ўнук.

*1963 [?]*

Antalogia satyry polskej. «Среди болот и песков».

Абавязкова! Дыялекталагічны атлас.

«Неруш» [назва на першай старонцы блакнота].

Кнігаўка. Над лугавінамі матчыных вачэй — піць.

Цыбулю выцалоўваць з вачэй.

*У суседкі Настачкі — Што такое пястачка.*

*Зачыняць — зайчанят. Ламачча — тлумачыць.*

Скорагаворка: *вывёрка вяроўку віла пад вываратнем.*

*Раённыя замалёўкі:* Талкуй [мянушка]. Прывёз барана — [заве] па імю і па бацьку.

Суддзя. У грыбы. Конь Мальчык. Дзеці. Унучка ад разведзенай, пераводзяць [?].

Жанчына пайшла лён красці ў Завыдрына ў калгасе. Сагнулася ракам. Сторож думаў, што дзікая свіння. Злажыўся — бах. Яна заекатала. На плечы і занёс дадому.

Памерла.

---

[1] Валасевіч Эдуард Станіслававіч (1918–1997), беларускі паэт, байкапісец. З 1952 г. працаваў у час. «Полымя», «Вожык», у Белдзяржфілармоніі.

[2] Чуркін Мікалай Мікалаевіч (1869–1964), беларускі кампазітар, фалькларыст. Народны артыст БССР (1949).

[3] Байран Джордж Ноэл Гордан (1788–1824), англійскі паэт-рамантык; пэр Англіі, удзельнік руху італьянскіх карбанарыяў, нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў Грэцыі.

[4] Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч; 1936–2011), беларускі пісьменнік. У 1960–1973 гг. працаваў у час. «Вожык». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[5] Аксакаў Сяргей Сяргеевіч (1890–1968), беларускі кампазітар.

Ілонка[1] есць цыбулю: «Кіся». Плача і плакаць не хочацца.

Маме прывезці завушніцы добрыя.

Герчык[2] у пазакласным чытанні, а «Вецер з Волгі» [А. Вялюгіна] — не.

«Вясновая замалёўка»: шараку надакучыў шарачок.

Варывончык[3] за кончык,
Герчык за ……,
Цімошак[4] за кошык,
Шахавец[5] за канец —
Цягнуць-пацягнуць.

Іспанскі танец з кастэтамі…

Рыфма без сэнсу: еўнух павёў дзяўчыну ў ельнік[6].

Першы друкаваны верш Лобкіса[7] [надрукаваў на машынцы]. Машынка райана. У гімнасцёрцы машыніст[ка] хлопец. Першыя крокі. Канстанцін Паўлавіч Баразна[8]. Фока-мастак [настаўнік чарчэння].

На пахмелле Дзед Мароз
Выпіў медны купарос.

Жыў-быў кіруючы партфель
У рамянях, ў засцёжках.

Сцішана: «Ну адстань», — голасна: «Ідзіце і больш не прыходзь». Я шэптам: «Прабачце, прыйшоў…»[9]

*[Ліпень]*

*** [Паездка па Сібіры. Краснаярск, Кызыл (Тува), Абакан (Хакасія), Нарыльск.] Без 15 чатыры Краснаярск. Франка-руская дэлегацыя. Краснаярск — Кызыл. Анекдоты пра мядзведзяў: напіўся і лёг спаць ля ложка, захроп. Ха́дан — востраў, возера і рака, рака з гор (бярозы). Жаўранкі, палын, кусты. Карагатнік (вярблюды ядуць), двухгорбыя вярблюды, горы двухгорбыя. Як вярблюды ў тумане, зблудзілі з дарогі. Возера Свацікава,

---

[1] Барадуліна Ілона Рыгораўна (н. 1962), дачка. Мастачка.

[2] Герчык Міхаіл Навумавіч (Майсей Беньямінавіч; 1932–2008), беларускі пісьменік. У 1964–1972 гг. рэдактар выд-ва «Беларусь».

[3] Варывончык, рэдактар выд-ва «Беларусь».

[4] Цімошак, рэдактар выд-ва «Беларусь».

[5] Шахавец Уладзімір Міхайлавіч (1918–1991), беларускі пісьменнік. У 1948–1972 гг. рэдактар, загадчык рэдакцыі, намеснік галоўнага рэдактара выд-ва «Беларусь». Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР (1979).

[6] Гл.: Пра рыфмы: Рыфма без сэнсу (1964) // Мудрэц са ступаю. Мінск, 1988. С. 147.

[7] Лобкіс Алесь, аднакласнік; журналіст.

[8] Баразна Канстанцін Паўлавіч, настаўнік беларускай мовы і літаратуры (г. п. Ушачы).

[9] Гл.: Назола (1972) // Журавінка. Мінск, 1975. С. 46.

соль. Бровы кавыльныя выцвілі на сонцы. З тваіх далоняў, як маленькі… выбягае Енісей (праклёўваецца). У Кызыле за кожным дрэва замацавана. Губы твае салёныя ад азёр.

[Адрасы:] Бубякина Зинаида Александровна (Московская обл., Егорьевский р-н, Новосидоровская 8-я школа). Кюнзегеш Юрий Шойдакович (г. Кызыл).

Нізкая 505 м. 648 м Кызыл. Кару́парс цэнтр. [у] 1910 годзе. 46% лесу ліственніцы, бяроза 1%. Кызыл ([да 1918 г.] Белацарск). [З] 21 года [па 1944 г.] — [незалежная Тувінская Народная] Рэспубліка.

«На моём 73-м году я отлучился (памёр). У моего небесного беля, у моих сыновей, у моего табуна в 6 тысяч коней, у своего хана, у народа тюльбери, у вас, мои соратники-богатыри, мои зятья, мои невестки, я больше не мог пребывать» (VII в.). А слупы зроблены ў Тагарскую эпоху VIII — II ст. да н. э., старажытная цюркская мова.

Цадзілка для малака з траў у выглядзе палоніка. Шчотка для мыцця катла з хваста яка. Мятла з кавыля. Кавыль і на цаліне важкі. Піялы з дрэва. Чадаган (накшталт цымбалаў рукамі). Ігіл (накшталт скрыпкі).

Па ззелянелых камянях [бяжыць] Енісей. Суслікі, што самі так і лезуць у дарожныя нататкі. Край блакітнага Енісея.

Гарлавыя спевы. «Ручаёк» — народны танец, злучаецца з ракой (мужчынам), злавіў. Гарлавыя спевы — мядзведзь раве, вецер гуляе ў галлі, рэха ў гарах, з адхону [?] едзе — едзе ў гарах на кані, пасля шлёгнуў [каня] і [паехаў] хутчэй. Ка́ргыраа[1]. Пяшчота звоніць. У спевах рэха гор, прастора стэпаў, прастора.

Рима Норбу[2] — ведущая на концерте.

*7 ліпеня*

Лама, свае рабочыя прыехалі. 434 авец — ягнят 404, 4 гады Лора. Паш — кацёл, у якім вараць бараніну[3]. Ільбек — кручок для варэння ў катле. Рыбу ловяць. Байкара Шальжубеева[4]. Долчанмаа: сала, кішкі, часнок, цыбуля, шчаўе. Слова «хлеб» у тувінскай мове няма. З кавыля пэндзлі для фарбоўкі.

Рэчка Бурэнь-Бай-Хак. Улук-Хем, Каа-Хем — Вялікі, Малы Енісей. Асноўнае! — калмычка [можа пабрацца толькі] з калмыкам. Калмык можа з рускай. Год з 12–13 жаніліся.

6200 га, 1200 галоў, ангорскія козы 4700 (па 500 г [воўны] з казы). 5,1 тлустасць малака. Ячмень вінэр [гатунак] (піваварэнне), 13 цэнтне-

---

[1] Гл.: Каргыраа ([17–22].09.64 // Неруш. Мінск, 1966. С. 85.

[2] Гл.: Паэма прызнання: Кызылчанка (1964) // Рум. Мінск, 1974. С. 142.

[3] Гл.: «Пашой сапе пузаты паш…» (1966) // Неруш. Мінск, 1966. С. 87.

[4] Шальжубеева Байкара, «прэзідэнт» Тувы (па вызначэнні аўтара).

раў. [Трымаюць] карову нецель, свінню, птушак, да 15 авечак. Месячны заробак калгасніка 70–75 руб., механізатара 110–120 руб., 25 сотак прысядзібны ўчастак. Сцелючыеся яблыні, гуркі, капуста, бульба. Памідоры не выспяваюць. Парэчкі чорныя, чырвоныя, касцянкі, марошка, арэх.

Снег 25–40 см. Каровы самі [пасуцца]. Калі глыбокі снег, раскліноўку робім — расчышчаем, і каровы самі ядуць. 200 гусей па плыні каля Кызыла знайшлі.

Прэзідэнт (47 год) [Шальжубеева] 2-х мядзведзяў забіла. Рэчка Бурэнь-Бай-Хак. Богатый тальник (тростник). Кыс-Кетик — Дзявочая пераправа. Мядзведзі каменне качалі з гары. Мядзведжая пераправа. Мядзведзю прыемна, калі каменне грыміць. Воўк з ашыйнікам. Рака Мерген зліваецца з Енісеем.

Хлебаносцы — хлеб-соль носяць. Жанчына гаспадыня ў тувінцаў была. Жанчына каля юрты курыць. «Колькі [гадоў]?» — «76 год».

*** Па Туве. Салчак Тока[1]: «Сабакі хаду ведалі». Партузносы ў Краснаярскі хурал. Міністр замежных спраў.

[Адрасы:] Салчак Борзек (Каа-Хемскі раён. Куулар. Серенмаа. Чыдырская школа. Калгас «Чырвоны сцяг); Норбу Тамара Чашоловна (г. Кызыл, Облсовпроф); Русак Игнат Степанович (Каа-Хемский раён, г. Туран).

*8 ліпеня*

Вясёлы перавал. Школьная вытворчая брыгада. Маралсаўгас. Маралу абразаюць панты[2]. Лістоўніцы — ахоўніцы спакою Саян (з-пад кораня свая). Адны сухія, як пікі, іншыя [неразб. 1] да долу [неразб. 1].

Барометр, які Ільіч [Ленін] прывёз з Краснаярска [у Шушанскае]. Драўляны ложак, узгалоўе. Пуцілавец зрабіў з дзвюх 5-капеечных манет абручальныя пярсцёнкі — Оскар Аляксандравіч Энгберг. З ляснога дзікага хмелю альтанку Ленін з Крупскай зрабілі. Адпачывалі. Крупская везла Ільічу лямпу.

*9 ліпеня*

Абакан. Верталёт. 85 км ад Абакана пасёлак Майна (18 в.), гарняцкі былы — руды мала, не стала на будаўніцтва Саяна-Шушанская ГЭС. 250 м падымаць створ, дзе будзе плаціна. За 4 гады апраўдае сябе. З зялёным холадам вада. Скалы, як старыя вежы. Верталёт, як сірэны (вандраванне Адысея). Буравікі, як баравікі, ад сонца і ветру. 6 мільёнаў 300, 700 мільёнаў рублёў, 10 мільёнаў куб. бетону, кілават-гадзіна 3 сотых капей-

---

[1] Тока Салчак Калбакхарэкавіч (1901–1973), дзяржаўны і партыйны дзеяч, тувінскі пісьменнік. З 1944 г. першы сакратар Тувінскага абкама КПСС. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951).

[2] Гл.: Маралу зразаюць панты (29.07.64) // Неруш. Мінск, 1966. С.74.

кі. Левы борт і правы борт створа (як качар) — плечы павінны быць у плаціны.

З характарам Енісей, як адсяваючы нейкае семя ў далонях, качае наш кацер «Бурны». Самы «Гомель» дзьме вятрамі.

*Як арэх на зубах, Саяны качаюць рэха выбухаў.*

На мармуровых скалах сляды вякоў. Сосны ў скале, як прожылкі ў самародку.

*10 ліпеня*

Абакан. [Адрасы:] Афанасьев Анатолий Николаевич (Дзяржаўны архіў); Добров Семён Константинович (г. Абакан, редакция газеты «Ленин чолы»); Доможаков Николай Георгиевич (Каскар Уйбатов; г. Абакан).

*11 ліпеня*

Дзіўнагорск, пасёлак пачаў будавацца ў 1953 г. 1960 г. як спадарожнік Краснаярска. Ганзэлка палец адрэзаў. Спячым засталі Енісей (зімой) і перакрылі. 7 тысяч чалавек. Салдат служыць у арміі, пасля на будоўлю. Засумуе па радзіме і дамоў едзе. 500 вяселляў за той год і 650 дзяцей. 20–22 мільярды кілават-гадзін за год будзе даваць. 10 егіпецкіх пірамід (па бетону).

Таймень ішоў супроць плыні. Разгрузачны дзень Міхася Іванавіча.

Літаб'яднанне. Владзілен Белкін выкладае вечарам [днём], а вечарам укладае камені. Алег Каспяровіч, у 1958 годзе скончыў БДУ, гісторык, бетоншчык, піша вершы.

Параход «Някрасаў». Свяшчэнны бузават. «Слупы» ў 1925 годзе — краявы [заказнік], з 1946 года — дзяржаўны. Сібірскі собаль аднаўляецца. Шкурадзёр.

«Тут пад кіраўніцтвам краснаярскіх бальшавікоў праходзілі сабранні [сходы] рэвалюцыйных рабочых».

Рысь Дзіксі, 1961 г., кот Кай. На зямлі продкаў Хакасіі. Іван і Мар'я (смаргунішка Марыя [са Смаргоні]). Праталіны-залысіны.

*13 ліпеня, панядзелак*

Суднабудаўнічы завод. Мікалай Анастасавіч. Завод з авіярамонтных майстэрань зарадзіўся (1935 г.), у вайну — самалёты, а з 1947 года суднабудаўніцтва, грузавыя цеплаходы 100 тон. Для Енісея і некалькі штук для Лены. Буксіры-штурхачы. Каля 2300 чал.

Адну на 3-х [бутэлек], адразу з двух п'е, шыбеніцы відаць, выбіваў туз, а ў паўлітра [стрэліць] рука дрогнула.

Паэты, мурзатыя рукі. З нізкі вершаў пра Сібір. Зваруга Мядзель. Суднабудаўнічы завод, Папова Анна Левонтьевна.

Байкал, нібы Пятра Вялікага бакал,
Дазволь падняць мне
За тваё здароўе.

*14–15 ліпеня*

Енісей, «Латвія», лодкі-ільменкі. Скалы, караблік і барачка следам, як быццам бы цягне. Шчокі — месца звужэння.

…каюта з відам на Енісей.

*16 ліпеня*

З раніцы імжыць, лес меншае, пераходзіць у тундру…

Жанчыны-эвенкі [ловяць] сцерлядзь. Узялі гарэлкі, віна, папярос.

Як свінцовая вада, нібы замерзла, і толькі палосы ад ветру, як па замерзлым возеры.

*17 ліпеня*

Мярзлотная станцыя, незабудкі, лёд і гліна, як у Вялічкі[1]. Сюды б у вечную мерзлату закапаць маманта бюракратыі, як дрэва працвярэзніка. «Маладзёжная рыфма» (Я. Хелемскі[2]).

Лес ніжэй — ніжэй ляжыць снег па берагах Енісея. Енісей у самым пачатку — юнак, пасля сталее, у акіян упадае мужчынам. Снег чарнаваты, і вясёлка над снегам.

*** (Падружоўленая сонцам чайка). Сонца хацела садзіцца, ды раздумала ці што забылася і назад пайшло.

Гараднічанка карміла чаек,
… крычала,
… качала.
Была дванаццатая гадзіна,
Сонца ўздоўж далягляду хадзіла,
Хадзіла і не заходзіла.
І праз гадзіну зноўку ўзыходзіла.

Дзе крыл надломы,
Дзе броў надломы…

Мярзлотная станцыя, незабудкі ўнізе, як слюдзяныя вокны.

---

[1] Вялічка — саляная капальня ў Польшчы.
[2] Хелемскі Якаў Аляксандравіч (1914–2003), рускі пісьменнік, перакладчык.

*18 ліпеня*

1 гадзіна 20 хвілін, пад'язджаем да Дудзінкі[1]. Сонца свеціць ярка.

7 раніцы. Нарыльск, маленькі Ленінград, шмат было ленінградцаў. Парк — ніводнага дрэва.

Дарога, тундра. Нізкарослы хмыз, зляжалы снег, кветкі, вада, балота, горы.

«Сардэчна вітае Вас сцюдзёная Поўнач, сябры!» «Сердечно встречает друзей Заполярье!» Віктар Цімафеевіч Пятровіч! З Крычава, самы першы [прыехаў]. Нарыльск каля 200 тыс. чалавек. 2,5 тыс. беларусаў. Рускія, украінцы, беларусы. Металургічны камбінат, цеснае перапляценне горада з камбінатам.

У 60-я гг. 19 ст. выяўлены выхады каменнага вугалю і меднанікелевай руды. Купец Сотнікаў печку [паставіў] у даліне меднага ручча, печ з цэглы царквы, 60 пудоў толькі [выплаўлялі]. Сын у 16 годзе зноў [распачаў выплаўку]. У 1919 годзе спецэкспедыцыя пад кіраўніцтвам Алілуева[2]. К 24 году выявілі — унікальнасць. Руды поліметалічныя. У 1942 годзе атрыман feinstein. Шмат зняволеных палітычных. Камбінат [дае] $^1/_3$ нікелю, кобальту, 12% медзі і амаль усе платыноіды, гара Шмідта[3]. Запасы вугалю практычна невычарпальныя, гліны, вапняку. З верасня да ліпеня трэба [рабіць] запас.

Будавалі там, дзе скала выходзіла ў выглядзе выспачкі. 240 тыс. тон горнай масы перапрацоўваецца ў суткі. Фабрыка абагачальная. 40 тыс. тон руды ў суткі. Камунікацыі адкрытыя, бо пад зямлёй іх разбурыць вечная мерзлата. Руды ўтрымліваюць да 52 элементаў, [выдзяляюць] покуль толькі 12. У 1962 годзе ў Талнах [вынайдзена] жыльная руда. Багата медзі, 11% нікелю, 1 тона багатай талнахскай руды кампенсуе 11 тон нарыльскай.

За 5 год 909 млн рублёў трэба ўкласці. Даць газ з Тазаўскага нафтаправода Тазаўск — Нарыльск. З уводам Талнаха прыбыль [павысіцца] у 20 раз. К 60 году прыбыль да 20 млн рублёў. 600 тыс. кв [м] жыллёвай плошчы [пабудаваць]. К 1970 году павінна быць [жылля] 9 кв м на чалавека. 6 тыс. чал. інжынерна-тэхнічных работнікаў.

Раней адтайвалі, зараз бурыцца глеба, ставіцца паля і глыбіня 8 м, дыяметрам 300 міліметраў. 6–7 тыс. рабочых па дагаворах. 11 тыс. камсамольская арганізацыя.

---

[1] Гл.: Падплываючы да Дудзінкі (28.07.64) // Неруш. Мінск, 1966. С. 80.

[2] Алілуеў Павел Сяргеевіч (1894–1938), ваенны дзеяч. У 20-я гады быў удзельнікам экспедыцыі Н. Н. Урванцава (1893–1985), даследчыка Арктыкі, доктара геолага-мінералагічных навук, які адкрыў вялікія паклады медна-нікелевых руд на рацэ Нарылка (займаўся пошукамі ў 1910–1920-х гг.). З 1925 г. П. Алілуеў — начальнік геалагічнай экспедыцыі.

[3] Гара Шмідта (раней — Мядзведжы вугал) названа ў гонар Ф. Б. Шмідта, які даў першыя канкрэтныя звесткі пра наяўнасць карысных выкапняў ў гэтых мясцінах.

Жыльныя руды знаходзяць пад украпленымі рудамі пад Тунгускай світай. Талнах [разлічаны] год на 70 ([калі здабываць,] як цяпер), а калі хутчэйшымі тэмпамі — [на] 40 [гадоў].

Мароз да 50°, а вецер у два разы павялічвае, снег праходзіць праз любую тканіну. Дырэктар Уладзімір Іванавіч Далгіх[1] (працуе 7 год). Элементарную серу (завозілі з Польшчы) трэба здабываць.

Рака Нарылка. Запрет, наледзь, нгупасан [?] накшталт хмелю. Жаркі — як жар гарадь. Тваімі рукамі жаркі заграбаць. У накамарніку, як у паранджы[2]. Забаронена. Марынка, год і тыдзень [ад нараджэння], чарнавокая маці і бацька, 3-ці год жыве. Трапяткая, як маладая галінка лістоўніцы.

Начальнік Усесаюзнай камсамольскай будоўлі Міхаіл Важноў (1936 года). Талнах на таліку, талым грунце, прыйшлося замаражваць штучна. 60 метраў, глыбіня ствала 312–320 метраў. Начальнік 3-га ўчастка (1935 года) Мельнікаў Мікалай Васільевіч. Вера Барысаўна Раме́нская.

*19 ліпеня*

Прафілакторый камбіната за кошт акружкома. Раннель[3]: «Нараджэнне Енісея», «Ля кастроў металургі». Нібы галінкі, пражылкі снегу з неба. «У нашым Нарыльску ўсе светы, якія ёсць», — Сяргей Міхайлавіч Марыліс — намеснік дырэктара Нарыльскага камбіната па агульных пытаннях.

*** Круцяць твіст аж да самай раніцы камсамольскія важакі (гарох, боб, кукуруза), самі як гарох пры дарозе. Запаляр'е, Нарыльск.

[Адрасы:] Гуськов Борис Васильевич (г. Норильск); Барысёнак (г. Нарыльск).

*20 ліпеня*

Мядзведжы ручай, мядзведзі хадзілі па маліну і зараз бываюць. У суткі 140 тыс. тон пароды, з іх 22 тыс. тон руды, 3 тоны — 0,330 гр металу.

*** Нарэшце Дзіма[4]. Прывёз з сабой пытанні: ну што там, ну як там? Кватэра Дзімкі. Букет жаркоў, цяжкая папяльнічка з-пад нечага. Скрынка з-пад пасылкі з Мінска. Талстога[5] поўны збор. Будзільнік.

---

[1] Далгіх Уладзімір Іванавіч (н. 1924), дырэктар Нарыльскага горна-металургічнага камбіната. Расійскі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Першы сакратар Краснаярскага крайкама КПСС (з 1969), сакратар ЦК КПСС (з 1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1965).

[2] Гл.: Талнашка ([7.08]64) // Неруш. Мінск, 1966. С. 82.

[3] Раннель Тойва Васілевіч (1921–2012), рускі мастак. Народны мастак РСФСР.

[4] Моркаўка Дзмітрый Аркадзьевіч, журналіст. Сын беларускага паэта А. Моркаўкі. Яму прысвечаны верш гл.: «Зоркі-выкрасанкі...» (15.08.74) // Свята пчалы. Мінск, 1975. С. 339.

[5] Талстой Леў Мікалаевіч (1828–1910), рускі пісьменнік.

Халасцяцкі ложак. «Рыбакі вудзяць рыбу» [карціна]. Штучная ёлка ў карабку, мішка маленькі звісае на нітачцы.

*Кватэра самага паўночнага сябра*

Паводле даведнікаў Нарыльск — самы паўночны горад. Дзмітрый Моркаўка, былы супрацоўнік «Чырвонай змены», а цяпер памочнік майстра медзеплавільнай печы — мой самы паўночны сябар.

Халасцяцкі пакой. На стале жаркі.
Маўчыць да наступнай змены будзільнік.
Над сталом на ваду глядзяць рыбакі,
Гадзіну сяджу — ані дрогнуць вудзільны.
Мой сябар затрымліваецца, аднак.
Чакаю. Над этажэркай схіліўся.
Падымаю вочы — сумуе адна
Капронавая ялінка.

Хоць троху падыхаць пахам смалы,
Відаць, захацелася мішку:
На нітцы павіс над цяснінай, малы, —
Над скрынкаю ад пасылкі з Мінску.

Ну як тут успомніш трывожны пах?
Упрошваць гаспадара дарэмна.
Хаця і ёсць у Нарыльску парк,
Ды ў ім аніводнага дрэва.
Ялінцы капронавай ведаць адкуль,
Як паляць пальцы суніцамі сцежкі,
Як свежай саломы куль
Хрумстае вецер ежкі.

Нарэшце — Дзімка!
Прывёз з сабой:
«Ну што там? Ну як там?»
— Зірні, пад ялінкаю — баравік сям'ёй.
Дзіма, чуеш лісіны яхкат?..

*Жнівень 1964*

За палярным полюсам можна два Новыя годы [сустрэць] на ТУ-104.

Чырванапёрыя рыбы, як міліцыянеры. Як Рабінзон Круза, на востраве быў міліцыянер двое сутак. Кандуктаршы — вясковыя дзяўчыны.

Пад зямлёй каранямі, над зямлёй лістамі кусціцца. Енісей, як аляня, скача.

Сібір, як Ярмак[1], для сябе адкрыў.

Тувінка, гнуткая, як веснавая травінка, стройная, як чарацінка, як страла.

Блакітная — завуць тувінцы Енісей. Прастор, як рэха даляў недасяжных. Блакітная Тува.

Сівы дзед трымае букет чырвоны, у кветках дагарае жыццё, маладосць. Дзед [зарабляе] на хлеб.

*** Коцікі [вярбовыя]— [завуцца] зайчыкавы лапкі.

Ілонка пашкадавала ката, давала морквы, — мурчыць, мокры.

Паранены помнік. Бурлак рэвалюцыі. «Начальства не можа разарвацца на часткі». Кабарга і аленяў зубы. Нарыс: «Дзеці былых партызан». Суддзя выпісвае «ЛіМ», паштовы работнік «Речное хозяйство».

У мамы спытаць, як выбіралі нявестку[2].

Для аўтабіяграфіі: мама, партызаншчына, будоўлі. (Аднаўляем рамантыку на дваццатыя гады, а ці трэба? Новае — Талнах.) Школа. Магільшчык паэзіі ўніверсітэт. Нацыянальнае (Тува і інш. зберажоная мова). «А чаму вы самі сябе не перакладаеце?»

«Няволі кліча рваць ланцуг» [«Інтэрнацыянал»].

«Чырвонка» [«Чырвоная змена»] — з Сяміжонам, не адразу пісаць, а няхай адкладзецца. Колькі давялося папакутваць, пакуль зразумеў, што галоўнае — думка. Школа Вялюгіна[3] — [чарнавы верш, прысвечаны настаўнікам] «Несастарэлыя старэйшыя».

Лётчыкі ёсць, і ёсць верталётчыкі, апошнім я не зайздрошчу.

Г. Бураўкін, эпіграф [з яго верша «Ліхтары»]:

*Ліхтары, як брусніцы,*
*будуць сніцца,*
*але раптам патухлі.*

Як дадому пойдзеш пеша,
Паабапал змрок алей,
Я табе ліхтар падвешу,
Каб ісці было святлей[4].

---

[1] Ярмак Цімафеевіч (?–1585), казачы атаман. Паходам каля 1581 г. пачаў асваенне Сібіры Расійскай дзяржавай.

[2] Гл.: Маці жонку выбірала //Дойны конь. Мінск: Б-ка «Вожыка». 1965. С. 36.

[3] Прысвечаны яму цыкл гл.: Год (12–15.09.63) // Неруш. Мінск, 1966. С. 12; Анатоль Вялюгін // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 110.

[4] Калектыўная сяброўская прасмішка (*заўв. Р. Барадуліна*).

Адзін старэйшы дзіцячы пісьменнік успамінаў маленства пастухоўскае: «Вучыўся я па святцах — па аўтабіяграфіях святых». Зал засынае, сыпле ўспамінаў «ляху, страху, труху». «Сябры, вы бачылі саху?»[1]

[Запіс без даты:] Ілья Гурскі[2]: «Узяць таго самага Талстога, і ў яго ёсць свае істотныя недахопы, дліннoты». Бачыў бранявік (з якога выступаў Ленін) і быццам бы нікога не заклаў.

«Сто год Інтэрнацыяналу, сто год ідзем, жывем, перамагаем, ніякія рэвізіяністы, ніякія дагматыкі не звернуць нас з дарогі» [ідэйны загадчык аддзела часопіса] «Дружба народаў» (М.).

*16 верасня*

«Якое харошае было некалі імя — Дуброўка[3], як далёкае рэха» (Ул. Караткевіч[4]).

* * *

Шматгранныя ў нас ёсць Гілевічы,
Ды мы сцвярджаем не адны:
Цягацца з Вовам Караткевічам
Ва ўсіх кароткія штаны.

* * *

А Фама і ў вус не дзьме,
Быць такім усім бы:
На зямлі ён у дзярме,
А ў бяссмерці з німбам.

*1963*

*** [Запіс без даты.] [Рыгор Іванавіч] хацеў падацца [на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Адказ быў:] «Хопіць разумнікаў» [пасля Караткевіча]. Рэзалюцыя Лапцева[5]. Можа [успомніў яшчэ], як Ваданосаў[6] здаваў «Меднага конніка»?

---

[1] Гл.: Добрая памяць // Журавінка. Мінск, 1973. С. 118.

[2] Гурскі Ілья Данілавіч (1899–1972), беларускі празаік, драматург. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР (1969).

[3] Гл.: Дуброўка (16.09.64) // Неруш. Мінск, 1966. С. 33.

[4] Гл.: Уладзімір Караткевіч // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 84.

[5] Лапцеў Юрый Грыгор’евіч, дэкан Вышэйшых літаратурных курсаў.

[6] Ваданосаў Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1923–2006), беларускі пісьменнік. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве ў 1959 г. У 1966–1972 гг. рэдактар выд-ва «Беларусь». Заслужаны работнік культуры БССР (1982).

Інтэрв'ю з роднай мовай для ўнукаў, ведай: дзядоўнік татарнікам [называлі], шашаля — шведам.

*17 верасня*

На старых кладах, на ялінах борці пчол. Душа даўно была твая, Латвія[1].

***Вёскі: Мілаславічы, Ціхінічы.

«O Litvo, ojczyzna moja» (A. Mickewicz). Беларусь, ездзіў, каб адчуць, як цябе не хапала, якая ты прыгожая. Толькі [ты] магла назваць дзядоўнік татарнікам, шашаля — шведам.

Стог жоўты, сто год, рабіны, дождж, пратрасіраваны зорамі. Хутар, вада з травінкамі, столь з чорнымі бэлькамі.

*Мой дзед, вясёлы Галвіньш[2].*

Баронскі дом. Хутар Бярозы. Світанне, туман, страха, запалая лістам. Студня з каменным грузілам. Ток прысадзісты, [прыцярушаны] саломай, як варсістай поўсцю. Рудольф Блаўманіс[3]. Прыслалі футру. Каласы, вянок. Беларусь рэкі раздала, выпускала з рукава. Іх пераймалі Райніс, Шаўчэнка. Сцягі праносяць.

Скривери, дом Андрея Упита[4], Виктор Ливземниек[5].

Няма нічога ў цыгана — а сонца іх[6]. Як і паэт нічога не мае.

Головин — galviņš. Грышка, продак, быў беларусам і прыстаў у прымы да Упіта, род пачаў Упітаў. Па-латгальску не толькі песні Райніса, але і Упіта з sābris [з сябрамі спяваў]; не толькі раку [ведаў], але плотніка [справу].

З'ездзіць у Янова. 2 снежня быць у Рызе.

Ногі, як выцягнутыя з вады лілеі, бялелі.

Класічны верш, як у клетачку з чырвоным абзацам, у тыповы рытм. Вольны [верш] — два разуменні: балталогія і стрыманы рытм, рыфмава-

---

[1] Мяркую, Дні літаратуры ў Латвіі адбываліся ў верасні 1964 г., за год да стагоддзя з дня нараджэння Я. Райніса., а не ў 1965 г., як значыцца, напрыклад, ва ўспамінах В. Ліўземніека (14 верасня) пра У. Караткевіча, бо з 1 жніўня па 8 кастрычнік 1965 г. Р. Барадулін разам з У. Караткевічам знаходзіліся ў «вайскова-творчай» камандзіроўцы на Далёкім Усходзе.

[2] Галвіньш (Галавін) Андрэй, дзед па маці, быў латышом. Гл.: Паэма жытняй скібе (1966) // Неруш. Мінск, 1966. С. 56.

[3] Блаўман (Блаўманіс) Рудольф (1863–1908), латышскі пісьменнік.

[4] Упіт Андрэй (1877–1970), латышскі пісьменнік, літаратуразнавец, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Латвійскай ССР (1943). Намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Латвійскай ССР (1940–1951). Акадэмік АН Латвійскай ССР (1946). Герой Сацыялістычнай Працы (1967). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946).

[5] Ліўземніек Віктар (сапр. Ліўзеніек; н. 1936), латышскі паэт, празаік, перакладчык, крытык. Быў рэпрэсаваны. Гл.: «Удары перуна…» (1966) // Неруш. Мінск, 1966. С. 59.

[6] Гл.: «Птушкамі колісь былі цыганы…» (15.11.64) // Тамсама. С. 45.

ны вольны верш — і добра, і вір рыфмы, і стрыманасць рыфмы, і забалтлівасць.

Быць у Латвіі і не бачыць дажджу, і [свята] Яна паказаць. Латгалія — краіна песняў. Латвія, плакаты. Маці Латвія, сцягі, коннікі, воплескі — пыл ляціць.

Як і Купала пра беларускую мову.

Апошнія плыты, бо ГЭС будуецца.

Самая прыемная праца — садзіць [дрэвы] Райнісу.

Паэзія па-латышску. … і паказаць, адкуль з'яўляецца паэзія.

Плаціну [будаваць] беларусы [прыйшлі наймацца] у белых кашулях. «Такія нам і трэба».

«Наша краіна невялікая, але калі б яшчэ Беларусь — тады будзем мець выхад да мора». Райніс цягнуўся да Беларусі. Аддаў доўг настаўніка — дух нацыі.

Міндоўг[1]: «Бяры дачку Індуліс. Твой разум, мая сіла, і мы возьмем».

Наконт Харыя[2] ў «Полымя».

У Райніса дзядзька накшталт няні Пушкіна, на руках насіў песні.

[Чужой рукой:] Jasmuiža — Ясмуйжа, деревня. Sudrabkalus Судрабкалн[3], выставка Лациса (1 день). Юлий Ванаг[4], Valdemar Kalpin[5], Заринь Маргер[6]. Поэты: Саулитис Бруно[7], Элксне Ария[8], Лисовска Олга[9], Балодис Андрей[10] и др., драматург Гунар Приеде[11] (деталь: [Приеде] — сосна, и посадил сосну). Лагановский Езуп[12], Damburs Edgar[13].

---

[1] Міндоўг (?–1263), вялікі князь літоўскі (каля канца 1230-х — 1263).

[2] Хірш Харый Мікелевіч (1937–2007), аспірант Літаратурнага інстытута імя М. Горкага. Латышскі літаратуразнавец, крытык.

[3] Судрабкалн (Судрабкаліс) Яніс (сапр. Арвід; 1894–1975), латышскі паэт. Народны паэт Латвійскай ССР (1947). Акадэмік АН Латвійскай ССР (1973), Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948).

[4] Ванаг (Ванагс) Юлій (1903–1986), латышскі паэт, драматург.

[5] Калпінь Вальдэмар (1916–1995), латышскі нарысіст, празаік, крытык, літаратуразнавец.

[6] Зарынь (Зарыньш) Маргер Отавіч (1910–1993), латышскі кампазітар і пісьменнік. Народны артыст СССР (1970). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951).

[7] Саўліціс Бруна (1922–1970), латышскі пісьменнік.

[8] Элксне Арыя (сапр. Фішэрэ; 1928–1984), латышская паэтэса. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Латвійскай ССР (1976).

[9] Лісоўска Олга (н. 1928), латышская паэтэса.

[10] Баладзіс Андрэй (1908–1974), латышскі паэт. Удзельнік падпольнага рэвалюцыйнага руху ў Латвіі.

[11] Прыедэ Гунар (1928–2000), латышскі драматург. Народны пісьменнік Латвійскай ССР (1988).

[12] Лаганоўскі Езуп (1920–1987), латышскі празаік, крытык.

[13] Дамбур Эдуард (сапр. Дамбурс Эдгар), латышскі крытык.

Смилгис Eduard[1]. Усё творчае жыццё ў Райніса першую ролю іграў. Усе інсцэніроўкі Райнісавай [п'есы] «Агонь і ноч». Глядзеў на гадзіннік, які падарыў яму Райніс. Народны артыст СССР, галоўны рэжысёр Мастацкага тэатра імя Райніса.

Иераним[2] і Калпынь арганізатары. Герой эпасу.

«Зямля зялёная». Skrivery — радзіма Упіта і Дом-музей. Яблыкі з саду Упіта. Падарыў Караткевіч.

Чатыры яблыні (колхоз «Падомʼю зе́мя» («Савецкая зямля») сяла Юмафда, хлеб і бульба з кменам). Бракі Блаўманіса Рудольфа (будучае імя Стучкі[3]).

Айзкраўкле — Заваронне, ГЭС. Затопяцца раёны, праехалі новай дарогай. Старая — унізе хат.

Харый Хірш — аспірант інстытута імя Горкага ў Маскве, літаратуразнавец і крытык. Вія Хірш — скульптар.

Дзе сядзеў Пётр I[4], побліз Плявінес (паляначка), луг.

Дзе захапілі 36 баронаў (помнік).

Калі мы былі ў Скрыверы, адкрылі мітынг.

Бруна Саўліціс — Гусеў па-літоўску.

[У музеі.] Kokle — накшталт цымбал. Крэсла, каб памыць нябожчыка, труна на гарышчы. Як на Палессі квас насіць, крупы заквашваць. Пасажная скрыня, год, калі зроблен сундук і калі замуж выйшла.

[Малюнак печы і жорнаў:] Як малых вадзілі, як млін збоку. Хамут, лён і сітнёг. Для збродлівай каровы бразготка. Вянок з дубовага лісця. На дзвярах клеці [кроў] зарэзанага чорнага пеўня, і з крыві штогод крыж рабілі.

Якоўска Меланія прыйшла бедная да Райніса, хацела вучыцца. Хацела вярнуцца назад, а назад вярнуцца — няма 5 латаў. «Не пойдзем назад, а пойдзем уперад», — я ўладкавалася на рабоце. Кончыла школу. «Толькі не хадзіце пакуль замуж». Ён сам быў як бог. На магільніку, калі ён памёр… І я не паехала дамоў. Я пайшла аддаць 20 лат, ён не браў».

---

[1] Смільгіс Эдуард (1886–1966), рэжысёр і актор. Народны артыст СССР (1948). Адзін з заснавальнікаў Мастацкага тэатра імя Райніса (1920). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947).

[2] Стулпан Еранім (1931–1981), латышскі паэт, нарысіст. Прысвечаную яму паэму гл.: Неба тваіх вачэй (26.08–1.09–3–6.11.66, Ушачы–547Кактэбель–Ушачы) // Адам і Ева. Мінск, 1968. С. 239.

[3] Стучка Пётр Іванавіч (1865–1932), дзяржаўны дзеяч. Юрыст. Адзін з арганізатараў КП Латвіі. Удзельнік рэвалюцыі 1905–1907 гг. У 1918–1920 гг. старшыня Савецкага ўраду Латвіі. З 1923 г. старшыня Вярхоўнага суда РСФСР.

[4] Пётр I (1672–1725), расійскі імператар (з 1721).

Сундук з дубу, сарцавіна выдзеўбана. На першым вянцы рабінавы крыж, каб пярун не грымнуў. У слупы [неразб. 1], як у шула. Зверху, каб не гніла. [Неразб. сказ.]

Яблоко не разладу, а дружбы, — Йеранім даў закусіць.

[Адрас:] Рыга, Літаратурны музей імя Яна Райніса. Ераніму Стулпану.

Васю [Зуёнку] пазваніць 23 верасня 93-7-12 (пасля 11–12 дня).

[*24 верасня]*

Не паспеюць напісаць — рускі пераклад. Пераклады дрэнныя — Семяжонавага перакладу няма.

Брэжнеў[1] па-ўкраінску [размаўляў] з Паповічам[2] і Прытыцкім[3].

Бабіна лета — маміна гэта сонца[4]. Летам не бачыла лета, хаця увосень перад зімой.

Як пайду я на рэчку
Платкі праць,
А як зайдуцца мае ручанькі,
Хоць ты плач…

*20 кастрычніка*

12.10 Мядзведзь [Нядзведскі] не захацеў выпіць, а выпіў за сябе.

*** Magistrat м. Grodna, як старажыл, спакойны сам замак, як успаміны. Мутная Гараднічанка, лапкі гусей відаць на дне, на схіле козы.

Заяц варыць піва.

Бураўкін. *Сноп стаўляе на папа́ — бязвусая шантрапа.*

Вочы ад асалоды звузілі.

Баба кажа Ілонцы: «Ой, малая, ты кату па пяту». Лана кажа: «Не, памералася з катом».

Ілонку [мама] водзіць да студні, паказвае, дзе вадзіца жыве. Іду следам і ступаю ў цёплыя сляды.

Аўтабіяграфію пачаць з вячэрняга звона. Гісторыя вяртання на радзіму, тут і Багдановіч.

---

[1] Брэжнеў Леанід Ільіч (1906–1982), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1964–1966 гг. Першы сакратар ЦК КПСС. З 1966 г. Генеральны сакратар ЦК КПСС, адначасова з 1977 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1961), Герой Савецкага Саюза (1966, 1976, 1978).

[2] Паповіч Павел Раманавіч (1930–2009), лётчык-касманаўт СССР, Герой Савецкага Саюза (1962, 1974). Кандыдат тэхнічных навук.

[3] Прытыцкі Сяргей Восіпавіч (1913–1971), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1932–1939 гг. удзельнік падполля ў Заходняй Беларусі. У 1944–1945 гг. начальнік Польскага штаба партызанскага руху. У 1962–1968 гг. сакратар ЦК КПБ, з 1968 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

[4] Гл.: «Ліст высах, ззалелы…» (13–14.11.64) // Неруш. Мінск, 1966. С. 54.

Для аўтабіяграфіі: «Чытайце, зайздросце, маладыя…» Бочкін гаварыў пра Твардоўскага[1].

Вершы камандзіровачна-паездная характару. Раман Караткевіча больш сучасны, чым нарыс М. Паслядовіча[2] (Тува. Паэты).

«Таксама творчасці сваёй не ведаю, як класік» (сланечнік, кіно).

Вайна дала самыя вяршыні паэзіі. І рэвалюцыя. Штучна аднаўляем рамантыку. Трэба новае. На Бярозаўскай ДРЭС. Колькі плоцяць? Руска-ўздзенскі слоўнік [пра слоўнік К. Крапівы].

«Ардэнаносец, а памёр…» Апошні час мода — унізе падпісваць «рабочы», «каменшчык» і г. д.

Успамін. Ударнікі (росцім графаманаў, самая страшная сіла. Аднаго па Галоўпаштамце [ведаю]. Каб саюз графаманаў).

Малады паэт. Я помню, як прэзідыум вырашаў і пастанаўляў лічыць П. Прыходзьку[3] не маладым. Смешна.

Зам. мовы. Дзед каля шасцідзесяці чытае Хікмета[4] ці іншага — чую — падрадкоўнік. Узахады ходзім — выдумаў. Семантыка. Слуцкі[5].

Цаліна. Ю. Новікаў, Лукша[6].

Боты. Немец. Не храбрыся па смерці Сталіна. Сурганаў[7] думка тая ж. XXII з’езд.

Па радыё: «Чаму клас не паехаў на новабудоўлю?» — А сам так і не адказаў.

---

[1] Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч (1910–1971), рускі паэт і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Ленінскай прэміі (СССР, 1961), Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1946, 1947, 1971). Гл.: Аляксандр Твардоўскі // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 23.

[2] Паслядовіч Макар Трафімавіч (1906–1984), беларускі пісьменнік.

[3] Прыходзька Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1920–2006), беларускі паэт. У 1961–1966 гг. працаваў на мінскай студыі дакументальных фільмаў. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1985). Гл.: Пятро Прыходзька // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 42.

[4] Хікмет Назым Ран (1902–1963), турэцкі паэт, празаік, сцэнарыст, драматург і грамадскі дзеяч. Пачынальнік турэцкай рэвалюцыйнай паэзіі.

[5] Слуцкі Барыс Абрамавіч (1919–1986), рускі паэт.

[6] Лукша Валянцін Антонавіч (1937–2012), беларускі паэт. З 1961 г. літсупрацоўнік полацкай газ. «Сцяг камуніста», загадчык аддзела міжраённай газ. «Ленінская іскра» (Полацк). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (1994), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996).

[7] Сурганаў Фёдар Анісімавіч (1911–1976), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1942–1945 гг. сакратар ЦК ЛКСМБ, удзельнік партызанскага руху. У 1959–1962 другі сакратар ЦК КПБ.

Харошыя паэты слаба вядомы, а Робат[1] — вядомы. Па Енісеі плыў — пытаю: хто Ваш любімы [паэт], Роберт адказвае «Пушкін», таму што Робат у «Юности».

У Літве Чурлёніс[2]. Размова з Межэлайцісам[3].

Адзін мой друг пра Балгарыю — лінолеум [Н. Г.].

Мірскі замак. Помнік рускім воінам 1812 года, таму што з арлом, айцы горада ўзарвалі. А ў Літве — Тракай. Талін, гарадская сцяна [уведзена] ў Дом урада. У Смаленску на замчышчы пабудавалі Палац спорту. Я пісаў пра Сафійку[4]. У Віцебску.

Стандартызаванае мышленне — усе паркі імя Горкага, толькі ў Гомелі і ў Кызыле імя Гастэла[5] (а хіба гэта імя не ўпрыгожыла [б] адзін з нашых паркаў?). Вуліцы Савецкая і Камсамольская. Я разумею — вул. Сталінградская ў Парыжы.

Песня, як і дзяўчына. «Падмаскоўныя вечары» сталі сучасным «Шумел камыш».

«Інтэрнацыянал» — вечны.

Боязь паказацца правінцыяй паказвае правінцыяльнасць.

Усе пішуць ва ўспамінах, што́ старэйшыя куплялі. Караткевіч [заказваў] двайную порцыю сасісак, і падстрыгаў.

Першы ганарар — [напісаў] Бляхману Лазару сачыненне — [атрымаў] цукеркі.

Нялоўка заўсёды выступаць на заводах у час работы.

Правінцыя і цэнтр. Быкаў[6]. «Калі чую пра тамы, падпісаныя ў класікаў, то ў Быкава толькі пра літаратуру», — Пысін.

---

[1] Раждзественскі Роберт Іванавіч (1932–1994), рускі паэт. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1972), Дзяржаўнай прэміі СССР (1979).

[2] Чурлёніс Мікалоюс Канстанцінас (1875–1911), літоўскі мастак і кампазітар.

[3] Межэлайціс Эдуардас (1919–1997), літоўскі паэт, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Намеснік старшыні Прэзідыума Літоўскай ССР (з 1975). Народны паэт Літоўскай ССР (1974). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Ленінскай прэміі (СССР, 1962).

[4] Гл.: Сафійка (8.03.63) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 65.

[5] Гастэла Мікалай Францавіч (1907–1941), беларускі лётчык. Герой Савецкага Саюза (1941).

[6] Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924–2003), беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). У 1956–1972 гг. літсупрацоўнік, затым літкансультант газ. «Гродненская правда». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1978), Ленінскай прэміі (СССР, 1986). Прысвечаны яму верш гл.: Бусел (5.05.62) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 57.

Наконт робатаў[1]. Робаты з поспехам заменяць графаманаў. Прынамсі, спакойна можна адключаць. А графамана — не.

У доме паэта пра вершы не гавораць.

Местачковец Даўгаполаў насіў паліто з сапраўды даўжэзнымі поламі.

Прыслаць маме: масла 1,5 кг, каўбасы 3 кг (мяккая і цвёрдая), белага чаго-небудзь, сушак 2 кг, 2 батоны, лімонаў. Вязанку нямецкую, камізэльку.

Любіліся-кахаліся,
Як ластаўкі ў стрэсе.
А цяпер жа рассталіся,
Як пчолачкі ў лесе.

«Бацька на фронце загінуў. Хлусяць, хаця вайна даўно [мінулася]. Як адчуваюць сябе бацькі, якіх сыны жывымі пахавалі?»

Зусім жоўтыя дрэвы, як соты (сасна восенню). Мох — зязюльчын лён. Вось набегла зіма-халадуха.

Ала Пугачова[2] загарнула хатні [адрас] і прачытала радкі.

[У дадатак[3].]

---

[1] Гл.: Пра робатаў // Дойны конь. Мінск: Б-ка «Вожыка». 1965. С. 50.

[2] Пугачова Ала Барысаўна (н. 1949), руская эстрадная спявачка, кампазітар, эстрадны рэжысёр. Народная артыстка СССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі (1995).

[3] Гл.: Дзякуй роднаму слову! (1964) // Парастак радка, галінка верша. Мінск, 1987. С. 3.

## 1965

*20 красавіка*
«Полымя», «Вожык».

*21 красавіка*
Корзун[1] і Цэнтральны кніжны.
Саюз — наконт вуліцы Райніса.
Кніжны на Кірава (забраць).
Шырма[2]. Emil Darziń[3].

*22 красавіка*
Зуёнак для «ЛіМа».
«Дойны конь»[4].

*23 красавіка*
93-4-23 (Вася [Зуёнак]). Авяр'ян [Дзеружынскі], Рэм[5]. Вялікдзень. Саюз (камандзіроўка). «Амерыка». Хімчыстка. Дануце[6]. Пасля 9 званіць Шырме.

У «Звязду». Тарасу[7] [Валянціну] на пераклад.

---

[1] Корзун Мікола (Мікалай Паўлавіч (1934–1995), беларускі дзіцячы пісьменнік. У 1960-я гг. працаваў у Інстытуце эканомікі і арганізацыі сельскай гаспадаркі і завочна вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага.

[2] Шырма Рыгор Раманавіч (1892–1978), беларускі харавы дырыжор і фалькларыст. Народны артыст БССР (1949). Народны артыст СССР (1955). Герой Сацыялістычнай Працы (1977).

[3] Дарзінь (Дарзіньш) Эміль (1875–1910), латышскі кампазітар, музыкальны крытык, харавы дырыжор.

[4] Барадулін Р. Дойны конь. Мінск: Б-ка «Вожыка». 1965. (Падпісана да друку 5.03.65.)

[5] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934–2011, ЗША), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кінасцэнарыст, публіцыст. У 1965–1976 гг. старшы рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Прысвечаны яму верш гл.: Мікрараён (06.1962) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 22.

[6] Бічэль-Загнетава Данута Іванаўна (н. 1938), беларуская паэтэса. З 1962 г. настаўніца беларускай мовы і літаратуры ў школах Гродна. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1984).

[7] Гл.: Валянцін Тарас // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 24.

*24 красавіка*

[Рукой Валянціны Міхайлаўны:] Пазваніць Ю. Багушэвічу[1] наконт кнігі для Ватацы[2].

У саюзе наконт Ларысы Антонаўны[3]. Генку [Бураўкіну] «Народы мира» [энцыклапедыя], рэцэнзія.

*25 красавіка*

Вялікдзень!

*26 красавіка*

10 гадзін Рэм [Нікіфаровіч]. Сказаць наконт «Крэсіва». Шырма.

*27 красавіка*

Шкляра[4] 4 дня, К-9-05-27, інтэрнат пасля 11 вечара, І-6-13-01.

*28 красавіка*

Плакат «Дзеўка з кветкамі», і глядзіць вясёла, 3-22-04, гарадская (12 гадзін).

*3 мая*

39-6-81 з 11 Раман[5]. 10, Маладзёжная [рэдакцыя БТ], Ізотаў[6], плакат («Беларусь»), Хао[7] тэкст, Гатоўку[8] вершы.

---

[1] Багушэвіч Юрый (Георгій Канстанцінавіч; 1917–1983), беларускі пісьменнік, сцэнарыст, перакладчык. У 1949–1955 гг. працаваў у рэдакцыях газ. «Піянер Беларусі», «Мінская праўда», «Фізкультурнік Беларусі», у 1955–1957 гг. пастаянным карэспандэнтам газ. «Советский спорт» па Беларусі, у 1957–1960 гг. літкансультантам СП БССР, у 1960–1964 гг. галоўным рэдактарам Мінскай кінастудыі навукова-папулярных і дакументальных фільмаў.

[2] Ватацы Ніна Барысаўна (1908–1997), беларускі бібліёграф і літаратуразнавец. У 1945–1990 гг. працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна на пасадах ад памочніка бібліятэкара да галоўнага бібліёграфа. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР (1963).

[3] Геніюш Ларыса Антонаўна (1910–1983), беларуская паэтэса і грамадскі дзеяч. У 30–40-я гг. сакратар урада БНР (у эміграцыі, Чэхія). Была рэпрэсавана (1948–1956). Жыла ў г. п. Зэльва. Гл.: Унучка Францішка Скарыны, альбо Зэк № 0-287 // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995.

[4] Шклярэўскі Ігар Іванавіч (н. 1938), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987), Пушкінскай прэміі Расійскай Федэрацыі (1999).

[5] Тармола Раман Якаўлевіч (1936–2011), беларускі паэт, сцэнарыст. У 1960-я гг. працаваў старшым рэдактарам, загадчыкам літаратурна-драматычных праграм, каментатарам па літаратуры і мастацтве Беларускага тэлебачання.

[6] Ізотаў Анатоль, беларускі музыкант.

[7] Хаўхлянцаў Мікалай Іванавіч (н. 1926), беларускі хормайстар. У рабочым нататніку яму прысвечаны верш гл.: Каляндар (1965) // Неруш. Мінск, 1966. С. 133.

[8] Гатоўка Баляслаў Міхайлавіч, беларускі журналіст, паэт.

*4 мая*

4 гадзіны дня тракт[1]. 12.50 Хао. Пединстытут 5-ты паверх. Канцэртная зала.

*5 мая*

20.30 перадача. Быць без 10 20 у Рамана [Тармолы]. Семяжону дзіцячыя вершы. 3 гадзіны тракт. Бунін[2], [часопіс] «Знамя», Еўтушэнка[3].

Ханум[4], дзень нараджэння.

*9 мая*

Рэм [Нікіфаровіч]. Шырма. Хао [Хаўхлянцаў].

*10 мая*

Мінковічу[5] фота, дзе я з [Міхаілам] Ягоравым[6]. Вялюгіну, каб ручку Клышко. Рэма [Нікіфаровіча] Шэкспір.

*11 мая*

Ігар[7] «Мудрые мысли». Геніюш, вул. Райніса.

*15 мая*

Рэлес[8] 6-24-33, 6–7 вечара.

*16 мая*

Рэлес раніца 10–11.

---

[1] Тракт (сувязі) — тэхнічны тэрмін пры запісе на тэлебачанні.

[2] Бунін Іван Аляксеевіч (1870–1953), рускі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1933).

[3] Еўтушэнка Яўгеній Аляксандравіч (н. 1933), рускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РФ (2009). Тройчы намінаваўся на Нобелеўскую прэмію.

[4] Маўджуда Х. (сапр. Хакімава Маўджуда; 1932–1993), таджыкская паэтэса. Рэдактар газ. «Пионер Тоджикистон» (г. Душанбе). Пазнаёміліся на з'ездзе латышскіх пісьменнікаў у 1965 г. Ёй прысвечаны вершы «Ты — мой трывожны ўспамін…» (3.01.66), Рыжскія рукавічкі (10.01.66, Уладзівасток), «Дзіўнае імгненне» (15.01.66. Неруш. Мінск, 1966. С. 131 і С. 115), «Калядна-белы бераг…» (5.01.75. Абсяг. Мінск, 1979. С. 110), «Наведваю забаронны горад» (31.08.90. Пекін — Далянь. Міласэрнасць плахі. Мінск, 1992. С. 195) і інш.

[5] Мінковіч Міхаіл, фотакарэспандэнт час. «Беларусь» і БелТА.

[6] Гл.: Міхаіл Ягораў // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 8.

[7] Краўчанка Ігар Уладзіміравіч (н. 1926), беларускі скульптар.

[8] Рэлес Рыгор Львовіч (1913–2004), яўрэйскі паэт і празаік. У 1947–1973 гг. выкладчык рускай мовы і літаратуры ў вячэрніх школах рабочай моладзі Мінска.

*24 мая*

Саюз, Райніс. Геніюш. Насці[1] [ваду] «Есентукі». Выдавецтва. Акунькова [журналістка] тэле. Мальдзіс[2] наконт Баршчэўскага[3] (хай вышле «Маладыя галасы»).

*26 мая*

Дзея III. Канец, Улдыс — Орта. «Адгукніся! Ба[рбінька, гу!»] Пасля голасу [Барбы: «Хто там ёсць?» — Орта: «Нясі,] адна я. Спяць яшчэ [ўсе]»[4].

*29 мая*

Ася Анатольеўна 2-02-49. Да 4.30. Калі Хава [Хаўхлянцаў] волен у нядзелю? Геніюш, творчыя камандзіроўкі. Ваенныя зборы.

*** Дзявочыя прыколкі на падлозе ў хаце, дзеці Хао, як ігліца з апалай красы. Наадварот: у бары хваінкі, як прыколкі-невідзімкі[5].

*13 чэрвеня*

11 гадзін Шырма. Слова Хао [Хаўхлянцава].

*15 чэрвеня*

Артыкул для «ЛіМа».

*20 чэрвеня*

Выслаць Хао [Хаўхлянцаву] № пашпарта. Кавалерыйская, 15, кв. 52. Хао. Указаць дзяцей.

*25 чэрвеня*

Узяць:

1. Блакноты з накідамі.
2. Латышска-рускі слоўнік.
3. Пецёфі[6] (3 тамы).
4. Купіць дамоў беларуска-рускі слоўнік.
5. Брудныя кнігі для падрадкоўнікаў.

---

[1] Трафімава Анастасія, жонка Трафімава П. А.

[2] Мальдзіс Адам Восіпавіч (н. 1932), беларускі пісьменнік і вучоны-філолаг. З 1962 г. навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Доктар філалагічных навук (1987), прафесар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).

[3] Баршчэўскі Алесь (псеўданім Барскі Аляксандр, н. 1930), беларускі пісьменнік Польшчы, навуковец. У 1956–1975 гг. супрацоўнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Доктар філалагічных навук.

[4] Райніс Я. Ветрык, вей!: Народная песня ў пяці актах. Пер. Р. Барадуліна. Мінск, 1965. С. .99.

[5] Гл.: «Зводніца-ноч...» (9.02.68) //Рум. Мінск, 1974. С. 57.

[6] Пецёфі Шандар (1823–1849), венгерскі паэт.

6. «Лета» кафэ пр.
7. Насці «Есентукі».
8. Адаслаць Дануце [Бічэль-Загнетавай].
9. Даведацца наконт «Советского писателя».
10. Сазваніцца з Рыгай.
11. Каб [Валянцін] Тарас пераклаў сібірскую падборку.
12. Дагавор наконт перакладу Б. Сарына.
13. Адаслаць кніжку.
14. Купіць (якія ёсць).
15. Схадзіць у «Маладосць».
16. Закончыць артыкул для «ЛіМа».
17. Матэрыял наконт [зямлячкі] Лявонцевай Олі нарыса.

Узяць Этымалагічны слоўнік.

Дакументальны фільм (пазваніць).

Для Віцязя [Караткевіча] Мартынаў «Гіанея»[1] выслаць.

*[Ліпень]*

***Ілонка: «Мама, дай мне дах (страху)», — на парасон. «Не хачу, не буду. Ай!»[2]

Пасцілку насілі, каб вокны запяць, тады ў кіно пусцяць, [беглі] навыперадкі, хто раней, каб другія не перасцігглі. А ў нас пасцілка свіцілася.

А на векавых соснах борці. Сосны як обречённые і вочы ў здзіўленні на дамавіну. Адна сасна рукі на сябе налажыла — звесіла галаву, зламалася. Крыж расставіў рукі, не хоча, каб заўчасна ніхто не ішоў у зямлю[3]. Бляшаныя каганцы, смала — у іх. (За душу сасны памаліцца.)

*Кніга*: Над кнігаю [схіліўся] і пакуль разабраў па складах, доўга слухаў, а потым «кні-гаў-ка», ад дзіва дзіда ўпала з рук, галаву задраў угору і сказаў радаснае: «Жаўрук»[4].

Светлы васільковы змрок гарыць, гарыць у адвячорку. Хата пад буслам, ціхім жыццём у маёй душы адгары васільковым змрокам светлым. Над возерам вечарам сяджу. І з даверам каля мяне праплываюць дзікія качкі.

Суседка старая на Валю: «Дачка ці нявестка? Дробненькая, маладзенькая. А ці ўмее яна жаць?»

---

[1] Аповесць Г. Мартынава. Мартынаў Георгій Сяргеевіч (1906–1983), рускі празаік.

[2] Гл.: Ай! Не буду! Не хачу! Мінск, 1971. (Зборнік вершаў для дзяцей.)

[3] Гл.: Лясныя клады (23.03.66) // Неруш. Мінск, 1966. С. 134.

[4] Гл.: Лінія перамены дат: Паэма (17–31.01.67, Ушачы) // Лінія перамены дат. Мінск, 1969. С. 67.

Баба дала Ілонцы вяргіні. Яна: «Гэта трэба ў букет паставіць». Бычок-багавічок з кароўкаю-багоўкаю ішлі. Дождж. Накрапаў, шоўк стаў у крапінкі.

*Цырк:* У лесе аб'ява пра набор у цырк. І ўсё адсюль (для Жэні Куліка[1]).

Ілонка бабе: «Ты куды?» — «К Добкінісе, к яўрэям». — «А кліўрэі кусаюцца?» Ілонка сказала нешта недазволенае. Маці паглядзела. «Прасі прабачэння, мама, я болей не буду».

*16 ліпеня*

СП. Шамякін[2]. Алер[3], «Есентукі». Авяр'ян [Дзеружынскі] 25 %, выпісаць ганарар.

*21 ліпеня*

Дракахруст[4] да 9-ці.

*29 ліпеня*

Ігар Канстанцінавіч Баразна[5]. Сангігіенічны факультэт. Вадзім, Стальмашонак[6].

*30 ліпеня*

Апарат Генка. У «Вясёлку» верш. У саюзе адносіну (Алешка[7]). Чаравікі, чамадан, парадкоўнікі Ліўземніеку.

*** Фама[8] пераклаў у «Арараце» [у Маскве, афіцыянцы]: «Длинных Вам лет и долгой жизни».

---

[1] Кулік Яўген Сяргеевіч (1937–2002), беларускі мастак, кніжны графік. Аўтар эталону герба Пагоня ў якасці дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь у 1991–1995 гг.

[2] Шамякін Іван Пятровіч (1921–2004), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). З 1954 г. намеснік старшыні, з 1966 г. сакратар, з 1968 г. другі сакратар СП БССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне тэатральнага мастацтва, кінематаграфіі, радыё і тэлебачання (1982).

[3] Алер Фаня Яфімаўна (1904–1985), дырэктар Літфонда СП БССР. У 1938–1946 гг. дырэктар Першага Беларускага дзяржаўнага тэатра (БДТ-1).

[4] Дракахруст Аляксандр Абрамавіч (1923–2008), рускі паэт, перакладчык, ваенны журналіст. У 1964–1971 гг. карэспандэнт газ. Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі «Во славу Родины».

[5] Магчыма, сын школьнага настаўніка К. П. Баразны (п. Ушачы).

[6] Стальмашонак Уладзімір Іванавіч (1928–2013), беларускі мастак, педагог. Народны мастак Беларусі (1988). У 1957–2000 гг. выкладчык Беларускай АМ. Старшыня праўлення СМ Беларусі (1965–1968). Заслужаны дзеяч мастацтва БССР (1985).

[7] Алешка Антон Антонавіч (1913–1971), беларускі пісьменнік. Супрацоўнік СП БССР.

[8] Нейкі час У. Караткевічу дакучалі званкамі па тэлефоне былому гаспадару кватэры Фаме Фамічу.

2 начы нашай, Омскі аэрадром, світанне. На крыле ля ілюмінатара ў тумане, як марсіянін, ходзіць нейкі борт.

Напусти, боже, смелость на робкую душу.

*1 жніўня*

Уладзівасток[1]. (Арангутанг развітваецца. Сцюардэсы пяюць.) Тубыльскі танец. Морвакзал.

Причаливай, ладьи восторг,
В дыму по горло город.
Привет тебе, Владивосток,
Для сердца близкий город.

*** Наш маёр Валерый Паўлавіч Зайцаў.

Пералёт праз тры раніцы. Тут узыходзіць сонца. Мама, я пакаціў бы сонца, каб раней (на плячах, на руках).

Тут я з сонцам магу дамовіцца, калі хочаш паспаць (стамілася), пачакае; калі трэба раней — паспяшаецца [неразб. 1] на Ушачу…

Скубе маёй чупрыны заінелы стог вільготнагубы вецер. «Осэлэдэц» хмары, як у старога казака, у лысай сопкі.

*2 жніўня*

Залаты Рог. Бухта, карабель. Рогі нясуць.

Яна маўчала пад штурманам,
А ён буркаваў ёй турманам.

Туалеты, партрэты ў стылі тубыльцаў. Лыка не вязалі.

*** Зыбаўка (бруі), цёмна-сіні, з адлівам, месяц. Гавань, б'юцца ў бераг трэскі, скрынкі, кавалкі фанеры, дзіцячы мячык; пах мора, агеньчыкі ажываюць на мачтах.

*3 жніўня*

Марскі экіпаж. Хлебны квас. Прымерка [абмундзіравання]. Бразготкі. Палітупраўленне. Рэдакцыя. «Радасная» сустрэча. Падводнікі. Тубыльскі таксарух. Міністра Манголіі рэклама.

*** Інтэрнат падводнікаў, начальнік клуба Белянкоў (арганізуе ўсё. Платныя выступленні). Алег Дабравольскі, штурман падводнай лодкі.

Уладзівасток — горад сакрэтны: ні ў кога не спытаеш, куды й як прайсці, нідзе няма шыльдаў прыпынкаў трамваяў.

---

[1] Ваенныя зборы ў газ. Ціхаакіянскага флоту «Боевая вахта» (разам з У. Караткевічам і Г. Кляўко. Кляўко Генадзь Якаўлевіч (1932–1979), беларускі паэт. У 1961–1973 гг. літсупрацоўнік, адказны сакратар час. «Вожык»).

Адразу неяк нязвычна, што няма ніводнага нумара тэлефона, куды б пазваніць.

*4 жніўня*

Радыё будзіць раніцай. Сібірскі беспадобны кот. Праспалі снеданне. Горад. Гістарычны ваеннны музей (кірха ці касцёл). Фашкуль Р., [газета] «Красное знамя».

Фотавыстаўка. Дундук у СП. Прыём у рэдакцыі. Жанчыны ў мужчынскіх шкарпэтках.

*** Васёк ловіць начніцу, яна каля люстэрка на сцяне.

*5 жніўня*

Рэдакцыя. Шукаў забытыя [газетныя] штампы. Жах. Х. Тапарык [журналіст] тыпу Шкляры [Шклярэўскага]. Дождж з раніцы да вечара. Настрой дрэнь. Нецелі і бык Генка [Кляўко].

*** Галькай высланы трамвайны шлях, буйнай, адшліфаванай. Прыбой выбівае гальку адшліфаваную, як старажытныя манеты, конская падкова нават.

Пагода, як тая жанчына гуляшчая, сёння з адным, а заўтра — з другім. Пасля дажджу ласкавеюць сопкі, зялёныя.

*6 жніўня*

Дождж. «50-годдзе творчай дзейнасці кіраўніка агітбрыгады Еўсілевіча Абрама Міхайлавіча». Порт. Рыбакі. Кацярок, абчапляны шынамі, а больш сеткамі.

*** У пісьмах да запатрабавання амаль усе канверты — бела-сіне-чырвоны кант. Строй матросаў са спіны, як хвалі з пенай. *А клёши новые гребут асфальт.*

*7 жніўня*

Сфатаграфаваліся для пасведчання. (Гузік ад пагона. Будкаў кіцель — Фама [Караткевіч], як цяля ў валовым хамуце.) Бібліятэка. Мяне няма. У гардэробе прапанавалі нам афіцэрскія шапкі.

*8 жніўня*

Пляж. Карэянка[1]. Фама [Караткевіч] — птушка драпежная. Галька, хвалі. Падкова. Як паплавок нырае. Хваля выкідвае, як гальку абточаную, салёную, як сама.

Кіно пра Шаўчэнку. «Пятроў, на выхад».

Вавёрачка ў коле (дома грэчаскі мысліцель). Духата.

---

[1] Гл.: Карэянка (1.09.65) // Неруш. Мінск, 1966. С. 108.

*** Азія: вочы прарэзаны касымі промнямі сонца ранішняга. Грудзі — сонца, пакуль заходзіць надумала. Міс Азія: вочы — промнямі сонца косага, грудзі — сонца за сопкамі[1]. У чырвонай сукенцы (пунсовай) ноччу запаленай цыгарэткай свяцілася карэянка (японка).

*9 жніўня*

Ранішняе мора. Мядуза. Ніякай ахалоды. Карэянка. Без вячэры. «Гибель «Варяга» пад душам [спявае Караткевіч]. Эдзік, Ленінград блакіраваны.

*** Уладзівасток як усё роўна ў моры выкупаўся (у цёплым) і разамлеў.

«Шляхамі далёкіх выраяў»[2]. Адступленні пра Беларусь і так, і ў выглядзе сноў, каб прачнуцца — і дома. Заключэнне: «Ем сырую зайчыну...» (ці ўступ).

У трамваі плача малы. Маці палохае:

— Аддам міліцыянеру.

— А дзе яна?

— Вунь стаіць.

[Міліцыянеры — жанчыны.]

Изверг с извергицею
Кинулись в амбицию.
Их же за амбицию
Повели в милицию.

У пінгвіна крылы, як рукавы. Здаецца, накінуў паліто наапашкі і заціснуў крыссі, а рукі ў рукавы засунуць паленаваўся, так і тэпае сабе, толькі мацней захінаецца ад завеі.

«Лінія перамены дат».

*Любовь моя безбрежная, как Тихий океан, да здравствует...* Верш пра спатканне. Назначыў — вайна і г. д.

*10 жніўня*

Піва па-ўладзівастокску — сядзець на кукішках. У слоіках. Фота далі. Жах. Стары бальшавік: «Масліцэ, галубушка».

«Мама, пасалі ваду. Во, лягчэй».

---

[1] Гл.: Міс Азія (23.03.66) // Рум. Мінск, 1974. С. 180.

[2] Адна з назваў паэмы «Лінія перамены дат» (17–31.01.67. Ушачы) // Лінія перамены дат. Мінск: 1969. Паэма прысвечана Г. Кляўко.

*11 жніўня*

Прыём у Чарнышова[1]. Абяцанне паездкі па краі. Генка — дублёр дзяжурнага. Вечарам у Юркі Рудага[2]. Беднасць. Правінцыяльнасць выданняў.

*12 жніўня*

Нарэшце атрымалі корачкі «Боевой вахты» стажораў». Ашчаслівілі. Гаўрыла [журналіст] абяцаў мора — сарвалася. Камандзіровачных не будзе. Весела.

*** [На першай старонцы запісной кніжкі «Боевая вахта» аўтограф Г. Кляўко:]

*Рыгору Барадуліну*

Павер мне, дружа, верыць я пачаў:
На свеце не адзін, а два багі.
Бо столькі год нас першы разлучаў,
Навекі пазнаёміў нас другі.

*Ген. Кляўко*

*13 жніўня*

Генадзь Якаўлевіч [Кляўко] атрымаў аванс. Капітанша. «Камсамолец».

*14 жніўня*

Гаўрыла. Гімнастыка на сопках. Гадзінік і штаны. [Спірт] 50°.

*15 жніўня*

5-ты пакой. Кірыл Трафімавіч [падводнік]. Хлопцы-падводнікі.

*16 жніўня*

Сталоўка. Шашлычная. Сопкі. Туалет на сопцы. Палын — у рост чалавека. Раніцай пеўні. І ручаінкі цякуць.

*** Накшталт: «В ручьях, где плещется форель». У сопках удава. Палыны. Туманы спускаюцца з гор. Ручаі следам. У дзвярах дзве гваздзічкі. «Муж?» — «Сабакам сена касіць»[3].

[Туманы], як над катлом з вушацкай бульбай сопкай.

---

[1] Першы сакратар Прыморскага крайкама КПСС. Партызаніў у Беларусі, працаваў у ЦК КПБ.

[2] Руды Юрый Леанідавіч, журналіст.

[3] Гл.: Дом на сопцы (12.01.66. Уладзівасток; у рабочым блакноце верш, прысвечаны Г. Кляўко) // Неруш. Мінск, 1966. С. 102.

*17 жніўня*

Вяртанне да Фамы [Караткевіча]. Зуб. Гаўрыла. Частунак па-туземску. Мара пра мора, а зараз даслужваць. Надбаўка. Вечар — 13-ты пакой.

*18 жніўня*

Вяртанне да «отца родного» [галоўнага рэдактара «Боевой вахты»]. Узаемарадасць. Заўтра Стральцоў[1]. Відаць, пашлюць некуды. 13-ты нумар у клініцы. Зуба як не было.

*19 жніўня*

Прыехаў «Дзекабрыст». Вугальная база. Усходы [назва мясціны], капітан. Генка[2] на вахту. Капітан. Балабоўка — (Бальшакоў[3]).

[Адрасы:] Судаковы (г. Уладзівасток); Сцяпанаў Яўген Міхайлавіч (г. Уладзівасток).

*20 жніўня*

Раніцай электрыка. Генка. Галубінка. Бічы. «Хваля». Рыбіна. Яшчэ рыбіна. Дастаўка рыбін. Гнеў Фамы [Караткевіча].

*21 жніўня*

Рэалізацыя рыбы з Генкам [Кляўко]. Кінатэатр «Камсамолец». Азербайджанскі сон. Палёг.

*22 жніўня*

Раніца. Азербайджанская хваля. Скабленка. Кальмар. Паход у хавіру. Паход з капітанам.

*23 жніўня*

Паход да Стральцова. Ледзь не ўпяклі. Гутарка з «отцом» — на ўсе чатыры бакі да 25-га.

*24 жніўня*

Трагедыя з Фамовым [Караткевічавым] цукрам. Закрыты доступ да чарніла і паперы. Італьянскія і баптысцкія песні ў туалеце Фамы. Крайком. Дождж харошы. Басанож бягуць маладыя ікры.

---

[1] Стральцоў Уладзімір Васілевіч, намеснік члена Ваеннага савета Ціхаакіянскага флоту, контр-адмірал.

[2] Апёнак Генадзь, зямляк-сусед, марак гандлёвага флоту, машыніст парахода «Дзекабрыст». У рабочым нататніку прысвечаны яму верш гл.: «Гэта расказ пра коніка...» (28.01.62) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 83.

[3] Бальшакоў Аляксандр (перайшоў на жончына прозвішча з бацькавага Балабоўка), зямляк з в. Ваўчо.

*25 жніўня*

Крайком. «Веды». Капітан. 100 тон рыбы з’ела з «Мядзведзіцы». Рэдакцыя. ГУМ. Кашулі. Кафэ, вельмі ўтульнае. Паром (кацер). Зоры.

*26 жніўня*

Начальнік ЖКО[1]. Дай бог ногі. Пляж. Паход да Васі. Не хапіла. Начное купанне, [папрасіў] міліцыянера вартаваць штаны. Начны трамвай.

Тувинцы гонят араку,
А я — в редакции строку.
Они и сыты, и пьяны,
А я в руках держу штаны.
А я в руках держу штаны,
Хоть дети мы одной страны.

*

Здесь дураков большой приток,
Особенно из Минска,
Но ты, браток Владивосток,
Встречаешь их по-свински.

*27 жніўня*

Фама [Караткевіч] раніцай паўбанкі. Боцман Нагавіцын. Каля помніка слоік. Паход дамоў, у ёлачку.

*28 жніўня*

Сон. Вячэра, боцман Нагавіцын. Паром. Касмічны твіст. Радыст з карабля. Генка [Кляўко] на новыя аб’екты. Нейкі жах. Падкульваюць.

*29 жніўня*

Чакаў Генку [Кляўко] да 12-ці. (Капітан на балконе на світанні.) У Генкі — ніц. Зноў Нагавіцын. Пляж. Гаўрыла. Сямігадзінны марш-брасок. Аўтамат. Пошукі капейкі.

*30 жніўня*

Крайком. Абяцаюць на чацвер паездку. Дождж страшэнны. Тэле. Фама [Караткевіч] фундуе.

Вечарам паром. Туземец скача пад вінт. Ад страху ўцёк.

---

[1] ЖКО — жыллёва-камунальны аддзел.

*31 жніўня*

Раніцай дождж. Гэта называецца самы аксамітны сезон у Прымор'і. На тэле адсядзелі — нікога не засталі. Мокрыя як вароны. Кафэ пад асфальтам. Пасля культпаход зноў. Да ніткі. Гена [Кляўко] на сопку. Акіян заклейвае канверты, не чакаючы, калі ў іх лісты пакладуць.

*** Ад вераснёўскага сонца зажмурыўся смуглявы Уладзівасток.

Усе тайфуны [называюць] жаночымі імёнамі (Джэні, Кармэн і г. д., Роза).

*1 верасня*

Усё паразмывала. Рачулкі знеслі масты. Трамваі спыніліся. Чухланцаў[1] — сволач. Шукаў камсамольца. Знайшлі. Хадзілі на тэле. Нікога не засталі. Сопка. Два разы чуць не бойка. Сталоўка. Піва.

*** Горна-таёжнае наваселле. Паказвалі ход да рэчкі. Сукенкі з панаксаміту. Трывожны заход. А мы цельпукі цельпукамі. Адзін заснуў над закускай, а вершы другі чытаў [я].

Кляўко: «Муж, як сабака, якога спусцілі з вяроўкі, а ён зноў у будку». За 12 тыс. км ад жонкі хаваў капусту на закусь (прысніў).

*2 верасня*

Паездка зноў адкладваецца. Настрой дрэнны. Усялякія падазрэнні. Ходзім пешшу. За дзень кіламетраў па 20–25. Ліст ад Мядзведзя [Нядзведскага]. Бібліятэка.

*3 верасня*

Тэле раніцай. Фаму [Караткевіча] адправілі на Галгофу ў рэдакцыю. Вяртанне Фамы — вясёлы. Жэньшэнь. Паром. Каця. Абарвалася ў гуся. Фама атрымаў пісьмы.

*** Чалавек на свет прыходзіць улегцы, пераязджае ў новую кватэру — шмат барахла, скрынак, а хаваюць — адной скрынкі хапае.

Адказная за плёткі ў пад'ездзе.

*Альбо трос — альбатрос.*

*4 верасня*

Крайком. Дажджы — ехаць нельга. Марка гоніць козачак. Жах. Чухланцаў змяніўся рэзка пасля прачуханца Берднікава. Пошта, Фаму [Караткевіча] угаварылі на 0,5. Пасля дыскусія наконт кіно. Фаму вывелі з сябе. Называецца, падзяка.

---

[1] Чухланцаў Уладзімір Грыгор'евіч, намеснік рэдактара газ. «Красное знамя».

*5 верасня*

Пачынае халадаць. Дыхаць лёгка. Пісаў крыху верш. Лісты Мядзведзю [Нядздведскаму] і Валі. Паход на тэле. Сволачы — замест 25 [хвілін] — 15. Дзённік Арсеньева[1], і член Геаграфічнага таварыства.

*6 верасня*

«Красное знамя», прыём у «отца». 5-ты пакой.

*7 верасня*

Выезд. Сон да перавалаў. Казёл у фарах. Прыезд Раі. Лімоннік. Купанне ў Японскім моры.

*** «Этот перевал перешли Н. М. Пржевальский[2] 1867, В. К. Арсеньев 1907». Скала Хализа.

*8 верасня*

Цéцюхе-прыстань. Дарога назад. Тайга. Ноччу подзвіг Фамы [Караткевіча] — некуды знік да 2 ночы. Заезд да Прыбыльнога — музей мінералаў.

*9 верасня*

Выезд з Цецюхе. Высакагорск, пасёлак Лясны. Унізе высакавольтная лінія, пас. Кавалерава. Рэстаран «Хрустальный»[3]. Дабаўка. Тыграловы. Мядзведзь рыбу на спіне. Дапіцца да тыграў.

*** «Здесь 27 (15) июля 1858 года прошел первый исследователь Кавалеровского района Михаил Иванович Венюков[4]».

*І птушынымі лапкамі кволымі нам махаюць услед кавылі.* Капаюць бульбу жанчыны.

Дрэвы, рака. Пясок. Ільм упругі, як дуб-прымак. Цішыня восені, што не верыцца — побач В'етнам і вецер Хірасімы. Ад нас блізка Хірасіма. Вецер даносіць плач. Зямля ў ахоўнай сетцы (ад бамбёжкі) — шыроты і мерыдыяны.

Капаюць бульбу ў тайзе, як пасля атамнага выбуху ці адразу (Адам і Ева[5]), а ў некаторых адамчыкі.

---

[1] Арсеньеў Уладзімір Клаўдзіевіч (1872–1930), рускі вандроўнік, этнограф, пісьменнік.

[2] Пржавальскі Мікалай Міхайлавіч (1839–1888), рускі вандроўнік. Кіраваў экспедыцыяй ва Усурыйскі край (1867–1869).

[3] Гл.: Гаспадары (18–23.09.65) // Неруш. Мінск, 1966. С. 100.

[4] Венюкоў Міхаіл Іванавіч (1832–1901), рускі вучоны і публіцыст. Вандраваў па Далёкім Усходзе, Японіі, Кітаі, Сярэдняй Азіі і Каўказе. Працы па геаграфіі, этнаграфіі, гісторыі.

[5] Гл.: Адам і Ева (24.01.66) // Неруш. Мінск, 1966. С. 89. У рабочым нататніку верш прысвечаны Г. Кляўко.

*10 верасня*

Выезд з Кавалерава. Віктар Пятровіч Кузняцоў двойчы выкупаўся ў таёжнай рэчцы. Прыезд у Чугуеўку — разня. Трывожны захад. Самалёт тыпу «фудзін».

*** Нялёгка прывыкаць к дарогам.

*Пераспелае бабіна лета адпяваюць манахі-гракі.*

*11 верасня*

Выступленне ў рэдакцыі: не хапае кадраў, 40 тыс. [чалавек] у раёне. Музей Фадзеева[1] (Валянціна Іванаўна Кусцікава). Пасека[2]. (Аляксей Паўлавіч Лось.) *Не ад пчол звініць — медавуха (мне да вуха)*. Наваселле. Райчына тэлеграма.

***Бочкі выраблены з ліпы, ліпоўнікі. Аляксей Паўлавіч Лось (з Буда-Кашалёўшчыны бацькі), пасечнік калгаса «Па заветах Ільіча». «Цішыня не можа быць поўнай без гуду пчол».

Закон тайгі — павінен пакласці запалкі і соль, каб наступны мог абагрэцца. Браць без дазволу няможна нічога.

Сопкі, якія пад хмарамі — сінія, якія не — светла-зялёныя. Як пасля атамнага выбуху, клубяцца хмары пад намі. Едзем у восень, спускаемся ў восень з гор. Ашалелыя вочы шафёра, перавал, вясёлкай аблівае тайга. З прыгаршчаў камяністых (шурпатых) паілі таёжныя рэкі. Месяц, як малы, высунуўся з-пад пялёнак хмар. Гарэлка 56° — «чорная хмара».

Хочацца пагладзіць сопкі.

*12 верасня*

У пакоі адзін бот — маёра няма. Дзень танкіста. Бахаўская сцяна (Фадзееў чытаў вершы. Гусеў у вайну), бензакалонкі. Варфаламееўка, Якаўлеўка, Уладзіміраўка, Тацянаўск, Спаск.

Усурыйск — зялёная вёска, абгон. Усяго з 7-га да 12-га наездзілі 2000 км.

***1. Маршрут — Спаск (прамысловасць), 200-гадовыя кедры. 2. Анучына (прырода). Верхне-Анучынскі лясгас. 3. Уладзімір, Ольга (беднасць, аўтамабілем). Ад «Камсамольца». Сíдзімі, Шáмара, Пясчаны. Вялікі прыбой, каб убачыць, трэба за Гарнастаем [пасёлкам] першая бухта (скалы выключныя). Цікавыя Курылы (дзікі вінаград на сасне), востраў Ітуруп.

*Няўлоўная, таропкая, нібы маланка, як бліскавіца ў тропіках.*

---

[1] Фадзееў Аляксандр Аляксандравіч (1901–1956), рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Ураджэнец Далёкага Усходу. Адзін з кіраўнікоў РАПП (1926–1932) і СП СССР (у 1946–1954 гг. генеральны сакратар). Віцэ-прэзідэнт Усясветнага Савета Міру.

[2] Гл.: Цішыня (21.01.66.) // Неруш. Мінск, 1966. С. 104.

У порце багром вудзяць дошкі прасохлыя, ад солі трашчаць дровы. Мужчына, стары марак, ловіць дровы. Салёныя дровы, салёныя слёзы[1].

Усурыйск па дарозе Чарнігаўка — Спаск, раён мяса-малочнага напрамку (1 саўгас). Са Спаска ў Арсеньеў і ў Чугуеўку (горна-таёжнае). Чугуеўка, Харсіка Андрэй Апанасавіч (загадчык аддзела прапаганды райкома партыі) сватаў урачыцу за афіцэра, каб не збегла. Спаленая тайга, як шчэць на хібе сонца. Сопкі абгарэлыя, як недасмаленыя вепрукі ўцякалі, шчэць.

*І сопкі, як кіты міфічныя, трымаюць неба на плячах.*

«Парася ў жэле» Усурыйскага птушкакамбіната.

«30 верасняў»[2]. Гісторыя з [ушацкім] бургамістрам Васілеўскім. Наваксаваныя боты. «Цясла́ яйцо знясла» [цвялілка над аднакашнікам]. (Цясла́ўскі [лазіў] праз комін, цвікі [выцягваў] губамі).

Нарыс пра Генку [Апёнка]. Японія (нашы лясы). Аўстралія — Канада (хлеб). Куба (туды лес, назад — цукар). Англія (лес), Францыя (вугаль). Данія (туды зерне). Швецыя (з Англіі вугаль). У моры — апендыцыт (чатыры дні чакаў). Інданезія (рыс з Кітая). У Камбоджы тэхніку — машыны. З Польшчы вугаль. З Германіі (ГДР) угнаенне на Кітай. З Сінгапура каўчук на Адэсу.

На клоцік чай піць — верхні пункт мачты.

Держать хвост пистолетом — давать гудки в тумане.

«У нас лясы пахнуць інакш». У каюце гравюра «Першы снег».

Капітан апошні пакідае мосцік, рэдка калі выратоўваецца.

З ілюмінатара, як з падзорнай трубы, — сопка седлаватая, краёк мікрараёна (і тут чорт набудаваў), гарачыня, вентылятар.

*То зложыць крылы ціхі птах, то б’ецца спарадзіхай.*

Характарыстыка матросу, капітан Калеснік: «В пьянке замечен не был, но по утрам подозрительно много пил холодной воды».

Мясцовыя жыхары гілякі́.

[Адрасы:] Бяляева Ніла Алякс. (г. Усурыйск, гарком); Гайкіна Екацярына Іванаўна (п. Чарнігаўка); Несцярэнка Іван Дзмітрыевіч (г. Спаск, райком партыі); Сямёнава Зоя Сяргееўна (г. Арсеньеў, райком партыі); Багатырова Ірына Львоўна (Усурыйскі р-н, с. Пакроўка).

*13 верасня*

13-ты пакой. Панядзелак. У Генкі [Кляўко] — 13 капеек. Ледзь-ледзь, але адаспаліся. Пошта. Ад Васіля [Быкава] падмацаванне. Адпаведна. Паром. Лебяда. Месяц. Цяжкае вяртанне.

---

[1] Гл.: Дзед і мора (22.03.66) // Неруш. Мінск, 1966. С. 106.

[2] Яшчэ адна з назваў паэмы «Лінія перамены дат» (1967).

*14 верасня*

Прачынаюся — з мангольскім [тварам]. Астатніх — ма. Да намесніка рэдактара. Дамоў. ¼. Вясёлы пакой пад лесвіцай. Квас цю-цю. Тэлеграма Валі.

*15 верасня*

Бутэлькі. Генка [Кляўко] у кішэнях. Дзве чаргі. Паход у рэдакцыю пасля абеду. Сумны роздум. Чысціня ў кішэнях і ў галаве. Што дзень наступны мне рыхтуе?

*** У парку інстытута Арсеньева пахне, як Дземенец [возера].

Генка: «Зараз бы яблыня, каб яблыкам па галаве ахнуць, і сабака [неразб. 1].»

Пакуль паверне Еўропа плячо да сонца, тут ужо даўно дзень.

Штаб народнай дружыны ў летняй альтанцы — хіба ў каханні прызнавацца.

Маладыя жанчыны раніцай … на вуснах смага, а пад вачыма — смуга. Дзяўчына з чакаючым позіркам, як незанятае таксі[1].

Вуліца Піхтавая, Кедравая. Даюць [назвы], калі выміраюць, як і людзі[2]. На каменным плоце завода (тоўсты, ды ці пасляваенны) вырас дзьмухавец, адкрасаваўся лета і аблысеў.

Як стаў лістапад, скнары гаі назбіралі золата. Растапырылі пальцы і хацелі лічыць, а тут вецер як дзьмухнуў пад руку (стукнуў), усе прэч.

*16 верасня*

Ля магазіна (без 5 8) стары, дзве пустыя [бутэлькі] у кішэні. Памяты твар. На шапцы дзве зжоўклыя лісцінкі. На рукаве дзядоўнік. Рэдакцыя, Пеця едзе ў камандзіроўку. Прыйшлі [грошы] ад Мядзведзя [Нядзведскага] і ад Валі. Ёсць надзея!

Хемінгуэй з падзёртай штанінай ля трамвая. Выступленне ў клубе. Падпалкоўнік.

*** Бічы (берагавыя маракі). Пояць. Чарга за таксі. Ён з рублёўкай за дзеўку — і ў дамках. Кожную раніцу сівабароды Хемінгуэй стаіць каля трамвая ў чыгуначным шынялі, з парванымі порткамі ўнізе, голай галавой з пахмелля.

Кот раніцай п’е з асфальта ў лужынцы ваду.

Пазная восень.

---

[1] Гл.: Порт (22.03.66) // Неруш Мінск, 1966. С. 95.

[2] Гл.: Вуліцы Уладзівастока (11.01.66) // Рум. Мінск, 1974. С. 177.

*17 верасня*

Паход у рэдакцыю. Дамоў пешшу. Зноў Хемінгуэй. Ехаў з намі. Пайшлі на тэле. Яўрэй з Барысава Славін. Віктар. «Арагві». Падпалкоўнік (зноў!). Былы архар Генка [Кляўко] пра вала.

*18 верасня*

На пошту ездзілі — нічога. Чаканне. Нічога страшнага. Дама ў вясёлы пакой.

Уладзімір Ільіч Андрыянаў. Фама [Караткевіч] недзе ў тайзе. Дальвтуз, Морзверь — на карце рыбнай.

*** Рыба ў горадзе толькі на шыльдах «Дальрыба», «Рыбхолад».

*19 верасня*

Раніцай на прычал хадзілі. Ездзілі на пошту — давялі да калення 2 жанчын. Алеуцкія сувеніры. Церпугаў Мікалай, матэрыял для нарыса. На беразе порта пуста. Рыба не ловіцца.

*20 верасня*

Як у Белагорскай крэпасці за акном. «Расстаётся с берегом…». Трэнаж. Прыезд Фамы [Караткевіча] з падзі. Прывёз шышкі, кару аксамітавую [самшытавую]. Уладзіміра Ільіча [Андрыянава] не было. На пошце няма нічога. Жанчына на тратуары — жах. Вечарам нешта крамзоліў.

*21 верасня*

Паход на пошту. Ад Князя [Краўчанкі атрымаў грошы]. Старшы лейтэнант і капітан. Капітана на старшага лейтэнанта. Дагестанскі. Фама [Караткевіч] у крыўдзе — не сказалі, куды ідзём. Знік Фама. «Няшчасная я» са свістком у губах.

*22 верасня*

Рэдакцыя. Здаў нарыс, пісаў верш[1]. Ноччу з'явіўся Фама [Караткевіч]. У дым. Дальрыбвтуз. Генка [Кляўко]: «Уладзівасток — Еўропа. Лепш чым у Рызе апранаюцца».

*23 верасня*

Хмяліў Фаму [Караткевіча]. Знайшоў лазню. Гутарыў з Церпугавым (падводка [падводная лодка]) наконт нарыса. Невялікая складчына. Хлопцы бралі — мне нельга. Днём, і ранічком, і вечарам — музыка. Жах.

*** *Падводнікі — Нептуновы ўгоднікі.*

---

[1] Гл.: «Надта доўга з люстэркам не раяцца…» (22.09.65) // Неруш. Мінск, 1966. С. 122.

*24 верасня*

У рэдакцыю. Пецю хмуры. Зноў, як і ўчора, з Валянцінай Зямлянкай гаварыў.

Лазня. Хацеў на падводцы выйсці, адмянілі. Чакаю сустрэчы з [У. І. Андрыянавым]. Прыходзіў мічман. Цікавыя расказы.

*25 верасня*

Рэдакцыя. Ільіч [Андрыянаў]. Маленькае паддацце. Едзем на «Пуцяцін». Кузнечык. Нажом сеткі. Віктар з крабам. Сейнер. Лахмач Валька.

*** Скала — 2 аганькі, як кіт з вачмі. Маланка над морам. Валька: «Нават трамвая не ўчуеш».

*26 верасня*

Хваля плечуком падпіхнула сонца. Лавілі рыбу.

*** Дзікія гусі ў труме 1800 руб. кг — з імі і сам не магу справіцца (чэрці). Мінтай разяўлены вачасты, як павукі, крабы; як лапці, камбала. Грумсуюць пад нагамі крабы.

Планетамі вочы з арбіт вылазяць у мінтая. Канец. Рыба крычыць…[1]

*27 верасня*

Назад прыехалі. Невялічкі штормік. Я адразу на гару. Усё добра. «Можаце зноў». Прыходзіў Гаўрыла.

*28 верасня*

Ранічкой маме паштоўку. «Крываручка» [забягалаўка]. Ракушкі. Шум, што сапсавалі вядро. Васёк [кот] ледзь аддыхаўся. Да Ільіча [Андрыянава]. Выгнаў.

*29 верасня*

Адыходзілі. Прычашчаліся з Гаўрылам. Фама [Караткевіч] аднекуль цёплы. Коцік лыка не вязаў, а Гаўрылу пра нас [казаў].

* * *

У гарэлку ўткнуўшы лыч,
Задрамаў Фама Фаміч.

*30 верасня*

Апошні дзень. Отец — напутствие. Пецinformed малайчына. Канфуз з Фамой [Караткевічам]. Думаў наконт дзвюх зорак.

---

[1] Гл.: Ураджай (7.11.65) // Неруш. Мінск, 1966. С. 98.

*1 кастрычніка*

Васёк сядзіць каля кіпячага тытана. Прыехалі — халаднік на вакне. Рэдакцыя. Руды. Усю дарогу Фама [Караткевіч] рваў нервы. Кот рымскі нос б’е. Ад’езд!

*** Чужое — усё гасцінец.

*2 кастрычніка*

Раніца. Раўніны. Сопкі рыжа-жоўта-зялёныя. Іней. Рака. Рыжыя сопкі. Бульба, гуркі, памідоры (Бікін [райцэнтр]). Хабараўск. Амурская даліна.

*** Спакойная рака ў даліне, дубы ў суках. Амур цячэ. Нельга ў адну і тую ж раку [увайсці]…

Бірабіджан, стагі сена, а вокал кружочкам абпалена трава, крыху далей абгароджана ад коз. І іскры з паравоза, як зарапад ноччу.

Тыгда. Дождж. Бульба, вінегрэт з бульбы таксама. Чараты выдаюць буйны нораў Амура, на якія робіць набегі.

[Адрас:] М. Застольскі (Чыкменцкая вобл., Сайрамскі р-н, с. Карнілаўка, зборнік для землякоў).

*3 кастрычнік*

Дождж. Залатыя лістоўніцы і бярозы. Снег. Тунэль. Чырванатал пад мостам ссінелы. «Есть колбаса». Дзеці на лыжах. Ерафей Паўлавіч [назва станцыі].

*** Першы сняжок, чарнеюць абляцелыя лістоўніцы і бярозы, як з белай кудзелі зіма пачала прасці першыя ніткі для белай світкі.

*4 кастрычніка*

Нацпытанне з Мішам. Рака ноччу Шылка. Плыты. Зорка недзе ўнізе ў вадзе. Сопкі, як водмел, выразалі раку (адбіваюцца ўверсе, як хмары небасхіл няроўна вырвалі). Тальнік буры ад узыходу. Густы. Бярозкі, як выпускніцы [бягуць], на сопку. Даурыя. Чыта. Улан-Удэ.

*** Стагі з белымі макаўкамі, як шалашы. Сопкі і хмары, прасвет між імі, нібы разарваны. Шпалы — зэкі ляглі імі. Са старых шпал маленькія хаткі з ваконцамі і без стрэх.

На фоне першапутку — белы конь. Вакол ляснічага слупа белыя завіткі, нібы завея абкуціцца паспела. Бярозы, як запаленыя, гараць. Сняжок у стэпе зараз вось растане, аб [неразб. 1] гарачую растане. Стажкі з сенам абплецены парканам, як маленькія Сатурны з талеркамі. Каб ласі не сапсавалі стажкі, як Юпітэры…

Даурыя. Голыя бярозкі роўненькія. Бягуць уверх па голых сопках сасонкі, якраз як перад расстрэлам стаяць. Гладкія, акруглыя скалы, як

морда бегемота. Бяроза скінула ўбранне і дрыжыць, як дзеўчына ў першы раз перад ложкам (шлюбным).

«30 верасняў»: Як здароваюцца былыя выпускнікі, адзін ківае (адпаведна чыну), другі вітаецца. Таксама быў бітнікам. Па-руску кажучы, «не от избытка». Масла біў у графіне на базар. Маслёнка — з бульбай. Манеты з калекцыі ў біткі аддаў. Кофта ў мамы з парашута і гузікі, як спелыя суніцы, прыгажэй да гэтага часу нічога няма; *Бомбы па мне галасілі, адпець не змаглі.*

Бярозы амаль [як ва] Ушачах [у] Сібіры, [на] Далёкім Усходзе.

*5 кастрычніка*

Байкал. Краем вока Іркуцк. Пецькі не было. Чарамхова. Тэрыконы. Станцыя Зіма — Чаромха. Станцыя Іланская. Рачулачкі-пражылачкі. Фаме [Караткевічу] пагоны з тузоў. Алег [едзе] дамоў. Алег вавёрцы ў вока [патрапляе].

*** Забайкалле. Козы бязрогія, як альпіністкі, дакапваюць бульбу, даядаюць бульбоўнік. З зялёным холадам вада рэк таёжных. Козы — маналітражныя каровы.

Паветра ледзянога чысты спірт,
Схапі з размаху — дыхаць пераймае.

Цягніку смачна стогнецца.
Дагараюць лістоўніцы
Залатымі стагамі.

Шэрань, белыя дахі, асабліва выразна на фоне сосен зялёных.

Падласы гай бярозавы — знізу як туман, а далей нібы зарой ружоўлены. Стажкі запалі лістамі. На скалах, як цукар складзены, горных зялёных сосен строма ўся.

Малы: «Што [гэта] Байкал?» — «Многа вады, як убачыш ваду — Байкал».

Паляць шпалы, пажар тайгі. Ля хат ні палена. Бярозы на першым сняжку белыя ад холаду (до озноба, что ли), да халоднай аскоміны белыя.

Здаецца, горы прыйшлі на хурал,
Шапкі ў снезе — Урал.

Урал: гусі-лебедзі пух абранілі, цемнавусыя (елкі) бярозы, рака зялёная ад навісі елкі, яны загарнулі ў апранахі святла сосны. Жоўта-зялёна-сінявата-ружовая ад асты[ласці?] голых. Бярозы высветлены сонцам, а елкі як пад хмарамі-хусткамі. Штодня даганяем, вечар уцякае, а раніца хаваецца. Сонца мае сталую прапіску ва Уладзівастоку.

Сонца скоціцца слязой гаручай па няголенай шчацэ сопкі.
*Вятры загон скародзяць, снег — белая ралля.*

*6 кастрычніка*

Ноччу Краснаярск. Тайга. Бярозы яшчэ з лістотай. Чорная зямля. Пахмурна. Новасібірск. Барабінскі стэп. Прысмеркі ад бяроз, як заход. Гусі клубок разматваюць. Снег. Барабінск. Омск. Ноччу Іртыш.

*7 кастрычніка*

Камышлоў. Снег. Свярдлоўск. Магутны вакзал. Слуп Еўропа — Азія. Бярозы кіламетрамі. Рака Ірэна — прыгажосць. Перм. Кама. Вятка (Кіраў). Разам узятыя больш яфрэйтара навешалі [у карты].

*8 кастрычніка*

Станцыя Буі. Данілаў. Яраслаўль. Растоў Вялікі. Цэрквы. Аляксандраўскі крэмль. Масква. Ваня [Бурсаў]. Мінск. Шабан[1], Іван[2].

*** На вакзале слухаюць аўтаматычныя адказы, як у спавядальні. Таксісты, як цыганы, кожны свой маршрут хваляць.

Метро — замаруджаная плёнка.

*9 кастрычніка*

Эпіграмы для дарослых. Як хто дражніў у лесе. Мядзведзь (не ўмеў сядзець), варона.

*** Ілонка: «Татка, а я цябе першая з’ела!» (Уперад за цябе.)

*13 кастрычніка*

«Каб яшчэ кудзеля была, дык мая мама б жыла» (памерла старая, а дачка плача)[3].

*** Ёсць Сусвет, на галактыкі вельмі багаты, але што ён у параўнанні ў другім Сусветам дабрыні, цеплыні, самай шчырай спагады, падтрымкі, імя яму — маці. Бедны той, хто яго не ведае.

Апосталы хлеба ў рваных пасталах.

*15 кастрычніка*

«Дэгустатар» (верш). Патрэсканая натуршчыца ў гліне ў Князя [Краўчанкі].

---

[1] Шабан Яўген (Яўгеній Пятровіч; 1936–1982), актор, паэт, драматург. У 1965–1976 гг. рэжысёр студыі Беларускага тэлебачання.

[2] Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч (1934–1996), беларускі празаік. Народны пісьменнік РБ (1994). У 1965–1975 гг. рэдактар аддзела публіцыстыкі і нарыса час. «Полымя». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974), Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (СССР, 1979).

[3] Гл.: Каб яшчэ кудзеля… // Здубавеццця, Мінск, 1996. С. 34.

*19 кастрычніка*
Рэлес 10 раніцы.

*20 кастрычніка*
9.30 музей новы.

*21 кастрычніка*
Віктар [Ліўземніек] і Еранім [Стулпан], «Бульбінка». Саўнаргас што трэба.

*22 кастрычніка*
Васіль[1]. Аперацыя, паліпы ў горле. Калабок [Чарняўскі[2]], III том Ясеніна, у Бураўкіна Клюева[3] [забраць].

*23 кастрычніка*
Зоб. Эндакрынолаг, корпус 1, 1-я клінічная бальніца, 13.30.

*28 кастрычніка*
З Лісоўскім[4] 2 гадзіны ў «Беларусі» [выдавецтве].

*7 лістапада*
Дзеці. Запалілі кола — у Петраградзе рэвалюцыя. Бегаюць з протарамі [кіямі] у руках. Гуляюць у рэвалюцыю.

*18 лістапада*
Мінск — Душанбе.
*** Пад намі ўнізе сузор'е Душанбе, над намі самотныя зоркі. Выхлапы з крыла, як маланкі ці на крылах нясе вогненная птушка.

*У перайманне Хаяму*

От кишлака до кишлака,
От шашлыка до шашлыка,
От коньяка до коньяка
Дорога наша не легка...

---

[1] Янушкевіч Васіль, зямляк.
[2] Чарняўскі Мікола (Мікалай Мікалаевіч; н. 1943), беларускі паэт. У 1965–1988 гг. рэдактар Беларускага радыё, літсупрацоўнік, старшы рэдактар аддзела, адказны сакратар час. «Бярозка».
[3] Клюеў Мікалай Аляксеевіч (1887–1937), рускі паэт.
[4] Лісоўскі Міхаіл Якаўлевіч (1931–1970), беларускі мастак і графік. У 1960–1970 гг. выкладчык Мінскага мастацкага вучылішча.

*21 лістапада*

Стол малы. Чармаз Дра [знаёмец] скача. Чармазгі. Янка — адзін арэх.

*** Планета, як гадзіннік, заведзеная Леніным у Кастрычніку, будзе вечна. Perpetuum mobile. Заводзяць (дражняць) сабаку, як матацыкл.

Чой-кабут, чой-кабут —
Выпьеш літр — і капут.

Ты мой руш[1] не руш,
Ты яшчэ не муж.

Уваходзіны, а я помню ўлазіны ў зямлянку.

Юсуф Акабіраў[2] (Таджыкістан) з Гагарыным[3] на нарадзе [сустракаўся].

Рудакі[4]: «Хто не навучыўся ў жыцця, той не навучыцца ні ў якога настаўніка». Аўтар помніка [Рудакі] Абдурахманаў[5]. «Які помнік!» — захапляецца і ў думках бачыць сябе ў бронзе Еўдакія Лось[6].

«О Лось, что в вымени твоём?» (А. Вялюгін).

*22 лістапада*

Едзем, нехта пытае: «А чаму [ні] лозунгаў, ні транспарантаў няма?»

*** Рака і даліна Варзоб. Рака. Адпачывае рэчышча да дажджоў, уся даліна — камяні, абкругленыя ледавікі.

Чатырохногі матаролер — ішак.

Коль на дружбу повелось —
Ваш ишак, а наша Лось…

Шашлык на ўласным тлушчы, як на [неразб. 1]. Як са шпагі бярэ. Нацыянальныя лыжкі[7].

*Клянуся, планета вясёла не знала прыемней ношы.* З-пад чорных вясёлак дзве страсныя ночы глядзяць, у спрадвечную таемнасць клі-

---

[1] Руш — частка жаночага ўбрання.

[2] Акабіраў Юсуф (1937–2011), таджыкскі пісьменнік. Народны пісьменнік Таджыкістана.

[3] Гагарын Юрый Аляксеевіч (1934–1968), першы лётчык-касманаўт СССР. Герой Савецкага Саюза (1961).

[4] Рудакі Абу Абдаллах Джафар (каля 860–941), таджыкскі і персідскі паэт, родапачынальнік паэзіі на фарсі.

[5] Абдурахманаў Фуад Гасан аглы (1915–1971), азербайджанскі скульптар. Народны мастак Азербайджанскай ССР (1955), член-карэспандэнт АМ СССР (1949).

[6] Лось Еўдакія Якаўлеўна (1929–1977), беларуская паэтэса і празаік. У 1961–1963 гг. літсупрацоўнік газ. «Звязда».

[7] Гл.: Гісарскі ўспамін (7.08.66. Ушачы) // Журавінка. Мінск, 1973. С. 69.

чуць. 33 касічкі доўга распускаць. Дзве выснелыя ночы страсці, уцехі, і затоеныя зоры блішчаць. Паранджа страху.

Ансамбль рубабістаў. Рубаб — накшталт мандаліны. Усе дзяўчаты.

Мехры Абдулаева[1]. Танец. Стрыптыз голасу, страсці, даверу. Чорнае рэха.

Арабскі танец, то як застылая мячэць, чынара. Ажывае ствол, страсць выгінае, рукі вужакамі, лебедзямі. Выконвала Гаўгар Мірджумаева. Кроў звініць[2].

Гісарская даліна.

Беларусы. З мовы смяяліся — заззяла песняй Купалы. Балота, бульба — нафта, вугаль, як Брэсцкая крэпасць.

Едзем па хмарах на вышыні птушынага палёту, машыну вадзіцель трымае ў руках (вушы закладвае). Помнік шафёру.

Іван Фёдаравіч Яфіменка, украінец, выступае: што чалавек, то экскаватар. Марыя Байдак: хто дровы нясе — Марыі. Боты гумовыя далі, фуфайку, яна ў тапачках у верасні, — як народы памагалі нашай Таджыкскай рэспубліцы.

Рака Вахш. Плаціна 300 метраў. Арол кідаўся на самалёт, абараняючы гняздо.

Звяраў гадзіннік па крыку ішака (дакладна праз 20 хвілін). Ляпёшкі — чараты. Тугаі — чаратовыя гаі. Пяндж.

У Саюз таджыкскіх пісьменнікаў прымаюць строга. Са школьнай парты вывучаюць, ведаюць сусветна вядомых сваіх паэтаў. Што ў нашых першапачатковых падручніках?

Стары белагаловы, як Памір, чорны кудлаты казёл. Стагуюць бавaўнянік, як сена.

На Паміры плача стары (96 год). «Чаго?» — «Бацька пакрыўдзіў, кіем выцяў». (Бацьку 136 год.) «Калі навучу не вырывацца ўперад?!»

Дзяўчынкі ідуць са школы і нясуць кніжкі на галовах.

На стале ў слоіку (з зямлёй) стаіць бавоўнік. Здаецца, начаплялі, рыхтуюцца да Новага года. А дома недзе снег…

Тутавае [дрэва] — для шаўкапрада, абразаюць, каб раслі галіны, штогод. Лісце [з'ядае] шаўкапрад, а пасля [дрэва] на дровы.

Пра бульбу, на кастры палілі. Так і мова, і ты сама, Беларусь.

Таіса Ганчарова спявае таджыкскія песні з добрым акцэнтам, дружба народаў.

Бавоўна на асфальце сушыцца, як у нас пшаніца, машына аб'язджае.

---

[1] Абдулаева Мехры (н. 1931), таджыкская і ўзбекская актрыса, спявачка, танцорка.

[2] Гл.: Танцуе таджычка (1966) // Адам і Ева. Мінск, 1968. С. 192.

— Дай, родны брат, тваю руку, —
Няхай гаворыць ішаку.

*Ивану Грамовичу*[1]

Идёт Иван, качается,
вздыхает на ходу:
«Вот-вот мой срок кончается,
работы не найду...»

*Якаву Герцовічу*[2]

Герцовіч Якаў горка плакаў:
Жыць мала,
а не ўсіх абкакаў.

Нурэк, канец 1960 г. Па водных рэсурсах 11 месца пасля Расіі. 2 млн 700 тыс. кв. Тунэль з бетоннай абдзелкай 14 м, вышыня плаціны 305 м, вышэй Эйфелевай вежы. Усе рэспублікі памагаюць, 470 прадпрыемстваў краіны. 10,5 млд куб/м вады. 100 кв км — люстра вадасховішча. 85 км падымецца Вахш. 0,05 капейкі 1 кВт. Звыш 1млн га арошана будзе зямель.

Раней Нурэк 300 кібітак, бавоўна, тытунь. 130 беларусаў, 41 нацыя і народнасць. 1964 г. — 404 [дзяцей], за 5 год 1559, 647 вяселляў.

Грэчаскі тып — амфітэатр летні — на скалах. 30 км тунэляў. Па храбтах міндаль, як бясконцы караван.

Горы, як недакончаны кар'ер экскаватарамі.

Шафёр машыну ў руках [трымае], на паваротах дацэнтрабежная сіла да гор. Зоркі ў небе, як вугалькі ў прысаку, машынныя фары, калі дарогі выгінаюцца, як вугалькі насустрач. Хоць пагрэй рукі.

«Куды прыязджае дарагі госць, тая гаспадарка ўзбагачаецца, робіцца багатай», — прамова старшыні калгаса. У Кулобе ў педінстытуце Вера Багірава.

У калгасе імя Леніна, пасёлак «Правда Востока», столькі народу, што разганяюць міліцыянеры — здаравенныя лбы, адкуль-небудзь з Разані, не могуть ніяк справіцца з напорам натоўпу.

Клуб, як маленькая выспачка ў гарачым пярэстым моры халатаў, цюбецеек, чалм. Вакно зафіранена, якое на трыбуну. Дзеці завязалі вузлом фіранку і глядзяць. Кожны паэт — народны. Толькі без пячаткі.

Сівыя вяршыні жывяць квітнеючы дол. Букет: ружы, яшчэ нейкія кветкі і бавоўна.

---

[1] Грамовіч Іван Іванавіч (1918–1986), беларускі пісьменнік. У 1958–1969 гг. літкансультант СП БССР. Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР (1978).

[2] Герцовіч Якаў Бенцыянавіч (1910–1976), беларускі («аглабельны») крытык. З 1953 г. супрацоўнік час. «Вожык», у 1967–1970 гг. намеснік галоўнага рэдактара часопіса.

Народны артыст рэспублікі Ахмад Бобокулов[1].

*Калі астарэю, то с посахам да цябе не пайду, бо посах прыйдзе першы*[2].

Калі чалавек сыходзіць з каня, то са стрэмя нельга выходзіць.

«Русо, догматико, ортодоксо, импотенто!»[3]

Як дзяцей бандыкі, горы трымаюць таджыкаў. З мяккім звонам ападаюць лісты з чынар.

Такая пагода, хоць цалуйся. Сурнай і бубен жаліцца ад пустыні, ад караванаў.

Танур — печка. На скляпенне кідаюць [праснакі] і ловяць, як саспелыя фрукты.

*

Як сказаў Іван Шамякін:
Болей пі, а мала вякай.

*

Нешта нездаровіцца,
Ходзіць Колька хмуры —
Цяжка Хведаровічу[4]
Ў віцязевай шкуры.

Прытча пра Хаяма: калі ён піраваў з луноликами, падняўся вецер, раскідаў [лісткі з вершамі], і адсюль рубаі.

Друг Ниязи[5] — Хаяма брат.

*

Когда нам прикажут
Отцы секрета́ры,

---

[1] Бабакулаў Ахмад (1931–1990), таджыкскі оперны спявак. Народны артыст Таджыкскай ССР (1971).

[2] Гл.: «Дзень пачынаю…» (5.08.66) // Адам і Ева. Мінск, 1968. С. 201.

[3] Магчыма, дакладней пра гэты эпізод у Таджыкістане, а не ў Азербайджане гл.: Алекс Лягума // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск:] Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 68. Ла Гума Алекс (1925–1983), пісьменнік з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі.

[4] Хведаровіч Мікола (сапр. Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч; 1904–1982), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Лаўрэат прэміі венгерскага агенцтва па літаратуры і мастацтве «Артысіуз» (1981). Разам з А. Звонакам пераклаў паэму Ш. Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры». Звонак Алесь (Пётр Барысавіч; 1907–1996), беларускі паэт, крытык, драматург, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Гл.: Смяяўся, язык прыкусіўшы… // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 136.

[5] Ніязі Фатэх (1914–1991), таджыкскі пісьменнік. Народны пісьменнік Таджыкскай ССР (1986).

То сразу сдадим
Мы 5 тонн стеклотары.

*

От зари и до зари
Пьёт безбожно Ансори.
Файзуло без Шабана,
Як баран без чабана[1].

Буз — у перакладзе — козлік[2].

[Адрас:] Ліцвінава Таццяна Мацвееўна (г. Душанбе; фота).

Раздзелы адкрыць перакладамі:
1) Латышскі («Зламаныя сосны»[3]);
2) Сібірскі (Еўтушэнка «Ваенныя вяселлі»);
3) Таджыкскі (Хаям[4] ці хто іншы);
4) Далёкаўсходні (можа, аб'яднаць з сібірскім?).

Правансальская мова праз 600 год уваскрэсла.

Дажджы, вятры, лісты (пра Купалу).

Пушкін пра поўны пераклад дэ Ліля[5]: «Украшал его без милосердия».

1) Арсеньеў
2) Анталогія таджыкскай паэзіі.
3) «Дерсу Узала»[6].
4) «Антимиры»[7]. Саснора[8].

Чалавек выплывае ў космас, як гарлачык, прывязаны. Расцвітае ўсмешка (распускаецца).

Адны мецяць у начальства, другія мецяць на Месяц.

Герой (сын Ясеніна[9]) [газета] «Известия».

---

[1] Ансары Ф. (сапр. Ансораў Файзуло; 1931–1980), таджыкскі паэт і драматург. Гл.: Экспромт (21.11.65, Душанбе) // Неруш. Мінск, 1966. С. 114.

[2] Гл.: Бузкашы (14.01.66) // Тамсама. С. 111.

[3] Верш Я. Райніса.

[4] Амар Хаям Гіясаддзін (каля 1048 — пасля 1122), персідскі і таджыкскі паэт, матэматык, філосаф.

[5] Дэліль Жак (1738–1813), французскі паэт.

[6] Раман У. К. Арсеньева.

[7] Паэма А. Вазнясенскага.

[8] Саснора Віктар Аляксандравіч (н. 1936), рускі паэт, празаік, драматург.

[9] Ясенін Канстанцін Сяргеевіч (1920–1986), інжынер-будаўнік, спартыўны журналіст, статыст, вядомы знаўца футбола. Франтавік, тройчы кавалер ордэна Чырвонай Зоркі.

Ода дамавіку: Дамавік (37 год) бачыў сны даносу, яго паважалі, што не данёс, 15 сутак.

Іду пасёлкам, амаль праз кожную хату няма чалавека. Мне 30 год.

Мінск яго налюдзіў.

*

Наша моц і гордасць,
Што ж твой лёс цяжкі —
На каленях торбы,
Пад вачмі — мяшкі...

*

Дзе, скажыце, логіка,
Дзіўны лёс ягоны:
Доктар філалогіі
У Фамы прыгонны[1].

Першае пазнанне дарогі на чыгунцы. Выжыў на самалёце.

Быццам кнігаўка, ты адводзіла ад мяне любую бяду.

Выразала [малая выяву] Леніна з грошай. Абедзве рукі адсек [бацька] тапаром.

Жанчыны пад старасць: «Пачынаеш сябе пазнаваць, ды позна — смерць».

Пісьмы са скрынкі, што ў мікрадамах агульныя, вымаюць, як галубоў з галубятні, баяцца, каб не вылецелі.

«У чужой цёткі рукі мякчэйшыя»[2].

Кафэ «Дружба», маці-ўдава збірае бутэлькі. Сын праз агароджу. «Чаму мне не памагаеш, гультай?» А ён кожны раз бачыць яе п’яную.

У нас бульдозеры грызуць бульдогамі тое, што па цагліне рукамі [складалі].

Напісаць песню салігорскую.

Над ракою ў тумане
Качка кліча качара.
Без мілога сумна мне —
Цэлы дзень не бачыла[3].

---

[1] Сяброўскія эпіграмы на У. Караткевіча і М. Грынчыка. Грынчык Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1923–1999), беларускі літаратуразнавец і крытык. У 1960-я гг. навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Доктар філалагічных навук (1970), прафесар. Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР (1977).

[2] Гл.: Мяккія рукі ([1973]) // Рум. Мінск, 1974. С. 102.

[3] Гл.: Дзявочыя частушкі // Станцыя кальцавання: Б-ка «Вожыка». Мінск, 1971. С. 6.

Создал песню, подобно Антону [Бялевічу] и навеки духовно почил.

У час, калі пасля гістарычнай сустрэчы [Хрушчова з мастакамі] «білі» фармалістаў і абстракцыяністаў, п'яны-п'яны Ясюк (плакаты ледзь мажа): «Ну нічога. Нас усіх б'юць, перажывём неяк».

Чарот. Пер'е па ветры, як смычок скрыпкі, пяюць завірухі. Сабака па сумясціцельству брахае на суседскі двор.

А на векавых соснах борці.

Каб на чужыне, як у сне: прачнуўся — і зноў дома[1].

[1] Гл.: «Хай скруха самотных дзён...» (1912.02.68, Ушачы) // Лінія перамены дат. Мінск, 1969. С. 65.

## 1966

*1 студзеня[1], субота*

1) Ушачы. Сустрэча Новага [года]. Янка Міклашэўскі[2].

2) Адпраўляю маму. Валодзя Журовіч[3].

*2 студзеня, нядзеля*

Хава. Генка [Кляўко]. [Дзмітрый] Супрун. Ёлка ў СП. Шкляра [Шклярэўскі]. Журовіч. Цітовіч[4].

*** Дзімка Супрун: «Мой дзядзька быў такім граматным, што знімаў кажух, каб распісацца».

Бурштын, як ружанец, перабірае Балтыка і моліцца дайнамі, спявае дайны, цягне…

Гадзіннік, наручнік. Ты паказваў раніцу, калі я не хацеў, ты заадно з днём.

*Неба, як у часы НЭПа.*

Звазіць вясной Чыка[5] ў Белавежскую пушчу. Так-сяк. Таксіст у Ланачкі таксяк, Ілонка гаворыць: малаткі — матылькі, нака — кот, на ногі — рукавіцы, на рукі — панчохі.

*8 студзеня, субота*

На машынку Лене [машыністцы] п’есу. Паседжанне рэдкалегіі. Да Грынчыка на Каляды.

---

[1] На 1966 г. існуе дзве дзённікавыя кніжкі: «Табель-календарь» (1) і «День за днем» (2). Пачынаючы з 1 лютага запісы па інфармацыі супадаюць і дакладна адносяцца да 1966 г., хаця на першай старонцы другой запісной кніжкі рукою аўтара надпісана «67 год». Галоўнае невытлумачальнае разыходжанне — святкаванне Новага года: 1) 1.01. Ушачы. Сустрэча Новага… 2) Адпраўляю маму… (Па словах аўтара — Новы год ва Ушачы ён не сустракаў.) Далей запісы з дзвюх кніжак, пры несупадзенні ці дадатковыя, пазначаюцца лічбамі 1 і 2 адпаведна. Запісы без пазнак адносяцца да кніжкі «День за днем».

[2] Міклашэўскі Іван Станіслававіч, сын Ф. А. Міклашэўскай — маткі хроснай Рыгора Іванавіча.

[3] Журовіч Уладзімір (пам. 1979), беларускі музыкант, кампазітар.

[4] Цітовіч Генадзь Іванавіч (1910–1986), харавы дырыжор, музыказнавец і этнограф. Народны артыст СССР (1968). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола БССР (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1978). Гл.: Мыюся, брыюся… // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 173; Генадзь Цітовіч // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 20.

[5] Чык, Пупка, Пупунчык, Лось, Лосік, Лосінька, Лосінькі — хатнія мянушкі Ілоны.

*9 студзеня, нядзеля*

Не заўсёды памыляецца, хто заўсёды пахмяляецца. З афарызмаў дзядзі Хавы [Хаўхлянцава].

*10 студзеня, панядзелак*

Адправіў п’есу. З Ашмян наконт праграмы.

Асвенцім.

*14 студзеня, пятніца*

«Вожык». Кінастудыя. Міністэрства культуры. Зноў прыём у П. Н.

*15 студзеня, субота*

Генка [Гарбук]. Выезд ва Ушачы. Дарожныя прыгоды.

*** Саша Смашны[1] расказваў, як носяць самагонку. Камеру бяруць на плячо, як скатку нясуць, а ўнізе, як цыганка дзіцё, падвязваюць. У трамваі ў бабкі прарвалася, і струменчык у столь свішча.

*18 студзеня, аўторак*

Куцця.

*19 студзеня, серада*

[К. П.] Баразна. Хрышчэнне.

*20 студзеня, чацвер*

Безвыходна дома.

*** Да вайны быў такі Амяллян, Дзямідаў сын [неразб. 1]. У 20-м годзе адхадзіў здаваць на шафёра. Сколькі грошы было, у скарбонку ўкінуў [у царкве]. Праваліўся. Вярнуўся, атабраў усе свае грошы, столькі, колькі кінуў, і не стаў у царкву хадзіць.

*21 студзеня, пятніца*

Чытаў Фому [Караткевіча]. [Паэму] «Лінію [перамены дат]» дабіваю. Лазня.

*22 студзеня, субота*

1) Весялова Тамара Аркадзьеўна, службовы 3-43-83 (калі заняты 3-22-52), хатні 2-66-06.

2) Гасціна ў К. П. [Баразны]. «Wyborowa» [польская водка]. Завуч. Мёрзлыя пяткі.

---

[1] Смашны Аляксандр, знаёмы таксіст.

*23 студзеня, нядзеля*

Калі асядае муць. Пошта. Крама. Ваўчэнскае, Вечалле [азёры].

*24 студзеня, панядзелак*

Пісаў. Справа рухаецца добра.

*25 студзеня, аўторак*

Дабіў «Чазенію»[1]. Дваістая думка ў мяне склалася.

*26 студзеня, серада*

1) Самалёт. Сустрэча з Хавай [Хаўхлянцавым].
Набат.
Еўразія.
Рута-мята.
Угаманіўся бор.
Шчыравала пчала[2].
2) Дабіў пра Сібір.
На Вечалле пад Кавалеўшчыну.

*27 студзеня, чацвер*

Адаслаў Зульфію[3]. Відаць, позна. Ліст ад Заі[4]. На лыжах да Ваўчэнскага.

*28 студзеня, пятніца*

Паход за газай. Дабіў амаль чыста «Экзамен»[5]. Лазня.

*29 студзеня, субота*

Прыём. Хросная. Пецька. Булачкі. Марушка[6].

*** Да Галіны ў партызаншчыну хадзіў мужык. Жонка — да немцаў. Прысудзілі на 25 бізуноў адно аднаму. Галаву пад паху, спачатку ён, пасля яна. Калі слаба [лупцавалі] — немцы дабаўлялі.

---

[1] Аповесць У. Караткевіча.
[2] Назвы раздзелаў зб. «Неруш» (1966).
[3] Зульфія (сапр. Ісраілава Зульфія; 1915–1996), узбекская паэтэса. Народная паэтэса Узбекскай ССР (1965). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1976).
[4] Зая, Зайчык, Заяц — хатняя мянушка Валянціны Міхайлаўны.
[5] Экзамен. Мінск, 1969. (Зборнік вершаў для дзяцей.)
[6] Трафімава Марыя Рыгораўна (1902–1997), стрыечная сястра, пляменніца Івана Рыгоравіча Барадуліна.

*30 студзеня, нядзеля*

Тэлеграма Сяргею [Панізніку[1]]. Вечар сустрэчы выпускнікоў. Да Васіля [Янушкевіча].

*31 студзеня, панядзелак*

Аэрадром. Дабіваю «Лінію перамены дат». Пратасевіч з мамай сваёй.

*1 лютага, аўторак*

Выдавецтва. [Часопіс] «Неман». Узбекі. Ахова.

*2 лютага, серада*

1) «Неман». Выдавецтва.
1) і 2) Агняцвет[2] — вершы. Казлоўскаму[3] і Мусіенку[4] — «Красавік»[5].

*3 лютага, чацвер*

10 раніцы [часопіс] «Бярозка». Вакар[6].

*4 лютага, пятніца*

Вакар. «Неман». Крук[7]. Выдавецтва.

*5 лютага, субота*

Выдавецтва. Вакар.

*6 лютага, нядзеля*

1) Пераклады. Дакончыць пераклад «Зламаных сосен».
2) «Зламаныя сосны» з Хавай [Хаўхлянцавым[8]].

*7 лютага, панядзелак*

«Неман». Крук. Вечарам Хава [Хаўхлянцаў].

---

[1] Панізнік Сяргей Сцяпанавіч (н. 1942), беларускі паэт. У 1964–1967 гг. курсант факультэта журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА ВМФ.
[2] Агняцвет Эдзі (сапр. Каган Эдзі Сямёнаўна; 1913–2000), беларуская паэтэса і перакладчыца.
[3] Казлоўскі Віктар (сапр. Вінцэсь Іванавіч; 1905–1975), беларускі паэт.
[4] Мусіенка, рускі перакладчык.
[5] Барадулін Р. Красавік. Мінск, 1965. (Зборнік вершаў для дзяцей.)
[6] Вакар Сяргей Міхайлавіч (1928–1998), беларускі скульптар, аўтар помніка М. Багдановічу і скульптурных партрэтаў Я. Купалы, П. Панчанкі, У. Караткевіча, Р. Барадуліна.
[7] Крук Уладзімір Андрэевіч (1929–1991), беларускі фотамайстар. Супрацоўнічаў з большасцю беларускіх друкаваных выданняў і выдавецтваў.
[8] М. Хаўхлянцаў як музыкант дапамагаў з перакладам, пакладзеным на музыку.

*8 лютага, аўторак*

Вуліца Гая. Вакар з гэблікам, як цясляр гліну, ганчар чалавечых галоў.

*9 лютага, серада*

Лене [машыністцы] — на машынку. 12.15 — Вакар. Шкляра [Шклярэўскі]. Забораў[1].

*10 лютага, чацвер*

Узбекі. Атрымаць за [Аляксандра] Баршчэўскага [ганарар]. Генка [Кляўко].

*11 лютага, пятніца*

Шкляра [Шклярэўскі]. [Валянцін] Тарас. Юрка Кушак[2] з «Литературной России». Дружыннікі.

*12 лютага, субота*

1) 6 вечара цэнтральны кіёск вакзала.

1) і 2) 10.15 — Вакар. Палітэхнікум ад «Вожыка». Шаўка-Юрчанка[3]. Паход на рэстаран. Ідыятызм.

*13 лютага, нядзеля*

Панізнік. «Лит. Россия». Юрка Кушак.

*14 лютага, панядзелак*

1) Здаць Аўрамчыку падборку (7–8 вершаў).

*15 лютага, аўторак*

1) Здаць Вярцінскаму ўзбекаў.

*16 лютага, серада*

1) Ваенкамат. Убайду Раджабаву[4] — анталогію. 5 вечара Адмірал [Вялюгін].

У «ЛіМ» артыкул і «Дойнага [каня]» Сцяпану [Гаўрусёву].

2) З Хавай [Хаўхлянцавым] па СБ[5].

---

[1] Забораў Барыс Абрамавіч (н. 1935), беларускі мастак. З 1980 г. жыве ў Францыі.

[2] Кушак Юрый Навумавіч (н. 1936), паэт, празаік, перакладчык.

[3] Юрчанка Георгій Фёдаравіч (н. 1928), беларускі паэт-эпіграміст, крытык, нарысіст, лексіколаг, збіральнік фальклору. У 1962–1988 гг. загадчык рэдакцыі літаратуры, мовы і мастацтва, затым рэдакцыі філалогіі выд-ва «Навука і тэхніка».

[4] Раджаб Убайд (сапр. Раджабаў Убайдуло; н. 1932–2004), таджыкскі паэт.

[5] СБ — «па сістэме бікіцэра» (на ідыш — карацей) азначала: выпіць.

*17 лютага, чацвер*

1) Па сістэме біківцэра з Хавай [Хаўхлянцавым].

2) З Хавай па СБ.

*18 лютага, пятніца*

6–7 вечара Лучук[1]. Юзік Пучынскі[2].

*19 лютага, субота*

Розыгрыш з Лучуком. Хава [Хаўхлянцаў]. Кіно. Князь [Краўчанка].

*20 лютага, нядзеля*

Камароўка. Радуцкі[3]. Васіль [Зуёнак]. Вясёлы прыезд дадому.

*21 лютага, панядзелак*

Наконт прывітання і пераводу Лосінькі. Рапановічу[4] — вершы. Даведка ў Алер. Віцязь [Караткевіч]. Клёцкін [Кляўко].

*22 лютага, аўторак*

Рэдкалегія «Дня паэзіі». Віцязь [Караткевіч]. Шкляра [Шклярэўскі].

*23 лютага, серада*

11 раніцы рэдкалегія. Адаслаць у «Советский писатель» даведку. У Васі [Зуёнка ўзяць] верш для «Дня [паэзіі]». Мама.

*24 лютага, чацвер*

Піў за сваё здароўе [дзень нараджэння]. Хава [Хаўхлянцаў], Галя [Антонаўна], Князь [Краўчанка], Мядзведзь [Нядзведскі], Клёцкін [Кляўко].

* * *

Ненакрашенную, ненапудренную,
Хочет Хавачка целомудренную.
Не для похоти, а для галочки
Ходит Хава спать к тёте Галочке.

*1963*

---

[1] Лучук Уладзімір Іванавіч (1934–1994), украінскі паэт, перакладчык. Гл.: Паэма прызнання: Надпіс на кнізе // Рум. Мінск, 1973. С. 156.

[2] Пучынскі Юзаф Вульфавіч (1922–2007, ЗША), беларускі мастак, кніжны графік.

[3] Радуцкі Аляксандр Яфімавіч, радыёжурналіст.

[4] Рапановіч Яўген Нічыпаравіч (1929–1987), беларускі мовазнавец, фальклaрыст. У 1967–1970 гг. супрацоўнік, з 1964 г. загадчык рэдакцыі «Вучэбна-педагагічнага выдавецтва». У 1967–1970 гг. загадчык рэдакцыі выд-ва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя».

*25 лютага, пятніца*

1) Абавязкова Аўрамчыку падборку. Кветы Заю.

2) Бражка і г. д.

*26 лютага, субота*

Прохараў[1]. Вася [Зуёнак]. Мядзведзь [Нядзведскі] і Сяргей Адамавіч [Гусак[2]]. Дно. Рыжы [Смашны] і Хава [Хаўхлянцаў].

*27 лютага, нядзеля*

Зімовае гулянне ў парку. «Паўлінка»[3] ў купалаўцаў.

*28 лютага, панядзелак*

1) Русецкаму — грамадская лірыка. Шамякін наконт Рыгі. Маладзёжная выстаўка.

*1 сакавіка, аўторак*

1) Міністэрстава культуры. У «Советскую Белоруссию» вершы перапісаць і Лене [машыністцы]. Ахова. Палтаран[4] — рэцэнзія. Наконт Фірштэйна.

*2 сакавіка, серада*

Слуцкія паясы Русецкаму. 11.00 — Дзень паэзіі. Кулік — 2 [гадзіны] дня.

*3 сакавіка, чацвер*

2 гадзіны [дня] Кулік.

*4 сакавіка, пятніца*

Здаць Лене [машыністцы] на перадрук.

---

[1] Прохараў Анатоль Васілевіч, беларускі паэт (г. Орша).

[2] Гусак Сяргей Адамавіч (1930–1969), беларускі крытык. У 1965–1968 гг. выкладчык беларускай літаратуры ў БДУ. З 1967 г. намеснік дэкана філалагічнага факультэта БГУ, у 1968–1969 гг. рэктар Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна. Кандыдат філалагічных навук.

[3] П’еса Я. Купалы.

[4] Палтаран Вера Сямёнаўна (1919–1989), беларускі нарысіст, крытык. У 1953–1973 гг. рэдактар аддзела крытыкі час. «Маладосць». Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР (1979). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя П. М. Лепяшынскага (1970).

*5 сакавіка, субота*

1) і 2) Прыезд Стулпана. «Хто смяецца апошнім»[1], дастаць білеты ў Купалаўскі.

*6 сакавіка, нядзеля*

Правод мамы. Ера [Стулпан]. Брыль. Віцязь [Караткевіч].

*7 сакавіка, панядзелак*

1) 11.00 — «Дзень паэзіі».

2) Ера [Стулпан] у «Беларусі» [часопісе]. Вася [Зуёнак] 6-97-42.

Для юбилеев Ероним,
Как ресторан, незаменим.

*8 сакавіка, аўторак*

Упартасць Еры [Стулпана]. Тамара. Альберт[2].

Скажите, славный витязь,
Когда вы отрезвитесь? —

Валодзя [Караткевіч] адказаў: «Ніколі!»

*9 сакавіка, серада*

1) Сасім[3]. 9-38-93 (Валі).

2) Праводзіны Еры [Стулпана].

Турысцкі паход з тарай. АН.

*10 сакавіка, чацвер*

1) СП Латвіі. 1) Алберт Янсон. 2) Імант Зіедоніс[4]. 3) Ilgonis Berson[5]. Советская Пагра, 39. 8 тралейбус. Декабрь.

2) «Маладосць». Вася [Зуёнак]. Саюз. Віцязь [Караткевіч]. Рэм [Нікіфаровіч] — тэле. Размова пасля.

*11 сакавіка, пятніца*

Саюз. «Маладосць». «Беларусь». «Полымя». Віцязь [Караткевіч].

---

[1] П'еса К. Крапівы.

[2] Янсанс Альберт (1915–1989), латышскі празаік.

[3] Сасім Уладзімір, беларускі паэт (Польшча).

[4] Зіедоніс Імант (1933–2013), латышскі паэт і празаік. Народны паэт Латвійскай ССР (1977).

[5] Берсанс Ілгоніс, латышскі крытык.

*12 сакавіка, субота*

1) Іраіда Дзямянаўна [Фаміцкая[1]] раніцай.

2) Міністэрства. Віктар [Ліўземніек], «Чайка» [цягнік «Талін — Мінск»], 3-ці вагон. «Маладосць». «Беларусь» — узбекі. У выдавецтве ўзяць рэцэнзію.

*13 сакавіка, нядзеля*

11.00 раніцы «Дзень паэзіі». Сняданне ў гонар высокага госця. Мальдзіс. «Кшакуўка» [гарэлка] у Валодзі [Караткевіча]. «Дзядзя Ваня»[2] ў купалаўцаў. Авёс [Аўсяннікаў[3]]. Гарбук.

*14 сакавіка, панядзелак*

Музей Янкі Купалы, Якуба Коласа. СП. «Неман», «Мінск». Працяг размовы дома.

Паважаная Рудзіт[4],
Пакахай мяне ў крэдыт.

*15 сакавіка, аўторак*

Наконт капусніка да Папы [Шахаўца] 70–80 радкоў. Паход па горадзе. Князь [Краўчанка]. Размова за сталом. Міхась [Стральцоў[5]]. Чэхаславацкія госці.

*16 сакавіка, серада*

Цяжкі пад’ём. Выезд ва Ушачы. Таджыкскі халат. Віктар [Ліўземніек]. Як з падрамнікам[6]. Выезд у Полацк. Цягнік аж у 4 ночы. Нуль на рамонт. Духата. Цісканіна.

*17 сакавіка, чацвер*

Ранішні аўтобус. Прыезд. Сон. Бражка. Адбор вершаў для «Liesma» [латышскі часопіс].

---

[1] Фаміцкая Іраіда Дзям’янаўна (1915–2012), беларускі педагог.

[2] П’еса А. П. Чэхава.

[3] Аўсяннікаў Генадзь Сцяпанавіч (н. 1935), акцёр Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1974). Народны артыст СССР (1991).

[4] Ліўзеніетэ Рудытэ, жонка В. Ліўземніека (Ліўзеніека).

[5] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987), беларускі паэт, празаік, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (пасмяротна, 1986). Прысвечаны яму верш гл.: Лодкі (4.04.63) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 101.

[6] Рыгор Іванавіч апавядаў: адзін мастак папрасіў бацьку зрабіць падрамнік — з натуральнага дрэва, і, радасны, чакаў. Бацька змайстраваў цудоўны падрамнік! Але вырашыў «палепшыць вясковую прастату» — ды пафарбаваў падрамнік карычневай, для падлогі, фарбай... (*Пераказ Н. Давыдзенка*.)

*18 сакавіка, пятніца*

Вечалле. Віктару [Ліўземніек] дрэнна. Парадкоўнікі рабіў. «Хуткая».

*19 сакавіка, субота*

Абаралі шмат. Ушачы. Магільнік польскі. Умоўнасць латышскай мовы. Аўтобус. Гасцініца. Пасадзіў Віктара [Ліўземніека].

*20 сакавіка, нядзеля*

Раньком ва Ушачах. Правіў вершы. Утрасаў «Неруш».

*21 сакавіка, панядзелак*

Вечалле. Дземенчык [возера]. Ваўчэнскае возера. Белы дом[1]. Хутар. Перачытваў Валодзеву [Караткевічаву] «Ладдзю Роспачы».

*22 сакавіка, аўторак*

Ваўчэнскае. Дземенчык. Шчарбёнкі [вёска], Завірушка [назва мясціны]. Бярозкі яшчэ бялей. Сосны як садоўнік вапнай [пабяліў]. Над маладой дзялянкай старая сасна (елка), як рэбры воблы. Даканчыў «Нявест» і яшчэ вершык[2].

*23 сакавіка, серада*

Пісаў і правіў. Зноў снег. Вечарам мароз. Правіў Аўгінню[3] — […]. Чакаў ад Віктара [Ліўземніека] тэлеграмы — няма. Ці не захварэў?

*24 сакавіка, чацвер*

Ад'езд у Мінск. Аўтобус.

*** «Да Мінска 191–194 км». — «Ну, правільна, без аднаго 200» (з п'янай размовы).

Разводдзе. Дзвіна пайшла. Плыве ток. На бэльцы сядзіць певень і гарланіць.

Чорнагаловік лезе з-пад снегу (чорны, а летам, як вата, белыя кветкі. Накшталт бавоўны).

*Антон-ключнік*

*А. Бялевічу*[4]

Хоць стамлёнай душы ні спакою, ні сну,
Гэта праца мяне не звядзе, —

---

[1] Белы дом — рэшткі маёнтка на беразе Ваўчэнскага возера.

[2] Порт; Дзед і мора // Неруш. Мінск, 1966. С. 95; 106.

[3] Кавалюк Аўгіння (1934–2007, СПб., Расія), беларуская паэтэса, настаўніца. Жыла ў Гродне, пазней у Рызе (Латвія) і Санкт-Пецярбургу (Расія).

[4] Гл.: Вясёлы дзівак // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 168.

Лета я замыкаю,
адмыкаю вясну
Жураўлiным ключом у «Звяздзе».

*25 сакавіка, пятніца*
Сустрэча з Васілём [Зуёнкам], з Князем [Краўчанкам].

*26 сакавіка, субота*
Палкоўнікаву чытаў падборку.

*27 сакавіка, нядзеля*
Сустрэча з палкоўнікам. Праўкі.

*28 сакавіка, панядзелак*
Камароўка. Саюз.

*29 сакавіка, аўторак*
Перадрук у Лены [машыністкі].

*30 сакавіка, серада*
Кавалёк [Кавалюк]. Рэдагаванне зборніка[1].
*** «Лацвей Вярбе[2] — у яе ёсць свой пакрывацель [покровитель] — Вялюгін» (Аўгіння Кавалюк).

*31 сакавіка, чацвер*
Выдавецтва. Кавалюк.

*1 красавіка, пятніца*
Па гаспадарчых справах. Ахова.

*2 красавіка, субота*
Такая-сякая праца дома.

---

[1] Кавалюк А. Маўклівыя скарбы. Мінск, 1966.
[2] Вярба Вера (сапр. Сакалова Гертруда Пятроўна; 1942–2012), беларуская паэтэса. У 1969–1971 гг. працавала ў аддзеле прапаганды літаратуры Упраўлення кніжнага гандлю Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па друку.

*3 красавіка, нядзеля*

Мядзведзь [Нядзведскі[1]]. Калабок [Чарняўскі]. Дубашынскі[2]. Рубка лазы[3].

*4 красавіка, панядзелак*

Калабок [Чарняўскі]. Пайшоў за героямі для аповесці «Людзі ў сініх шынялях»[4].

*5 красавіка, аўторак*

Князь [Краўчанка]. Глебаў[5].

*6 красавіка, серада*

46-я школа, 5-18-85. Рэдкалегія «Дня паэзіі».

*7 красавіка, чацвер*

Чысты чэцвер. Юра [пра] Багдановіча 2–3 старонкі [ў] «Дзень паэзіі».

*8 красавіка, пятніца*

АН. Мальдзіс. [Рэстаран] «Мінск». Дома рубка лазы.

*9 красавіка, субота*

Каля ЦК дзядзька ў ботах, фуфайцы. Таз за ручкі, як сявалку, і сее ўгнаенне, каб расла трава.

*10 красавіка, нядзеля*

[Ушачы.] Вялікдзень. Матка хросная [Міклашэўская]. [К. П.] Баразна. Вечар. Валачобнікі.

*11 красавіка, панядзелак*

Вечалле. Курылёнскае возера. Адпаведна [застолле]. У Янкі [Міклашэўскага]. Вогнішча.

---

[1] Гл.: Уладзіслаў Нядзведскі // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 56.

[2] Дубашынскі Павел Піліпавіч (1931–2000), акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1989).

[3] Рубка лазы — сяброўская выпіўка.

[4] «Людзі ў сініх шынялях» — міліцыянеры (насілі абмундзіраванне сіняга колеру).

[5] Глебаў Аляксей Канстанцінавіч (1908–1968), беларускі мастак, скульптар. Народны мастак БССР (1955). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна).

*12 красавіка, аўторак*

Задаброцце. Бульба ў жарку. Пралескі. Прыход. Адпаведна.

*13 красавіка, серада*

Ад'езд. Аптэка — слоічак. Прыезд. У Фомы [Караткевіча].

*14 красавіка, чацвер*

У Фомы [Караткевіча]. Васіль [Зуёнак]. Зрыў шмат мерапрыемстваў. В. В. [Зуёнак].

*15 красавіка, пятніца*

Ад'езд Фомы [Караткевіча]. Провады. Хава [Хаўхлянцаў].

*16 красавіка, субота*

Машына. Дождж. Выдавецтва. Хава [Хаўхлянцаў]. Васіль [Зуёнак]. Анатоль [Грачанікаў]: «Сала любіць, а на свінню не загнаць».

*17 красавіка, нядзеля*

Сустрэча з Гарбуком у інтэрнаце.

*18 красавіка, панядзелак*

Разлічыцца за камандзіроўку ў саюзе. Узяць талоны. Сустрэча з Дз. Д. [Супруном].

*19 красавіка, аўторак*

1) Тамара [Нікіфаровіч[1]] дзень нараджэння.

2) Пянкрат[2]. Забораў.

*20 красавіка, серада*

Дз. Д. [Супрун]: «Сустрэча з табой казка: першы дзень — чарадзейны, другі — бытавая, трэці — пра жывёл». Макаёнак. Навум [Кіслік], [Валянцін] Тарас.

*21 красавіка, чацвер*

3 [гадзіны] дня Ратабыльскі[3].

---

[1] Нікіфаровіч Тамара Аляксееўна, жонка Р. Нікіфаровіча.

[2] Пянкрат Міхась (Міхаіл Міхайлавіч; 1918–2001), беларускі пісьменнік-сатырык. 1959–1979 гг. рэдактар аддзела час. «Вожык».

[3] Ратабыльскі Анатоль Арцёмавіч, урач.

*22 красавіка, пятніца*

Пошукі Ратабыльскага. Сонечная рэспубліка. Князь [Краўчанка].

Саскочыў качар з качкі —
Скончыліся скачкі.

*23 красавіка, субота*

Размова з Валяй. Ратабыльскі. Дз. Д. [Супрун] з хуткіх.

*24 красавіка, нядзеля*

Аддаць дзеду [Р. Шырму] «Зламаныя сосны». Забраць з пральні. Закончыць пра Багдановіча і ўрэзку для падборкі на радыё.

*25 красавіка, панядзелак*

Узяць у Князя [Краўчанкі] Фомавы [Караткевічавы] фота. Радыё, выдавецтва. Шамякін — наконт Латвіі. Алер (Нейфах[1]) — пуцёўку маме на верасень.

*26 красавіка, аўторак*

2 [гадзіны] дня Ратабыльскі. Здаць рэцэнзію ў выдавецтва. Жычка[2]. Парк, Хава [Хаўхлянцаў].

*27 красавіка, серада*

Хава [Хаўхлянцаў] раніцай. Паштоўкі віншавальныя адправіць.

*28 красавіка, чацвер*

Пра Багдановіча, рэцэнзію. Зняць persona grata — тлумачэнне ў зборніку, Лужаніну «Неруш» прысвяціць.

*29 красавіка, пятніца*

Размова з Рудытэ. Паштоўкі з маем. Палілі бульбеннік.

*30 красавіка, субота*

Каля 11-ці з Віктарам [Ліўземніекам]. Дамовіліся наконт усяго.

Ва Ушачах зрабіць:

1) Для «ЛіМа» падборку.

2) Парадкоўнікі Ліўземніеку.

---

[1] Нейфах Якаў Аляксандравіч, урач паліклінікі СП.

[2] Жычка Хведар Дзмітрыевіч (1927–2007), беларускі паэт, перакладчык. У 1960-я гг. рэдактар, загадчык рэдакцыі выд-ва «Беларусь». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Вітаслава Незвала (Чэхаславакія, 1983).

3) Мядзведзю [Нядзведскаму] лекі ў мамы. Сартакову[1] — пісьмо.

*1 мая, нядзеля*

[Ушачы.] У Васіля [Янушкевіча]. Вечарам у нас. За вушы Трахіма кінуў.

*** Вечар. Май. Праз голле прасвечваецца поўня. Мама на ганку: «Добра так. А людзі першую ноч на магільніку начуюць. Крыўдна такой парой паміраць»[2]. (Якраз хавалі днём старога.)

*2 мая, панядзелак*

Наваполацк. Ізотыч [Ізотаў]. У дырэктара кніжнага магазіна: 43-ці. Імпартны.

*3 мая, аўторак*

З Заем агародам займаліся. Шчаўе. Ваўчэнскае возера.

*4 мая, серада*

Палёт сямейны. Прылёт. 10 вечара тэле. Выступленне. Бражка з бражкай. Навум [Кіслік].

*5 мая, чацвер*

Дзень нараджэння Ханум [М. Хакімавай]. Дом друку, Дзень друку, чарка другу.

*** *Я ў сэрцы любоў да цябе пранясу, як ў посаху шаўкапрада.* «Міс Азія» — дабавіць, канцоўка.

*6 мая, пятніца*

Семяжон 4 [гадзіны] вечара.

*7 мая, субота*

Князю [Краўчанку] і сабе «Фестивали искусств СССР». 1966.

*8 мая, нядзеля*

Хава [Хаўхлянцаў]. [Кафэ] «Лета». Палкоўнік.

*9 мая, панядзелак*

Карпаву[3] верш пра Мінск. У палкоўніка. Палкоўнік у мяне. Сінюю (блакітную, зялёную) туш для веек.

---

[1] Сартакоў Сяргей Венядзіктавіч (1908–2005), рускі празаік, драматург. Герой Сацыялістычнай Працы (1984).

[2] Гл.: Бяроза з лістам гаварыла...: Абнашчылася вясна... (8.04.73) // Рум. Мінск 1974. С. 120.

[3] Карпаў Уладзімір Барысавіч (1912–1977), беларускі празаік. Укладальнік і адзін з аўтараў кніг і фотаальбома пра Мінск.

*10 мая, аўторак*

Адлёт у Рыгу. Білетаў няма. Другі рэйс. « Luna». Дубулты.

*11 мая, серада*

Нарада. Ера [Стулпан]. Вячэра ў Еры. Сабака. Плот. Стапнік. Вартаўнік. Узыход сонца.

*** [Запіс 90-х гг.] Чарговая літаратурная дэкада. Вітаўтас Бложэ[1] будзіць карэла-фінскага пісьменніка:

— Тайсто[2], прачынайся, праспаў сацыялістычную рэспубліку, праспіш і аўтаномную.

Той ў адказ:

— А ты прап'еш Літву.

— Вітаўт Вялікі[3] не прапіў, і я не прап'ю.

*12 мая, чацвер*

Паездка ў Булдуры. Доўгія пошукі хаты Еры [Стулпана].

*13 мая, пятніца*

Адлёт. З'езд СП. Транспарціроўка Фомы [Караткевіча]. Трактарны завод.

*14 мая, субота*

Бурныя выступленні, асабліва ў буфетах.

*15 мая, нядзеля*

Цяжкія выбары П. У. [Броўкі]. Праўленне. Па(ф)каснік Кірэенка. Сямейны банкет на Вайсковай[4].

*16 мая, панядзелак*

Сустрэча са Шклярам [Шклярэўскім]. Такія-сякія справы ў СП.

*17 мая, аўторак*

Тарантас [В. Тарас], Навум [Кіслік], Фама [Караткевіч], Шкляра [Шклярэўскі]. Спадарожнік. Дожджык. Бэз.

---

[1] Бложэ Вітаўтас Пятрас (н. 1939), латышскі паэт, перакладчык. Гл.: Паэма прызнання: Сустрэча ў Тракаі [1973] // Рум. Мінск, 1974. С. 144.

[2] Магчыма, Сумманен Тайсто Карлавіч (1931–1988), карэла-фінскі паэт, перакладчык, крытык.

[3] Вітаўт Вялікі (1350–1430), вялікі князь Літвы (з 1393).

[4] Магчыма, у М. Арочкі, які пражываў па Вайсковым завулку.

*18 мая, серада*
Ад'езд Шкляры [Шклярэўскага].

*19 мая, чацвер*
Вячэра з Фомай [Караткевічам]. Лосіку ліску.

*20 мая, пятніца*
Юзік [Пучынскі]. Цылаў, Фама [Караткевіч] на возера ў Астрашыцкі Гарадок.

*21 мая, субота*
Мальдзіс, Грынчык у Фамы [Караткевіча]. Калабок [Чарняўскі].

*22 мая, нядзеля*
Мальдзіс. Грынчык. Хава [Хаўхлянцаў]. Упокат.

*23 мая, панядзелак*
Становішча, блізкае да дубадацця.

*24 мая, аўторак*

*Навагрудак. Ліда. Шчучын. [Шклозавод] «Неман». На леташніх дубовых лістах рыжыкамі — шышкі.*

*

Ходят слухи, что Фома
Выживает из ума:
Пишет много, как Дюма,
Но удел его — сума.

*

Красив и тучен город Щучин,
Но что-то наш Володя скучен[1].

*

Аж тры магутных віцязі
Выходзілі са Свіцязі,
Падкручывалі вусы,
Выкручывалі трусы,
Хістаючыся мала,
Хавалі за халявы.

[1] Сяброўскія эпіграмы на У. Караткевіча.

*** Глаз Зоя Аляксандраўна (г. Шчучын), выступалі з Брылём, прыслала фотаздымкі.

*25 мая, серада*

Навагрудак. Замак. Музей.

*** Альтанка, зацішак, ліпы, у дуплах шпакі. Ля доміка-музея [А. Міцкевіча] сушыцца сена. Вядро жураўля над студняй вісіць слязою, планетай над прорвай Сусвету.

Дзеці ў Навагрудку з [дзет]прыёмніка, як вязні, апранутыя і ідуць строем.

Пра дзіцячы прыёмнік верш.

*29 мая, нядзеля*

Прыход двух анёлаў. Вынік благі. Лосінькі хворая.

*30 мая, панядзелак*

Сустрэча з Кулікам. «Маладосць».

*31 мая, аўторак*

У выдавецтва — анатацыю на дзіцячую кніжыцу [«Экзамен»].

*1 чэрвеня, серада*

Імжыстая раніца. Намер наведаць прыгоннага [Караткевіча]. Рынак.

*2 чэрвеня, чацвер*

О бедный архиерейский дом. СП. Русецкі [прачытаў] бацькоўскую лекцыю.

У Георгія. Філосаф з разбітым носам.

*

Актёры первое едят,
В меню мечтательно глядят.
О бедный архиерейский дом,
Я узнаю тебя с трудом.[1]

*3 чэрвеня, пятніца*

Рынак. Пошукі Батанічнай вуліцы. ЦУМ. Падарункі, [каньяк] «Будафо». Жэня. «Сухое, а то аддамся». У мяне 3 руб.

---

[1] Кафэ Дома работнікаў мастацтва. Месціўся ў былым архірэйскім доме. Паміж сабой кафэ называлі «Мутным вокам».

*4 чэрвеня, субота*

Хава [Хаўхлянцаў] з кропам. Зайчыку зубкі. Лосіку лепей. Паездка ва Ушачы па-буслінаму. Коні ля вогнішча матляюць галовамі. Шафёр паступае ў БДУ.

*5 чэрвеня, нядзеля*

Раніца. Сінічка: «Ці ты спіш, ці ты спіш, уставай, уставай!» Парадкоўнікі.

*6 чэрвеня, панядзелак*

Тэлеграма. Ліст. Праблема казы — прыём у мэра. Ваўчэнскае возера.

*7 чэрвеня, аўторак*

Для Дзеда [Шырмы]. Уітмен[1].

Гарод. Запісы песень: Марушка, Арына[2].

*8 чэрвеня, серада*

Дабіў нарэшце для Дзеда [Шырмы]! Валашышка [дачка Волаха, зямлячка] на экзаменах. [...]

Горад. Салаўі ў алешніку.

*9 чэрвеня, чацвер*

Пра Мянеска пачаў[3]. Матка хросная [Міклашэўская]. Каця [кошка гуляе] з катом начальніка міліцыі. Горад. Зборы.

*10 чэрвеня, пятніца*

[Памятка наперад:] Маме тэлеграму [з днём нараджэння]. Ад'езд. У саюзе камандзіроўку. Нейфах. Бурсаў.

Адзначылі дзень нараджэння мамы.

*11 чэрвеня, субота*

Сяргей [Панізнік]. Праца над рукапісам[4].

*12 чэрвеня, нядзеля*

Хава [Хаўхлянцаў]. Рыжы [Смашны].

Ад'езд мамы.

---

[1] Уітмен Уолт (1819–1892), амерыканскі паэт.

[2] Янушкевіч Ірына Цярэнцьеўна, суседка і сяброўка Акуліны Андрэеўны Барадулінай (Ушачы).

[3] Гл.: Балада пра Мянеска (28.10.66) // Адам і Ева. Мінск, 1968. С. 206.

[4] Панізнік С. Кастры Купалля. Мінск, 1967.

*13 чэрвеня, панядзелак*

Такія-сякія клопаты перад ад'ездам. Пошукі «Белавежскай».

*14 чэрвеня, аўторак*

Самалёт. Асары. Як па-латышску «Каваль»? Ера [Стулпан]. Антэас[1]. Bersons. Веян[2]. Вогнішча ў двары. Пластмасавая хатка. Мора. Блакіт і чырвань заходу.

*15 чэрвеня, серада*

Bufete. Посуд у Еры [Стулпана]. Мора. Грэчаскія песні. Галубы на даху кіпцюркамі. Вечарам у Adolfa Tallcisa[3]. Як Блаўманіс. Хмель па соснах, як па камсамольскіх пуцёўках. Провады. Мора шуміць. Sarkanais rīts[4].

*** Спяшаецца, як удава ў пасцель (грэчаская пагаворка).

*16 чэрвеня, чацвер*

Мора. Паход да Еры [Стулпана]. «Liesma» — вершы. Rīga. Каўказ. Ружы. Помнік Райнісу, як дзядулю Крылову.

(Імяніны цешчы Еры. Suns lesats[5] сумуе па гаспадару). Штучкі Еры. Таксагонкі. Позні сон.

От счастья кто мне даст ключи?
И счастье — где оно?
От Еронимовой мочи
И море солоно.
Спокоен, волосат, пузат
И музами храним.
Его толкает море в зад,
И счастлив Ероним.

*** У Скрыверах у зале чакання на спінцы лавы Pupolat Baltiņs = mila[6], латышы трацяць энергіі на словы paldies, ludzu, miln ludzu[7]. Ячмень ліст ідзе па сонцу, і піва на Ліга ці так — па сонцу; pa saulej — па сонцу, pasaule — свет. Pupas — бабы́, pupi — грудзі жаночыя, больш увагі pupi пры Хрушчове.

---

[1] Антэас П., латышскі паэт.

[2] Веян (Веянс) Андрыс (сапр. Калнач Данат; н. 1927), латышскі паэт, празаік. Гл.: Паэма прызнання: Просьба да Рыжскай АТС [1973] // Рум. Мінск, 1973.

[3] Талціс Адольф, латышскі празаік, нарысіст.

[4] Назва рыжскай трыкатажнай фабрыкі.

[5] Suns — сабака; lesats — магчыма, пярэсты (lāse — плямкі, крапінкі) (*лат.*).

[6] Pupolat Baltiņs = mīla — магчыма, pūpoli — вярба балтыйская [?] = каханне.

[7] Paldies; ludzu; mīln [магчыма, mīlš] ludzu — дзякуй; калі ласка; [вялікае] калі ласка (*лат.*).

Настрой па сонцу выверы,
Ад поўдня ў сэрцы поўдзень.
У Скрыверы пойдзем,
                                        і весніцы
Засмягла скры-вер-ры
Праскрыпяць[1].

Zeberiņš[2]. Свіння ў бочцы (кадзі), як быццам купаецца, смаляць.

Зноў конь, зямля як край зямнога шара, конь у плузе, селянін ідзе ў трывожны захад. Свінні паднялі галовы (ніколі яны не падымалі) і чакаюць, ці пяройдзе кот па жэрдачцы плота.

*17 чэрвеня, пятніца*

Спалі позна. Валодзя [Караткевіч] па інерцыі мінеральную ваду запіў каньяком. Ера [Стулпан] прыйшоў мірыцца.

*20 чэрвеня*

* * *

И тело от счастья запело.
Пока не в гробнице — греши.
У Виктора Стелла[3] для дела,
Рудите — для души…

«*Austoria*», *krogs «Daugava», («Vecā Rīga»)*[4]

*** За тых, хто ў моры, хто ў турме і хто ў радзільным доме [тост].

Барда[5].

Гадзіннік спыніўся, і ён памёр.

Мора не ў гуморы.

* * *

У кварты доўгае турнэ,
Рука куляе ў стоме
За тых, хто ў моры,
Хто ў турме
І хто ў радзільным доме.

---

[1] Гл.: Скрыверы (31.07–2.08.68) // Журавінка. Мінск, 1973. С. 74.

[2] Зеберыньш Індрыкіс (1882–1969), латышскі мастак і кніжны графік. Яму прысвечаны верш «Старая Латвія» (19.02.68; Лінія перамены дат. Мінск, 1969. 57).

[3] Стэла — рэдактар.

[4] Назвы рэстаранаў; krogs (карчма).

[5] Магчыма, Барда Фрыц (1880–1919), латышскі паэт.

[Рэстаран] «Vecā Rīga». Хіба толькі туравага рыку не хапае. Чарапічныя дахі, як стамлёныя крылы арлоў. Тур, рогі. 15 ст.[1]

«Жаль, что нет места для памятника Ерониму».

«Так піць, так піць».

Малады Райніс скочыць. *Шэйк — sveik*[2].

Лебедзі мыюцца, як гусі.

Культурнае абслугоўванне, генералы і палкоўнікі, міліцэйская машына, таксі ў крэдыт, за рулём белакурая Эльза. Skaitę ūdens [вада]. З піянерважатай на каленях.

Стары помнік. Сцяг, шчыт і меч. Гарадь гладыёлусы.

Ластаўкі пад столлю клеці, як колькі год назад, каб напомніць нам, што трэба помніць і сваё гнездо, дзе продкі пачалі гняздзіцца і што трэба думаць пра дом.

Гута, 75 тыс. гладыёлусаў у год. Якабнілс[3]. Напалеон[4] на ноч прыязджаў і начаваў з дзяўчатамі з Зэмгале.

Ліўземніекс: «Крупіс (рапеня; па-латышску — муж. роду), з якім бавіўся Андрэй Упіт. Вунь у бураках».

* * *

Вперёд везёт нас Гунар Селга[5],
Автобус музами храним.
— Нельзя нам в чарке плавать мелко, —
Сказал железный Ероним.

Нам улыбается фортуна,
Ночь надвигается, и пусть,
Ведь с нами бледнолицый Бруно,
Как солнце, освещает путь.

Хоть славой смолоду овеян,
Имеет очень важный чин,
Друг Белоруссии А. Веян
Найти поможет магазин.

В душе бушуют ветры марта,
А Ероним ворчит: «Апрель».
Есть с нами Велта, Ира, Марта,
Нам не страшны ни глубь, ни мель.

---

[1] Гл.: Старая Рыга (25.02.81, Дубулты) // Амплітуда смеласці. Мінск, 1983. С. 30.
[2] Sveiki — прывітанне (*лат.*).
[3] г. Екабпілс, пабрацім г. Ліды.
[4] Напалеон I (Напалеон Банапарт; 1769–1821), французскі імператар (1804–1814 і 1815).
[5] Селга Гунар (сапр. Закіс), латышскі паэт.

* * *

Здоровы и почки, и гланды,
Да здравствует свежий кефир!
Спасибо, Бюро пропаганды,
Что трезво глядим мы на мир.
Не пьяницы мы, не пижоны.
Пусть славится дайна в веках!
Спокойны любимые жёны —
Мужья их в надёжных руках.

Да здравствуют бывшие жёны —
Мужья их в надёжных руках.

Салениекс Эдуард[1].

Чырвоныя стралкі. Я не быў у музеі. Тры стралкі глядзяць на Даўгаву. Крытык Кнорыньш[2] насіў салдацкую гімнасцёрку. [Чужой рукой] Вилис Кнориньш критик, философ.

Купала інтэрнацыяналіст, а Кнорыньш з вінтоўкай на плячах. Райніс хоча ў Латвію. «Вольная Латвія ў вольнай Расіі» — лозунг Райніса.

Артур Čikste — першы Герой Сацыялістычнай Працы (Еранім). Rigas TV (литературно-драматическая редакция) Гунар Клява[3], Айвар Тавер. Аусма Пормале[4]. Ояр Вацыецiс[5]. Стулпан. Панізнік[6] Ніна. Озерова[7] Ирина Николаевна [адрасы ці нумары тэлефонаў].

* * *

Шаноўная АТС,
Кароціш за міляй мілю,
Прызнацца хачу табе:
Es tevi milu[8].
Дакладны бяру тэлефон,
Дакладны ведаю адрас,
Дзе толькі падзеўся фон
Сахі і касы, Веян Андрыс?!.
Шлях светлы ад светлых свят…

[1] Саленіек Эдуард (н. 1900), латышскі празаік.
[2] Кнорын (Кнорыньш) Вільгельм Георгіевіч (1890–1938), расійскі дзяржаўны дзеяч, публіцыст, крытык. Доктар гістарычных навук. У 1927–1928 гг. сакратар ЦК ВКП (б) Беларусі.
[3] Клява Гунар (1933–1984), латышскі мастак.
[4] Пормале Аусма, латышская паэтэса.
[5] Вацыецiс Ояр (1933–1983), латышскі паэт, празаік. Народны паэт Латвійскай ССР (1977). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1982).
[6] Панізнік Ніна Сцяпанаўна, сястра С. Панізніка.
[7] Озерава Ірына Мікалаеўна, руская перакладчыца, паэтэса.
[8] Es tevi milu — я цябе люблю (*лат.*).

*[21 чэрвеня]*

2 гадзіны дня Саюз пісьменнікаў, Сівая Барада — чакаць ля тэлефона.

***Любоўнікі вушы аб'елі (старому кату).

* * *

Пад сэрца падкоціцца хваля,
І нельга заплюшчыць воч,
Juna un salda Gaļa[1]
Варочалася ўсю ноч.

*23 чэрвеня, чацвер*

Вечарам Ліга (быць!). На ўзбярэжжы Даўгавы. Кастры. Вяртанне дадому ранічкай.

*** Хваля за хваляй, як народы, і намываюць крупінкі пяску, зрэдчас бурштын.

У марскіх вершах шмат вады, а солі мала.

* * *

Воды достаточно в стихах
(Волна в полбалла — это страх),
На полусогнутых ногах,
При полной выкладке в штаны,
Прёт Ера зайцем от волны.

[Вясёлая прыказка Стулпана:] «Молодец: ловко плюнул в холодец!»

* * *

Купались две форели,
И с ними был форел.
Форели постарели,
Форел не постарел.

*Ул. Караткевіч*

П'яныя з палян як ракі распаўзаюцца да агню (міліцыя зрабіла імправізаваны працвярэзнік). А п'яныя астатнія ў знак пратэсту падпалілі пуню і Ліга спяваюць.

Zeberiņš. На прызбе старыя. Маладыя на качэлях стараюцца адарвацца. Певень топча курэй. Кожны ў сваім плане.

Кідаюся ў прорву, як вядро ў студню.

Чырвоныя парэчкі павінны выспець на Купалле.

---

[1] Juna un salda Gaļa — юнае салодкае мяса (*лат.; заўв. Р. Барадуліна*).

Раніцай латгальскае піва. Цёмнае, у гліняным гарлачы. *Лычы ў лычы і лакчы.*

Па кілішку за латышку,
За латыша з поўнага каўша.

З кветак [лічба] 18. Пад дубовую арку. Сунічная палянка. *Паўнагоддзе — годзе.* Неспакой бацькоў і дачок.

Дуб крывы, як наша доля. Хлеб, што кінулі на зямлю, — не прарасце. Хлеб — гэта зерне размолатае[1].

Сёння sveiki, заўтра sveiki,
Паслязаўтра ні капейкі.

*1 ліпеня, пятніца*

Рэдакцыя «Zīlīte», «Lira». Pie Jezusa kaja[2]. Jūrmala. Ера [Стулпан] ў гневе. Затрымалі.

*2 ліпеня, субота*

Мірэнне з Ерам [Стулпанам]. Ад’езд Маі. Мы — нянькі. Паездка ў Маеры.

*** Віктар [Ліўземніек] на пахмелле п’е, як грае на губным гармоніку.

Раніцай на сене. Птушкі пешкі ходзяць па шыфернай страсе. Каты здзіўлена глядзяць, павук, павучынне прасвечваецца праз акно. Пасцілкі брат Еры [Стулпана] на сена даў, як беларускія. І студня ў неба глядзіць, як мутнае вока з пахмелля. Лазня Ераніма пахне венікамі, ля ўваходу ў прылазніку два камяні ад млына. Дзве ўдавы і двое сірот (! Viktors [Ліўземніек]). Eronima tēvs[3] — сінявокі да бясконцасці.

* * *

Пасля дажджу прыціхлі нябёсы.
Казёл мармыча нешта ў бараду.
Ступае поплавам мужчына босы,
Нясе памалу ціхую ваду.

Гады ў зямлі адрыліся кратамі,
Яго зязюлям многа не куваць.
Не доўга ўжо ссівеламу ратаю
Зямлю нагою босай адчуваць.

---

[1] Гл.: Неба тваіх вачэй. (26.08–1.09–3–6.11.66) // Адам і Ева. Мінск, 1968. С. 239. Паэма прысвечана Е. Стулпану.

[2] Pie Jezusa kaja — каля ног Ісуса (*лат.*)

[3] Дакладней: Hieronīma tēvs — бацька Ераніма (*лат.*).

Ён дабратою высветлен, як ясень
Увосень сонцам,
дзядзька Ўладыслаў.
Здаецца, ён прагнаў спякоту ў засень,
Спакой на ўсю Латгалію паслаў.[1]

*Лістапад 1966*

Пасля латгальскага піва спідометр нервовым пальцам паказвае то 80, то 120, дарога …

Бочка — два шпунты, як сам Бахус двума пальцамі заткнуў.

Паўнагоддзе, стагі, як буданы.

Як стары імпатэнт, кот стараецца злавіць залатую рыбку праз шкло вітрыны.

Daugava, як сталеліцейны цэх (адвячоркам), разліла сталь і вецер студзіць. Чайка пад сасну, як пад зялёную хвалю нырае. Дождж. Чайкі на дамбах чысцяць пер'е, як качкі. Чуйнагаловыя.

Вецер з мора, чайкі на беразе, сляды, вецер хвасты паддзімае. Сонца заходзіць, паглядзім на сонца — пасля ўсё ружовае — і сосны, і неба. Вал плячо ў плячо штурхае.

Сябры чыталі адзін аднаму вершы ўсю ноч, а пад раніцу згубілі сківіцу.

Па вуліцы дабраты і з маленькім братам ідзе наўмысна спакваля.

Чайкі — асенізатары дачнікаў, якія забруджваюць узбярэжжа, — чакаюць падачак.

* * *

Приезжает полк солдат —
Дядя Ера очень рад.

Нет ни мяса, ни костей —
Ера создан для гостей.

Богом для гостей храним
Добрый дядя Ероним.

*3 ліпеня, нядзеля*

Фатограф раніцай. Мора.

Вяртанне Фамы [Караткевіча]: «Я бедны, добры». Торг: за 3 pudeles alus 1 degviņu[2].

*** Паэтам і пажарнікам не трэба жаніцца (П. Антэас).

Акуляры, як матылёк, падняты на ілбе.

---

[1] Варыянт часткі паэмы. Гл.: Неба тваіх вачэй // Адам і Ева. Мінск, 1968. С. 239.

[2] Торг: за 3 pudeles alus 1 degviņu — торг: за 3 бутэлькі піва 1 [бутэлька] гарэлкі (*лат*.).

Іх труны абвянчалі перад магілай. Рускі і полька.

*4 ліпеня, панядзелак*

Раніцай праспаў. Чакаў аўтобус. Лагер. Разам з цяжкавыхоўваемымі. Вечарам мастакі сустрэчу [наладзілі]. Касцёр. Старыя анекдоты. Абавязкова пра фінаў.

*5 ліпеня, аўторак*

Іваноў пра мастацтва. Старыя як свет тэмы. Veikals [магазін], возера, Pulksteņis [гадзіннік]. Вечар паэзіі. Касцёр. Амброзій з мішэнню — танец.

*** Палянка, маладыя паэты чытаюць свае першыя вершы. Саромеюцца, збіваюцца. З запазухі, з-пад кашулі вымаюць, як галубоў, старонкі вершаў, ад рукі напісаных. На старажытнай паляне старажытная мова гучыць. Грузчык, рабочы порта; ганяў кароў…

*9 ліпеня, субота*

[Упісана рукой Валянціны Міхайлаўны]: Валі падарунак! [да дня нараджэння].

*** Гаўя. Цішыня. Абрывісты схон. Сосны адны трымаюцца каранямі, другія ўніз галавой паляцелі. Парэчкі, парэчкі. Зрэдчас ціхая шышка ўпадзе, ціхая, як рака, як ліпеньскі дзень. Бусел, здаецца, вырас са сваёй чорнай камізэлькі і зараз недарэчна выглядае.

Ян Карлавіч, стары стралок, чорныя бровы. Петрас [сочыць] вавёрачку ля музея Райніса. Петрас ля мора. «Балтыка салодкая. Дома аблізваш губы — салёныя».

*18 ліпеня, панядзелак*

Рынак. Ружы. Князь [Краўчанка]. Прылёт у Гродна [да цешчы[1], дзе адпачывала сям'я]. Шабан праводзіў — заснуў за сталом.

*19 ліпеня, аўторак*

Настрой кепскі. Разбудзілі вераб'і. Духата.

*** Досвітак у Гародні. Спачатку чаркат — вераб'і, вароны, затым і нарэшце пеўні, пахне маркоўнік.

Дом у Гродна, дзе жыў Багдановіч, каля яго сланечнік маленькі.

Іван (сусед Валі ў Гродна) расказвае гісторыю, як ён у дзень 8 Сакавіка правёў святло ў грамадскі туалет для ўсяго дома. … Мокры слуп. Тузанула. «Какой-то дурак [провёл свет]: сядешь — в щели всё видно!» Знікаюць лямпачкі. Перанёс з завода амаль скрынку. З'явіліся ў пад'ездзе.

---

[1] Сталярова Таццяна Харлампіеўна (1914–2005). У 60-я гг. метадыст па хору Дома народнай творчасці.

Пасля на пляцоўцы знікаць пачалі. Дроцік [прыкруціў] ля лямпачкі. Старая рухнула з табурэткі… Абрэзаў [раззлаваўшыся] і купіў ліхтарык.

Размораны горад, дрэвы. Маладыя дзяўчаты. І добра, што сукенкі лёгкія, толькі для прыліку. Яны то дакранаюцца да маладога цела, то зноў баяцца дакрануцца[1].

Часцей, чым пераўлікі ў кіёсках «Саюздруку», у горадзе Гродна прыпар. Слоікі, і абласныя піжоны дастаюць для цешч і для жонак[2]. … я не змагу есці варэння.

*20 ліпеня, серада*

Як шчупак на гарачай патэльні, адчуваеш сябе на каменнай плошчы. Рака. Стручкі акацый лопаюцца. «Загадкавы пасажыр».

*** Спяшаюцца ў магілёўскую аперэту. Нарады [строі] старамодныя. Цішыня ў разамлелай Гродні. Чуваць, як лопаюцца стручкі акацыі, і адна за адной вылятаюць гарошынкі. Палавінкі стручкоў і гарошынкі храбусцяць і хрумсцяць пад нагамі.

Сон у Гродні: жаўтароцік (падлётак) выпаў з гнязда, спачатку глядзеў на мяне вялікім круглым вокам. Я стаяў на ганку. Выпырхнуў. Вярнулася ластаўка і пытае: «Вы не бачылі, дзе мой неслух?» Пасля спахапілася: «Ой, прабачце, зусім забылася, што вы па-ластаўчынаму не разумееце». Я толькі адкрыў рот сказаць «разумею», — але яна знікла[3].

Дзве суседкі варожа адносяцца. У адной некалькі курэй і певень. Певень бегае да дзвюх курачак другой. Тая сядзіць цэлы дзень і дубцом адганяе пеўня ад курэй. А той бегае.

У заапарку мые дзяўчына слана. Ілонка: «Гэта ягоная мама, купае сынка». Слон, вушы вялізныя. Хобат — вялікая змяя. У бусла, як у хранічнага алкаголіка, чырвоны нос. Грыфы — як старыя графіні з аблезлымі дарагімі каўнярамі.

*21 ліпеня, чацвер*

Зноў Нёман. Пупка перагрэлася. «Прыгоды Піткіна ў бальніцы».

*** На беразе Нёмна. Пясочак, сляды капытоў, карчажына, як дзікі звер, і раслінка-былінка, як ветравое шкло, працірае пясок СССС колькі каленаў. Малюскі выйшлі, а ракаўкі, як крыдлы, засталіся, лепш поўзаць. З крыламі цяжка.

Нёман. Хвалі пясок праз пальцы прасыпалі, тысячы год ён прасочваўся, таму такі мяккі і драбны.

---

[1] Гл.: Спаднічкі (09.67) // Лінія перамены дат. Мінск, 1969. С. 16.

[2] Гл.: Гасцюю ў цешчы [1967] // Станцыя кальцавання. Мінск: Б-ка «Вожыка». 1971. С. 33.

[3] Гл.: Трыпціх Ушаччыны (2 ч.: «Сені расчынены…»; 1.09.66) // Рум. Мінск, 1974. С. 105.

А былі мы вольнанаёмныя
У арміі закаханых
На Нёмане.
Ты Нёман паказвала,
Як пра дзеда свайго расказвала[1].

*Заснежаны, лютавы — уплюталі.*

*22 ліпеня, пятніца*

На Замкавай гары. Ноччу чаўны з агнямі. Палыны і конікі.

*** Заходзіць сонца. Нёмнава кальчуга пераліваецца і серабрыцца. На камянях ад Замкавай гары (як камяні ў лазні) з даверам крылы грэюць матылькі, чакаюць заўтра сонечнага дня. У Каложы ўсё ў мінулым. Нёман унізе і забыўся, што зрабіў некалі. Рэшткі дажываюць век, як прабабка пры праўнуках (драўляная прыбудова, яны (новыя) на Нёман, яна ў іншы бок).

Таблічкі на рэштках замкавай сцяны і на рэштках Каложы аб тым, што яны ахоўваюцца законам, іх маладосці не вернуць. Час іх не захаваў, а ён няўмольны.

Законам час не падуладны.

Ноч пакажа з-пад паліны зорку і зноў схавае. Туманы. Чаўны. Коткі. Палыны. У чаўнах кастры. Маладзік, як ад. Кастры на берагах. *Чаўны Нёмнам закалыханыя, на беразе адны закаханыя[2].*

Конікавае Гродна. Рэзідэнцыя. Царства. Аўтаномія. Усё Гродна. Нават цэнтр. Асабліва апоўначы. Нават міліцыянер, які дзяжурыць ля аблсавета, дрэмле (пільнасць губляе) ад іх.

Міцкевіч нарадзіўся ў карчме, пуп абразалі[3]. Беларуская песня. Заўсёды, як няньку, Міцкевіч…

*23 ліпеня, субота*

Зборы. Аэра. Мінск. З Федзем Бачылам[4] ляцелі.

*** Самалёт сонечным днём. Ад вінтоў вясёлка.

*24 ліпеня, нядзеля*

Праца з Сяргеем [Панізнікам] над рукапісам увесь дзень.

---

[1] Гл.: «А былі мы вольнанаёмнымі…» (1980) // Вечалле. Мінск, 1980. С. 187. Верш прысвечаны Д. Бічэль-Загнетавай.

[2] Гл.: Водбліск купальскай начы (28.11.77) // Вечалле. Мінск, 1980. С. 188.

[3] Гл.: Адаму Міцкевічу (24.08.73) // Свята пчалы. Мінск, 1975. С. 327.

[4] Бачыла Фёдар Афанасьевіч (1924–1992), беларускі журналіст.

*29 ліпеня, пятніца*

Рынак. Сяргей [Панізнік]. Апошнія прыгатаванні. Аўтобус. Шмат землякоў. Федзя, Толя [Апёнак].

****Раз пагодзіцца, то распагодзіцца.*

Конаўка, як сабака на ланцугу, каля вядра на раённай Лепельскай аўтастанцыі.

На вакзале п’яны рубель юбілейны за вушка прыпаяў: «Калі заб’юць ці памру, лічыце, што я камуніст».

*30 ліпеня, субота*

Прыезд ва Ушачы з цёмным.

*** Серп уткнуў дзюбу ў бервяно (завязла) да жніва.

Вербы ля дарогі, як пасля сну, адкінуліся, каб размяць спіну.

*31 ліпеня, нядзеля*

З маткай хроснай [Міклашэўскай]. З Васілём [Янушкевічам]. За ВМФ[1].

*** Не так галава, як валасы баляць[2].

*1 жніўня, панядзелак*

Хадзіў на рэчку. Перачытваў Уітмена.

*2 жніўня, аўторак*

Ілля. З Пупунчыкам і Валяй на рэчку. Кіно. Раён аднаўляецца, як пасля вайны — рэзрух, шум.

*** Калгаснікі ловяць вавёрку. Уборка. Жніво. Пакінулі канторы і склады. Любоў да прыгожага.

Свіння чэша бок, нібы тупой пілой рэжа бервяно.

Пасёлак спіць, толькі пахрапвае насамі каміноў. У хлявах кудахча і рохкае дабрабыт.

*3 жніўня, серада*

Раненька ў лес. Грыбы. З Васілём [Янушкевічам] у Фадзея [Францавіча Багдановіча].

***Падсочаныя дрэвы дзяцел абстуквае з ветлівасці, як урач, які ведае, што хворы памрэ, але дзеля родных (дзеля лесу, які яго выклікаў паслухаць). Выслухвае толькі з ветлівасці, нібыта ім век расці.

Бляшаныя каганцы. Смала ў іх (за душу сасны памаліцца). Сосны як обречённые. Вочы ў здзіўленні на дамавіну. Адна сасна налажыла на сябе рукі, звесіла галаву — зламалася.

---

[1] ВМФ — Дзень Ваенна-марскога флоту.

[2] Гл.: Ранішні боль (1972) // Прынамсі. Мінск, 1977. С. 202.

*4 жніўня, чацвер*

Раніцай Фадзей [Багдановіч] з Васькам [Янушкевічам] заходзілі. Ледзь адмовіўся. Уваходзіў у вершы.

Коля [Апёнак] прыходзіў, як яму быць з работай.

Васіль Фадзея пагрэе, пасушыць і зноў схавае.

*5 жніўня, пятніца*

Тое-сёе пісаў[1]. Запісваў для слоўніка. Хадзіў з Валяй да Пецькі [Трафімава].

Ай, Грышачка, выпі
А за сябе поўную,
А за Валю роўную.
Вот табе чэсь,
Залатую чарачку
Да дна гнеш.

*6 жніўня, субота*

Лазня. Дубовы венік Сцяпана.

Зноў пісаў.

*7 жніўня, нядзеля*

З Васькам [Янушкевічам] ва Ушачах, Генька [Гарбук] пятніца. Магільнік. Бярвенне. Вечарына. Танцы з хроснай [Міклашэўскай].

*8 жніўня, панядзелак*

Вечалле. Ваўчэнскае возера. Туманы падымаюцца. Закончыў яшчэ верш[2]. Чытаў.

*** Адвячорак. Над Ваўчэнскім возерам. Вырваны лён стаіць у бабках. Сын косіць іллянішча. Старая ў рудой спадніцы стаіць — якраз бабка. Толькі белая хусцінка, як аблачынка, на галаве. Маці нідзе не робіць, тупае каля хаты[3].

*9 жніўня, аўторак*

Досвіткам грыбы. Глушэе лес — блізка восень. Ваўчэнскае. Купаліся. Крывуха [рэчка].

*** Стаіць па шчыкалаткі ў вадзе (па забарсні), хваля набягае і б’е па костачках. Назад хваля адкочваецца, і козытна ўцякае з-пад ног жарства.

[1] Гл.: «Чаканы міг спакою...»; «Дзень пачынаю думкаю пра цябе...» // Адам і Ева. Мінск, 1968. С. 198; 201.

[2] Гл.: Гняздо шэрай чаплі // Адам і Ева. Мінск, 1968. С. 202; «Мы ў гасцях у Наднямонпя...» // Журавінка. Мінск, 1973. С. 11.

[3] Гл.: «Вырвалі лён...» (10.02.68, Ушачы) // Рум. Мінск, 1974. С. 100.

О човен, у носе тваім адбілася два жэсты — рукі, складзеныя чарапком, каб ваду вычэрпваць, калі човен тоне. Ты ў адчаі [можаш] нырнуць з вадзенікам.

*10 жніўня, серада*

Прыйшло ад Князя [Краўчанкі грошы]. Адпаведна з Васілём [Янушкевічам выпілі].

*11 жніўня, чацвер*

Рэчка. Хадзіў глядзець «Навекі твой» — егіпецкі шырспажыў.

*12 жніўня, пятніца*

Возера. Белы дом.

*13 жніўня, субота*

Канстанцін Паўлавіч [Баразна]. Доўгая бяседа.

*14 жніўня, нядзеля*

Васіль [Янушкевіч] прынёс адпаведна.

*** Судзілі аднаго, што хадзіў да чужой жонкі. «У мяне ад сваей няма чым абараняцца, не тое што да чужых жонак хадзіць».

Чалавек узяў тры бутэлькі віна. Комшыў-комшыў, ставіў-ставіў, а яны коўзь-коўзь, дзве пабіліся. Тады ён за трэцюю ды вобземлю: «Ах, тваю маць!» Пайшоў і ўзяў яшчэ тры.

*Вясёлы, як гіцаль, што грошы прапіў за злоўленага сабаку.*

Дзеўкі з кірмаша. Адна: «Як пагляжу, мы з табой на ўвесь кірмаш былі ўдзвюх. Ты як ты, а я!..»

Чым меншы сабака, тым больш гучная ў яго клічка.

Усё з зямлі — гліняныя куфлі і мы, як станем глінай, пойдзем на куфлі.

Смаргонская акадэмія![1]

*16 жніўня, аўторак*

Раненька, як у бежанцы ці ад самалётаў у Кавалеўшчыну, з Канстанцінам Паўлавічам [Баразной] на Андрэеўшчыну. Грыбны азарт. Дамоў прыйшлі гадзіны ў 3.

26 лысых удваіх з Валяй назбіралі.

---

[1] Гл.: Смаргонская акадэмія: Паэма (23.12.74, Дубулты) // Амплітуда смеласці. Мінск, 1983. С. 180.

*17 жніўня, серада*

Возера. Крывуха. Зноў возера. Знайшоў адвячоркам баравікі. Трывожны захад.

*** Ноч уваходзіць у прыціхлы лес і за сабой вядзе вадзенікоў, лесуноў. Возера на прагаліне разане па вачах, зыркае ад зары. З цягам часу касманаўты раскажуць — будуць запаведнікі для русалак, вадзенікоў, лесуноў, якія некалі жылі (як зараз зубры).

*18 жніўня, чацвер*

З Васілём [Янушкевічам] на Дземенец. Некалькі баравічкоў. З мамай да Пецькі [Трафімава].

Канстанцін Паўлавіч [Баразна].

***Сышліся двое са сваімі дзецьмі. І новыя ёсць. «Глядзі, Ганулья, як твае дзеці маіх б'юць». — «Глядзі, каб да нашых не дабраліся»[1].

*Ёсць на Ушаччыне Навасёлкі, вясёлкі, дарогі прасёлы вясёлы золкі зёлкі волкі колкі. Малеча — Шлях Млечны. На хвалях — шалях. Вуліца — цыбуліцца. Прасіла слёзна — Лёзна.*

*19 жніўня, пятніца*

Ад'езд з Ушач. Як перад канцом свету людзей. Васіль Васілевіч [Зуёнак]. Калабок [Чарняўскі].

20 жніўня, субота

Казёл[2]. Жэнька [Шабан]. Мядзведзь [Нядзведскі]. Адамавіч [Гусак]. Падпісацца на Сусветную бібліятэку, даведацца [пра] Этымалагічны слоўнік.

*21 жніўня, нядзеля*

Рынак. Шабан. Казёл [Шлег]. Коля [Ваданосаў]. Пруднікаў[3]. Мядзведзь [Нядзведскі]. «Неман», («Зара») [рэстаран]. Сусед.

*22 жніўня, панядзелак*

Праз плот. Малдаване. Кацёл. Зборы. Самалёт. [Крым, Планерскае, «Express»]. Ноччу цэлы век на таксі. «Чаўночак». Цыкады. Адна ля

---

[1] Гл.: Твае, мае і нашы // Станцыя кальцавання. Мінск: Б-ка «Вожыка». 1971. С. 34.

[2] Шлег Алесь (Аляксандр Карпавіч; 1936–1998), беларускі пісьменнік. З 1960 г. адначасова з вучобай ва ўніверсітэце працаваў карэспандэнтам газ. «Звязда», затым рэдактарам выд-ва «Беларусь». Прысвечаны яму верш гл.: «Сярдзітыя, стамлёныя...» (14.02.68, Ушачы) // Лінія перамены дат. Мінск, 1969. С. 54.

[3] Пруднікаў Павел Іванавіч (1911–2000), беларускі паэт. У 1952–1968 гг. настаўнік рускай мовы, літаратуры і гісторыі Слабодскай СШ Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. Быў рэпрэсаваны.

раніцы, як пазыўная з іншай планеты. Лубачны краявід. Сонца з-за сопак. Пасля паўночнай сакавітасці. Ад страсці апаленая «Ластавачка». Міронаў. Дырэктар. Смелякоў[1]. Стах[2]. Яскевіч[3]. Адамовіч[4]. Перасяленне. Камары.

*** Цыкады спяць, аж насамі свішчуць. Цела трывожны пах.

*24 жніўня, серада*

Спёка. Нельга дыхаць. Марныя пошукі ў магазінах шортаў і басаножак. У «Сельгаспрадуктах» буталь. Пенсіянерскія тапачкі. Берггольц[5] пытала, як вада, толькі прыехала. Перапалох.

*25 жніўня, чацвер*

Са Станіславам Пятровічам [Шушкевічам] паход на Кара-Даг. Біястанцыя. Татарскія паселішчы. Вінаграднікі. «Вады нет!» Ганчарук[6], Турчынская. Стах [Шушкевіч]. Ноч.

*

Здесь юные прохвосточки
Погибнут от тоски.
И виноград без косточки,
Как дамские соски…

*

Забірай пятачок і не моршчыся,
Тут табе не бардачок —
Дом творчасці.

---

[1] Смелякоў Яраслаў Васільевіч (1913–1972), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1967).

[2] Шушкевіч Станіслаў Пятровіч (1908–1991), беларускі паэт. У 1958–1970 гг. загадчык аддзела газ. «Літаратура і мастацтва». Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР (1983). Быў рэпрэсаваны. Гл.: А ведаеце… // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 143.

[3] Яскевіч Алесь (Аляксандр Сямёнавіч; н. 1934), беларускі крытык, літаратуразнавец, біблеіст. З 1964 г. навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Доктар філалагічных навук (1992), прафесар.

[4] Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; 1927–1994), беларускі пісьменнік, крытык і літаратуразнавец. З 1966 г. навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Член-карэспандэнт АН БССР (1980), доктар філалагічных навук (1962), прафесар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1976).

[5] Берггольц Ольга Фёдараўна (1910–1975), руская паэтэса.

[6] Ганчарук Захар Уласавіч (1921–1991), украінскі паэт, перакладчык.

*** Кара-Даг — чорная гара. Цэнтр вулкана. Кускі глыб, як каменьчыкі, падкідваў на гарачай лапішчы, важачыся, куды кінуць. Арол скрыпіць: ка-ра-даг. Саланчак Мышай пасля нашай эры.

*26 жніўня, пятніца*

Рана рынак. Зноў буталь. Мора. Рыленкаў. Станіслаў Пятровіч [Шушкевіч] падбіўся. [К/ф] «Гадзюка».

*** Кідаю эхалот «Добры дзень», і з глыбіні 8 мільёнаў грудзей «Дзень добры».

*27 жніўня, субота*

Выезд уздоўж узбярэжжа. Прапахлае курортніцкае мяса — крыху муціць. Сердалікавая бухта. Крыніца зверху.

*** Зубаломная вада ў крыніцы.

*28 жніўня, нядзеля*

З раніцы пісаў. Раптоўна пахаладала. Навальнічка. Вецер. Чытаў Чацверыкову[1] аповесць. Хадзілі да мэра Міронава (Дудзін[2] «Як я пісаў сваё апавяданне «Кола»). Гадасць «Вас чакае смерць».

*** Пісьмо Наркамасветы БССР у Наркамсабес БССР: «*8 ліпеня 1921 г.* Гэтым Наркамасветы просіць выдаць адны новыя боты вядомаму беларускаму пісьменніку Янку Купалу (Івану Луцэвічу). Пры гэтым Наркамасветы дадае, што Купала ў ботах вельмі мае патрэбу. *Намеснік наркама*»[3].

Авіятар акадэмік Мікулін[4]: зазямляцца, размагнічвацца, стрэлкі компаса пры сустрэчы хлусяць.

«Душа поэта — золотой запас, который не меняют на бумажки», — Э. Межалайціс.

Класікі тым і добрыя, што іх не бачыш, як ядуць, як сварацца.

*29 жніўня, панядзелак*

Паход у горы. Армянскай бажніцы няма. Крынічка. Выветраныя ссівелыя скалы. (Пасля прыём у Макара, кавун з Херсона.)

---

[1] Чацверыкоў Барыс Дзмітрыевіч (сапр. Чаверыкоў Дзмітрый; 1896–1981), рускі празаік, публіцыст. Быў рэпрэсаваны. Аўтар кнігі ўспамінаў «Усё бывала на вяку».

[2] Дудзін Міхаіл Аляксандравіч (1916–1993), рускі паэт, празаік, перакладчык, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

[3] Гл.: «Адцвіў з забытага раманса бэз...» (1969) // Вяртанне ў першы снег. Мінск, 1972. С. 105.

[4] Мікулін Аляксандр Аляксандравіч (1895–1985), рускі канструктар. Генерал-маёр-інжынер. Акадэмік АН СССР (1943). Герой Сацыялістычнай Працы (1940). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1941, 1942, 1943, 1946).

*30 жніўня, аўторак*

Паход па Планерскім за гаручым. Нарэшце здабыў. Вечарам сядзелі ў Станіслава Пятровіча [Шушкевіча]. Шмат расказваў.

*** Станіслаў Пятровіч расказваў: «У адзіночцы вельмі радасна, калі заляціць муха. І якая злосць на павука!»

*31 жніўня, серада*

Ранішняе мора. Плячо ў плячо з хвалямі. Мора пачало ўзыходзіцца. Ноччу месяцовая дарожка. Белыя валы.

*** Шквалістыя валы ламаюць плячо, як сувоі плотнай тканіны. Конніца сівагрывая, адна шарэнга, другая адкачваецца, і ўсё мяшаецца. Мора хоча ў сушы адабраць некалішнія граніцы. Перадзел граніц. Чырвона-зарыўная поўня. Чорныя ад гневу. Моры — асобныя ханствы колішняй Залатой Арды.

Дэльфіны — ідэальныя фіны,
маўчаць, як рыбы.
Хаця не рыбы,
ну не ідэальныя хіба?

*Парадзелі аб перадзеле. Шэпча пляж: ды асцярожна пляш.*
*Важныя персоны — не запырскай парасоны.*
*Ах, Чорнае мора — курортная змора.*

*1 верасня, чацвер*

Ранішняе мора. Пісаў вершы. Са Стахам [Шушкевічам]. Тэлеграма ў Мінск наконт Дуброўскага[1]. Захар [Ганчарук]. Паход у магазін. [К/ф] «Амерыка вачамі француза». Лечыўся сам.

Усё ў вачах маіх плыве,
Ды, рэшту сіл патроіўшы,
Па кію і па галаве
Я пазнаю Пятровіча.

[1] Дуброўскі Ігнат (сапр. Чарняўскі Ігнат Цімафеевіч; 1906–2003), беларускі пісьменнік. У 1945–1976 гг. загадваў сектарам аграрных праблем Інстытута эканомікі АН БССР. Кандыдат сельскагаспадарчых навук. Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР (1981). Тэлеграма напамінала СП пра юбілей І. Дуброўскага.

*2 верасня, пятніца*

Вынікі лекаў ёсць. Шукалі магазін з Захарам, Галяй [жонкай Ганчарука]. Збіралі каменьчыкі. Дачытваў Дзьякава[1]. Захар расказваў пра сябе. Скрозь аднатыпна. Дарэчы, з Захарам напісалі эпіграму на Паўлычку[2].

Поэзії ненавчаний солдат,
Тягнувся в маршалы Павличко.
Виддав снагу для круглых дат,
А заробив пивличка.

Ніна ў сталоўцы, з-пад Чашнік. На Украіну [пераехалі], няма чым тапіць. Заўсёды недаваранае. У Крым [перабраліся]. Маці: «Хоць як, абы дровы былі (сказалі, што лясы)».

*3 верасня, субота*

Ледзь не спазніліся на аўтобус. Феадосія. Руіны крэпасці. Магіла Айвазоўскага[3]. Карцінная галерэя. Латышка з намі была.

*** На спіне аўтобуса нумар. Як у лагеры, як выпускнік вар'яцкага дома.

Быковая шкура. На аднаго феадасійца летам 5 чалавек прыезджых. Поўдзень, скрозь можаш узважыцца до і пасля, і кашалёк.

Паруснік. Ветразь, як крывы нож. Вінаграднікі. Едзем у аўтобусе. Мне здалося, што гэта бульба зелянее.

У Феадосіі экскурсавод расказвае пра нявольнічы рынак. Старая пытае, а што з хворымі рабілі. «Адпраўлялі ў Дамы творчасці і на курорты».

За маленечкай сучачкай ганяецца вялікі баксёр (гуляюць), ніяк не можа дагнаць. Як гадзіннікавая стрэлка за секунднай.

Помнік казлу, які абгрыз вінаград у выглядзе галавы вепрука. Nomina stultorum iacent ubique loquorum — Имена глупых (лежат) на всех местах[4].

Трымай-дрэва. Экскурсавічка. Піць як грэкі, як скіфы. Як баклажан, нос у алкаголіка.

*Твая ўсмешка не гучыць, бязгубая ўсмешка.*

---

[1] Дзьякаў Барыс Аляксандравіч (1902–1992), рускі журналіст, празаік, драматург. Быў рэпрэсаваны. Аўтар кнігі ўспамінаў «Аповесць аб перажытым» (1966).

[2] Паўлычка Дзмітро (Дзмітрый Васілевіч; н. 1929), украінскі паэт, перакладчык, крытык, палітычны дзеяч, дыпламат. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1977). Герой Украіны (2004).

[3] Айвазоўскі Іван Канстанцінавіч (1817–1900), рускі мастак-марыніст.

[4] Дакладней: Дурні свае імёны крэсляць на кожным слупе.

*4 верасня, нядзеля*

Паход да магілы Валошына[1]. Захар [Ганчарук] з жонкай і Лупій[2] з жонкай. Розачка. Стах [Шушкевіч]. Палын п'яніць. Як вытрыманая. Мора рыбай, ёдам б'е.

Вечарам у Ігната Цімафеевіча Дуброўскага 60-гадовы юбілей. Цікавая гутарка.

*** Магіла Валошына. Крыж з камення. Магіла каменем выкладзена.

Наш апостал Станіслаў
На Галгофу нас паслаў.
Гарту ў Вас яшчэ замнога,
Наш любімы дзядзька Стах.
Тут цудоўная дарога.
Украінцы — у кустах.

*5 верасня, панядзелак*

Аўтобус. Судак. Генуэзская крэпасць. Праз байніцу (вось-вось сыдуцца дзве далоні пальцамі) на мора глядзець. Грот Галіцына — Шаляпінава[3] эстрада. Царская сцежка. Суцэльны грот. Дождж. Адсталі. Рэм [Нікіфаровіч].

*** На цаліне (хлопец у аўтобусе [расказваў: ён]) адзін араў і арыентаваўся на хмарку.

*6 верасня, аўторак*

6 раніцы. Турэцкі вал. Керч. Сняданак («Аромат»). Кошка з адцятым хвастом. Царскі курган. Мірме́кій. Сівая маладая геалагіня. Паром. Керч. Царква VIII в. Калоны (6 в. да н. э.). Лапідарый. Пантыкапей. Мітрыдат. Чарапкі. Сёмін[4] пяе.

*** Скіфы — фіфы, дзяўчаты ўсялякія бразготкі вешалі. Гадзіннік сонечны. Чалавек з быком, бык, плуг, ячменны колас — на манетах. Царскі курган IV в. да н. э. Керч. Бочкі, як соты, пахне селядцамі паветра, можна закусваць. Аж хочацца бульбу зварыць.

Мірмекій — (мурашка) горад працаўнікоў.

Хрыбетнік стэпу (каля Керчы), хочацца пералічыць кожную костачку-курган. Стэп худы, і хрыбетнік выцягнуўся.

Скальпіраваць грэцкі арэх. Точна мозг.

---

[1] Валошын Максіміліян Аляксандравіч (сапр. Кірыенка-Валошын; 1877–1932), рускі паэт.

[2] Лупій Олэсь (Аляксандр Васілевіч; н. 1938), украінскі паэт, празаік, драматург, кінасцэнарыст. Лаўрэат Нацыянальнай прэміі Украіны імя Т. Г. Шаўчэнкі і прэміі імя Д. Яварніцкага.

[3] Шаляпін Фёдар Іванавіч (1873–1938), рускі спявак, рэжысёр, мастак. Народны артыст Рэспублікі (Расія, 1918).

[4] Сёмін Леанід Паўлавіч (1923–1980), рускі празаік.

*7 верасня, серада*

Са Стахам Пятровічам [Шушкевічам] у Жабіну бухту. Мора. Душ. «Гімно бджолы, гімно мед, гімно лірик Шеремет[1]». Развучвалі з Агатай Фёдараўнай «Аркана».

Селезень вутку
Прыпёр да кутку,

Як пачаў цемяціць,
Дык аж пер'е ляціць.

*(Стах Пятровіч)*

*8 верасня, чацвер*

Бухта рапень. Раненька. Два дэльфіны купаліся блізка ля берага. Пасля абеду на Святую [гару]. З 3-х дня да 7.30 вечара паход. Дубы. Магіла хана разрытая. Спуск. Віта[2] шукала пятую кропку апоры. Назад з песнямі. Кветкі і дзяды горныя.

Дзень анёла Наталлі Барысаўны [Чацверыковай].

Кактэбель, як бор палескі,
Зашумеў з усіх краёў —
Едзе маршал Васілеўскі[3],
Майстра ложкавых баёў.

*9 верасня, пятніца*

Займаўся поштай. Гадзіны дзве патраціў на высненне, ці будзе кіно. «Сяргей Ясенін». Бярозкі як працэджаныя. «Жызель». Мора. Пражэктар. Панько[4] спавядаўся.

*10 верасня, субота*

Раніцай да паўдня правілі з Рэмам [Нікіфаровічам] пераклады ў Стаха Пятровіча [Шушкевіча]. Чытаў «День поэзии в Крыму». Гадасць. Бычкі. Сяло ў Стаха Пятровіча.

Был когда-то глуп и я,
Изучая Лупия.

---

[1] Шарамет Мікалай Спірыдонавіч (1906–1986), украінскі паэт, празаік, журналіст. Ураджэнец Беларусі.

[2] Паздзерка Віталіна (Кіеў, Украінскае таварыства дружбы).

[3] Васілеўскі Пятро (Пётр Савельевіч; 1922–2002), беларускі празаік, драматург, рэжысёр, сцэнарыст. У 1953–1988 гг. працаваў рэжысёрам на кінастудыі «Беларусьфільм».

[4] Панько Сямён Іванавіч (1920–1976), украінскі паэт, празаік, перакладчык, публіцыст.

*11 верасня, нядзеля*

2) Бухта рапень. З Захарам [Ганчаруком] на Святую [гару]. Горныя дубы і ясені — беспадобныя. Вяртанне назад. Потым з Вітай [Паздзерка], Велей і Ст. П. [Шушкевічам] зноў у бухту рапень. Вечар паэзіі — слёзы дзіцячыя. [К/ф] «Дні кахання».

1) Святая гара. Ясені і дубы каржакаватыя. Ствол кароткі, карані ўчэпістыя і многа сукоў, лістоў. Першыя піянеры, перасяленцы. Шмат дзяцей, свой корань пакідалі.

*12 верасня, панядзелак*

З раніцы фатаграфаванне. З Петрасянам[1]. Зноў праўка Болдыраўскіх[2] перакладаў у Стаха [Шушкевіча]. Паход у прадгор'і. Рэшткі татарскіх паселішч. Кратар вулкана. Дзічкі — ігрушы, яблыні. Прыём у Ігната Цімафеевіча [Дуброўскага]. «Шэрбургскія парасончыкі». Дрэнь.

*14 верасня, серада*

Святая гара з Анатолем [Сабалеўскім[3]]. Вечарам бухта рапень.

*15 верасня, чацвер*

З раніцы з Анатолем Сабалеўскім. Купанне.

*25 верасня, нядзеля*

З раніцы працаваў з Найдэнам[4]. Пасля ў мяне дома. Падборка латышоў для Балгарыі.

*26 верасня, панядзелак*

Кінастудыя. Саюз. Васіль [Зуёнак].

*4 кастрычніка, аўторак*

Нарэшце адправілі. Дарога з цёткай (шасцёра ўнукаў, пчолка). [г.] Ліда. Вандраванні з суседкай. Нарэшце месца для прыезджых. Рэстаран.

---

[1] Петрасян Вардгес Амазаспавіч (1934–1994), армянскі пісьменнік, публіцыст, грамадскі і палітычны дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Армянскай ССР.

[2] Болдыраў В.,рускі перакладчык.

[3] Сабалеўскі Анатоль Вікенцьевіч (1932–2012), беларускі тэатральны крытык і даследчык тэатра. У 1961–1970 гг. навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Адначасова выкладчык гісторыі тэатра Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Доктар мастацтвазнаўства (1974), прафесар.

[4] Вылчаў Найдэн (н. 1927), балгарскі паэт, перакладчык, эсэіст, журналіст. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (2000).

*5 кастрычніка, серада*

Як у камеры для касманаўтаў. Рэдакцыя. На аўтобусе да «Немна»[1]. Выезд на натуру. Дуб, прасвечаны золатам. Шыпшына.

*6 кастрычніка, чацвер*

З раніцы гегемоны п'яныя. Знаёмства з заводам. Здымалі. Хлопцы — з посудам. З Венем[2] прадумалі фільм. Канцэрт па тэле. Каб пабудзілі.

*** Шкло б'ецца на шчасце. Выдзімаюць, як вугалёк. Цэх вечных субтропікаў. За іх выпіць шкляначку. З маленькіх факелаў выдзімаюць вялікае зарава. Як чарацінка і кавалачак зары. Чаму пяе шкло? Чараты, як скрыпкі, спявалі. Стары майстар аббівае трубку, як ад наледзі, ад старога шкла. Цвыркун ля цёплых труб. Сабака, як ваганетка, ідзе па правадзе. Шар сонца і шар шкла — адбіваюцца вобразы. Абгарэлае дрэва, слуп, комін завода. Лоб у лоб казёл стукнуўся, і тут разбіліся чаркі. Зубр нагнуўся і застыў. Біткае шкло.

Слізгаюцца жалуды пад нагамі. На возеры лісты плывуць.

Усю восень бяроза з лістам (раскаціліся па пяску, па сняжку, хто куды, як сіроткі, а было ж усім месца, і бяроза была рада).

Я заганяў цягнікі, яны выпівалі рэкі, на бруку дыміліся чорныя ў аўтобусаў капыты. Самалёты акліквалі выраі з крэктам «ты»! Спыняў самалёты[3].

Як зрудзелае лісце з рабіны,
Асыпаюцца вераб'і,
Вераб'і маіх слоў
Будуць вылятаць,
Каб ты ўсміхнулася.

Здымаю з цябе сукенку, як супер з кнігі.

Бяссонніца. Стары гадзіннік з боем параўнаць з будзільнікам. У халадзільніка абрываецца сэрца. Маладзік, як член таварыства за няўплату членскіх узносаў.

*Асенні ліст танцуе твіст.*

*З запою выходжу, як з забою, рызыкую сабою. У мяне асенні запой — ап'янілі бары асеннія.*

---

[1] Паездка на Гродзенскі шклозавод «Неман».

[2] Арлоў Веніямін Аляксандравіч, беларускі тэлерэжысёр.

[3] Гл.: «Я загнаў цягнікі...» [1973] // Рум. Мінск, 1974. С. 92.

*7 кастрычніка, пятніца*

Раненька на аўтобус. Хутчэй на цягнік. Выезд на хаду. Слуцкі калгас. Абед. Сустрэча ў Старобінскім раёне. Салігорск. Нона Герасіменка. Начлег у Старобіне.

*8 кастрычніка, субота*

Агляд салігорскага будучага мора. Салігорскі камбінат. Сустрэча ў [запіс абарваны].

*14 кастрычніка, пятніца*

У «Мутным воку» паседжанне. Выступленне ў школе № 14 рабочай моладзі. Абед у Фомы [Караткевіча]. Вячэра ў нас.

*15 кастрычніка, субота*

Сустрэча з Мар'янам[1] наконт балады. Вычытка карэктуры «Дня паэзіі».

*20 кастрычніка, чацвер*

Рэдсавет. Сустрэча з Мядзведзем [Нядзведскім]. [Сталовая, умоўна] «Падвал» 20-га. Князь [Краўчанка].

*21 кастрычніка, пятніца*

Радыё. Песні. «Мінск». «Мутнае вока». Білетныя касы. За Пупунчыкам. Пасылка ад мамы.

*22 кастрычніка, субота*

Пераклад у «ЛіМ», для Князя [Краўчанкі] надпіс на помніку. Васю [Янушкевічу] наконт бальніцы. Ад'езд [ва Ушачы]. Таня.

*23 кастрычніка, нядзеля*

Васіль [Янушкевіч]. Матка хросная [Міклашэўская]. [К/ф] «Прыгоды настаўніцы».

*24 кастрычніка, панядзелак*

На рэчку. Магільнік. Размова з Валяй. Насця [жонка П. Трафімава] ў гасцях. У Арыны [Янушкевіч] прычына здарылася.

*25 кастрычніка, аўторак*

Садзіў яблыньку і дулінку. На Вечалле. На Дземенцы. Чаканне аўтобуса да 12-ці з Валяй. Лось у бальніцы.

---

[1] Наско Мар'ян Вікенцьевіч (н. 1932), беларускі кампазітар.

*26 кастрычніка, серада*

Заканчваў баладу. Прыгоды ў Арыны [Янушкевіч]. Васька [Янушкевіч] ноччу прывёў. Тэлеграма ад Фомы [Караткевіча]. [К. П.] Баразна. Марушка [Трафімава]. Сустрэча аўтобуса.

*27 кастрычніка, чацвер*

Дабіваю баладу. Астабрыдла. Прыход Гарбука з жонкай. Бяседа. Званіў Валі. Лаяўся.

*** [Запіс без даты:] Адна баба не трапляла з зяцем. Сварыліся й не мірыліся. Звадзіліся й не ладзіліся. І пайшла яна да знахара. Знахар даў вады й наказаў: «Як яго пачне забіраць, набяры вады ў рот і трымай, пакуль не аціхне. І рабі так шэсць разоў. А калі ненарокам праглынеш ваду, хуценька бяжы й набірай новай у рот».

*28 кастрычніка, пятніца*

Каця [кошка] разбудзіла. Памагала дапісаць баладу. Аўтобус пайшоў. Самалёт. З Валяй размова. Нарэшце дапісаў казла[1]. Пачаў паэмку пра дарогі і вяртанні[2].

*29 кастрычніка, субота*

Раніцай размова. Самалёт, выходзіць, не вылецеў. Партызан былы (японцы сумачкі з соцень). Электрасетка. Марушка [Трафімава]. Лазня. Позні прыём у мамы.

*30 кастрычніка, нядзеля*

Аўтобус. Пошта. Шэрас, снег — зіма. Рэчка вінавата чарнее і хаваецца ў тумане. Базар — аб'інелы. Васька [Янушкевіч]. Бяседа ў Васіля. Зноў пошта. Ушацкі рэстаран. Дом. Вымова ад мамы як заўсёды.

*** Міністр аховы здароўя аглядаў бальніцу ва Ушачах. Адарвалі дошку, а адтуль кот.

*31 кастрычніка, панядзелак*

Раненька перанос бульбы ў яму. Зноў паход да Васіля [Янушкевіча]. Сон. Паход у кіно. Выходны. Да рэчкі. Туман густы-густы, белы.

---

[1] Гл.: Застольная ода казлу (4.09 Кактэбель — 28.10.66, Ушачы) // Журавінка. Мінск, 1973. С. 38.

[2] Гл.: Лінія перамены дат: Паэма (17–31.01.67, Ушачы; паэма прысвечана Г. Кляўко) //Лінія перамены дат. Мінск, 1969. С. 67.

Паслаць рускі зборнік[1] Зайцаву [Валерыю Паўлавічу, Уладзівасток], у Туву, Сартакову, Новікаву [Наваполацк], Лукшу [Полацк], Зотычу [Ізотаву, Наваполацк], К. П. [Баразне, Ушачы]. Умовы конкурсу.

*** *Скупы.* Калі прадаваў бульбу, кожную бульбінку разразаў напалавіну, каб болей было.

*Праехалі праз цень бяроз і выбіліся на прасцень.*

*1 лістапада, аўторак*

Пісаў цэлы дзень вершы[2]. Хадзіў па магазінах. Шаткавалі капусту. Кружкі морквы. Кмен.

*2 лістапада, серада*

Выступленне ў школе. Стары школьны клуб. 9–10 класы. [К. П.] Баразна, Багдановіч. Адпаведна. Спачатку ў нас (Васіля [Янушкевіча] прапагандаваў), пасля ў К. П. [Баразны]. Жонка Ф. Ф. [Багдановіча] дамоў.

*** Настаўнік (Фадзей Францавіч [Багдановіч]) як донар. Любоў да мовы пераліваў.

*3 лістапад, чацвер*

Устаў рана (4 гадзіны), дабіваю нізку пра Латгалію[3]. Ваўчэнскае, Дземенчык, Вечалле. Размова з Мінскам. Паштоўкі.

*

От зари и до зари
Вспоминаю Ансори.
Жить без друга Файзуло,
Как без солнца, тяжело.

*

Под глаза, как под расстрел,
Мне Сибирь платком махала.
Околдованный смотрел
А на то ли я?
Пью из бочки за Чмыхало
Анатолия.

---

[1] Бородулин Р. Аист на крыше. М., 1966.

[2] Гл.: Трыпціх Ушаччыны (1.11.66, Ушачы) // Рум. Мінск, 1974. С. 104.

[3] Гл.: Неба тваіх вачэй (26.08–1.09–3–6.11.66, Ушачы–Кактэбель–Ушачы) // Адам і Ева. Мінск, 1968. С. 239.

*4 лістапада, пятніца*

Белы дом. Крывуха. Ваўчэнскае. Лясная рачулка. Заснежаныя дзялянкі. Чытаю Белага[1] «Ритм как диалектика». Князь [Краўчанка] званіў — [а я] у пажарную бегаў за газай.

*** Стаіць, баіцца абтрэсціся, бо снег, яліна, крыху пашэпчацца з ветрам і снегам падзеліцца з табой, цягаючы за рукаў. Возера, як у сталепракатным цэху і сне.

*Замовай — сцюжай зімовай яны зачараваны.*

*5 лістапада, субота*

Калонку адкапвалі. Адправіў Пупунчыку палітончык, што баба Куліна пашыла. Лазня. Дзяды: «... і непамянёных вядзіце».

*

Лицом суров, но мыслью светел,
Натурой бурной Радзивилл —
Старик Велюгин нас заметил
И, в «Минск» входя,
Благословил.

*** [Запіс без даты:] Да партрэта А. Вялюгіна. Калі ў космас ходзяць упэўнена касманаўты, будуць хутка астранаўтамі, а ўсё-ткі першы там быў Галоўны канструктар! (Выпадкам трапіўся нумар «Полымя» № 9, 1959 [?] з падборкай Ан. Вялюгіна, якая пайшла шырока пасля.) «Намёк, старик, даёшь?» Крыху мройліва: «У Кактэбелі напісаў густыя вершы».

*6 лістапада, нядзеля*

З самай раніцы за работу. Чакалі радні. Зноў, гады, падвялі.

*** [Запіс без даты:] Хадзілі старцы.

— Можа, вы есці хочаце?

А сляпы пытаецца ў павадыра:

— Што яна дасць, ці смачна?

— На ласы кусок знойдзецца куток, — адказаў павадыр.

*7 лістапада, панядзелак*

Дразды Апёнкавы ўкацілі нявестак. Адпаведна.

У сценкі цвічок,
Мой муж старычок.
Я за мужа завалюся,
Я нікога не баюся.

[1] Белы Андрэй (сапр. Бугаёў Барыс Мікалаевіч; 1880–1934), рускі паэт, крытык.

*** [Запісы без даты:] *У векаўшчызну*. Да дзеўкі сваталася два. Адзін багаты, а другі меў мужчынскае ўручча нападоймішча (іга-га да самага тпру). Думала-думала маладзіца і вырашыла: «Хлеб годам, грошы пераводам, а гэта ў векаўшчызну». І пайшла за другога.

«Стары, стары, а як памрэць, вечка не накрыюць — крышку сваім матавілам падыміць».

*8 лістапада, аўторак*

З раніцы ў Апёнкаў. Пасля ў маткі хроснай [Міклашэўскай].

*** Шклянку мыюць, і яна вісчыць, як дзеўка, якую салдат ушчыкнуў (нянечку).

*Лагічна.* Навошта мыць пасуду, мы ж нічога бруднага не елі.

Малому гавораць — тое, гэта, фабрыка [цябе] здзелала. Неяк расшумеўся, раздурэўся: «А што я, вінаваты, што мяне такога фабрыка здзелала?» Малы туды-сюда, лятун такі.

[Запіс 90-х гг.:] Малому тлумачаць, што ўсё — й цацкі, й іншыя рэчы фабрыка зрабіла. Неяк ён расшумеўся, раздурэўся, а яму крычаць: «Цішэй ты. Дай галаве спакой». Малы ў адказ: «А што я — вінаваты, што мяне такога фабрыка зрабіла?»

[Марыя Рыгораўна Трафімава:] «Арэнбургскі хор: пачынаюць, як камары, тады, як мухі, тады, як авадні, а тады як гікнуць!»

«І там людзі ідуць, і ў люстэрку ідуць», — (гэта ў Палацы культуры).

*9 лістапада, серада*

З раніцы Баразна і да вечара. Пасля пласцінкі ў яго дома. Васіль [Янушкевіч] са сваёй больш чым паловай.

*10 лістапада, чацвер*

Аўтобус. Як бусел, на адной назе. На тэлефоне сядзеў. Лосінька ў бальніцы. Хава [Хаўхлянцаў]. Князь [Краўчанка].

*11 лістапада, пятніца*

Нейфах. Бальніца. Васіль [Янушкевіч]. Выдавецтва «Народная асвета». Купіць Г. Юрчанка «Дыялектны слоўнік»[1] (з гаворак Мсціслаўшчыны).

*12 лістапада, субота*

Кінастудыя. Кулік. У Васіля [Зуёнка] слоўнік. Выдавецтва «Народная асвета».

---

[1] Юрчанка Г. Дыялектны слоўнік: З гаворак Мсціслаўшчыны. Мінск, 1966.

*13 лістапада, нядзеля*

«У свеце жывёлін». Фама [Караткевіч]. Алесь. Тамара. Шабан.

*** Станцыя кальцавання — Дом шлюбу[1].

*Станцыя кальцавання.* Чайкі над Свіслаччу не кальцаваныя. Толькі па акальцоўцы не ўстановіш, дзе каханку кальцавалі. На чарнаморскім узбярэжжы цяжка ўстанавіць, дзе залётную птушку кальцавалі.

*14 лістапада, панядзелак*

Выдавецтва. Шахавец. Кінастудыя (Веня Арлоў). Лобач. Цяжкія провады госця.

*15 лістапада, аўторак*

Выдавецтва. Бальніца. Лукас[2]. Секцыя. Барыс Гургенавіч[3]. Адмірал [Вялюгін].

*16 лістапада, серада*

11 раніцы «Народная асвета». Кінастудыя (з Венем [Арловым] прагляд). Да Васіля [Зуёнка].

У музы вырваўся з пялёнак
Адразу ў класікі Зуёнак.

*17 лістапада, чацвер*

Здаць Шахаўцу, перадрукаваўшы. Аляксандр Данілавіч Шчарбакоў («Огонёк»). 10 раніцы кінастудыя.

*18 лістапада, пятніца*

8 раніцы Ліўземніеку званіць. Сашу [Смашнаму гарэлку] «Бусла» раніцай. 3.30 «Народная асвета».

*19 лістапада, субота*

Авар'ян [Дзеружынскі]. «Вясёлка». Князь [Краўчанка]. Отец Фёдор [Дзмітрыеў[4]]. Вадзім. Тася [афіцыянтка рэстарана «Мінск»]. Дадзыбао Фамы [Караткевіча]. Вечар. Міско[5]. Князь.

---

[1] Гл.: Станцыя кальцавання (16.02.68, Ушачы) // Станцыя кальцавання. Мінск: Б-ка «Вожыка». 1971. С. 30.

[2] Лукас Дзмітрый Аляксандравіч (1911–1979), беларускі кампазітар.

[3] Пагосаў Барыс Гургенавіч, музыкант.

[4] Дзмітрыеў Алег Міхайлавіч, беларускі журналіст, супрацоўнік газ. «Вячэрні Мінск».

[5] Міско Іван Якімавіч (н. 1932), беларускі скульптар. Заслужаны дзеяч мастацтва БССР (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977).

*20 лістапада, нядзеля*

Баляслаў [Гатоўка]. Да Пупунчыка.

*22 лістапада, аўторак*

10 гадзін саюз (дзеці). Шышонак (здаць праўку). Шахаўцу (дадаць 3 вершы).

*25 лістапада, пятніца*

Пленум у СП. У школе выступленне. «Кшакуўка» ў Адама [Мальдзіса]. Князь [Краўчанка] імянiннік.

*26 лістапада, субота*

Купіць Фаме [Караткевічу] бутэльку [да дня нараджэння]. Аўтазавод, [аўтобус №] 25, Сядова, 3, 6.30.

*27 лістапада, нядзеля*

У Фомы [Караткевіча] з раніцы. Дома такая-сякая праца.

*28 лістапада, панядзелак*

Да Фамы [Караткевіча]. Да Куліка. Да Навума [Кісліка].

*29 лістапада, аўторак*

11 раніцы ЦК КПБ. Пётр Савельевіч Каваленка 93-422. «Вожык» (Сіпакоў, Дзяргай[1]). Выдавецтва «Беларусь». Капыловіч[2]. «Народная асвета». Дзіцячая рэдакцыя. Саша Палякоў[3].

*30 лістапада, серада*

97-28-62 Чурко Аляксей[4]. Для «Вожыка» шаржы, пародыі.

*1 снежня, чацвер*

Для «Вожыка» спецзаказ. Ахова. Генка [Кляўко]. Лесвіца падкурчыла ногі і прымушае паўтараць — гнуць калені.

*2 снежня, пятніца*

Камароўка. «ЛіМ». ЦК. Узяць Еўтушэнку [зборнік].

---

[1] Дзяргай Сяргей Сцяпанавіч (1907–1980), беларускі паэт і перакладчык. У 1953–1967 гг. адказны сакратар, рэдактар аддзела літаратуры час. «Вожык». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964).

[2] Капыловіч Мікола (Мікалай Фаміч (1937–2000), беларускі пісьменнік. У 1964–1967 гг. рэдактар выд-ва «Беларусь».

[3] Палякоў Самсон Германавіч (1938–2012, Ізраіль), беларускі журналіст, кінасцэнарыст.

[4] Чурко (сапр.) Леанард Васілевіч (1931–1983), беларускі мастак-карыкатурыст.

*** Камароўка позняй восенню. Раненька. Прылаўкі заінелыя — белыя. Паляць у бочках для смецця скрынкі, як у лагеры бежанцам, цыганы грэюць рукі. Яблыкі ў скрынках перасцеленыя саломай, як парасяты, як у закрачаных машынах вязні.

Свінню вязуць у клетцы, як паўстанца.

Гранаты, як мяшэчкі, даверху набітыя грашмі, то мала засталася, каб завязаць. Грошы, як луска, з рук выслізваюць.

Малдаўскае віно, як густая бычыная кроў.

Белыя прылаўкі, апошні зялёны кроп. Рабіны, семкі. У капусты да хрусту сціснутыя кулакі. На качарэжцы качана алоўкам цана, як у працвярэзніку нумар на пятцы.

Кавун разрэзаны. Халодны, як заінелы. Кавун выбіраюць і хлопаюць па попе, як дзіця пасля купання. Кукуруза на заінелай зямлі, як без чуба.

Твар у міліцыянера, як заход на марознае надвор'е, нездаровы.

Негр з чырвоным шалікам на шыі, як на абвугленым дрэве апошні язык агню.[1]

*3 снежня, субота*

6 вечара 65-я школа, кінатэатр «Мір». «Вожык». Князь [Краўчанка]. Янка [Сіпакоў]. Калабок [Чарняўскі]. Коля Якаўлевіч [Аўрамчык]. Капыловіч.

*** У зімовым тралейбусе, як у першабытных некранутых лясах, пахне пушным зверам.

Трубка ў тэлефоннай будцы — эмбрыён на пупавіне шнура.

*Пахне капустай і чадам сцямнелы адліжны снег...*

*4 снежня, нядзеля*

Капыловіч. «Знамя юности». Мар'ян [Наско].

*5 снежня, панядзелак*

Отец [Дзмітрыеў] з матухнай. Вал у некалькі патокаў.

*6 снежня, аўторак*

Папу [Шахаўцу] верш пра Мінск. Выдавецтва. Міх. Міх. [Пянкрат]. Генка [Кляўко]. Фама [Караткевіч]. Шанэчка [Шлег]. Начлежка Шані.

*** Кафэ. Зачыняецца. Афіцыянткі пераабуваюцца, знімаюць хвартухі. Праходзіць позні тралейбус. На яго вокнах, як з вады, выплывае зыбкая назва «Кафэ».

---

[1] Гл.: Багатая Камароўка (19.02.68, Ушачы) // Станцыя кальцавання. Мінск: Б-ка «Вожыка». 1971. С. 8.

Раніца ўгрызаецца белымі зубамі рафінаду ў цёплую мякаць чорнай кавы. Кароткі белы верш «Начное кафэ»[1].

*Для сексуальнай публікі рыдае саксафон.*

На суку відэльца рукі алкаголіка дрыжыць скрылёк закусі, як асінавы ліст. Алкаголікі, як лунацікі ў самалёце (цягніку) начным. Чэрці спалохаліся, калі алкаголік пайшоў у зямлю. *Горад — галоўны забойца, возьме за горла запойца.*

Каляска інваліда, як падбіты заяц, ноччу перад аўтобусам.

*Нават на Вечным агні хочуць рукі пагрэць.*

Я твой нявольнік, твой прыгонны,
Я вольную ў цябе прашу.
Калі дасі, то зноў прыйду,
бо воля мне не патрэбна без цябе.[2]

Напісаць паэмку пра Дафніса і Хлою з пераходам на сябе. *Дафніс і Хлоя — хвоя. Потым назаве Хлою жонкаю злою[3]. Да сцяны плячамі, да мяне вачамі (а пасля наадварот)[4].*

*7 снежня, серада*

Верш у «ЛіМ» пра [Максіма] Багдановіча. 3 гадзіны секцыя паэзіі. Мітынг у саюзе. Навум [Кіслік]. Адмірал [Вялюгін].

Калі ўсё на свеце замірала
І драмала кожнае дзяўчо,
Апаўночы ў «Мінску» Адмірала
Лебедзі шчыпалі за плячо.

*8 снежня, чацвер*

Фома [Караткевіч]. Дом друку (перадрук). Адмірал [Вялюгін]. Гарэцкі[5]. [Юрый] Багушэвіч.

*9 снежня, пятніца*

Здаць пераклады Гарэцкага з Кудраўцом[6] (Панізнік). Вечар Максіма Багдановіча[7].

---

[1] Гл.: Эскіз (12.02.68, Ушачы) // Рум. Мінск, 1974. С. 53.
[2] Гл.: «Я твой нявольнік...» ([1973]) // Тамсама. С. 93.
[3] Гл.: Дафніс і Хлоя (9.08.73, Кактэбель) // Свята пчалы. Мінск, 1975. С. 335.
[4] Гл.: Ні ў сон, ні ў фасон (15.07.75, Гагры) // Прынамсі. Мінск. 1977. С. 117.
[5] Гарэцкі Пятро (Пётр Ігнатавіч; 1919–1997), украінскі паэт.
[6] Кудравец Анатоль Паўлавіч (1936–2014), беларускі празаік. У 1963–1970 гг. працаваў рэдактарам Беларускага радыё, літсупрацоўнікам газ. «Літаратура і мастацтва», рэдактарам выд-ва «Беларусь».
[7] Гл.: Геній роднага слова (1966) // Парастак радка, галінка верша. Мінск, 1987. С. 23.

*12 снежня, панядзелак*

Кінастудыя. Саюз СП БССР. Навум [Кіслік]. Барыс [Забораў]. Сурскі[1].

*13 снежня, аўторак*

Раніца Бурсаў (тара). Вечар Навум [Кіслік].

*14 снежня, серада*

Калабок [Чарняўскі]. Радыё (сельгасперадача). Фама [Караткевіч]. Навум [Кіслік].

*** Ускрылі вены зямлі, і нафта — чорная кроў.

*15 снежня, чацвер*

10 раніцы Чурко. Студыя.

*25 снежня, нядзеля*

Сустрэць маму. На тэлебачанне 9.45.

*27 снежня, аўторак*

За Адмірала [Вялюгіна] выпіць — нарадзіўся.

*** «Паэт — адзіная на свеце істота, якая здольна аднавіць нявіннасць» (С. Я. Маршак[2]). Вера Вярба: «А як наконт паэтэс?»

Эпіграму зрабіць. *Фатальная — як ракета міжкантынентальная.*

* * *

Замоўклі струны кволых лір
І хворы енк эстэтаў, —
Каля Вярбы, нібы снягір,
Сядзіць кароль паэтаў.[3]

*28 снежня, серада*

Саюз (маму да Нейфаха). Шкляра [Шклярэўскі], Навум [Кіслік], Барыс [Забораў].

---

[1] Сурскі Алег Аркадзьевіч (1928–2012), беларускі мастацтвазнавец, мастак, дызайнер. У 1963–1968 гг. выкладаў у Беларускім політэхнічным інстытуце.

[2] Маршак Самуіл Якаўлевіч (1887–1964), рускі паэт, сатырык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1949).

[3] Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917–1995), беларускі паэт. У 1958–1966 гг. галоўны рэдактар час. «Маладосць», у 1966–1971 гг. сакратар праўлення СП БССР. Народны паэт БССР (1973). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

*29 снежня, чацвер*

«ЛіМ». Шабан. Шырма пасля 3-х. Кінастудыя. Выдавецтва.

*30 снежня, пятніца*

10.30 — запіс на тэле. Слава Акімушкін[1]. Кінастудыя. Нейфах. Жэня [Кулік].

*** Слон на аскялёпках у Брэсцкай крэпасці. Гадзіннік спыніўся.

Ордэны [нясуць] за нябожчыкам на падушачках, як на далонях, апухлых ад воплескаў.

Ліцэнзію на адстрэл паэтаў.

Сталін любіў смажыць жывую рыбу («Смаргонская акадэмія»). Канатаходцы (пра палітыку).

*Пасланне Ганчаруку*

Дружа дарагі Захар,
Ці ў цябе сышоў загар,
Ці забыўся Кактэбель,
Ці за трыдзевяць земель
З'ехаў, кінуўшы Рыгора?
Без цябе Рыгору гора.
П'ю з цыстэрны як за брата,
За Галіну — чарку ўгору.
Потым, як адзначыш свята,
Напішы пяць слоў Рыгору.

*Н. Г.*

— На славу я працую дбайна
І бранзавею пакрысе.
Брыды не столькі знесла Гайна,
І помнік мой яна знясе.

*31 снежня, субота*

Новы год, заклінаю Цябе,
Дай прасвятленне,
Дай здзяйсненне
Ўсяму запаветнаму!

[1] Акімушкін Вячаслаў Дзмітрыевіч (н. 1941), беларускі рэжысёр кіно і тэлебачання.

## 1967

*7 лютага*

[Цягнік] «Чайка». [Рыга.] Прыезд да Еры [Стулпана]. Уручэнне караль з цыбулі.

*8 лютага*

Паездка да Інэсы. «Метаха» [каньяк]. На ўзмор’е да Сяргея [Панізніка]. Незвычайнае вяртанне.

*9 лютага*

Раніца ў Еры [Стулпана]. «Чому ж не сокіл». Білеты ў оперу. Ера на тэлефоне.

*10 лютага*

Ванна. Сон. Тэмпература. Ера-ўрач [Стулпан]. Прыход Харыя [Хірша].

*24 лютага*

Мядзведзь [Нядзведскі], Вася [Зуёнак], Міша [Стральцоў], Отец [Дзмітрыеў]. Грынчыкі, Фама [Караткевіч], Генка [Кляўко], Лана, Князь [Краўчанка] і г. д. Пажар. З «Вожыка» — шарж А. Волкава[1].

*25 лютага*

Лошадзь [Бурсаў], Князь [Краўчанка]. Валін склад гасцей.

*26 лютага*

Восіп Кулішчын[2]. Да Рэма [Нікіфаровіча] паездка на тэле. Гарбук, Рагаўцоў[3]. З Акімушкіным дома Гарбука не адолелі.

*6 сакавіка*

Рэдсавет. Кінастудыя. Бур’ян. Акімушкін.

---

[1] Волкаў Анатоль Валянцінавіч (1908–1985), беларускі графік, плакатыст, мастак і карыкатурыст.

[2] Магчыма, Рыгор Іванавіч шукаў новы псеўданім для гумарыстычных вершаў (ад матчынага імя — Куліна).

[3] Рагаўцоў Уладзімір Мітрафанавіч (н. 1943), беларускі акцёр, педагог. З 1964 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1980).

*7 сакавіка*

Паход з Валяй па духі. [Кафэ каля к/т «Октябрь», празванае] «Акварыум».

*8 сакавіка*

Камароўка. Фама [Караткевіч]. Васіль [Зуёнак]. Паход да Князя [Краўчанкі].

*10 сакавіка*

Радыё. Стук[1]. Жыжэнка[2], Радкевіч[3]. Васіль [Зуёнак].

*11 сакавіка*

Хава [Хаўхлянцаў]. Камароўка. Цітовіч. Радкевіч. «Вожык». Грынчык (Масленка) [Масленіца].

*12 сакавіка*

Паўка Дубашынскі. «Спартак». Васіль Арынін [Янушкевіч]. Выбары. Грынчык. Сапсаваў усё Лявон[4].

*13 сакавіка*

На тэле. Дагавор. Валодзя Журовіч.

*14 сакавіка*

На машынку Лене. Адміралу [Вялюгіну] здаць пераклады. Навум [Кіслік], [Валянцін] Тарас, Крукоўскі[5]. Рукапіс у Сені[6].

---

[1] Стук Анатоль Іванавіч, радыёжурналіст. У 80-х гг. загадчык Беларускага аддзялення Агенцтва друку «Навіны».

[2] Жыжэнка Уладзімір Аляксандравіч (1931–2001), перакладчык. У 1964–1969 гг. старшы рэдактар на Беларускім радыё. З 1969 г. супрацоўнік час. «Нёман».

[3] Радкевіч Яўген Рыгоравіч (1937–1999), беларускі пісьменнік. З 1960 г. працаваў рэдактарам, загадчыкам маладзёжнай рэдакцыі Беларускага радыё. Кандыдат гістарычных навук (1974). Доктар філалагічных навук (1988), прафесар (1989).

[4] Баразна Лявон Цімафеевіч (1929–1972), беларускі мастак дэкаратыўнага і побытавага мастацтва.

[5] Крукоўскі Мікалай Ігнатавіч (1923–2013), беларускі філосаф. У 1963–1994 гг. выкладчык БДУ. Доктар філасофскіх навук (1986), прафесар (1988).

[6] Блатун Сямён Ціханавіч (1937–1970), беларускі паэт. З 1959 г. працаваў літсупрацоўнікам у газ. «Звязда», «Літаратура і мастацтва», літкансультантам у «Чырвонай змене». Прысвечаны яму верш гл.: Боты (1961) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 16: Сымон Блатун // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 134.

*15 сакавіка*

Правесці Грышу[1]. Дастаць Лучуку і Сяргею [Панізніку] сувеніры. Сустрэча з Дракахрустам. Князь [Краўчанка]. Грынчык. Мікола [Ваданосаў].

***Дзядзька каля Дома урада мые ў веснавой лужынцы галёшы на вайлаках (з раёна, відаць, былы партызан).

*16 сакавіка*

10 раніцы Журовічаў у ЗАГС. Сустрэча з Князем [Краўчанкам]. Кабан [Радкевіч] і Радуцкі (запіс на радыё).

*17 сакавіка*

Раніцай Журовіч (прыехалі з Лельчыц). Радыё (Радуцкі, Радкевіч). 7 вечара Сеня [Блатун]. 5-6-261 Харкоў[2].

*18 сакавіка*

Раніцай Будай. Запіс на радыё. Тэле (зайсці да Адмірала [Вялюгіна]). Акімушкін. У Рэма [Нікіфаровіча] «Пліска». Света і Сямён [Блатун з жонкай].

*19 сакавіка*

Раніцай Сеня [Блатун] (закончыць). 5 вечара ў Ірыны [Вялюгінай] — 18 год.

*20 сакавіка*

Выдавецтва — рэцэнзію, наконт дзіцячай, Зазека Васілю [Зуёнку] праўленую паэму. Радыё — Юрасю [Свірку] 1–2 старонкі пра паездку на Маскву.

*21 сакавіка*

Генка [Кляўко]. Пянкрат. Казека[3]. Шахавец. «Вожык». Пархута[4]. Янка [Сіпакоў]. «Сняжынка».

---

[1] Куранёў Грыгорый (сапр. Хейфец Грыгорый Самойлавіч (1921–1985), рускі паэт, перакладчык.

[2] Харкоў Пётр Андрэевіч (1922–1983), рускі празаік, драматург, кінасцэнарыст. У 1966–1983 гг. сябра рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР.

[3] Казека Янка (Іван Дарафеевіч; 1915–2000), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1957–1967 гг. галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР (з 1963 г. — «Беларусь»), з 1967 г. загадчык рэдакцыі народнай асветы і друку БелСЭ, у 1969–1979 гг. намеснік галоўнага рэдактара. Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР (1975).

[4] Пархута Яраслаў Сільвестравіч (1930–1996), беларускі паэт. У 1965–1969 гг. загадчык аддзела, намеснік рэдактара маларыцкай раённай газ. «Сельскае жыццё» (Брэсцкая вобласць).

*Іван Казека*

Мне, каралю салідных кніг,
Быць пільным трэба кожны міг.
Трымаю акуляры ледзь
З-за тоўстых шыбаў,
Гляджу, каб як не праглядзець
Ідэйных хібаў.

*** Пішу рэпартаж. Школьнікі са школы ўцяклі, думаюць — паэт бутэлькі шукае, баіцца канкурэнцыі.

Літаратурная парада: калі свае вершы слабыя, то падпісвайце імёнамі дзяцей, пісьмы пішыце і самі перакладайце.

Паэт любіў пісаць у пацёмках, каб не чырванець самому за ўласную прадукцыю.

*22 сакавіка*

Матузаў[1]. Ціхановіч[2]. Сеня [Блатун]. Бажко[3]. Міша [Стральцоў]. Самалёт. Цягнік. Б-23-52-22 Волкаў, 12 дня.

*23 сакавіка*

Гомель. Месц няма. Як сабакі, у калідоры. Прыезд Бузука[4]. Толя Грачанікаў[5]. «Волга». «Зара».

*24 сакавіка*

Прыход малога Журовіча [брата У. Журовіча]. Канцэрт. Марыеў[6]. Грамыка[7]. Танцы ў ДТ[8]. [Танцавальны ансамбль] «Маладзічок».

*25 сакавіка*

Агляд ДТ «Грот». Прыём у дырэктара. Сон на падлозе.

---

[1] Матузаў Захар Пятровіч. У 1948–1973 гг. дырэктар выд-ва «Беларусь».

[2] Ціхановіч Валянцін Мікалаевіч (1909–1978, Вільнюс), беларускі графік, адзін з пачынальнікаў анімалістычнага жанру ў беларускай графіцы. З яго малюнкамі выйшла кніга Р. Барадуліна «Экзамен» (1969).

[3] Бажко Алесь (Аляксандр Цімафеевіч; 1918–2013), беларускі паэт і празаік. У 1962–1970 гг. загадчык рэдакцыі мастацкай літаратуры выд-ва «Беларусь». Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР (1977).

[4] Бузук, магчыма дыктар Гомельскага радыё.

[5] Грачанікаў Анатоль Сямёнавіч (1938–1991), беларускі паэт. У 1965–1967 гг. першы сакратар Гомельскага гаркама камсамола. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

[6] Марыеў, музыкант.

[7] Грамыка Яўген, журналіст.

[8] Дом творчасці.

*26 сакавіка*

Заключны. Прыезд Цітовіча. Арыі Бузука. Акімушкін. Кабінет Лёні[1].

*27 сакавіка*

Ад’езд. Артыкул для Грамыкі. У Гладковіча. Іваноў. Марысь [Наско] конікі выкідваў.

*28 сакавіка*

Мінск! Да Валодзі [Караткевіча]. Сатыр Клёцкін [Кляўко]. Сустрэча з Князем [Краўчанкам]. Немагай[2].

У Мальдзіса — дзень нараджэння сына[3].

*29 сакавіка*

У выдавецтве — заяву. Шахавец.

*30 сакавіка*

Журовіч у ЗАГСе. Дома ў Журовіча. У «Маладосць» і «Бярозку».

*** У адной бальніцы жанчыны запісваюцца да ўрача (бабнік), як на халадзільнік.

*31 сакавіка*

Забраць у Веры[4] працкніжку. У [выдавецтва] «Беларусь» да Папы [Шахаўца].

*1 красавіка*

Першы працоўны дзень. Маленькая нарада. У Бяспалага[5] — куча [застолле].

*2 красавіка*

Раніца — дома. Да Адмірала [Вялюгіна]. Летка[6].

---

[1] Гаўрылкін Леанід Іванавіч (1935–1989), беларускі празаік, драматург. У 1960–1977 гг. рэдактар Гомельскай студыі тэлебачання.

[2] Немагай Галіна Давыдаўна, знаёмая; спартсменка.

[3] Мальдзіс Алег (н. 1957).

[4] Сапега Вера — сакратарка час. «Бярозка».

[5] Бяспалы Змітро (Дзмітрый Аляксандравіч; 1934–1999), беларускі пісьменнік. У 1960-я гг. супрацоўнік, намеснік рэдактара аддзела фельетонаў час. «Вожык».

[6] Летка Іван Антонавіч (1935–1999), беларускі паэт.

*3 красавіка*

На працу. Да Маэстра [Караткевіча]. Г. Я. [Кляўко]. Паход з Шаранговічамі[1].

*4 красавіка*

Сустрэча на вышэйшым узроўні. Князь [Краўчанка].

*5 красавіка*

Старая лошадзь [Бурсаў]. Г. Я. [Кляўко]. Прыезд мамы. Кабан [Радкевіч] і Радуцкі.

*6 красавіка*

Да Нейфаха маму.

З Г. Я. [Кляўко] у «чалюскінцаў»[2] чакаць Журовіча.

*7 красавіка*

Лось хворы. Паход. Журовіч (камандзіроўкі). Нейфах.

*8 красавіка*

9 раніцы. Аўтобусная станцыя (білеты). Маму, Валю, Ілонку — на вакзал. Мар'яна [Наско] чакаць на АС [аўтастанцыі].

*9 красавіка*

Сцяпан [Гаўрусёў] і Купрэеў[3]. Акімушкін. Журовічы. [К/т] «Партызан».

*10 красавіка*

9 раніцы. Да Генкі [Кляўко]. Прыедзе Валя. Два віцязі. Хава [Хаўхлянцаў]. Журовічы. Хакей.

*11 красавіка*

Да Хавы [Хаўхлянцава] (тэкст паправіць). Да Цітовіча (дагавор). «Учора, сёння і заўтра».

---

[1] Шаранговіч Васіль Пятровіч (н. 1939), беларускі мастак, графік, педагог. Прафесар (1981). Народны мастак Беларусі (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986). Шаранговіч Галіна Андрэеўна (н. 1939), жонка. У 1960-х гг. малодшы рэдактар рэдакцыі мастацкай літаратуры выд-ва «Беларусь».

[2] Парк Чалюскінцаў.

[3] Купрэеў Мікола (Мікалай Сымонавіч; 1937–2004), беларускі пісьменнік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1996).

*12 красавіка*

18.00 — Лужаніну рукапісы занесці («Бібліятэка паэзіі»). 3.30 — кансерваторыя (вечар). Мар’ян [Наско]. Бухгалтэрыя СП. Да Фамы [Караткевіча]. Навум [Кіслік]. Міша [Стральцоў].

*13 красавіка*

Уладзіміру Міхайлавічу [Шахаўцу] корпус ад кітайскай ручкі. На радыё (Юрка[1]). Ждановіч[2] (сфатаграфавацца). Пан Алесь[3].

*Ю. Свірка*

Мы любім вершы Юрася!
На тым і эпіграма ўся.

*14 красавіка*

Радыё (Жыжэнка). Выдавецтва (Шахавец). Міністэрства культуры (Харкоў).

7 вечара (творчы вечар Адмірала [Вялюгіна]).

*15 красавіка*

Такія-сякія справы ў выдавецтве. Сустрэча з А. А. «Budafok» [каньяк]. Звон Шкляру [Шклярэўскаму]. Балонья.

*16 красавіка*

Гайко[4] і Скарынкін[5]. Хава [Хаўхлянцаў]. Ад’езд у Маскву. Таксі.

*17 красавіка*

Масква. Шкляра [Шклярэўскі]. Лошадзь [Бурсаў[6]]. «Знамя». «Юность». «Молодая [гвардия]». ЦДЛ. Моўчан[7]. Брагін[8]. Мура.

---

[1] Свірка Юрась (Юрый Мікалаевіч; 1933–2010), беларускі паэт. Супрацоўнік Беларускага радыё. Гл.: Першы склад перад націскам // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 92.

[2] Ждановіч Валянцін Ісакавіч (1938–1992), беларускі журналіст і фотамастак.

[3] Траяноўскі Алесь (Аляксандр Пятровіч; 1925–2005), беларускі пісьменнік, перакладчык, крытык, публіцыст.

[4] Гайко Мікола, родзіч.

[5] Скарынкін Уладзімір Максімавіч (н. 1939), беларускі паэт і перакладчык. У 1960-я гг. працаваў інжынерам у Мінскім аэрапорце.

[6] Гл.: Іван Бурсаў // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодна Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 126.

[7] Моўчан Паўло (Павел Міхайлавіч; н. 1939), украінскі паэт, перакладчык, сцэнарыст, журналіст, грамадскі і палітычны дзеяч. У 1967 г. студэнт Літаратурнага інстытута імя М. Горкага (г. Масква).

[8] Брагін Анатолій Іванавіч (1935–2006), рускі паэт.

*18 красавіка*

«Молодая [гвардия]». [Кафэ] «На страсе». Катэнка[1]. «Сельская молодёжь».

*19 красавіка*

Па Маскве. Катэнка. Тамашунас[2].

*20 красавіка*

Мінск! Клёцкін [Кляўко]. Князь [Краўчанка]. На рабоце. Абед. Подзвіг [застолле]. Першая працоўная [зарплата].

Прыезд Пятра [Трафімава].

*** *А памяркоўны п'е сок маркоўны.*

*21 красавіка*

З гадзіны А. А. Масцер. Шлег. Міша [Стральцоў]. Шабан. Г. Я. [Кляўко]. Міша Мішавіч [Пянкрат].

*22 красавіка*

Шабан. Мядзведзь [Нядзведскі]. Подзвіг у Хавы [Хаўхлянцава]. Мар'ян [Наско].

*23 красавіка*

Князь [Краўчанка]. Генка [Кляўко]. Хава [Хаўхлянцаў]. Мар'ян [Наско]. Да Князя ў майстэрню.

*24 красавіка*

Генка [Кляўко]. Асколак[3]. Блуканне па пакутах за білетамі. Карнеіч[4], радыё. Цітовіч. Spiritus vini.

Яшчэ адзін з Ушач — [Эдуард] Сінькевіч.

*25 красавіка*

Ад'езд Пецькі [Трафімава]. Сняданне ў Хавы [Хаўхлянцава]. Зноў пошукі білетаў.

---

[1] Катэнка Пётр, рускі журналіст.

[2] Тамашунас Уладзімір, літоўскі пісьменнік, былы сакурснік У. Караткевіча па Вышэйшых літаратурных курсах.

[3] Чуркін Аскольд Мікалаевіч (1930–1985), беларускі мастак, кніжны і журнальны графік, плакатыст. У 1959–1973 гг. супрацоўнік час. «Вожык».

[4] Карнееў, дырэктар Дома народнай творчасці.

*26 красавіка*

Вюнсдорфскім [цягнік «Масква — Вюнсдорф»] Ваня [Бурсаў]. Прыезд Лошади [Бурсава]. «Знаменка» [газ. «Знамя юности»], «Советская [Белоруссия]». Хава [Хаўхлянцаў]. Ваня. Скарынкін.

*29 красавіка*

Прыезд ва Ушачы.

*1 мая*

Вечалле. Пецька [Трафімаў].

2 мая

Гарбук. Булачкі. Вечар. [К. П.] Баразна. [Генадзь] Апёнак. Зоры.

***Сціплы, як ільняное палатно.

Худы, як профіль.

Хоць замнога сала ў Іны,
Але голас — салаўіны.

*3 мая*

Дарога. Лепель. Штурм білетаў.

*4 мая*

Присутствие [праца].

*5 мая*

Юрка Багушэвіч[1] — 50 год. З Васілём Васілевічам [Зуёнкам] у [рэстаран] «Мінск».

*6 мая*

Тэле. Паход у ГАІ.

Рыжанькі козлік [Шлег].

*7 мая*

Да Прышывалкі з Шахам [Шахаўцом].

Аэрапорт.

---

[1] Юры Багушэвіч // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 138.

*20 мая*

Генадзь Якаўлевіч [Кляўко]. Быкаў. Камароўка. Пястрак[1]. Лапуць[2] — на гэтым абарваўся пуць.

*21 мая*

За Бараўляны з Г. Я. [Кляўко]. Шашлычкі. Князь [Краўчанка].

*25 мая*

Сустрэча з В. В. [Зуёнкам]. Да Паўла Іванавіча[3]. «Сонечная Малдова» [каньяк].

*26 мая*

Прыезд Г. Я. [Кляўко], з Лошадью [Бурсавым] да яго. Янка [Сіпакоў]. Валя ў парк. Лапуць.

*30 мая*

Саюз.

*31 мая*

Адлёт [у] Баку.

6 вечара абком ЛКСМБ, 43-ці пакой.

*1 чэрвеня*

Баку. Падвал. «Паўднёвая». «Інтурыст». Акадэмтэатр. «Мерцвякі»[4]. Дж. Мамедкулізадэ[5].

---

[1] Пестрак Піліп Сямёнавіч (1903–1978), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны польскімі ўладамі ў Заходняй Беларусі. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР (1968). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1964). Прысвечаны яму верш гл.: Вандроўнік (2–3.10.63) // Рум. Мінск, 1974. С. 48; Укоптур // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 145; Піліп Пестрак // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 44.

[2] Лапуць В. А., геолаг, супрацоўнік БелНДГРІ АН БССР.

[3] Ткачоў Павел Іванавіч (1930–1998), беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец. У 1967 г. скончыў аспірантуру, працаваў выкладчыкам. З 1969 г. загадваў кафедрай рускай класічнай літаратуры БДУ. Доктар філалагічных навук (1981), прафесар. Заслужаны работнік вышэйшай школы Беларускай ССР (1983).

[4] Камедыя Дж. Мамедкулізадэ.

[5] Сесія Акадэміі навук Азербайджанскай ССР, прысвечаная 100-годдзю пісьменніка і грамадскага дзеяча Джаліла Мамедкулізадэ (псеўданім Молла Насрэддзін; 1866–1932).

*2 чэрвеня*

АН Баку. Навуковая сесія. Тэатр оперы і балета, балет «Дзявочая вежа»[1].

*3 чэрвеня*

Ускладанне вянкоў. Аб'яднаны пленум. СП. Інтэрнацыянальны вечар.

*4 чэрвеня*

Кіравабад. Ера [Стулпан]. Гей-Гель. Конікі малдаваніна.

*5 чэрвеня*

Урачысты вечар. Канцэрт. Прыём. У Еры [Стулпана] ў пакоі Лордкіпанідзе[2], Голова. Жэня з Головой на ўзмор'і.

*6 чэрвеня*

Ад'езд Жэні. Рынак. З Ерам [Стулпанам]. Ірына Перлава[3]. Мора нафтай, бензінам прапахла.

*7 чэрвеня*

Ад'езд на аэрапорт. Таксі, бензіну не стала. У Мінводах пасадка. Прылёт у Мінск. Канцэрт Хавы [Хаўхлянцава].

*8 чэрвеня*

Фама [Караткевіч]. Паход з Фамой у АН. Да Фамы. Міша [Стральцоў]. *Из-за стола неуроним тяжеловесный Ероним.* Паездка Еры [Стулпана] на імяніны.

*9 чэрвеня*

Провады Еры [Стулпана]. Камароўка. Фама [Караткевіч]. Да Хавы [Хаўхлянцава] на сняданне.

*10 чэрвеня*

Грынчык. Фама [Караткевіч]. Малдаваны. Камароўка. У Вязынку. Музей Купалы. Беспадобныя мясціны. У Міколы [Чарняўскага].

---

[1] Першы азербайджанскі і першы балет на мусульманскім Усходзе (1940). Аўтар музыкі і лібрэта Афрасіяб Бадалбейлі.

[2] Лордкіпанідзе Канстанцін Аляксандравіч (1904/05–1986), грузінскі пісьменнік і сцэнарыст. Герой Сацыялістычнай Працы (1985).

[3] Перлава Ірына Аляксандраўна, актрыса, аднакласніца Валянціны Міхайлаўны Барадулінай.

*11 чэрвеня*

Для Калабка [Чарняўскага]. Заказ. Калабок. Смачны [Смашны] (апавяданне пра Хаву [Хаўхлянцава]).

Фама [Караткевіч] і Мікола Дуб[1].

*12 чэрвеня*

Малдаване. Шабан. Тэле. Акімушкін. Гургенавіч [Пагосаў]. [Летняе кафэ] «Веранда». Рыжы [Смашны]. Ранцік[2]. Прыём дома.

*13 чэрвеня*

Радыё. Каланчык[3], маршал Радуцкі. Магільнік. Малдаване. Шаня [Шлег]. Паркавая гутарка.

*14 чэрвеня*

Присутствие.

*15 чэрвеня*

Да Яшкі [Серпера] у госці. 18.30 — у аптэцы ў Яшкі.

*17 чэрвеня*

18.00 — звоніць Яша Серпер.

*28 чэрвеня*

Гомельшчына. Лельчыцы. Прыезд. Пошукі цешчы.

*2 ліпеня*

Паездка ў Вязынку. Яшка [Серпер], Міра[4], Хава [Хаўхлянцаў], Анісімаўна.

*4 ліпеня*

Выступленне па тэлебачанні. Прыезд Клёцкіна [Кляўко]. Бульдог каля «Зоркі», страшэнны позірк (баксёр).

*5 ліпеня*

19.00 — усе нашы.

---

[1] Дуброўскі Мікалай Васілевіч, дырэктар Цэнтральнага кніжнага магазіна.

[2] Пагасян Грант Гургенавіч, брат Б. Г. Пагосава.

[3] Калачынскі Міхась (Міхаіл Іванавіч; 1917–1990), беларускі паэт. У 1960–1978 гг. галоўны рэдактар час. «Беларусь». Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР (1974).

[4] Серпер (Салавей) Міра Захараўна (Залманаўна), зямлячка, жонка Я. Серпера.

*7 ліпеня*

На магілку дзядзькі Янкі [Купалы]. Раманоўскі[1]. 18.30 — Лойка[2], Валгаградская, 39–14.

*** Янка Раманоўскі: «У мяне балела рука трымаць сабаку. Ведаю, хто бываў у дзядзькі Янкі».

*9 ліпеня*

Дзень нараджэння Зайца.

*10 ліпеня*

З Шахам [Шахаўцом] і Васілём [Зуёнкам] агляд новай кватэры.

*11 ліпеня*

Бегатня і сумятня. Агляд кватэры. Дрэнь.

*12 ліпеня*

Размова з Ушачамі. Шах [Шахавец], Хава [Хаўхлянцаў], Клёцкін [Кляўко]. [Кафэ] «Акварыум».

*13 ліпеня*

Здаць паэму Вялюгіна ў набор.

*14 ліпеня*

Здаў ордэр. З Юзікам [Пучынскім] па метаду Крылова. Паход за білетам.

*15 ліпеня*

Званок Фаме [Караткевічу]. Білеты, нарэшце! Дзіма Мілы[3].

*16 ліпеня*

Ад'езд ва Ушачы! Калабок [Чарняўскі], Бабкоў і Дзіма [Мілы]. Для Калабка верш у «Бярозку».

---

[1] Раманоўскі Янка (Іван Юльянавіч; 1928–1074), беларускі мастак, пляменнік Я. Купалы. Прысвечаны Ядвізе і Янку Раманоўскім верш гл.: Купаланяты (1963) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 78.

[2] Лойка Алег Антонавіч (1931–2008), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык і літаратуразнавец. З 1956 г. выкладчык беларускай літаратуры БДУ. Доктар філалагічных навук (1970), прафесар. Член-карэспандэнт АН БССР (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1990).

[3] Мілы Дзмітрый Антонавіч, аднакласнік і аднакурснік.

*17 ліпеня*

Адыходжанне ад мотагонак.

*Цо новэго? — перакладаю Лопе дэ Вега[1].*

*18 ліпеня*

У Чыка 5 год. Агарод.

*** [Ілона:] «У нас у садзе ўсе Юры, а дзяўчынкі Валі» (цёзкі Гагарына і Валянціны Церашковай[2]).

*19 ліпеня*

Барацьба з шашкамі. Прыход Баразны.

*20 ліпеня*

Размова з Мінскам і Лельчыцамі.

*21 ліпеня*

Самалёт. Дзедзя Зай. Коля [Ваданосаў]. Аэрапорт. Саюз. Жыжэнка. Лена [машыністка].

[Напоі] «Дайнава», «Паланга».

*22 ліпеня*

Мазыр. Аэрапорт з бярозавым гаем. Цітовіч. Дарога ў Лельчыцы. Алесь.

*23 ліпеня*

Свята песні. Юшка пад дубамі з буслоўкамі.

*10 жніўня*

Служба. Скарынкін.

*11 жніўня*

Пераезд Фамы [Караткевіча]. Белавежскі зубр. Хацелі ўсынавіць.

*12 жніўня*

Малдаване. Калабок [Чарняўскі]. Князь [Краўчанка].

---

[1] Лопе дэ Вега (сапр. Вега Карпьё Лопе Фелікс дэ; 1562–1635), іспанскі драматург.

[2] Нікалаева-Церашкова Валянціна Уладзіміраўна (н. 1937), лётчык-касманаўт, першая ў свеце жанчына-касманаўт. Кандыдат тэхнічных навук, палкоўнік-інжынер, грамадскі дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1963).

*13 жніўня*

Бацька Лены[1]. Калабок [Чарняўскі].

*14 жніўня*

Паход да генерала адносна ваенкамата. СП. Подпіс у Івана Паўлавіча [Мележа[2]]. Фама [Караткевіч]. Лапуць. Міска [І. Міско].

*15 жніўня*

Рускі графаман. Клейка зборніка.

*16 жніўня*

Для «Литературной газеты» пра Пімена [Панчанку]. У Анатоля Шаўні[3]. Казёл [Шлег], Коля [Ваданосаў], Шах [Шахавец]. Клёцкін [Кляўко]. Тэле. Сачанка.

*17 жніўня*

Адлёт у Полацк. Пятро [Трафімаў]. Піянерскі лагер. Вечар. На сене ў Генкі [Бураўкіна].

*18 жніўня*

Мясакамбінат. Мітынг. Урадавы прыём.

Начлег у Шпакавай[4].

*19 жніўня*

Да Генкі [Бураўкіна]. Сена. Ад'езд ва Ушачы. Таксі. Новая дарога. Рэчка.

*20 жніўня*

Сяргей[5] з ляшчом. Матка хросная [Міклашэўская]. Люба[6]. Радня. Трасянка. 17.20 — будзе Мілы.

---

[1] Алена Іосіфаўна, адзін час жыла ў сям'і Барадуліных; будучая жонка М. Чарняўскага.

[2] Мележ Іван Паўлавіч (1921–1976), беларускі пісьменнік. З 1966 г. сакратар праўлення СП БССР. Народны пісьменнік БССР (1972). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1962), Ленінскай прэміі (СССР, 1972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна).

[3] Шаўня Анатоль Аляксандравіч (н. 1930), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1959–1981 гг. літсупрацоўнік, пазней рэдактар грамадска-палітычнага аддзела час. «Беларусь».

[4] Шпакава, партыйны работнік (г. Полацк).

[5] Касцючэнка Сяргей, сусед.

[6] Ярмош Любоў, суседка.

*21 жніўня*

Адрэдагаваў Януковіча, склаў дзіцячы свой [зборнік[1]]. Накідаў пра Пімена [Панчанку].

*22 жніўня*

Адлёт Валі. Белы дом. Ваўчэнскае возера. Смерць ігрушыны[2].

*** Надвячорак. Ушацкая рэчка. Сонцу мякка на хвалях, хвалям цёпла. Іду, свяжан ад балацявіны. Бацькава студня, бочка на бочку. Іду да котлішча. От яшчэ ўзгорак адзін міну, на другім, мне дарагім, цябе ўбачу.

Галавой уніз з узгорка [ігрушына]. Падгніла сарцавіна. Іржышча, кругом салома. Пад ігрушынай кавалачак каласкоў выспелых. Толькі валун і не расшчапіўся. Хоць да наступнага ледавіка дабудзь. Не за хутар я, але мясціны мае.

Торкаецца ў зялёнае крысо прыланцужаны човен.

Шлагбаум, як рыбак над вадой.

*23 жніўня*

Аэрадром (наконт білетаў). Пецька жэніцца (запрос на вяселле). Смерць самагоншчыцы.

*** Начальніку з рыбнагляду хочацца юшкі, і ягонаму начальніку таксама; швагру, брату, цешчы. Ахова прыроды — хата, плот, дровы (бярозавыя) і г. д. Усе ахоўваюць, а рыбе ад гэтага не лягчэй.

*24 жніўня*

Хворы Лось. Хуткая. Дождж.

*25 жніўня*

Самы вясёлы занятак — рабілі з мамай віно.

*** Карова правільна, што святая ў Індыі, і ў нас — карміліца. Рэзалі, партызаны давалі даведкі, а потым колькі было гэтых папяровых кароў. Каровы плямістыя (пасля вайны), як маскхалаты ў немцаў (для «Блакады»).

*26 жніўня*

Грыбы. 15 баравікоў! Лазня. З маткай хроснай [Міклашэўскай].

*27 жніўня*

Адлёт!

---

[1] Барадулін Р. Экзамен. Мінск, 1969.

[2] Гл.: Смерць ігрушыны (23.07.68) // Лінія перамены дат. Мінск, 1969. С. 20.

*29 жніўня*

П. Е. Панчанку (зборнік). 11 раніцы Стась[1] (фота).

Паслаць Найдэну [Вылчаву] «Неруш», дадому тарку. Далёкаўсходнія, таджыкскія [вершы] — 1966 год. У «порце» пуцінным грошыкам.

*** «Не бяры гадзіннік — заб'юць», — сібірак Фёдараў сказаў [неразб. 1].

У Нарыльск [на] тыдні два алені прыйшлі. Абнюхвалі аўтобусы, цераз вакзал [ішлі], чыгунку. Ім хлеб давалі. Дзікія алені. На рудніку пад экскаватар станавіліся. Паўночныя алені.

*2 верасня*

Ад'езд па грыбы. Касцёр. Дождж. 17 чалавек у машыне.

*** Восеньскі лес. Ліст падае ў лужыны (пасля дажджу на дарозе), спачатку рубам і нарэшце, падумаўшы, плашмя. Сыра. Глухі лес. І раптам сіне-зялёная страказа. Адразу цяплей.

Каля вогнішча. Сын схапіў галавешку і маці ў вочы. «Ай, сыночак. Глядзі, ты ж ручкі спаліш…»[2]

*3 верасня*

Грыбы. Блуканні. Гук трубы. Саша [Смашны]. Сяргей Панізнік.

*4 верасня*

Присутствие. Грынчык, Прашковіч[3] да Валодзевай мамы[4].

*** [Пазейшы запіс:] фота 60-х гадоў Ахматавай[5] — адзін да аднаго маці Караткевіча. Падарыў [фота, зробленае ім самім] Павел Кабзарэўскі[6].

*5 верасня*

Кудраўцаў[7] (інстытут Лене). Ананка — фота гатовы. Генка [Кляўко] заўтра. 6 вечара чакаць дома Сашу Смачнага [Смашнага].

---

[1] Ананка Станіслаў Міхайлавіч (1939–1979), беларускі фотакарэспандэнт; працаваў у газ. «Чырвоная змена», «Знамя юности».

[2] Гл.: Святло: Ушацкае паданне (1978) // Белая яблыня грому. Мінск, 1979. С. 166; Балючы крык: Вушацкае паданне (21.10.2006) // Аніма. Мінск, 2011. С. 182.

[3] Прашковіч Мікалай Іванавіч (1932–1983), беларускі літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук.

[4] Караткевіч Надзея Васільеўна (1893–1977), маці У. Караткевіча.

[5] Ахматава Анна (сапр. Гарэнка Анна Андрэеўна; 1889–1966), руская паэтэса, перакладчыца.

[6] Кабзарэўскі Павел Сямёнавіч (сапр. Гардон Фавій Залманавіч; 1909–1970), рускі пісьменнік, перакладчык.

[7] Кудраўцаў Іван Фёдаравіч (1922–2004), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык. У 1965–1970 гг. навуковы супрацоўнік навукова-даследчага Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР. Кандыдат філалагічных навук.

*6 верасня*

Вылет! Генка [Кляўко]. Мальдзіс, Саша [Смашны], Сяргей [Панізнік], Гургенавіч [Пагосаў], Хава [Хаўхлянцаў].

У самалёце за перамогу.

*** Галіна Пятроўна Карнілава, у [маскоўскі час.] «Знамя» вершы на выбар.

Прозвішча Смалюга (псеўданім для гумару).

*7 верасня*

Баку. Ранцік [Пагасян]. ПУ. Эрнст[1]. Гара. На рынку мужчыны. Кавуны на спробу паказваюць чырвоныя языкі.

***У Ранціка двор у каўказскім стылі. Усё скучана. Суседзі ў двары мыюць бялізну. Пляцкатыя стрэхі. Адна з адной. Падчас адна на адной. Старое тутавае дрэва. Плады выспелі. Ужо няма. Хата традыцыйная. Збоку абавязкова кухня. Суседскі певень беспардонна пазірае зверху ў акно. Яму заўсёды крошкі. Усё ў халадзільніку — нават вада для піцця. Наогул у магазінах не купляюць нават цёплай гарэлкі. Перад адыходам змятае напалае лісце. Двор палівае вадой.

Дрэвы пасаджаны і абкапаны, як у лесапітомніках. Урнаў на вуліцах няма. Сухі ліст, паперу ў гэтыя раўчыкі — і паляць. Дым цягнецца з газонаў.

У дварах шматпавярховых дамоў тут жа стаяць жалезныя урны квадратовыя — там і мухі, і ўсё. Тут жа з кранаў льецца вада, тут жа прасуюць (праўда, дамы гэты старыя). Будаўнічы камень беспадобны. Такі б для Мінска.

На кожным вуглу мужчыны, хлопцы кучкамі. Размова пра гандаль. Ідзе па праспекце студэнт і цягне доўгую песню, нібы на ішаку едзе. У горадзе пакуль што не ўбачыў ніводнага ішака. На рынку адны мужчыны. Рынак беднаваты. Самае ўсё дарагое і першае — перакупшчыкі прадаюць. Чэргі ў латках за гароднінай. Хаця і там цэны свае, але ўсё ж выгадней.

Бяру газету «Коммунист» (азербайджанская мова), чытаю, пакуль дайшло. «Орган партыі», а ніжэй: «БАЗАР. 10 сентјабр 1967-чи ил».

Цікава, што паранджа была болей прынята ў горадзе, чым к сельскай мясцовасці, бо там праца ў полі, і, закрыўшы вочы, мала заробіш на гаспадара і на хатняга гаспадара.

---

[1] Сафонаў Эрнст Іванавіч (1938–1994), рускі празаік, перакладчык, публіцыст. У 1970 г. адказны сакратар Разанскага аддзялення СП. Адмовіўся ад галасавання за выключэнне з СП А. Салжаніцына.

*8 верасня*

Канарэйкі. Вучэбная часць. Шашлычная, чайхана[1]. Пыл, свісткі, гудкі машын. Хіба толькі дынамічна для кіно. Не па мне. Жах.

*** Палігоны — пролежні на баках зямлі. На промыслах помпы, як птушкі, што ніяк не могуць выцягнуць дзюбы.

*9 верасня*

Кандуктарша. Рэдакцыя. Стары горад. Прыступкі, як стаптаныя пашлапні. Машыны, гудкі. Дзеці сярод машын. Запалыя лістам уласныя машыны. Кругавы рух. Школьнікі: «Чуть воткнёшь…»

*** Скрозь б'юць мячы. Стаіць славянін год 13-ці і языком вытылінгвае вельмі рытмічную музыку.

Таксісты горад не любяць паказваць, як маскоўскія. Бярэ аднаго, па дарозе другога, трэцяга. Калі едзеш куды далей, пытае, а колькі дасі. Ніякіх правіл вулічнага руху. З любога боку, з любога пустыра можа выскачыць машына. Сігналяць на кожным кроку на вуха кожнаму пешаходу, самім сабе, машына машыне. У адным месцы бачыў рэгуліроўшчыка, дык ён проста махае палкай, як быццам далі яму яе пагуляць зусім ненадоўга, як дзіця.

*10 верасня*

Сабакі дрэмлюць. Куры на стрэхах. Малыя босыя на нейкіх чорных паперах вучацца твісціць. Студэнткі куляюцца на шпільках. Музей мастацтва. Дзявочая вежа.

*** Студэнты. Апрануты добра. Праўда, еўрапейскага гатунку мала. Пашыта па-еўрапейску, але саматужна.

У Мастацкім музеі цікавыя кілімы, чаканка. Надпісы на скалах (фота). Сучасныя мастакі з добрым нацыянальным каларытам, але, па шчырасці, нямнога прымітыўная манера, маладая ў іх гэта культура.

*11 верасня*

Рэдакцыя. Праспект Леніна. Зубны ўрач Аванесава. Рыжая з чорнымі вусамі. Эрык [Сафонаў]. Узбярэжжа. Танец празаіка. На галовы выліваюць памыі (інтэлігентная вуліца).

*12 верасня*

Хаве [Хаўхлянцаву] 41 год (тэлеграма). Паход да ветэрана ПВО[2]. Чэхаславацкі квас. Армянская царква. У футбаліста. Туга селяніна ў вачах яго

---

[1] Гл.: Чайхана (12.02.68, Ушачы) // Станцыя кальцавання. Мінск: Б-ка «Вожыка». 1971. С. 37.

[2] ПВО — противовоздушная оборона = ППА — процiпаветраная абарона.

і брата. «Гамза» (257) ля прычала. Пахаванне. Уперадзе аксакалы. [Шыльда] «Бакалей гастрономия».

*13 верасня*

Да Махарадзе. Певец героя-хахла. Прыезд жонкі Ерыка [Сафонава]. СП. Літфонд. Не засталі Ібрагімава[1]. Блуканне па пакутах. Фунікулёр. Шведка (афіцыянт: — Яны: «Мы любім мяса»). Гасцініца. Казарма. Эрык у Шаўляны.

*14 верасня*

Крыху прысутнасці. Фікрэт[2]. Рэдакцыя.

Чайхана. Ля «Венецыі». Ад'езд у Шаўляны. Эрык [Сафонаў] праз сценку. Вечар. Камары. Балдахін.

*15 верасня*

Інжыр. Убогасць. Бруд. Запушчанасць. Карагачы гінуць. У басейне рыбкі.

Паезд за асятром. Голы стэп. Калодзежы. Ослікі. Востраў Арцём. Мора. Вакзал. Валька[3]. У Мікалая Якаўлевіча[4].

*16 верасня*

Паездка на пляж. Асяцёр. Уладкаванне ў гасцініцы. Фікрэт [Гаджа]. Экрам[5]. Аўтобус. На базары галубятня. Выратавальная станцыя. Шашлыкі з асятра. Праводзіны Мікалая. Паход да Фікрэта. Начлег. Жаніхі ў сясцёр.

*17 верасня*

Пад'ём. За цагліну і панёс. Чайхана ля «Венецыі». Рыба. У гасцініцу да Валькі [Сафонава].

Цырульня. Пошукі сэрэка. Трывожны сон.

---

[1] Араз Мамед (сапр. Ібрагімаў Мамед Інфіл аглы; 1933–2004), азербайджанскі паэт, публіцыст, перакладчык. Народны паэт Азербайджана (1991).

[2] Гаджа Фікрэт (сапр. Гаджаеў Фікрэт Гоюш аглы; н. 1935), азербайджанскі паэт і празаік. Народны паэт Азербайджана. Гл.: Паэма прызнання: Пісьмо ў Азербайджан // Рум. Мінск, 1973. С. 148.

[3] Сафонаў Валянцін Іванавіч, брат Э. Сафонава.

[4] Супрацоўнік рэдакцыі.

[5] Магчыма, Айліслі Акрам (сапр. Наібаў Акрам Наджаф аглы; н. 1937), азербайджанскі празаік, драматург, сцэнарыст. Кавалер ордэна «Ісціглал» («Незалежнасць»; 2002) і «Шахрат» («Слава»).

*18 верасня*

Віктар з рыбнай лоўлі. Лятучка. Сумота. Да Віктара. Банабакі[1]. Дрэнь футбольная каманда. Выбрыкі Віктара.

*19 верасня*

Чаканне Эрнста [Сафонава]. Злы спаў седзячы. Мір. Паход па горадзе. Пошукі памідор.

Размова Эрыка з Тбілісі. Рвуць газету. Дождж. Слоік.

*20 верасня*

З раніцы пісаў артыкул. Топанне кутых ботаў. Паход у рэдакцыю. Падпалкоўнік з вершамі. З Мікалаем Якаўлевічам на рынак. Успаміны яго пра Іран.

У казарму!

*** 1) Страна лесов и болот (хотя этот термин можно и сейчас услышать по радио з Москвы. Ну, это уже на совести журналистов. Болоты осушены, да их не так и много было. Лес вырубили в войну. На Донбасс.

Долгое время язык был под запретом, только устное народное творчество. Статут Литовского княжества. Потом запрещён унией. Георгий [памылкова, трэба: Францыск] Скарина (Скорина) 450 лет книгопечатания. В Падуе (Италия) на доктора медицины 16 профессоров экзаменовали, и все [поставили] «отлично» (в переводе на современную терминологию).

Пётр Мысливец[2] (ученик Скарины).

Выходцы из Белоруссии: Симеон Полоцкий[3] (царский отпрыск), Смотрицкий[4] ([па яго падручніку] Ломоносов учился[5]).

Московский театр. Церкви разрисовывали. Варшавский оперный театр на основе слонимского. Сморгонская академия. Мицкевич, Сырокомля[6],

[1] Насмешлівае найменне чалавека Усходу.

[2] Памылкова, трэба: Мсціславец. Мсціславец Пётр Цімафеевіч (г. н. і см. невяд.), адзін з беларускіх і ўсходнеславянскіх першадрукароў і гравёраў XVI ст.

[3] Сімяон Полацкі (сапр. Пятроўскі-Сітніяновіч Самуіл Гаўрылавіч; у манастве Сімяон; 1629–1680), беларускі і рускі пісьменнік, філосаф-асветнік, педагог, тэолаг, грамадскі і царкоўны дзеяч.

[4] Сматрыцкі Мялецій (свецкае імя Максім Герасімавіч; 1575–1633), усходнеславянскі грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч, пісьменнік-палеміст.

[5] Ламаносаў Міхаіл Васілевіч (1711–1765), першы рускі вучоны-прыродазнавец, гісторык, асветнік, паэт, мастак. Маецца на ўвазе «Грамматики славенския правилное синтагма» М. Сматрыцкага (1619).

[6] Сыракомля Уладыслаў Францішак (сапр. Кандратовіч Людвік; 1823–1862), беларускі і польскі паэт, празаік, публіцыст.

Манюшко, Огинский[1], Врублевский[2] — генерал Парижской коммуны, Достоевский[3], Щорс[4] (Щорсы).

Революция и война дали много героев. Сражались и на Дальнем Востоке, и на Севере.

Война. Один из первых героев Гастелло, Грицевец[5], Смолячков[6], Доватор[7]. Партизаны — каждый третий — партизан. Заслонов[8], Корж[9], Батька Минай (Шмырёв[10]), Лобанок[11], Машеров[12] (ныне 1-й секретарь КПБ). Районы, где так и не спускался флаг Советской власти. Михаил Егоров — 1,5 года в Ушачской зоне.

1 место на 1000 чел. Население.

После войны заново [отстроен] Минск (проект гитлеровский восстановления Минска). Продукция Минска МАЗы, БелАЗы, [трактары] «Бе-

[1] Агінскі Міхал Клеафас (1765–1833), польскі кампазітар, дыпламат, вялікі падскарбі літоўскі. Удзельнік паўстання пад кіраўніцтвам А.-Т. Касцюшкі 1794 г.

[2] Урублеўскі Валерый Антоній (1836–1908), дзеяч польскага, беларускага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху.

[3] Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч (1821–1881), рускі пісьменнік. У пачатку XVI ст. род Ірцішчаў (Рцішчавых) перасяліўся з Маскоўскага княства і атрымаў некалькі дворышчаў у розных вёсках (у тым ліку Дастоева) Пінскага павета Мінскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага. Адзін з нашчадкаў перасяліўся на Падолле (Украіна), адкуль родам (з сям'і праваслаўнага святара) і быў бацька Ф. Дастаеўскага.

[4] Шчорс Мікалай Аляксандравіч (1895–1919), герой Грамадзянскай вайны ва Украіне. Ураджэнец Украіны. Р. Барадулін лічыў, што род Шчорсаў паходзіў з Беларусі: сяло Шчорсы Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. Але гэткі тапонім пашыраны і на Украіне.

[5] Грыцавец Сяргей Іванавіч (1909–1939), двойчы Герой Савецкага Саюза (1939), маёр, удзельнік антыфашысцкай вайны ў Іспаніі і баёў на р. Халхін-Гол. Ураджэнец Беларусі.

[6] Смалячкоў Феадосій Арцем'евіч (1923–1942), ураджэнец Беларусі. Узнагароджаны двума ордэнамі Леніна. Герой Савецкага Саюза (1942; пасмяротна).

[7] Даватар Леў Міхайлавіч (1903–1941), генерал-маёр (1941). У пачатку Вялікай Айчыннай вайны камандаваў кавалерыйскай групай і гвардзейскім кавалерыйскім корпусам у час Маскоўскай бітвы. Герой Савецкага Саюза (1941). Ураджэнец Беларусі.

[8] Заслонаў Канстанцін Сяргеевіч (1909/1910–1942), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў час Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі. Герой Савецкага Саюза (1943).

[9] Корж Васіль Захаравіч (1899–1967), генерал-маёр, адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Герой Савецкага Саюза (1944).

[10] Шмыроў Мінай Піліпавіч (1891–1964), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Герой Савецкага Саюза (1944).

[11] Лабанок Уладзімір Елісеевіч (1907–1984), камандзір партызанскага злучэння (1941–1944), дзяржаўны дзеяч. З 1962 г. першы намеснік старшыні Савета Міністраў БССР. Герой Савецкага Саюза (1943).

[12] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1941–1944 гг. камандзір партызанскага атрада, камісар партызанскай брыгады, сакратар падпольнага абкама ЛКСМБ. З 1965 г. Першы сакратар ЦК КПБ. З 1966 г. член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Герой Савецкага Саюза (1944), Герой Сацыялістычнай Працы (1978).

ларусь», Витебска, Гомеля, химия. Новополоцк, Бобруйск (шинный), Могилёвский (…), Гродненский (азотно-туковый).

Литература. Купала[1], Колас, Чорны, Бядуля[2]. Война: Кулешов (в окопе [написана поэма] «Знамя бригады»), П. Панченко, Ан. Велюгин, Бровка, Лыньков[3], Быков, Адамович, Мележ, Шамякин. 250 членов СП БССР.

Киностудия Беларусьфильм: «Девочка ищет отца», «Часы остановились в полночь», «Красные листья», «Альпийская баллада», «Третья ракета». Союз художников, композиторов.

*21 верасня*

Дом афіцэраў. Блуканні. Швец[4], Віктар. Гасцініца. Перакладалі вершы з Валькам [Сафонавым]. (Ясенін з сабакам і тортам.)

*22 верасня*

Семінар. Падпалкоўнік-паэт. За стадыёнам. Спрэчка ў буфеце.

*23 верасня*

Швец, Барбос. Паход да Швеца. Вася і Эрык [Сафонаў]. Як я быў афіцэрам. Вада з ванны. Бойка Эрыка з банабакамі.

*24 верасня*

Ранішні паход з Барбосам. Гасцініца. Мікалай Якаўлевіч. Ад'езд хлопцаў. Званок Ранціку [Пагасяну].

*25 верасня*

Вершы на Дошцы якасці. Рэдакцыя. Чытка вершаў Петракова. З Барбосам і Швецам на іпадром. Блуканні мікрараёнам. «Ку-ку» Барбоса на балконе.

*Брест*

Воспоминанья —
уцелевшие зданья —
гулом мотора
взорвал самолёт.
Я лечу в 41 год.
Курс на сниженье берём.
Заросший травою мирной
аэродром.

---

[1] Гл.: «Калі б усе вятры Беларусі…» (1966) // Адам і Ева. Мінск, 1969. С. 197.

[2] Бядуля Змітрок (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886–1941), беларускі пісьменнік.

[3] Лынькоў Міхась (Міхаіл Ціханавіч; 1899–1975), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец. Народны пісьменнік БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1953). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1968).

[4] Швец Васіль Сцяпанавіч (1918–1993), украінскі паэт, празаік.

Как недозревший крыжовник
в зубах,
до оскомины
Брест
войною пропах.
Розовый клювик
из гнезда разевает
птенец.
Просит есть.
Ты хитришь, тишина!
Ты — свинец,
И пожары,
И смерть.
Я сплю.
Мне очнуться пора —
не от зноя потрескалась
на деревьях кора,
От свинца.
Опоясана крепость
патронташем тугим Муховца —
хватит патронов
выстоять до конца.
Нет!
Режет глаза рассвет.
Я не сплю.
Воспоминанья —
горящие зданья.
Можно бродить беззаботно
в городе Бресте.
Он сегодня в зелёном
туристском берете
каштанов и клёнов лохматых.
Строем спокойным идут солдаты,
они —
однолетки войны.
Удлиняются тени их юные,
остывает
нагретая солнцем стена.
Брест,
22 июня.
Тишина…[1]

*Верасень 1967*

---

[1] Аўтарскі пераклад верша; гл.: «Успаміны — неўзарваныя міны…» // Нагбом. Мінск, 1963. С. 12.

*26 верасня*

Ледзь не загінуў у аўтобусе. Пісьмо ад мамы. Валька маўчыць. Барбос на спатканні. З Барбосам у чайхану (пра Валодзю [Караткевіча]: «Памый, я вазьму»).

*27 верасня*

Рэдакцыя. Зборы ў дарогу. Ад Зайца 3 пісьмы. Швец. Рыба на рамне. (Ля праспекта расчэсваюць воўну. Дым — паляць усё. Сабакі.)

*28 верасня*

Цягнік. Кок Жора, красворд. Праваднік [пяе] песні. Маша. Дагестан. Каспій. Горы. Махачкала.

Грозны — пылае нафта, факел. Віктар (на сподкі ўстаў, як на канькі. Вершы. Маршал рыбаў).

***Адчуванне, як праводзяць вясёлым. Праваднічка дзяўчынай здаецца, а раніцай, як высмактаны лімон, старая.

Дагестан (Хасаў-Юрт). Цягнуцца ўгару спаць атары хмар. Таполі пірамідальныя стройныя, як гаранкі, ідуць да ракі з каварным рэчышчам. У даліне дрыжаць чараты. Халоднымі гранямі гор паблісквае сівы Каўказ. Горац з канём з вакна вагона (як на папяросах «Казбек») [глядзіцца], як лубачны. Жарэбчык задумліва ссе кабылу. Ішакі стрыгуць вушамі.

*Махачкала — да скалы скала — Махачкала.* Хоць плач, але пяць хвілін стаім у Махачкале[1].

Марскі вакзал. Краны «Суомі». Рыбакі. Узбярэжжа, вымытыя скалы. Пад’язджаем пад Дэрбент, суцэльныя вінаграднікі. Самы збор. Дзікая расселіна. Гарыць вогнішча. Цыганы ў шатрах. Гара. Камяні, як бы атакуюць крэпасць.

Мутная вада рэк, як (статак) рагаты ляжыць на водмелу пасярэдзіне ракі, некаторыя прымаюць апошнія ванны.

Дэрбент. Вінаграднікі. Мора чыстае-чыстае. У Дэрбенце ўсміхаецца мора белагубай усмешкай хваль.

Віктар з сястрой. Адны — царква насупраць пустымі вачніцамі — маці па карову [ідзе]. У гаях ваўкі. Лямпа на ўсю вёску. Рака Алей (вёска Алейск), (гісторыя з кабылай). «Заплачам — усе разам. Цярпелі, каб сказаць, што не ты першы».

Баклажаны на пероне, як насы алкаголікаў.

Гара. Вытыркаецца строма — Зуб. Калі Зуб у хмарах — непагадзь, калі не — пагода.

Да горада набліжаюцца шашлыкі і генеральскія папахі.

---

[1] Гл.: Ад Махачкалы да Баку (23–24.07.68) // Журавінка. Мінск, 1973. С. 76.

*29 верасня*

Ранак. Дон! Растоў. Душ. Парк. Спакойны, з асанкай горад.

Дзяўчаты — глядзець боязна. Ападаюць лісты. Восень. Імжа. КЭЧ[1]. Барбос з маёрам. Дзве («Давай грошы — самі купім». Барбос дулю).

*** Рынак у Растове. Горы кавуноў. Ружовашчокія прадаўшчыцы. Украінскі акцэнт. Рыба — сазаны, як кабаны. Ракі поўзаюць.

*30 верасня*

Экзамен Барбоса. Паездка ў акацыевы гай. Касцёр. Адвячорак. Самалёты. Фартэль Барбосавай дамы. Інстытут. Дзіцяці ў ванне. Барбос без зоркі.

*1 кастрычніка*

Ля мыслільні [прыбіральні] з ракамі. Паход за «мангольскімі» [за грашыма]. Праводзіны на вакзале. Цялятнік. Ціхарэцк кавунамі — для ўсіх, каб жаніхам даць. В/ч[2], вакзал. Забягалаўка. Кубанск.

2 кастрычніка

Пад'ём. Аэрадром. СКП[3]. ЯК-17. Унізе зялёны яшчэ Ціхарэцк. Спявае дзюраль. Падрыхтоўка да вечара. Вечар. Разбор вершаў у гасцініцы.

*** NB: «Когда ночью облачность, отражаются звёзды, кажется — небо вверху и внизу. Только приборам верить, интуиция, чувства — прочь».

Крылы, як рукі, калі дае нырца.

*Палата минёров*

Ровесник мне руку свою подаёт.
О порох и марганец,
впитавшийся в поры.
Культяпку пожму,
и тревожно дохнёт
Районной больницей,
палатой минёров.

Катились на запад и пламя, и гром,
А мы ещё в наших и немцев играли,
А мины таились за каждым кустом
И детские игры всерьёз обрывали.

Мы рано взрослели в землянках сырых,
Хотя забывали игрушки не скоро —

[1] КЭЧ — кватэрна-эксплуатацыйная часць.
[2] В/ч — вайсковая часць.
[3] СКП — санітарна-кантрольны пункт.

Взрывались «игрушки»…
И врач говорил:
— Ещё пополненье
в палату минёров.

А солнце пылило на длинных лучах,
Казалось — они костылями скрипели.
И чтобы от боли всю ночь не кричать,
В палате «Орлёнка» отчаянно пели.

Лишь ветер свистел, да желтеющий вяз
Руками здоровыми тряс у порога,
Но нас не дождался нетопленный класс
Той осенью
сорок четвёртого года.

Сынок из больницы вернулся домой,
А мама, как яблоня,
белая с горя.

Пусть только сегодня запахнет войной,
Ведь ты не забыла,
палата минёров.
Ты помнишь кровавый за хатою след,
Ты знаешь, как пахнет
невзорванный порох.
Белобилетная в 20 лет —
Ты в первом запасе,
палата минёров[1].

*Верасень 1967*

*3 кастрычніка*

Разбор палётаў. РТБ[2]. Прыём у Ал. Ал-ча. Псіхі Барбоса. Цягнік. Бацько. Унізе маёр з сучкай.

Ружы цвітуць, некаторыя яшчэ ў бутонах. Вінаград.

*** Твіст у Ціхарэцку, каб абтрусіць гразь. Ён быў і ў Казахстане, хаця тады не было такога танца (камсамольскі — увязаць са Шпакавай у Наваполацку). *Ён камсамольскі танец — твіст.*

[1] Аўтарскі пераклад верша; гл.: Палата мінёраў // Рунець, красаваць, наліваціца! Мінск, 1961. С. 11.

[2] РТБ — радыётэхнічны батальён.

* * *

Когда начнёт к окошку сумрак ластиться
И тени побегут за речку вброд,
Забыв на все уроки,
восьмиклассницы
Разучивают хитрый шаг-фокстрот.

А тишина вечерняя неслаженно
Воркует голубями под стрехой.
Давно-давно ушли на танцы старшие,
А их не захотели взять с собой.

Дрожат, как мотыльки, на косах бантики,
Но шаг не получается пока.
В больших отцовских шапках одноклассники
Глядят на юрких сверстниц свысока.

У них задремлет на губах с припухлинкой
Счастливая улыбка в эту ночь.
Приснится:
по паркету ходят туфельки,
Приснится им,
что взрослые давно...

Герои книг, красивые и сильные,
На танец приглашают их одних.
И взглядами невозмутимо синими
Глядят на одноклассников они...[1]

*Верасень 1967*

*4 кастрычніка*

Дарога. Дагестан. Прыезд у Баку. Прыход Эрыка [Сафонава].

*5 кастрычніка*

Перад вачамі Масіка. Грошы ад Валі і Генкі [Кляўко]. Прыход Барбоса. Начлег у Барбоса.

*6 кастрычніка*

Паездка на мора з Мікалаем Якаўлевічам.

Пошукі незнаёмкі.

---

[1] Аўтарскі пераклад верша; гл.: «Калі пачнуць ад дахаў цені класціся...» // Рунець, красавáць, наліваецца! Мінск, 1961. С. 44.

*7 кастрычніка*

Пасылка ад Зайца. «Белавежа» [«Белавежская»]. Выступленне ў в/ч, 50 год палкоўніку.

*8 кастрычніка*

Паход к Экраму [Акраму] — «не славянін». Раніцай кавунок.

*9 кастрычніка*

Ад мамы. Адмаканне.

*10 кастрычніка*

Сустрэча з рэдактарам новым. Паход у фінчасць. З панамі афіцэрамі. Швэць [Швец]. Таксагонкі. У Барбоса. Эрык [Сафонаў] у Шаўляны.

*11 кастрычніка*

Паход у рэдакцыю. Чаканне Эрыка [Сафонава]. Панове афіцэры і два забулдыгі. Да Мікалая Якаўлевіча. Вяртанне.

*12 кастрычніка*

Рэпартаж у парку. Напутствие Масіка. Зняцце з довольствия. Пісьмы ад Зайца, ад мамы з лістом вяза. Шашок — Барбос. Ад'езд. Эрык [Сафонаў]. Мікалай Якаўлевіч.

*13 кастрычніка*

Пагранічнікі. Ленкарань[1]. Першая зеляніна. Шаленства Каспія. Астара. Граніца. З Альбертам Мікалаевічам Яўцеевым. На пастой.

*** Каспій, негрыцянская ўсмешка. Карчэўе выварочваюць, збіраюць дождж, дождж ідзе запоем.

Запоем ідуць дажджы,
А сонца — на ўсю катушку.
Каспій пасля шторму
Коціць валоў валы,
Са шторму
Не можа ніяк праспацца.
Ракавак звон шкляны
Сыплецца ў хваль праз пальцы.
Перасыпае праз пальцы
Рэактыўны гул шторму.
У ракаўках ціха блішчаць

---

[1] Гл.: «Сонца, горы не экрань…» (9.02.68, Ушачы) // Журавінка. Мінск, 1973. С. 71.

Зыркія пырскі шторму.
Нарэшце супакоіцца, і
Па-славянску сінеюць вочы.

Ласось — жывога ніхто не выцяг. Сетка — разявае пашчу і ідзе, кручок рване — не, памірае ад разрыву сэрца. Таксама і нельма.

Кажаніцца лакатар, ажыннік мокры. Касманогія пальмы (ногі, як выцертая поўсць мядзведзя, вярблюда), стройныя кіпарысы (на граніцы, як пагранічнікі, крыху азалелыя, загарнуліся ў плашч-накідкі, пакуль хмары ўсплывуць на горы).

Лакатар кажа́ніцца,
Сцяжына ажыніцца.
Пагранічная раніца,
Строгая, як дружынніца.[1]

Астара. У «Кафе» мін. віна, а на (стакане) шклянцы барані лой.

Адвячорак. Вайсковы гарадок. Шуміць-шуміць вада. Жонка афіцэра гоніць гусей (тлустыя, іх шмат). Пачынаюць плакаць шакалы. (*Жуда свайго выйсця шукала, старыла шакала.)* Маленькія кажаны (лакатары вялікія, круціцца, як мішэнь). Малая на вуліцы крычыць: «Ракета палярцела, ракета ляціць». А 7-й гадзіне сірэна — праверка часу. Пачынаюць выць шакалы.

*Шакала шукала ашукала*. *Тут куранят не восені лічаць.*

Адчуваю сябе, як Адам у першы дзень. Шмат гор, каб іх сдвигать, сонца, шукаю вачыма, чакаю, калі рабрыну выламе.

У аднаго прадаўца газай 2 жонкі — 25 дзяцей. Рускай настаўніцы [кажа]:

— Ідзі за мяне замуж.

— Я ж вучу ў школе.

— У мяне свая школа…

Пра старшыню калгаса: «У нас мозг 800 г, а ў Камраева 1 кг 200 г».

Азербайджанцу падабаўся на Украіне боршч. Далі рэцэпт. На рынку ўсё купіў. Ззаду сабака цап за мяса. «Бяжы-бяжы, усё роўна боршч не зварыш, рэцэпт у мяне ў кішэні».

[Адрас:] Юрков Андрей Петрович. Марченко Григорий Иг., Ольга Васильевна (г. Астара, в/ч).

[1] Гл.: Паўднёвая граніца (22.07.68) // Лінія перамены дат. Мінск,1969. С. 37.

*14 кастрычніка*

З раніцы на кропку[1]. Пад'ём. Выступленне. Выступленне ў часці. Гутарка з гаспадаром Васіліем Пятровічам Бурлаковым (інтэндант).

*** Пенса́ры (рэчка Пенсара), пад'ём у гару. Арэхі, якімі атруціўся салдат. Лімоны на дрэвах. Папаратнік. Сочыцца вада. Шугануў пугач рыжаваты. Абвал. Кідаемся ўніз. Як кавалкі цукру, аб дрэвы дробяцца кавалкі скал. Сігналіць машына — каровы ўбок, як куры, кінуліся (3 л малака).

Тук — арэхі тыя, якімі атруціўся салдат.

Гара Тангеруд, дрэвы, аброслыя (зялёным) мохам, як мядзведзі. Грыбы, баравікі адышлі, яшчэ лісічкі, сарамлівыя сыраежкі.

Буйвалы — аўтаінспектары, упруцца, ні з месца.

Мездраватыя пашчы трэснутых гранатаў.

Пярэстыя сукенкі, на галовах чай сабраны, завязаны ў хусцінкі.

На гары аўчаркі (два кабялі), збеглі вясной, зараз два сабачкі і кот.

Жалезнае дрэва. Дубы, зарослыя, як мядзведзі.

Зноў гарады бульбу рыхтуюць.

Пасля зарплаты афіцэру ў ваенторгу: «А ў цябе ў кнізе чорнай няма [доўгу]», — шчаслівы. На пункце расстралялі ўборную — думалі, што воўк. Капітан кожны адпачынак [толькі зімой атрымлівае] — Дзед Мароз[2], халасцяк 40 год. Маёр Бурлак.

Букет паднеслі з бэзу (другі раз зацвіў), вяргіні і яшчэ нейкія.

Адна за другой праяўляюцца горы (як плёнка), хмары ідуць невысока над галавой, шумяць чараты. Прайшлі дажджы — павалілі чараты (хмары яшчэ не цяжарныя стронцыем). Над вадой пралятаюць ластаўкі, ад белых грудак яснеюць віры.

Страляе рыбу, для яе яшчэ кручка не знайшлі, сетка толу.

Аднекуль з халоднага боку лятуць чароды. Сонца з чаратоў высунула адкрыты твар, са здзіўленнем глядзіць на мяне (на ім яшчэ плям не заўважылі). Зямля зялёная (яшчэ яе марац скальпіраваць, як грэцкі арэх). Маіх нашчадкаў няма, іх не дзеляць на арыйцаў і неарыйцаў, не дымяць каміны Майданека, Асвенціма і г. д.

Гляджу і чакаю, калі выламаюць рабрыну (перад гэтым яблыкі ўсміхаюцца, ім мяне яшчэ не спакусіла Ева)[3].

*15 кастрычніка*

4.30 — пад'ём. На рэчку Калдобню. Каспій. Усход. Ніводнай рыбіны. Юшка з асятра каспійскага.

---

[1] Кропка — аддаленая мясціна вайсковай службы.

[2] Гл.: Дзед Мароз (25.07.68) // Лінія перамены дат. Мінск, 1969. С. 38.

[3] Гл.: Субтрапічная раніца (8.02.68, Ушачы) // Тамсама. С. 48.

*** На досвітку Каспій. Палоска зары, сіняватае неба і мора. Рэчка Каладагня́ — галава каровы. Праз галаву каровы. Нават цяжка пачуць, аб чым уверсе шэпчуцца чараты.

Калдобня, два бошабы на чаўне з дубальтоўкай. «Парашуты» сеткай ловяць. Прычал, як у джунглях. «Балшой шчук. Вазьмі — яны не бяруць».

Вяртаемся. Намыла вада. Мужчына капнуў 2 разы матыкай па вадзе. Прыйшла жанчына і пачала матыкаваць ваду.

*16 кастрычніка*

Каспій. Рэактыўны гул шторму. Карова, якая напалохалася. Зборы. Да Грышы. Яго на КП[1]. У «казле» да Астары. Увесь абед сапсаваў начштаба.

*** Раніца. Каспій. Сяджу на беразе, задумаўся. Як закрычыць нехта благім матам, карова на абрыве, як дзіця.

У фінчасці дзяўчаты — сёстры з Сянно, чарнявая ладная і светлая расплылася.

Швец па спецзаданню з ацынкаванай трубой на ЛІ-2 [лятаў] (бо трос журналісцкім білетам, і начальнік аэрапорта даў яму месца).

Раскрылася ружа. Ненатуральна папяровы белы колер. Шмат раскрытых бутончыкаў.

Цвіце палын і купалкі.

У адным класе [вучыліся]. На тэлерадыё В. — 3 гады, як тут слу́жыць, і жонка — 1.VIII. 67 запісаліся. Прапахлы яблыкам Магілёў. На стале яблыкі з дому. Два крэслы на дваіх, пакуль кантэйнер [прыйдзе]. У калідоры бульба. У першы дзень адразу на дзяжурства, назаўтра сонца. На мора. «У мора ўсё, і сонца, хіба дрэнны вясельны падарунак?» Вясельнае паязджанне.

Дзеці ў парку як паравозікі, на хаду канаюць і бягуць. Гарадок. На шакала можна зваліць прапашчых курэй.

Лакатар (вышыню), як маладзік у качалцы.

[Адрас:] Зина, Таня Кудряшевы, Багушевич Света (г. Астара, в/ч).

*17 кастрычніка*

4.30 — дурніца разбудзіла. Вакзал. Паход па ранішняму Баку. Рэдакцыя. Барбос і Швец. Барбосу па мордзе дама. Бялізна.

*** У Баку камбінашку абавязкова выпускаюць, каб відаць было, што чыстая і якой цаны надзета[2].

Інвалідная каляска. На ветравым шкле наклеены вялізны партрэт Сталіна.

---

[1] КПП— кантрольна-прапускны пункт.

[2] Верагодней, гэтак «пазначалі» сябе «дамы лёгкіх паводзін».

*18 кастрычніка*

Білет куплены! У ціры яўрэй. Рэдакцыя. Барбос і Альберт Мікалаевіч [Яўцееў]. Грант Гургенавіч [Пагасян]. Рускі тэатр. [П'еса] «Пялёстак».

*19 кастрычніка*

Калі ўсё ціха — вылет!

*** Ад'язджаю, а кран пад'ёмны ўсё на тым жа месцы, як пытальнік, дакуль будзе стаяць.

Начныя паселішчы, як разламаныя гранаты, — свецяцца. Самалёт, злева ў агнях заход [неразб. 1], як яйка. Справа месяц, бараду ў хмары, гладзіць, думае.

[Адрас:] Бубякина Зинаида Александровна (Московская обл., Егорьевский р-н, Новосидоровская 8-я школа, кніжку ў Туве).

*20 кастрычніка*

Дзень добры, Беларусь! Дзень добры, мама, Зая, Лось!

* Дзяўчынка, цёця Зоі — зноў Л. К. [неразб.], [вул.] Маякоўскага, канец, 172, 6.

***З ёй размаўляць, усё роўна што скулу́ гладзіць (Грамыкава [Я. Грамыкі] мама).

Ілонка:

— Тата, чаму ў цябе пагоны?

— Служыў.

— Ты немцаў біў?

— ...

— Немцы забяруць цацкі і сваім аддадуць. А я люблю, як нямецкія дзеці пяюць.

Ліст Забэйду-Суміцкаму[1]. Паяс [неразб. 1] маме. Не забыць Апалінэра[2] на шафе.

Восень — ліст зялёны, а ўсё ўжо не такі вясёлы. Жаркая рабінка.

* * *

Зялёны дубочак, што не зелянееш,
Ці сушы баішся, ці лугу жалееш?

Сушы не баюся, лугу не жалею,
Дзе я ні саджуся, усё не зелянею.

---

[1] Забэйда-Суміцкі Міхаіл Іванавіч (1900–1981, Чэхаславакія), беларускі спявак, педагог. Прысвечаны яму верш гл.: Забэйда-Суміцкі (10.01.63) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 81.

[2] Апалінэр Гіём (сапр. Кастравіцкі Вільгельм Апалінарый; 1880–1918), французскі паэт.

Малады малойчык, што ты смутна ходзіш,
Ці вайны баішся, ці айца жалееш?

29-51-19 Васіль Красноўскі. NB. 35 год, люты. У нядзелю вечарам наўпроць [неразб.1] 11 вечара 24 ці 21?

«Усё жыццё гляджу на Палілейкі. Гляджу, бачу, па той бок ракі. У Сталаец прыехаў, не тыя Палілейкі», — П. Дубашынскі.

Вільнюс, Горкага, атэлье вязаных рэчаў, свэдар. Масква, [час.] «Знамя».

[Падборку] «Няўрокам кажучы» (для «Бібліятэкі «Вожыка»). Вакару 40 год 27 жніўня [1968].

*11 лістапада*

Нясвіж.

Паўлюк[1]. Агляд горада. Слуцкая брама. Кнігарня.

Будынак на рыначнай плошчы (апошні «ЛіМ»). Рэшткі (прыбудова) семінарыі, дзе вучыліся Колас, Чорны, Сташэўскі[2], Жылка[3]. «Гаставары», дзе быццам бы Будны[4] жыў і друкаваў. У семінарыі [вучыўся] бацька Максіма Багдановіча[5], закончыў у 1882 г., калі Колас нарадзіўся. Эстафета розуму.

Па дарозе, дзе ўсыпалі соллю кіламетраў 5–6, на мядзведзях ехаў летам Радзівіл[6].

Сыракомля вучыўся ў Нясвіжскай семінарыі (адна для бедных)[7].

У замку [бывалі] Вільгельм[8], Баграціён[9], а пасля Гудэрыян[10] на 6-м дні вайны.

Лістапад (прозвішча) — галоўны садоўнік санаторыя, за кветкамі.

---

[1] Пранузa Паўлюк (Павел Кузьміч; 1918–2007), беларускі настаўнік, паэт, перакладчык. Пасля дэмабілізацыі выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Нясвіжскім педагагічным вучылішчы імя Я. Коласа, у СШ № 3.

[2] Сташэўскі Васіль Пятровіч (1895–1937), беларускі празаік і драматург. Быў рэпрэсаваны.

[3] Жылка Уладзімір Адамавіч (1900–1933), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны.

[4] Будны Сымон (каля 1530 — 1593), беларускі мысліцель-гуманіст эпохі Адраджэння, рэлігійны рэфарматар, філосаф, педагог.

[5] Багдановіч Адам Ягоравіч (1862–1940), беларускі фалькларыст, этнограф і мовазнавец; бацька паэта М. Багдановіча.

[6] Радзівіл Кароль Станіслаў Пане Каханку (1734–1790), магнат, уладальнік Нясвіжа.

[7] Гл.: Нясвіж па-восеньску [1968] // Прынамсі. Мінск, 1977. С. 41.

[8] Вільгельм II Гогенцолерн (1859–1941), германскі імператар і прускі кароль (1888–1918).

[9] Баграціён Пётр Іванавіч (1765–1812), князь, рускі генерал ад інфантэрыі. У руска-французскую вайну 1812 г. камандаваў 2-й арміяй.

[10] Гудэрыян Хайнц Вільгельм (1888–1954), нямецка-фашысцкі генерал-палкоўнік. У час Другой сусветнай вайны камандаваў танкавым корпусам, танкавай групай і арміяй.

*12 лістапада*

Касцёл. Служба. Гібель пеўня. Парк Радзівіла.

* У касцёле са сцяны [глядзіць] Людвіг Кандратовіч. (*Са сховін — Бетховен.*)

Спавядаецца старая, што яна зрабіла (ці з-за курыцы з суседкай [пасварылася]).

Глуха бразгае манетка ў скарбонку. Турысты (з санаторыі): маўляў, заслужаны калгаснік касцёла. Ластаўка б'ецца пад скляпеннем, як грэшная душа.

У ксяндза над домам сцяг БССР (да Кастрычніка).

На дварэ Паўлюк, хоць ён і член саюза, ды нельга — чаго настаўнік у касцёл [пойдзе].

Былы жаночы манастыр. Зараз школа-інтэрнат імя Я. Коласа. Ясакар (год 200) не раскажа, у якім рове закатаваны патрыёты. У падвале манастыра, кажуць, была катоўня.

Рынак. Коні ў роўныя радкі аглабель, як словы пачынаючы паэт, заганяюцца. Авечкі. Як сімвал пакоры, з маленькім. Маленькае плача. Авечка рэзка бляе, нібыта дражніцца з ім — гэтак рэзка і ненатуральна.

З размахам радзівілаўскім
У Несвіжы базар
Бляе, нібыта дражніцца…

Дзядзька прывёз курэй на матацыкле, у моташлеме, як касманаўт. Яго пытаюць: «Як здароўе, пане Ян?» (Нібы коласаўскае).

Важаць свіней у глыбокіх насілках, як у антычнасці вазілі паноў. З воза за вушы [цягнуць], як імянінніцу, а ёй — 200 кг. Ад страху адна пад сябе…

Шмат тупату і лопату,
Ды не зважай на ўсё.
Не мела баба клопату —
Купляе парасё.

А ты, малое, енчы,
Бо кажа гаспадар:
«Малы, затое ешчы».

Пакуль ты вырасцеш,
То вушы абарвуць.[1]

---

[1] Гл.: Восень у Нясвіжы [1968] // Журавінка. Мінск, 1973. С. 47.

*Вусатыя, як Радзівілы, дзядзькі здзівілі (вілы).*

Кошыкі з лазы.

З Мінска жонка афіцэра прадае вайсковую форму, барахолаўка ў разгары. *Намыліць холку бяжы на барахолку.*

Дзед купляў бабе паліто з лісой (бо здор прапіў). Здор, нібы з буйных бюракратаў скацілі.

У касцёл Дзядэк [Пілсудскі хадзіў] маліцца і ў замку жыў. Замак. З яго «Сымон-музыка» [Я. Коласа].

У вайну клён [рос] ля варот. Пярун выдраў прагаліну і салдата насмерць гром [забіў] — на нашым баку.

Ці птушкі зерне [абранілі], ці з яблыка, што пакінулі птушкам на Дзяды. А яблыня расла на дзедавай магіле. У Паўкі (Дубашынскага) на дзедавай магіле расла яблыня. Было мала садоў. А на магіле дзеда расла яблыня. Зараз многа садоў, а на магіле расла яблыня. Ці не пасадзіць на магіле бацькі, каб расла яблыня?

Счарнелага берага серп
Пад камель бор заспаны парэзаў,
Аўдавелыя косы верб…

*16 лістапада*

Князь [Краўчанка] зрабіў — Скарыну. Сказаць: манаграфія на папу напісана. Робка на фота (на машыну).

*** *Няма току — няма толку.*

*22 лістапада*

7 вечара — Скарынкін.

*** На свята прыязджаюць з вёскі. Цяжка. Назад абаранкі. У цырк завязуць. Хусцінкі відаць, на львоў, на парад [паглядзець], ліманаду [напіць].

*23 лістапада*

У Клачко [магчыма, зямляк] — кандыдацкая.

*24 лістапада*

13 гадзін пра Панізніка на сакратарыяце[1].

*26 лістапада*

49 год — Уладзіміру Міхайлавічу [Шахаўцу].

---

[1] С. Панізнік прыняты ў Саюз пісьменнікаў у 1967 г.

*27 лістапада*

* * *

Я не за это, не за то,
Пойми меня.
Но трудно без тебя, Курто[1],
Прожить полдня.

*Напісаў Барадулін, падпісвае Я. Курто 27.XI.67*

* * *

Усяго два літры прынеслі нам
І кажуць: «Болей не прасі», —
А толькі лыпаюць вачыма,
Як незанятыя таксі.

*[Я. Курто паводле Р. Барадуліна]*

*29 лістапада*

Касюкевіч 9.05. Лепель 94-04.

*30 лістапада*

Месца працы. Фрунзенскі раён, кватэра.

*4 снежня*

9 раніцы (10) Ананка. Хава [Хаўхлянцаў] 2 [гадзіны] дня.

*5 снежня*

Зрабіць адказы «Вячэрняму Мінску». Клёцкін [Кляўко]. «Катрынка».

*6 снежня*

Аддаць Танку змест Міцкевіча для прадмовы. Кабзарэўскі 11 гадзін, «Неруш».

*** «Я — белы лебедзь над чорнай кавай».

*7 снежня*

У «Буках» [«Букіністычным»] Этымалагічны слоўнік Фасмера. «Літаратурная энцыклапедыя».

*14 снежня*

Князю [Краўчанку] 4 радкі пра Скарыну.

*** Дзісна-рака бярэ кожны год чалавека.

---

[1] Курто Яўген Іванавіч (1924–1993), беларускі празаік, перакладчык. З 1960 г. рэдактар, старшы рэдактар Дзяржаўнага выд-ва БССР (пазней «Беларусь»).

*22 снежня*

Валі на работу з’явіцца.

*** Ушачъ: 1300, 1200. 171 дамоў у 1624 г. Полацкаму стольніку. У 1772 годзе галоўны горад особнага павета. 1793 г. граф Вітгенштэйн. 1 церковь, 1 римско-католический костёл, 4 еврейских молельных дома. Народное училище, аптека. Хлебопашество, торговля, горшечный и кожевенный заводы. Раён — 3,5. Ушачы — 3,103.

«Панок, перадкі караткі, а падашвоў не знайшоў» — (парабак сушыў панскія боты ў печы).

Ілонку пытаюць: «Што зварыць: што хутчэй ці булён з фрыкадэлькамі?» Ілонка: «Булён, бо ён гатуецца даўжэй».

Я рэжу, як дома, хлеб.

* * *

Вновь
С Новым годом, давний друг,
Мой старый друг Чмыхало[1],
Твоей души зелёный луг
Пусть зацветёт сначала.
Решусь ещё на то ли я —
Взорву Ваш славный мост,
Чтоб поезд Анатолия
Из Минска не увёз.

[1] Чмыхала Анатолій Іванавіч (1924–2013), рускі паэт. Ганаровы грамадзянін г. Краснаярска. Гл.: Паэма прызнання: Галінка палыну // Рум. Мінск, 1973. С. 152.

## 1968

*17 студзеня*

12 гадзін. Для «Вячэрняга Мінска» гутарка: 1) Чытачы больш да дакументальнасці [цягнуцца] ці загадзя гэта самалюбства паэта? 2) Традыцыі беларускай паэзіі, грамадзянскасць і лірызм і г. д. 3) Хто з маладых больш падабаецца і за што? 4) Што новага?

*** Брыгады [імя] Чапаева, Дубава і Нікіціна, верасень 1942 года, знішчылі звыш 100 салдат і афіцэраў.

Лапата (хлеб [для выпечкі хлеба]), жорны, міска, абшыўкі самалёта, цымбалы. Зенітка, падобная на буслянку. Авіябомбы і снарады, з якіх выплаўлялі тол.

Самалёты, як сена, клочча ваты. Губляюць атамныя бомбы.

Калдычэва. Бяроза, сук, як палец. Зарубцаваўся. На ім вешалі. Бярозы з касцей. Бярозы, як на рэнтгене вязні. *Тут дрэва здзічэла — Калдычэва.* Тут сапраўды трэба быць дрэвам, каб не звар'яцець. Бярозы уцяклі б, ды карані перапляліся з касцямі. Бярозы, як косці, дрыжаць, як асіны ад жаху. Адступленне. Рад плашак бярозавых, рад трупаў [калі немцы палілі]. Косці лісцямі шумяць.

Толькі зямля можа зелянець травой, шумець дрэвамі. Яна анямела ад жаху. Толькі здаецца, што яна вясной вясёлая. Толькі дрэвам прашуміць, застогне бурай ці ашалее ўраганам на моры. І толькі карані ды сукі па-вар'яцку выгінаюцца, хоць трохі паказваюць пра тыя пакуты, якія былі ў зямлі[1].

[Успаміны пра вайну, запісаныя за землякамі і роднымі.]

*Фалцян Канстанцін*: «У Заходнія вобласці ішлі. Дарога Зембін — Лепель. Па зваленых дрэвах праз рэчкі.

Вёска Клундзеўка, у ёй 99 дзевак, было 100, але «партызанскую шпіёнку» расстралялі немцы.

— Якая вёска гэта?

— Клундзеўка, — адказаў хлапчук, заікаючыся.

— А колькі ў вас дзяўчатак?

— 99, — адказаў, падазрона пазіраючы.

Партызаны самі назначылі каменданта (забяспечваў партызан харчамі).

---

[1] Гл.: «Калдычэва. Цішыня...» (16.02.68, Ушача) // Лінія перамены дат. Мінск, 1969. С. 23.

Ад вёскі дзве хаты, а на месцы былых — крыжы абапал вуліцы.

Загадалі (немцы) з хат не выходзіць. Падпальвалі, хто выбягаў — чарга з аўтамата. Дзед з жонкай і сынам выбеглі. Немец з-за яблыні ўсміхаецца — і аўтамат да пляча. Ачнуўся вечарам. Жонка нежывая. Сын з раструшчанай галавой ляжыць.

Славацкі самалёт на лыжкі разабралі.

Палік. На вінтоўку — 30 патронаў, на аўтамат — 100, на кулямёт — 200. Француз Мішэль. Ішлі. Цёмная ноч. Узляцела з піскам курапатка.

У дазоры.

— Ці ёсць нож?

— Ёсць.

— Хочацца піць. Пайду бярозавіку спушчу.

Надрэз. Трэску ўставіў. З бяросты скруціў конаўку.

«Балалайка» — нямецкі 6-ствольны мінамёт. Міны скавыталі і веерам рассыпаліся. Гарачыя асколкі ўпалі ў траву, агонь. Партызан устаў з акопа, прыкурыў і спакойна пайшоў назад, агонь засыпаў пяском.

Засада. Побач немцы. Здымкі згвалтаваных, прастытутак разглядаюць.

Такуюць цецерукі. Буслы на бязлістай таполі. Яйкі пакладзены. Чакаюць малых.

Працаваў млын. Дождж. Навальніца. Маланкі. Сціх. Самалёты. Пасля раніцай усе да ракі — хто галіцца, хто мыць бялізну.

Зарэзалі карову. Сушылі, варылі мяса.

Вывіжоўвала нямецкая «рама». Вёска пустая. Жанчына прыйшла з двума малымі назбіраць бульбы. На лузе пасвілася з дзясятак пакінутых партызанамі коней. З імі нікога не было.

Лістоўкі. Раненых на астравок. Толькі што параненых — у хмызняк. Раздалі апошнія запасы харчу, па жменьцы сухароў, кавалку вэнджанай каровіны, крыху аўсянай і ячменнай мукі.

Адступаюць разбітыя атрады. У прысаку што-кольвек шукаюць. Напаўсырую каніну ядуць — агонь не развядзеш, бо адразу заўважаць. Снарады рвуцца ў вершалінах дрэў ці глуха шыпяць, правальваючыся ў балота.

Маўчалі, вязлі ў багне. Чулася чаўканне ботаў і шорах траў. Не хапала патронаў. Параненых, пакуль было можна, адносілі і хавалі ў густых, вядомых толькі ім, зарасніках. Ранена медсястра. Бінтоў няма. Рвалі нясвежыя, прапацелыя сарочкі. Яна жвала траву, не крычала. Хлопцы збіралі сухую траву на курава. Кашу на сухім лісці [варылі]. Дым. Бамбяць нашы самалёты. Параненая Галя: «Мой брат лётчык. Можа, ён тут. І не ведае пра мяне».

Сухары скончылі. Елі траву. Збіралі карэнне. Муку разбаўталі ў вадзе, і боўтанку Галя выпіла. Ад вільгаці прэлі ногі. Але разувацца не адважваўся — баяўся, што потым не абуюся.

Разрыўныя кулі енчылі над намі. Па кладках на прарыў. Некаторыя машынальна скублі траву і жвалі яе. «Косцік, дастрэль!» — прасіў Віктар. Адзіночныя стрэлы — немцы дабівалі параненых.

Зноў сутычка. Хто паспеў у лес. Хто ў ваду, маскіруючыся высокай травой. Сабакі-сышчыкі. Ранены ляжаў у кустах два дні. Прынёс навіну, што немцы адышлі. (Думаў, не падымецца ад голаду, але ў аднаго мёртвага знайшоў крыху мукі і ячменю.)

Канец блакады 28 чэрвеня 44 г. «Нашы!»

Адпачывалі. Голад. Троху зерня жыхары прынеслі. Малолі ў жорнах. Памяняліся ролямі — лавілі немцаў, якія зараз зашыліся ў лясах.

Вясной немцы знялі з фронту 11 дывізій. Праходзілі каля свежых магіл».

*Янка*: «Вайсковы вёў. Потым звар'яцеў. «Куды вы?!» І сам па сабе з аўтамата.

Заснуў у хляве. Забралі. Немцы. Палон. Армія. Урал».

*Гарбук [бацька Г. Гарбука]*: «З семя льнянога зацірку [елі]».

*Генка*: «Заляглі ў балоце. (2 ночы перайсці жалезку хацелі. З усіх бакоў як ударылі чэргі. Назад.) Раніцай (было раней пустое месца) кусты, туды, адтуль кулі. Немцы замаскіраваліся. З Воўкам згубілі боты. Маці зашыла брызентовікі. Замаразкі. Калі знялі — скура адстала».

*Насця [Трафімава]*: «Забітая жанчына ляжыць, а каля яе маленькае казлянятка. Бляе, не адыходзіцца.

У час партызаншчыны, блакады змеі не кранулі нас, былі ў сяброўстве, а пасля вайны пачалося.

У зямлянкі гранаты закідалі. Ноччу селі з хлопцамі, убачылі сляды да бульбы. Непраходнае балота. Калі зноў чыстка лесу — сядзелі па шыю ў вадзе пад карчом. Пасля пайшлі следам за ім. Арганізавалі паступова атрад з астаткаў.

Прыбеглі з Полацка два партызаны. Яшчэ тры ланцугі — прачоска. Дзень раптоўна пачаўся. Расставіў за кусты дазор. Хлопец год 18 пасівеў. 12 чалавек гоняць на засаду. Начальства драпнула. Хлопец: «Я камузвода буду». Сінькоўшчына пад Красным. «Ты як мясцовая ідзі ў разведку». Заснула, і два хлопцы. Выходжу — немцы. Мне трэба скінуць кажушок. Падыходжу да хаты: сын да мяне і пляменніца. Нямецкі кацялок, у ім ты-

тунь. Немец: «Партызан». — «Каля хаты не партызан». Немец: «Партызан — патрыёт. Я — падпольшчык. Гітлер вынішчыць Ушацкі раён».

Сагналі ў хлеў, мяне паставілі. Кажу: «Арына, стой, а я — да малых. Палічылі 32 — усё ў парадку. Але тут танкавыя часці прарваліся.

Брыгада павінна суправаджаць насельніцтва праз чыгунку. Камісара ў жывот [раніла]. Маці з ім. «Дастрэльце!» Маці кажа: «І мяне». Ён застрэліў маці і сябе.

Чэхі рабілі бомбы. У адной паперы: «Дарагія сябры, змагайцеся за сваю Радзіму!» Выплаўлялі тол (размініравалі) і рвалі чыгунку.

Шахты. Сельпо. Партызаны. Блакада».

*Арына [Ірына Цярэнцьеўна Янушкевіч]:* «Да жалезкі [пабеглі]. Там чуваць поезд. Назад. Бары. Валяюцца машынкі, дабро, хлеб. Сядзяць дзеці на пнях, плачуць. Загад кінуць кароў. А каровы следам. На хутар. Кароў многа. Малака няма. Галодныя равуць. Сваю карову [знайшла] — вядро жыта [дала]. Стала абдуваць. Малако, як скіслае. Конь качаецца.

Гаспадар на хутары навалок усяго. Самалёт «пілара́ма» за дрэва зачапіўся. Бомба. Самалёт разбіўся. Хаты як не было.

Стог саломы. Немцы паказваюць ісці. Напаленая лазня. У другой вёсцы немцы мужчын у хлеў. Маладых — у Германію. Старых асобна.

Філя нёс скрыпку Страдзівары. Нёс, нёс, як трахнуў аб дрэва».

*Каз’янін*: «Ішлі з Валовай гары на Палік. Варылі зайцаву капусту — усё ж кіслая. Дзе пападалася жыта. У адным месцы дымок раньком сучы́цца. Паўзлі — немцы, назад. У балоце знайшлі карову. Пасцілі — у адно месца можна было выганяць. Даілі. После прырэзалі. Мяса на бярэзінах сушылі, абагнеш бярэзіну і сушыш.

Далучыліся да спецгрупы. Радыстам малы — гадоў 13. У рыззё адзенуць, ідзе вызнаваць, дзе адступаюць. Прыбег: «На дарозе завоз». Выклікалі нашы самалёты. Бамбілі. Падышлі войскі — у Чашніках палонныя немцы чыгунку правяць.

На імшарынах бацяны і жураўлі.

Опергрупы. Радыст. Ідуць назад у Чашнікі. Партызаны ўтраіх [забілі] маладога каня. Накроіў [мяса]. У вядры доўгім зварыў (партызанкі солі далі).

Вёска каля Валовай гары. Усю спяклі. Што з’есці? Каля лесу ў дзяжы рашчына падышоўшы. Знайшлі скавараду на пагарышчы. Праснакі [спяклі]. Тут радыст наш ў Чашнікі.

Аўтаматы. З аўтаматаў па ляску ад няма чаго рабіць [стралялі]. Як дадуць адтуль — аказалася, не немцы, а свае. Партызаны мокрыя. Ідуць. Раптам ракета — нехта немцаў апавяшчаў.

Пад Паліком. На баравіне запахла шчаўем — нейкая трава ці ліст (спасу няма!)».

*Алік*. Начальнік лесаўчастка. Сам з Магілёўшчыны. Бацьку злавілі паліцэйскія. Соллю вушы пасыпалі. Выразалі зорку. Пілой перарэзалі. Маці ўзяла вінтоўку бацькаву і разам з партызанамі [пайшла].

Харчаваліся жалудамі, як парасяты, — у дубровах шмат было. (Зараз язва.)

На лесаўчастку ў Сібіры былы паліцэйскі, які лютаваў на Магілёўшчыне. Падвяло фота ў газеце. На лесаўчастку былы паліцай з тапаром.

Пасля вайны 8 баб у баране, і ён [Алік] — ледзь з-за плуга відаць.

*Мама [Акуліна Андрэеўна Барадуліна]:* «Аб'явілі вайну. Ля школы міцінг. Смутна стала. Хто пяяў, хто плакаў. Пераключыліся віно піць. 2 нядзелі невядома, што дзелаецца. Стаялі за хлебам (яшчэ хлеб пяклі). Уварвалася танка. Абстраляла. Мы скарэй на пасёлак. Толькі на гарушку, дзе Спірыдовічыха, як касануў пулямёт. Мы ў жыта. Я Альку перад сабой. А ты з бацькам. Сустрэліся. Міліцыянер у жыце з наганам, бацька з табой.

Сталі Ушачу разграбаць. Снарады рвуцца, думаем — бой. А гэта Бароўку падпалілі. Вязуць муку. Выскачыла купіць, а яны: «Мы самі ўзялі. Ідзіце і вы», — (грошы два месяцы не плацілі). Бацька п'яны. Віна вядро нехта ад Маймана прынёс.

Прышлі з пасёлку дамоў. Праз нядзелю занялі Ушачу. Дабро ўбіраць, пасеенае калхознае ўбіраць ганялі. Хто дахадзіў, што ягоны былы надзел. Жылі, пакуль парцізаны не завязаліся па лясах.

Бацька на гарэ, нікуды не хадзіў. Пленныя разбегліся. За мужчынамі хадзілі. Каб паказалі, дзе хто жывець. Эля (жыд, разам з бацькам у камхозі [працаваў]): «Іван дома?» — «На гарэ», — (баба кажаць). — «Пазаві». (Немец каля вязу.) «Ком-ком», — і Шурку Латышавага [забралі] (рысаваў у хляўку). У Лепель [завялі], дзе быў сенсклад. Абцягнулі дротам. Быў і нядзелю, і другую. Па балоце на месці гразь, вада цякла. Ранены цягнецца да вады — немец бах.

Далёкія пленныя вывадзілі. «Я далёкі, нікуды не пайду, усё роўна зловяць». Каго-небудь сумеіць выштурхнуць. Сухарэй нейкіх занясла. Той: «Аддай мне сухары, а я выштурхну за дрот». «Во, мне перадачу». Пусцілі. Пацалаваліся. Хатулёк аддаў, яго выштухнулі. Баба карзінку ў руку, рабёнка на рукі. Аж да Пясчанкі вывела. Як гналі, нашы самалёты бамбілі. Пашла праверыць. А са Строктаў кажаць: «Ён уцёк». Прышла дамоў, а ён ужо дома.

Парцізаны сталі такое беспакойства даваць. Кароў выгналі, стоража забілі. Пашлі ў хлеў. Агледзеліся немцы, ракеты сталі пускаць, а ім відней

яшчэ. У Стопішчы самая завязка парцізан там была. Як трохі ўсіліліся — сталі выганяць вон. Да 12-ці на ходзікі шчупаеш. Каля 12-ці як дадуць, адкуль бярэцца. Праз фікус і праз вакно як пратачыліся кулі. Карова ў хляве ляжала, гэта і спасло. Тады многа пабілі і паліцэйскіх, і бургомістра. Трое парцізан каля маста забітых — табаком ліцо засыпалі.

Сталі [немцы] адступаць. А сюды парцізаны. Парцізаны спалілі нямецкія логвішчы, каб ім назад не вярнуцца. Сход. Усе дабравольна пашлі ў парцізаны.

У самай Глыбачкі. І я хадзіла. Пасты стаяць. Пасмяюцца: «А ўчора к яму не гэткая прыхадзіла». Як час які — любіў дамоў прысці, солі прынасіў. У хаце капцюшачка, палаці. Дзеўкі з мальцамі разам ляжаць. Песні смутныя ўпаўголаса пяюць.

Немцы з Вулі [людзей] на возера выгналі. Так скасілі — возера закідалі. Ноччу вазамі вывазілі.

Стаялі ў Бугуях. Летам Бабашыха гарэлкі, рабят усіх прывязла, каб паглядзеў. Ён спіць, а яна крычыць, каб не будзілі бацьку.

Перад блакадай самай тол выплаўлялі. Успламянілася. Усё ліцо бацьку спаліла. Дома алеем змазвалі, марганцоўкай прамывалі. Тады ж і абгаілася.

Блакада. Вясной. Снег злез. У маі і пачалі. Ці ў апрэлі. Послі Паскі. Мы ў Пліна адышлі. Прабылі адну ноч, другую. Гарыць кругом. На небе чэцверць расстаяння не было, каб не гарэла. А ўсе к жалезкі ціснуць. А я куды? У лес у Пліна. Калоны адступалі. Пытаюся: «З якога астрава, з якой брыгады?» Самалёты як сталі касіць. Кінулі ў канаве [параненых]. «Дабіце нас, звязіце ў кусты, каб нашы вочы самалётаў не відзілі». Як аціхла — сцягнулі раненых у хату. Медсястра. Знасілі, хто мог што, хто малако. Коні выпраглі, а раненыя на калёсах. А што далей, як немцы засцігнулі, невядома.

Пераначавалі ў Пліне, а на дзень пашлі ў лес. У акопе пасядзелі — ты прастудзіўся, згубіўся. Пайшлі ў дзярэўню раніцай, а там пуста — нікога няма. Пераначавалі, а на дзень за ўзвалле ў баню. Аж нехта: «Выходзьце, а то немцы паліць будуць».

Ты з правага боку і ручкі ўверх (глянула, а ты — чорны). Ідуць і сякуць па астраву́, а людзі там. Яшчэ некалькі яец было — немец забраў. Пагналі ў Вушачу. Пераначавалі ў Арлішак [Арловых] (на гэты бок не пусцілі). (Арлішкі пяялі пры немцах пра смеласць.) Днём пашлі. Дождж пашоў. Да Асоўскай. Немец у плашчы: «Вон!» Ідзём каля маста (бомба вырыла яму на ростаньках, думала, што яму капаюць). Цябе прыціснула, а людзі абмінаюць яму. Давай у рэчку ўкінемся. А людзі ідуць. Гналі, гналі.

А мы сваёй вуліцай. Міклашэўская і ўсе сюды. Карову вялі. К нашай хаце. Вокны завешаны маім тканым адзяялам. Хата на пугурку (цяпер

наша). У сенечкі ўлезлі. Ты разгарэўся. Ну, думаю, ціф. Трошку паляжаў ты, карову ў баню завялі. А людзей каля бальніцы бог знаіць што. Немцы выспаліся. Вон. Ты ўскочыў. Ісці слаб, несці цябе — вялік. Шарэнгі ля бальніцы. Старых не бяруць. Мама: «Астанься». Але я стала. Калону пагналі. «Ці скора, мама, прыдзем?» Калатуху і сухар неслі. Лісіцу (карову) у нас атнялі.

У Качаны. Я скоранька ў хату, хоць вокны выбіты. На голую краваць палажыла цябе, а ты нежывы ляжыш. Дзве нядзелі прадзяржалі — хто бульбіну, хто скарынку [дасць]. На кладбішчы кажны дзень ямкі капаюць, так і кладуць. А што з намі будзіць — ніхто не знаіць.

Але прышлі немцы: «Расходзьцеся па хатах». А тут і Латышавы к нам з канём прылучыліся. Сабірала па бульбіне — відаць, не прыдзецца супу з'есці.

А немцы нас назад пы́льнулі пад ільнозавод, адтуль назад. У камендатуру. Далі хату Глебкаву. Хадзілі ў трыбухі. Захварэла гладка-гладка з жыватом. Немец усяк брахаў — перастала хадзіць.

Сазанчыха вышла за «народніка» [сябра Народнай аховы]: «Парцізанскія сем'і!» Пагналі на той бок. Сталі там жыць. Быў нейкі добры немец (відаць, парцеец): «Нямецкі зольдат нікс будзіць, будзіць рускій». — «А дзе?» — «Поляцк, Ула». Раздаець вам, малым, што ёсь, гладзіць па галоўках: «Парцізанчыкі, камуністікі».

Прышлі, кажуць, жыта разбіраюць. Пабеглі, а цябе там кінулі, як розуму хваціла толькі. З пошты раз прынеслі, другій. Зайшлі ў сваю хату — адзін шкап. Толькі высыпалі жыта, немец завець, а ў канаве каля Васільковай хаты матацыкл без колаў. Крычыць: «Дзе?!» Схваціў хлеб, як бухнець вобземлю. Паказваець: «Падымай!» Падняла. Паказваець вады. Абышла хаты, у Латышавай палонік знайшла. Памыла. Прынесла піць. Выпіў. А на маму не глядзіць (на бабулю). Мама: «Ну, што будзем рабіць?» Я тады рашыла: хай б'ець, абы не стаяць. Тады за хату, а ён сядзіць. Я далей — не страляіць, а мама прыкрываець мяне. Толькі за школу, аж іх (немцаў) коціць цьма. Мы на гару і шпарым. Толькі б да мальца дабегчы — адна дума. На масту Бабашыха: «А твайго ж Івана забілі». Прыбеглі ўнячывелі. Самалёты рускія сталі бамбіць.

У баню сабраліся (каля мельніцы). Немцы пад вечар агледзілі — яшчэ ноччу здзікацца прыдуць. Рашылі на той бок [перайсці]. Немцы глядзяць на нас, а мы ўсе пераходзілі. Паўзём — не б'юць.

Месныя ў лес, а мы за імі, а яны нас назад гонюць. А снарады началі рвацца. А мы не знаем, хто (а гэта нашы).

Сядзелі каля акопаў (як у бані сядзелі, такое смалістае нешта гарыць). Падпаўзаіць Архіпіха: «Твая ж хата згарэла». Бабашыха: «Гэта праўда, Івана забілі. Не плач толькі».

На ранне (з 28 на 29 [чэрвеня]) камары пазаідалі. Не знаем. Усё заціхла. Але чуем пад дзянёк (шэранька стала): «Ах … тваю маць!» — «Нашы! Нашы!» Прыходзілі да рэчкі. Зялёненькія — нашы, маладзенькія, закапцелыя, загарэлыя. Танк застраў. «Ці можна дамоў ісці?» — «Ідзіце! Мы Ушачу занялі».

Дымок пацягваець. Белая печка і комін абгарэлыя. Кожны ў сваю хату. А ніхто не завець. Пахадзілі каля галавешак — дакурваюцца. «Ці можна ў алешнік схадзіць?» — «Ідзі смела куды хочаш». Поле зелянець стала, па полю смела ідзеш. Адкрылася і поле і воля.

Алешнічак, сухое лісце, на гародзе яшчэ сабралі. Бульбу схавала. Канечна, забралі, а ўнізе схавала. Семінку ў конскай карзіначкі дзяржалі.

У Васілька пяць дачок. Любка ў блакаду з парцізанамі [пайшла]. Адступалі. У топкім балоце. Зямлянка. Хлеб пяклі. Яна ціфам [захварэла], як аслабла — кінулі ў лесе. Немцы. Як ішлі — нашлі. Ляжала, думала, хто з сваіх. То без памяці. Красівая. Немцы на насілках вынеслі. Павезлі ў Германію. Як уцякла, як лесам ішла. Ноч ідзець, а дзень ляжыць. (З лагера ўцякла.) Калі пачула на дарогі нешта сваё, нашы ўзялі».

*Марушка [Марыя Рыгораўна Трафімава]: «*Вясна. Лётаюць самалёты. Афішкі кідаюць: «Пячыце ляпёшкі, чакайце бамбёжкі. Падымайце хвасты, уцякайце ў кусты».

Мужык яе паліў агні на возеры. [Немцам знак даваў.]

(Адзін паказваць паехаў [немцам, дзе партызаны]. Жонка: «Во будзіць добра!» Пакуль вярнулася, дзяцей пагналі, яе ў Германію. Назад вярнулася — дзеці памёрлі, а мужык так і не вярнуўся.)

Вялікадне прашло (так, як сёлета). Білі ўчыстую. Наехала поўна дзярэўня бежанцаў. Ну і мы тады ў бежанства.

Едзем цераз Ушачу, к табе зайшлася. Конь быў месны, запраглі. Конь прыстаў. Малец тожа. Прыехалі ў лес, а куды, самі не знаем. Карова з намі. Ноч. Паначавалі з партызанамі. Настаў дзень — самалёты — як стаў лес ляцець, верхавіны лятуць. Заляглі, аж пуля адна гарачая. Ускочылі ды к сосніку. Ахця мне, згубіўся Воўка [сын]. Паляна бальшая. Усе збіраюцца. Ідуць абозы. Гляджу — бяжыць Воўка. Сталі ў кусты — наляцелі самалёты. Хата, дзе скуры партызаны вырабатывалі. У балотца, а соснік рэдкі. Самалёты зноў. Ліза вядро на галаву. Граззю забрызгала. За каровы ды далей у лес.

Абозы парцізан ідуць. На плашчадку ўехалі. Сталі. Ліза: «Глядзі, Іван». Каню муку сыпіць. Я яму солі ў торбачку. «Чаго ты не надзенеш плацця?» А тут ракеты як загарэліся (урагі [ворагі] далі знак), мінамёты як ударылі. Іван як паехаў з канём. Воўка: «Чаму з дзядзькам не пусціла?»

Парцізаны абозы пакідалі — усё на плечы, у лес, у кусты, а людзі асталіся. Ідуць, ідуць, а ракета джвыг (прадацелі былі), і тут адразу меkануць.

К рацэ. Як сталі біць. Як сталі тапіцца. Мы не пашлі. Ноч асталася так. Пашлі рана ў тынянку, адзіяла ляжала, накрыліся. Зноў у лес. Куча загатовак на боты, куча швейных машын, мука. Ельнік. Гады два дзіця ў зайцавай шапачцы. Схліпаецца ад холаду ці ад плачу. Воўка: «Возьмем». А куды?

Чарнаруччa. У Матруніну хату. Пустка. Як сталі страляць. Не знаем, куды мы ішлі і дзе ішлі. Нейкая і рака і гара. Прыходзім у сяло — Паперня. Ракеты даюць. А парцізан калёсы раненых і коні кінутыя, і вазы з ранеными. Гляджу, ці знакомый.

Прышлі ў сяло. Поўна хата раненых. Яны паасталіся — нікому ні нада. На бальшаку — немцы, з сабакамі, у біноклі глядзяць. Ідзём. «Да маткі?» — «Да маткі...» За Васіля (скрынку патронаў на плячы [нёс]) і павялі, а мы пашлі. Кароў нейкіх палавілі. Ужо ўсе людзі к лесу кінуліся.

Ушача. Скрозь немцы. Назад, і ў бальніцу, і ў пуню. Нанач з пулямётамі немцы. Воўка лёг на дзвярыне, скружніўся. А з мінамёта ў лес б'юць. Назаўтра ўсталі — нікога, ні патрулёў. Пачалі ўсе разбягацца. Мы ў Шчарбёнкі, на вашу старыцу. Акопы. Паддзёўка новая. Узяла. К Крывусе. К шчарбёнскаму магільніку і ў Шчарбёнкі ў хату.

Ноччу партызаны: «Дайце есці». А што даць? У мяне хатулёк з адзежай укралі.

З Лізай у лес. Каля Дземенца скрозь пакапаны ямы. І гароху поўны засекі, і жыта, і дажа калапні [каноплі] і тыя былі. Мы жыта па мяшку нанасілі. З баравіны бульбы нанасілі. Печ гладкая. Насыпалі, разгародзілі палкай. І жорны папаліся. Сухары назапасілі. Аж раніцай: «Выганяюць, немцы блізка». А Ліза рашчыну ўчыніла. Прышлі : «Авэк, авэк!» Старуха не хадзіла, прыпазла (недзе забілі). Апяць у бальніцу. Хто, кажаць, таго відзіў, хто таго.

На сарціроўку. У Лепля завязлі з Воўкам. Атсарціравалі — Воўку ўзялі. Нас вязуць, а іх з мужчынамі ў калоне гоняць. У Каміне ў хляўкі нас згрузілі. Дротам абвязана. Пад Леплем дарогу чыніць. Раз як пашоў дождж, пярун. Немцы бягуць, а мы баімся бегчы. Уверх страляюць. Скрабі гразь без разгібу, як разагнуўся — лапатай па спіне. Хто вязець бульбу на машыне, як шугніць на дарогу, мы падбіраем. Таркі з банак паробілі. Глядзім, многа на машыне галоў матаецца (бітых вязуць).

З Бароўкі мыць у Лепля. «Раздзявайцеся». Немец халодны душ падкруціў — дзеўкі ў крык. А немец чым папала біў. Адзежу прудзілі. Голыя вышлі. У бабы [жакетка] з трусоў, а яна збеглася. На плечы [накінула], а рукавы, як хрэст. Туфлі ў адной перагнуліся.

Пагрузілі нас на машыны. У Лепля павязлі. Парахвіянава, Докшыцы. (У Бягомель вазілі ў лес акопы закапаваць.) Прывязлі ў пуню. Хата спалена. Жыта і вялізны луг. Я ўзяла свае клункі, буду ўцякаць. А куды пайду? Ганялі закапаваць акопы, траншэі, рэзаць лес і насцілаць. А тут самалёты.

Аж едуць абозы. Немцы. За імі з каровамі, з пажыткамі — адступаюць. Машына пад'ехала. Нас пагрузілі. Едзем. На дарогах груды кірак. Перапалох. Прывезлі ў пуню і замкнулі. Часавыя набралі гарэлкі і напіліся. «Бабы, адчыняйце дзверы і выхадзіце, а то вас заб'юць». Асталіся. Настаў дзень. Наехала машын і немцаў.

Баба з пуні, а малы астаўся, дзярэцца на залобак, а канваір вінтоўку наставіць, ён і назад. Немец хлібаіць і глядзіць, ці бяжыць хто, я вышла і на вуглу стаю. Я за вугол і па жыту. К канцу к гароду прыбегла. А баба са Звоні ўцякаець у сосні к (за ёй рабёнак), я за ёй. У рачулку да пояса. І ў соснік. А тут і дзяўчаты. Тры сабраліся.

Пятроўка — ноч малая. Крык, стоган, енкат. Стала шэра, сталі птушкі пяяць. Ідзем, аж трусь-трусь, ламаіць баба дровы. «Хадзіце за мной». Жорны стаяць пад паветкай, яшчэ жорны. Тут (Валова гара) Жалязнякоў атрад. Ідзем за бабай. Хата ў зямлю ўкапана. А там народнікі, што нас выганялі. Печ на ўсю хату — парцізаны хлеб пяклі. Пашлі, а балота ўсё трасецца. Вышлі на баравіну — шалахі, будкі з бярэзніка, пад цвет леса.

Сядзім дзень. Немцы з мінамётаў пачалі біць. Крык, гукаюць хто каго. Многа пабілі. Уцішылася. Апяць на баравіну. Стала залачаць. Бабы: «Танкі савецкія!» І мы туды.

Каменскія бабы з немцамі атступалі: «Бярыце, што нада, у мяхах усё. Ідзіце бальшакамі — у кустах немцы».

Хат нет, з кары яловай пароблены. Ваенныя нас у Бярэзіну. Пантоны. Да Лепля. Ворань. Салдат торбу сухароў прывёз. Даў нам.

У Кавалеўшчыне хаты няма. Настасіна стаіць.

На ціф захварэла. У Западную, у паноў робіла. Сявалку жыта скруціла, па старому 25 апрэля, Благавешчання. Дала хлеба буханачку, скваркі. Прышла дамоў, а маіх бацяноў нет. Цымбалы яшчэ асталіся ў хляве. Я захварэла, вярнулася — іх ні стала. Жыта ў мяхах у Бярозавым балоце — мяхі цэлы, а яно счарнела. А гарох у Ганулінвм балоце ў начоўках і прэмія, пошту насіла (парасёнка купіць хацела), ніткі вышывальныя, соль у кацялку. Узяла вілкі (куст абломлены). Грошы перагнілі ад дажджу. І ніткі патлелі. Падушкі, насыпкі прылежаныя (знізу прыляжалася). У бальніцы. Пецька [сын] пісьмо прыслаў. На карты варажыла баба з Вярхоўя: «Дамоў прыдзець, але памрэць». А я думаю: абы прышоў — не дам памерці».

*[Аповед Акуліны Андрэеўны, як яна шукала цела свайго забітага мужа, Івана Рыгоравіча Барадуліна*]: «Чую, чхаіць, кашляіць, хто з торбачкай, можа, чуў, можа, відзеў. Кажный сваіх нахадзіў, хто па адзежы. І я іскаць, абыйду ўвесь лес, а можа, найду. Сказалі, што каля Белага возера. А дзе яно? — то каля Селішча, то там. І пашла пад Паперню, па лесе, каля Селішчаў, дзе будынак мураваны. Паперанскі лес, дзе самыя косці. Ваніла страх. Тады ў Селішчы, тожа белае азёрка абыйшлі. Такая вонь, такая вонь... Даўней чуць што засмярдзіць — нос затыкаеш. А тут ідзеш, дзе болі ваніла, але збальшыні падабралі. Каля возера чалавек увесь высах, ні вароны, ні птушкі не зачапілі, а ногі да калень набухлі ў вадзе — вада пялёх-пялёх. Ён высахлы, рудзенькі, і на яго пахож. Паглядзела — не ён. Кажный пакойнік пахож на яго.

Выйду на ваўчэнскую дарогу, кругом гляну: «Ну ўсё ж мае вочы відзяць цябе», — але не знаеш, дзе ён. Усё хацела адна ісці — паплачу, пагавару — ніхто не мішаіць. Даўней нясеш ваду — на помач, сена — ён. А цяпер нясеш-нясеш і данясеш — ніхто не зменіць плячо тваё. Каму па каму, а каму два камы.

Зубоў пярэдніх не было, глядзела, у каго німа. Думалася, каб нашла косці, закапала б пад дрэвам, каб ніхто не знаў, а то б смяяліся.

Сяджу дома, а чаму ж сяджу? Во і ягоныя шагі. Выйду пад гару паглядзець, можа, з-пад пажарнай [ідзе]. І кашаль помніла, і ходку. Каб паставілі сто чалавек, мне вочы завязалі і толькі руку ягоную далі, я яго б усюды нашла». 28–29 чэрвеня вызваленне Ушачы.

Утрох: Міхаіл Цімашэнка, Іван Барадулін, Аляксандр Красноў (Цімашэнка камандзір аддзялення, пасля камузвода). Брыгада Мельнікава, атрад Касьміна, потым Кавалёва, брыгада «Чапаева».

[Запіс без даты:] 4 мая [1944] загінуў [Іван Рыгоравіч Барадулін]. 1908 г. 3 чэрвеня [нарадзіўся] на Івана Купалу.

Блакада: Кулямёт плача буйнакаліберньмі слязамі. Шпакі, як галавешкі, што разляцеліся. Усе пайшлі — толькі птушкі асталіся. Бяроз парэпаныя пяты. Дзятлы, як за кратамі, у падсочаным лесе. Яшчэ шуміць над галавой.

Жабы на балоце, як кінутыя нямецкія шлюхі: «Кур-рва! Кур-рва! — Сама такава (такая), сама такава».

Калі партызаны мініравалі дарогу, то немцы запрагалі мірных людзей у бароны і пускалі па дарозе.

Балада пра Васілька (Любка). «Васілёк, кошачак і тых разбіраюць — схадзі за бабкай» (павітухай; у сям'і нараджаліся толькі дзяўчынкі).

Любка ў партызанах [была]. Нінку і Насцю акопы [рыць пагналі] (да тартака толькі [дайшлі]). Васілёк пайшоў з Іванам. Васіліха з Надзькай пад восень [вярнуліся]. Хварэла ціфам. Гналі самагонку, і яна ўзгалілася, — усе вярнуліся, акрамя Любкі.

Янка Міклашэўскі. Вяселле, Пяцюша жаніўся з Жэнькай.

У лазню з бабамі [трэба было хадзіць]. Не хацеў ісці. Дубцом [маці гнала]. Усю дарогу роў. Мужчын няма[1].

Удовы (блакада). Забыццё пяшчоты. Перад песняй маці зрабіць сон маці («Званы чуць — хутка навіну даведаешся». Федароўскі[2]).

З маленства памятаю прыгаворку старэйшых: кожнае дыханне любіць папіханне. Цяжка цямілася. Што гэта такое, хто каго піхае. Болей зразумела было: біцца не гадзіцца, а піхнуў — каб не дыхнуў.

Помнікі [партызанам]: Селішчы, Стары́нка, Малыя Дольцы, Глыбачка, Даватара — васьмігадовая школа Зарачанская (у сябе музей), Сарочына, [калгас] «Новы свет», Суворава, Гарбаціца, Матырына, Паперня. Школьныя музеі: Вялікія Дольцы, Малыя Дольцы, Ушацкая школа. Зрабіць музей ушацкі партызанскай барацьбы.

Спіс узнагароджаных старых людзей: Казлоўскі Міхаіл Рыгоравіч, сакратар РВК; Васілеўскі Павел Данілавіч (на сустрэчы з Леніным [быў]); Спірыдонаў ([удзельнічаў] у Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайне); Міраловіч Варвара Сцяпанаўна (падпольны РК ЛКСМБ), дырэктар школы ў Пліна.

Для «Голасу Радзімы» — гітлераўскі план адбудовы Мінска.

Назва вёскі Звінятка. Звініць трывогай у вушах. З трох вёсак Ніканы асталася адна сям'я. Маці плача над магілай партызана: «А мой ты Іваначка, набудзілася я цябе…»

Партызанская зямлянка, бяроза, лаўка, 3 акенца, як паштоўка. Зямлянка, а мурашкі як бы Вавілонскую вежу будуюць. Зямлянка, як удава пасля вайны ў парудзелай світцы, ігліца, шышка, можа, парыжэла. Рай у лесе вясновым, і выпаўзень гадзюкі, як шнурок чаравіка Люцыпара, што збег адсюль.

Бежанка з Горацкага раёна са сцяжком на паўстанку, 10 год сынку, як стары, аброс мохам. 5 год, маці спявала, калі не было чаго есці (у яе зноў есці няма чаго). Пах хлеба знаю па кожнай дзяжы.

---

[1] Гл.: Лазня блакаднага года ([1974]) // Свята пчалы. Мінск, 1975. С. 302.

[2] Федароўскі Міхал (1853–1923), польскі і беларускі фалькларыст, этнограф, археолаг, калекцыянер.

Потым будуць помнікі, брацкія магілы, адшукаюць чырвоныя следапыты герояў, што за Радзіму стаялі гарою. А пакуль адпаведная ўстанова: «Ці быў у акупацыі», і загатоўлены паўночныя «курорты».

«Пачынаюць калупацца: «Чым займаўся ў час акупацыі?» (Потым медаль Дзяргаю прывезлі.)

У Магілёве ў брацкай магіле: «Іван Барадулін» [аднафамілец].

Жору Шыловічу[1] [перадаць] «Падпольныя вуліцы Мінска».

Перадаць праз Ігара «Блакаду» Кіму Фёдаравічу [Магілёў].

Балада пра магілу. Раненаму партызану калючым дротам абмарожаныя рукі і ногі звязалі і ў натопленую хату. Павесілі з шыльдай: так будзе ўсім партызанскім сынам такіх год.

Зняла [маці] і пахавала. Немцы прымусілі капаць сабе магілу. Лета. Навокал прыгожа. Кінулі. Змрок садзіцца.

Плошчы Перамог трымаюць у прыгаршчах Вечны агонь, засланілі. Не дайце яго загасіць.

*Надпіс на помніку*

Яны не схілілі
гордых галоў перад ворагам,
Каб мірнае сонца
свяціла ў зеніце.
Перад светлай памяццю
паўшых, няскораных
Жывыя,
галовы схіліце…

*Снежань 1968*

*9 лютага*

Тэлебачанне, тэлестудыя, літдрамрэдакцыя, Раману Філіпаву[2]. Творчы вечар.

Сягоння вечар летні самы,
Бо зноў з Філіпавым праграмы.
Твой даўні друг,
глядач з Ушач,
Табе жадае шмат удач.
А раз пайшлі такія справы,
П'ю поўны кубак добрай кавы.

[1] Шыловіч Георгій Уладзіміравіч (н. 1924), беларускі пісьменнік. У 1965–1978 гг. адказны сакратар час. «Беларусь».

[2] Філіпаў Раман Сяргеевіч (1936–1992), беларускі акцёр. У 1962–1969 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

І ты, вядома, не ад гора
Сухога выпі за Рыгора.

*9 лютага 1968*

*[Чэрвень]*

[Паездка з У. Караткевічам, Я. Брылём[1], В. Карамазавым[2].] Лясніцтва Лімéнь [Чэрыкаўскі раён Магілёўскай вобласці]. Ластаўкі ў сенцах пры ўваходзе, ластаўкі пад вокнамі раённых гасцініц. Верш пра ластаўчыныя гнёзды. Бор праз пальцы сосен цэдзіць сонца (захад), як золата. Возера сіняе, шэрая чапля, раняе перапялёсае пяро на вечар, на ціхія думы. Даланясты ліст. Пасёлак Вымач. Прозвішчы: Бэба, Кукуй.

Як прырода ноччу працуе, сасна дыхае. Сад (лекцыя Валодзі [Караткевіча]). Бярозкі (асінкі), як на расстрэле ўздоўж чыгуначнага палатна. Пялёсткі вішні ў студні. Раніцай сініца, рушнік чысты і сонца. За малаком чарга. Успамінаў, як ідуць каровы, выганяюць нявесткі.

Лясніцтва. Выпісваюць нарады. Птушкі спяваюць. Выпісваюць і спевы іхнія. Радзей лес вакол лясніцтва. Толькі аколышы зялёныя і лісцінкі, іх больш. А на аколышы птушкі не запяюць. Зязюля лічыць, колькі асталося сосен.

Ушацкія (полацкія) рыбакі адмовіліся лавіць жаб на экспарт. «Ракаў куды ні шло, а такую брыду ні ў якім разе».

*** У тэлефоне-аўтамаце скрыня для вартаўніка. Бог беражэ Бережанкі. Дняпро. Лозы хоць галінамі ваду [чарэпаюць].

Астравецкая. Шчыбрын, Мадора, Кісцяні, хутар Крыцкага. Доўгая круча, абрыў, сосны. Першы дзень Прароў. 3-ці дзень Турэйка (пятніца), Рацькаў (вербы па беразе). Равека (рэчка), Азярышча (у Рамас груша), Збароў, Гарадзішча, Глыбокае, дзе лавілі рыбу сеткі, як ластаўкі, грузілы[3]. Муж-раганосец, жонка-дачніца вешае рушнік. Гарадзішча — вякі, прыгажэйшае месца. Буслы — паслы вясны, спакою.

Рэспубліканскі Дом народнай творчасці. Анна Нікіцічна Талчынская, зам. Гарачун Уладзімір Дзмітрыевіч.

Пухоўскага гутарка па грамадазнаўстве. Шавінізм. Латыш, эстэт, Якуцк. «Хіба ўсё перакладзена на гэтыя мовы?» Ленін «Аб нацыянальнай гордасці велікаросаў», але нічога пра нацыянальнае пытанне Леніна.

---

[1] Гл.: Янка Брыль // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 130.

[2] Год паездкі падказаны [прыкладна] В. Карамазавым. Карамазаў Віктар Філімонавіч (н. 1934), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. З 1964 г. працаваў у газ. «Звязда» літсупрацоўнікам, потым загадчыкам аддзела навукі, ВНУ і школ, а затым загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя К. Каліноўскага (1990). Яму прысвечаны верш гл.: Ліст у Ліменьскае лясніцтва (26.01.83) // Маўчанне перуна. Мінск, 1986. С. 43.

[3] Гл.: «Прастую да Дняпра...» [1973] // Рум. Мінск, 1974. С. 86.

Прадвесне, як дзяўчо, якое пакуль што не стала дзяўчынай.

*21 чэрвеня*
[Першая старонка блакнота «аформлена» рукою А. Вялюгіна:]

«Рыгор Барадулін
Блакада
Паэма
Ні пуху, ні пяра.

*Анатоль Вялюгін.*
*Змацована 21 чэрвеня 1968 г.»*

[План паэмы «Блакада»[1]]:
1) Пасля вёскі Качаны. Песня маці (пракладка з Купаллем);
2) Заканчваецца — лётчыкам брат;
3) Барануе хлапчук;
рускі мат;
кур-рва;
4) Бежанка;
5) Шукае бацьку (!);
6) Трымайся ? рабро;
7) Штрафныя роты;
8) Даўно стаў ветахам;
9) Сасна;
10) Палік;
11) Партызан памірае;
12) Можа, сон (?);
13) Зварот да блакады, пераход на век.

*** [Пазнейшы запіс без даты.] Мая першая самая вялікая дарога. Яна звалася вуліцай Каменскай, бо на Камень вяла, потым Калінінскай, потым хата наша, ужо новая, пасляваенная, апынулася на Школьнай вуліцы. Дык вось гэтая першая дарога была дужа цёплай летам ад пяску, угрэтым за дзень спакойным сонцам, ад пылу, які крыху прыбіваў пракідзісты дожджык. На дарозе гэтай гаслі каровіны сонцы, спачатку дымячыся і пахнучы. На ёй добра было гуляць у пікара. Згадаў слова «пікар», і ў босую нагу адразу ўрэзалася вострая палка. Трэба як далей шпурнуць. А потым пацэліць па пагбанай бляшанцы. А потым не пускаць збіць. А потым, потым, потым…

---

[1] Гл.: Блакада: Паэма (14.12.68) // Лінія перамены дат. Мінск, 1969.

Па дарозе гэтай тарахцелі нямецкія матацыклы. Па дарозе гэтай ехала партызанская артылерыя. А пад мастком — ён заменены цяпер бетоннай трубой — было і бамбасховішча.

Нас, малых, цягнулі за ногі, а нам цікавей было сачыць за нямецкім самалётам, што налятаў дакладна з Вулы і бамбіў сталіцу партызанскай рэспублікі.

Гэтая дарога і пясчаная, і мяккая была для босай малечай нагі і дужа мулкай, балючай і камянямі брукаванай для таго чаўна, што адвёз маму на Бутаўшчыну — магільнік яшчэ з курганнымі захаваннямі, што імя атрымаў ад некалькі хатаў былой вёсачкі[1].

«У каровы чаічка на ілбе. Кароўі імі пазапісвай: Туроля, Белахвостка, Букетка, Звяздоня і Зорка, Падласка (пад жыватом бела), Лысоня, Белахрыбтка, Касмыль, Быстроня, Памаўза (памаўзлівая), Гілёня (красная была, гіль — снягір), Лісіца, Салавей», — [Акуліна Андрэеўна].

*Месячык задумаўся, як сабака ў чоўне.*

«Цэлы дзень са старым сварымся — то я яму кажу, каб пасунуўся, то ён на пяколак».

Чаму кот пацука не возьмецъ, а кошка возьмецъ? — бо калі кот яго хватаецъ, а пацук яго за яйцы, а ў кошкі няма за што хватаць.

Лянівая жонка братавая — грудзі муж дастае, каб праслаць, а яна толькі мычыць.

[Малая пытаецца:] «Які поізд?» [Бабуля тлумачыць:] «Дачушка, як наша хата, Хадорына хата вяроўкай счэплены й трактар цягніць, а там людзі сядзяць».

Ілонка ва ўшацкім мясным магазіне: «Бабка, давай купім свіныя лапкі».

*Ці пазяхае бегемот?*[2]

*Ланіны казкі*

*

Вожыку надакучылі іголкі. Павёз прадаваць. Па дарозе ў бары сасновым — ігліца.

*

Зайчык маму не слухаў. У сад да лісіцы [збег]. Ні травы, ні морквы. Сарока ляцела — за хвост учапіўся. Лісіца не дагнала. Мама не хацела прызнаць за сына, стаў паслухмяны.

---

[1] Гл.: Дарога (1963–05.1975) // Абсяг. Мінск, 1978. С. 151.

[2] Гл.: Ці пазяхае бегемот? (9.12.68) // Ці пазяхае бегемот? Мінск, 1981. С. 50.

[Чужой рукой:] «Таварыш Інька[1]»! Ілонка прынесла твае пісьмы і блакноты і прасіла «чытаць твае вершы»! Прабач за вымушанае нахабства... *Мінская зязюля Н. К.* 2-86-68».

Лорка[2], 2 вершы перакласці і свой верш. Напісаць санет «Хлеб».

Салаўя слепяць, каб не адрозніваў дзень ад ночы і спяваў увесь час (турма). Нясуць з магазіна «Прырода» куранят у вёску (навошта квактуха).

Размова дзвюх вуліц: «Летась чэрвень — ліпень па цэнтры (Савецкая вуліца) адгалінаванне [водаправода] хлебзавод, яшчэ ў 66 годзе раскапалі снег, зноў закапалі, вясной 67 года адкапалі і закапалі. Вялі-вялі, зараўнялі бетон, а на Камсамольскай недаароблена — ні асфальту, нічога. Іхняя заасфальтавана, а Камсамольская — не. Танцпляцоўка 3,5 тыс. са Школьнага завулка. Капаюць 4-ты раз, увесь час вайны не было. Раскапалі раз — вада папёрла (вясной), усё лета не было, пад восень пусцілі (у адным [месцы] прарвала — пачынілі, цяпер — у траіх [прарвала]), раскапалі ля самай дарогі, некалькі чалавек уляцелі [у яму]».

Ранішні тэлефон (будка, мужчына): «Добрай раніцы. Пакліч Валодзю». — «Сынок, прыйдзі да нас, я з табой пайду пакупацца».

Легенда пра мастака (Баразна, [кафэ «Мутнае] вока», расказваў).

Падсочаная сасна (для смалы), як скарбонка на адбудову царквы, што наважыліся закрыць.

29 октября 1968 г. 50 лет. Михаил Кузьмич Луконин[3]. Волгоград, Дом печати. Тэлеграму даць!

Сыны Украіны, я сустракаў Вас паўсюль. «О» качаеце, як акіян гальку ў роце. Сопкі здаваліся мне ва Уладзівастоку, як запарожцы з осэлэдцамі.

Як трус у пашчу ўдава,
Лезе цягнік у тунэль.

[*Ліпень]*

Bende [па-латышску] — кат[4].

— Die Stunde ist zu ende —
Не ўсё зрабіў, што мог, —
Сказаў са злосцю Бэндэ
І ў дамавіну лёг[5].

*1965*

---

[1] Дзіцячая мянушка Рыгора Іванавіча.

[2] Гарсія Лорка Федэрыка (1898–1936), іспанскі паэт, драматург.

[3] Луконін Міхаіл Кузьміч (1918–1976), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1949, 1973).

[4] Бэндэ Лукаш Апанасавіч (1903–1961), беларускі крытык і літаратуразнавец, вядомы данасамі і аглабельнай крытыкай у 20–30-я гг.

[5] Гл.: Лукаш Бэндэ // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа [Радыё Свабода. 2004. С. 120.

*1 жніўня*

* * *

Я ў шлях падаўся,
ледзь прачнуўся дзень,
Але даўно ў хаўрусе
стэп з маною.
Уперадзе бадзёра крочыў цень,
Цяпер пляцецца,
стомлены, за мною.
І сонца перагрэтага казан
Кіпіць з крутою стэпавай жарствою.
Шыракатвары, смуглы, як казах,
Сланечнік
мнеківае галавою…

*Генадзю Гарбуку*

В мозгу достаточно извилин,
Натурой страстной — хан Гирей,
Чадолюбив, любвеобилен,
Гроза молдавских дочерей.

*[Жнівень] 1968*

*19 верасня*

Вылет з Масквы. Арак. Кызыл-Кум. Ташкент. Мільгаюць пустынь парэпаныя пяты.

Бусуёк[1], кафэ на страсе. Ісбах[2], Суркоў[3], Еўтушэнка (spiritus vini). З рэчамі валтузня. Матузявічус[4]. Віскі — чыстая нафта.

*** Галубы. Таксі раніцай да гасцініцы, як галубы да адкрытага балкона.

Пад намі Кызыл-Кум. Пясок, як пасля атамнага выбуху. Хмаркі неяк недарэчы, як дымкі.

26 кастрычніка дзень нараджэння Аўрэла [Бусуйка].

---

[1] Бусуёк Аўрэліу Аляксандравіч (н. 1928), малдаўскі паэт, празаік, драматург. Гл.: Паэма прызнання: У Беларускім політэхнічным [1973] // Рум. Мінск, 1973. С. 150. Гл.: Аўрэл Бусуёк // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 124.

[2] Ісбах Аляксандр (сапр. Ісбах-Бахрах Ісак Абрамавіч; 1904–1977), рускі празаік, літаратуразнавец, журналіст.

[3] Суркоў Аляксей Аляксандравіч (1899–1983), рускі паэт, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1969). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1951).

[4] Матузявічус Эўгеніуш (1917–1994), літоўскі паэт, перакладчык, крытык. Заслужаны дзеяч мастацтва Літоўскай ССР (1977).

[Запіс 90-х гг.] Аўрэліу Бусуёк любіў казаць пра сябе ў цёплым стане, што ён палкоўнік румынскай арміі (хаця нарадзіўся ў 1928 г., а ў 1958-м у партыю ўступіў). «А наконт Сарбоны ты кінь, я яе толькі бачыў»[1].

*20 верасня*

Горад. Перакладчыца: «Скажу палову. Трэба $^1/_3$». Рэшткі пасля землятрусу. Дамы, якія будавалі рэспублікі. Як у нейкім танцы пахіленыя глінабіткі. Вечар. Нудота. Эўгеніуш [Матузявічус] наконт Кубілінскаса[2] (трагедыя).

*** Архітэктар пакахаў жонку Цімура. Калі першы раз убачыў — страціў прытомнасць. Бібі-ханым падганяла архітэктара. У тым разе, калі дазволіць пацалаваць. Некалькі яек паднесла каляровых, знайсці розніцу. Вось так і мы жанчыны, знешне розныя, а сутнасць адна. Выбірай любую. Ён ёй паднёс 2 піялы — ваду і аракі. Вада халодзіць, а арака бунтуе кроў. У апошнюю хвіліну засланіла шчаку рукой, але пацалунак праз далонь пакінуў след. Цімур. Вучні тлумачылі: выраслі крылы і ў бок Бухары [адляцеў]. Загадаў закрыць [твары] усіх жанчын Сярэдняй Азіі, адкуль і паранджа.

Пешаходы марудна ідуць, як стагоддзі, павольна.

*21 верасня*

Адкрыццё. Айтматаў[3] муць. Грузін малайчына.

На этом сборище:

— Чтоб депутатом в черном авто
Ездить среди лауреатов,
Я русский и выучил только за то, —
Промолвил Чингиз Айтматов.

*Саскоў тваіх даспелы вінаград...*

Заодопісілі. Сын паперы [Барадуллін].

---

[1] Гл: А наконт Сарбоны... // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 220.

[2] Кубілінскас Костас (1923–1962), літоўскі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Літоўскай ССР (1959).

[3] Айтматаў Чынгіз Тарыкулавіч (1928–2008), кіргізскі і рускі пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч. Народны пісьменнік Кіргізскай ССР (1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Лаўрэат Ленінскай прэміі (СССР, 1963), Дзяржаўнай прэміі СССР (1968, 1977, 1983), Дзяржаўнай прэміі Кіргізскай ССР (1976), Міжнароднай прэміі імя Дж. Нэру, Еўрапейскай літаратурнай прэміі (1993). Герой Кыргызскай Рэспублікі (1997). Гл.: Чынгіз Айтматаў // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 152.

*

Виталий Озеров[1]
Рождён от двух бульдозеров.

*

Духоподъёмные слова
Товарища Рашидова[2].

*

Из узкоглазых джентельменов
Мне всех милее Сулейменов[3].
Не потому, что глазки узки,
А потому, что любит русский.

*А. Вярцінскаму*

Здесь погода горяча,
Не нужны здесь тапочки.
Из ширинки Ильича
Вылетали бабочки.

*

Нам не страшны золь і прыпар,
З намі ёсць ата Нічыпар[4].
Ён адкрыў сакрэты, як
На талоны піць каньяк.
Як прап'ем талоны ўсе.
Будзем мяўкаць на страсе.

---

[1] Озераў Віталій Міхайлавіч (н. 1917), рускі крытык і літаратуразнавец. З 1967 г. сакратар праўлення СП СССР. З 1959 г. галоўны рэдактар час. «Вопросы литературы». Доктар філалагічных навук.

[2] Рашыдаў Шараф Рашыдавіч (1917–1983), партыйны і дзяржаўны дзеяч, узбекскі паэт, празаік, крытык. Герой Сацыялістычнай Працы (1974, 1977). З 1959 г. Першы сакратар ЦК КП Узбекістана.

[3] Сулейменаў Алжас Амаравіч (н. 1936), казахскі і рускі паэт, кінасцэнарыст, грамадскі дзеяч.

[4] Пашкевіч Нічыпар Еўдакімавіч (1924–2003), беларускі крытык. У 1961–1969 гг. галоўны рэдактар газ. «Літаратура і мастацтва». Кіраўнік дэлегацыі. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны работнік культуры БССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1966).

Лепнідзе[1]. 4-е аддзяленне да здравствует…

Калгас. *Карнай — абкарнай.* Як бычкі равуць, адзін без рук трымае. Бычэюць вочы. Салёнае поле. Звыш 6 тыс. чалавек. 630 мужчын, 532 жанчыны — калгаснікі. Пенсія ад 25 р. да 120 р. 7 школ. 1 радзільны дом і 60 ложкаў. Тэлефон, сувязь на ўсю тэрыторыю саўгаса. Газ, каб вызваліць нашых жанчын ад дроў. Летась даход 3 млн руб., за працадзень 5 р. 3 к. Сярэдняя месячная зарплата 160 р.

Стары аксакал: пачыналі працу на гэтай зямлі, калі нават птушкі тут не праляталі (2 валы).

*23 верасня*

Сімпозіум. Слон у акне Бусуйока, як Берды Кербабаеў[2] у прэзідыуме.

*Ан. Вярцінскі*

Вхож в секретарскую обитель,
Толкающий на встречах спич,
Полу-парторг, полу-мыслитель
И вообще полу-Ильич.

У ЦК круглы год «Бахор» [танцавальны калектыў]. Рытуальны танец у гонар хана, а мы глядзім на дзяўчат і губы аблізваем — гарачыня, зноў рэфрэн — гарачыня і г. д.

Пасля спакой і любата
Даюць смуцьянам чосу,
І росцяць дыню жывата,
І спеляць перац носу.

Занімаюцца. Вывучаюць праблему доўгажыхароў, як заяц — вегетарыянец. А ў нас у Беларусі [ядуць] крапіву. Каўказ, Памір.

*6 кастрычніка*

[Аўтограф вершаў Ларысы Геніюш, дасланых Р. Барадуліну ў лісце ад 6.10.1968 г.[3]:]

---

[1] Апіска? Магчыма, Леанідзе Георгій Мікалаевіч (1899–1966), грузінскі паэт. Народны паэт Грузінскай ССР (1959). Акадэмік Грузінскай АН (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1974, 1977). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1941, 1950, 1952), Ленінскай прэміі (1980).

[2] Кербабаеў Берды Мурадавіч (1894–1974), туркменскі паэт, празаік, драматург. Народны пісьменнік Туркменскай ССР (1967). Герой Сацыялістычнай Працы (1969). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948, 1951).

[3] Вершы былі часткова надрукаваны (з пэўнымі недакладнасцямі) у зб.: Геніюш Л. Каб вы ведалі: З эпісталярнай спадчыны (1945–1983). Мінск: «Лімарыус». 2005.

Гэта імправізацыя!

*Паэт паэту*

На полках кнігі як папала,
бадзёры дух, чало без хмар,
а са сцяны глядзіць К У П А Л А,
і Ён у хаце гаспадар!

«Скажы мне, класік, чарку можна?
Ты не дазволіш — не крану». —
«Пі, сынку, толькі асцярожна,
ў бясёдзе чарачку адну». —
«Парадзь, Купала, я кахаю,
ўжо ценем прад Табой стаю…» —
«Я табе й гэта дазваляю,
кахай, сынок, — але сваю».

«Шляхоў так многа, разгубіўся,
па гэтым бегчы ці па тым?» —
«Пастой, ля сёлаў прыпыніся,
ідзі, сынок, шляхом маім».

*Рыгор*

Рыгор — гэта крыгі напорам трашчаць,
вясны жыццядайнай парывы,
Рыгор — гэта гром на зары ў сенажаць,
маланкі тнуць хмары праз грывы.
Рыгор — то пярэкліч харошых радкоў,
што з розумам, з сэрцам гавораць,
Рыгор — Беларуская верная кроў,
народная, шчырая гордасць!
Рыгор — то бунтарны, няхрышчаны храм,
вір грознай успененай брагі,
Рыгор — гэта шчодрая чарка сябрам,
грукат сэрца пад роднай сярмягай.
У Рыгора нядарам гучыць: б а р а д а,
з роду ў род Барадуліных спорыць.
Рыгор — вера, роздум, а перш грамада,
Рыгор — гэта гора за горла!

*Не пі!*

Праз час, прастор крычу здалёк:
не пі, Рыгор, не пі, сынок…
Не п'юць жа людзі ля стырна,

і ксёндз ня п'е ля алтара,
і той не п'е, хто ў бой ідзе,
і той не п'е, хто ў бой вядзе!
Хто піў, той без пары замоўк,
не пі, Рыгор, не пі, сынок…
Радзіма: карабель, наш твар,
і бою пляц, і наш алтар.
А Ты і стырнік, і баец,
святар ад кніг і «свой хлапец»…
Не пі!!!
. . . . . . .
За кветачкі не злуй, С А К О Л,
ужо так у мяне бывае,
Сябром забраць гатова боль,
а кветкі — пакідаю.

*Ваша «Гонарная дама» Л. Генію ш*

*19 кастрычніка*

23 тыс. нью-йорскіх паліцэйскіх забаставалі.

[Адрас:] Кажамякін Цярэнцій Пракоф'евіч (г. Гомель, 4-я сярэдняя школа; паслаць кніжку).

*** Быў снегапад. Яліны ўтулілі галаву ў плечы, каб не пасыпалася за шыю, і расставілі рукі.

У Дзень касманаўтыкі салют. Ракеты (малыя) падаюць і гаснуць, як згарэлыя касманаўты.

Хутарышча, крушня, малы ішоў у сваю вёску праз маліннік, як мядзведзік [еў] маліну. Хацелі кінуць, а старая загаварыла.

Стогне малады лёд на возеры ад пешкі. Ад крокаў. Ад трэшчын, гудзе, як жбан, яхкае. Шчупак спіну к сонцу [выстаўляе]. Яго бух кукай. Сякерай рассякуць і хутчэй на лёд.

*25 снежня*

*Анатолю Волкаву ў дзень 60-годдзя*

Гляджу наўкол ды вокала,
Дзе ёмістая чара,
Каб асушыць за Волкава,
За юбіляра!

* * *

Акиму́шкин, аки Пушкин —
Так же пьян и гениален.
Друг надёжный полной кружки,
В меру скромен и нахален.

*** Прыеду дамоў, і падчас нялоўка перад мамай за свае занадта белыя для гэтага застолля рукі. Хоць пад стол хавай.

Раніца заінелая. Белая, як Беларусь сівых вякоў. На базар. Аб'інелыя хусткі, вейкі, белыя палазы, палазня, кажухі злубелыя — белыя. Коні белыя, аб'інелыя грывы з дзядамі, і нават вейкі дзіўна белыя. Бярозы голле, і толькі аралля кары з чорнымі праталкамі, і пад стрэхамі гнёзды ластавак, як забытыя скручаныя рукавічкі аб'інелыя.

На базары белых свіней (парасят; як будан, клеткі) аглядаюць, як на медкамісіі перад пенсіяй.

У Зылкі жонка вялікая, а ён малы. Нап'ецца і б'е яго. Выйшла [пытаюцца ў яе:] «Што, Полька, рамонт рабіла?»

Разбіла галаву. Узялі абрылі нагала. Цяпер мужыку дражняцца: «Ці можна ўжо банцікі завязваць?»

Міліцыянеры ў Негарэлым (хай раскажа Валахановіч[1]).

Грэнландыю размарозіць, як халадзільнік.

Націскаю на вока ліфта, ад злосці наліваецца крывёю, вязе, хоць і не хоча.

Паэта, як нарыў, прарвала.

Багдановіч у скульптурнай майстэрні Вакара: «Застанься, ты дома». І дзяўчаты назначаюць спатканне — каля Максіма.

Хор Пятніцкага выконвае русскую народную песню «Ямщик». Напісаў Сыракомля, перакладаў на беларускую мову Янка Лучына. На біс выклікаюць, не ведаюць, што землякі пісалі словы.[2]

---

[1] Валахановіч Анатоль Іосіфавіч (н. 1939), беларускі гісторык, журналіст, пісьменнік, краязнавец і культуролаг. У 1968–1975 гг. супрацоўнік выд-ва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя».

А. Валахановіч адзін час ездзіў з Негарэлага на працу ў Мінск, як і яго знаёмы маёр міліцыі Даніла Брэль. Здаралася пад'язджаць не толькі электрычкай, але і цягніком «Брэст–Масква». Тады маёр загадваў пасажырам часова вызваліць асобнае купэ, бо ён канваіруе «злоснага парушальніка». І гэтак з гадзіну яны ехалі з камфортам (*паводле аповеду А. Валахановіча 2014 г. занатавана Н. Давыдзенка*).

[2] Пераклад на рускую мову (1867) Л. Н. Трэфалева. Трэфалеў Леанід Мікалаевіч (1839–1905), рускі паэт.

## 1969

***[**Май]*

*Сцяг на касынкі*

*Веню Арлову*

Сцяг нямецкі захапілі. На Друці гарадок. На досвітку з лесу выйшлі жыхары. Каньяк не ішоў, лімоны (у бліндажы). Сорак яек і гляк самагону — за касынку (сцяг аддалі). Аддалі мыла, фуфайкі.[1]

[У дадатак[2].]

*

Напісала суседка маме:
Першы шпак прыляцеў на вяз…

Чык пытае: «Чаму на лузе не чуваць дудачкі, толькі ў казках?»

«Чый ты сынок?» — «Татаў, мамін, а бабін унучачак».

Бацька піша дзіцячыя вершы і правярае на сыне. Той змучаны, як паддоследны трусік.

Жанчыны стрыгуць дачок і робяць шыньёны.

Чаму ліса палюе на зайцоў? — хвастом пудрыць снегам нос — какетка.

[Сцэнар]:

1) Каляды (можна маскі, танцы, песні, парка коней);

2) Песні ў Лукшы. «Рэчанька».

Голд-Пецярбургскі (кадры: немцы ля АН БССР), хор і партызаны ля Вечнага агню (дыктар ці хто звесткі пра вайну).

Славянскі танец. Дзяўчынка год 8-мі танцуе (ці на кінаэкране на плошчы, ці на тэлеэкране 75-тонны МАЗ — на фоне нечага).

У нацыянальных касцюмах бабы размаляваныя і ў бары дэндзі. Яны ссоваўюць сталы.

Піжон (сівыя скроні) запрашае танцаваць бабу. Зацягваюць народную песню, і ўсе падпяваюць.

---

[1] Гл.: Палонны сцяг [1973] // Рум. Мінск, 1973. С. 15.

[2] Гл.: Мой лес — мой лёс (1969) // Парастак радка, галінка верша. Мінск, 1987. С. 10.

Напаленую лазню і заінелую вёску ([хацеў] Вазнясенскі[1]).

Вольга Шутава[2] (толькі беларускую песню).

Василевская В. В. (г. Ленинград) «Адама і Еву» паслаць.

*** Паршанка Валянціна Сяргееўна, настаўніца ў першым класе: «Калі будзеце дрэнна вучыцца, перавяду ў беларускі клас».

[Аўтограф верша В. Зуёнка:]

*Слова*

*Рыгору Барадуліну*

Усё размерана на свеце:
Радзіны і хаўтурны звон,
Святы спакой і ліхалецце,
Пяшчоты слодыч і праклён…

Не падуладна толькі слова
Халоднай пэўнасці акоў.
Яго бунтарныя высновы
Вастрэй атточаных штыкоў.

Яго судзілі і каралі
З упартай «мудрасцю» аслоў.
Яно прайшло праз дні і далі
І ў новых сэрцах прарасло.

Якім агнём яно заззяе,
Які над ім успыхне знак, —
Ні я, ні ты — ніхто не знае…
Давай памолімся, аднак:

Займайся на заходзе, ранак!
У студзені крышыся, лёд!
Будзь, як маланка, нечаканы,
Слоў неразгаданых, палёт!

*1969 г. Васіль Зуёнак, твой —*
*як заўсёды.*

---

[1] Вазнясенскі Андрэй Андрэевіч (1933–2010), рускі паэт, публіцыст, мастак, архітэктар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), прэміі Урада Расійскай Федэрацыі (2010, пасмяротна). Ганаровы член 10-ці акадэмій свету.

[2] Шутава Вольга Паўлаўна (1944–1999), беларуская спявачка. У 1968–1996 гг. салістка Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Заслужаная артыстка БССР (1973).

## Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Рыгор Барадулін

**Дзённікі і запісы**
*Выпуск I. 1951–1969*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Тэхнічны рэдактар *Я. Мальдзіс*
Набор *Н. Давыдзенка*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктары *Н. Давыдзенка, Л. Карамазава*

Падпісана ў друк 21.01.2015. Фармат 70х100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура Cambria. Ул. выд. 26,57 арк.
Ум.-друк. 14,01 арк. Наклад 300 асобнікаў. Зак. 19.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.

Саюз беларускіх пісьменнікаў — найстарэйшая творчая арганізацыя Беларусі. Ён быў заснаваны ў 1934 годзе. Гэта прафесійная грамадская арганізацыя, якая актыўна ўдзельнічае ў сацыяльным і культурным жыцці краіны дзеля прасоўвання і развіцця беларускай літаратуры.

Мэтамі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з'яўляюцца: абарона аўтарскіх правоў і прадстаўленне інтарэсаў сваіх сяброў, адстойванне свабоды слова і захаванне беларускай літаратурнай спадчыны.

СБП заснаваў і выдае кніжныя серыі: «Кнігарня пісьменніка», «Пункт адліку», «Каляровы ровар».

Сайт арганізацыі: www.lit-bel.org

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"» дзейнічае з 1990 года і супрацоўнічае з беларускімі арганізацыямі ў больш чым 20 краінах свету.

Сярод асноўных задач арганізацыі: кансалідацыя беларусаў, якія пражываюць у краіне і за мяжой, на глебе павагі да беларускай культуры і гісторыі, паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

У 2004 годзе Згуртаванне заснавала спецыяльную кніжную серыю, прысвечаную беларускай дыяспары — «Бібліятэка Бацькаўшчыны», у якой ужо выдадзена 23 кнігі.

Сайт арганізацыі: www.zbsb.org

З 2008 года МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» каардынуе грамадскую культурніцкую кампанію «Будзьма беларусамі!».

Сайт: www.budzma.org